Акад. Е. Ф. Карскі выказаў здагадку, што назва «Белая Русь» паходзіць з-за антрапалагічнай адзнакі беларусаў — вельмі бялявых бландынаў з блакітнымі або светла-шэрымі вачыма[1]. Сапраўды, магчымасць назвы таго ці іншага народа па колеру скуры пацвярджаецца назвай жыхароў Аўстралійскага Саюза. Гэтая тэрыторыя была адкрыта еўрапейцамі ў 1526 г. Калі ў мясцовых жыхароў пыталіся, як іх завуць, яны адказвалі: «папуа», што азначала на іх мове «цёмнакарычневы»; адсюль паходзіць назва «папуасы»[2]. Магчымасць назвы краіны і насяляючага яе народа па колеру яго скуры даказваецца назвай дзяржавы Нігерыя, населенай неграмі, якія атрымалі ад еўрапейцаў такую назву па колеру скуры (лат. niger — чорны). І ўсё ж думку акад. Карскага нельга лічыць правільнай. Справа ў тым, што акрамя Белай Русі, ёсць тэрыторыі з назвамі «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь», і калі стаць на пункт гледжання акад. Карскага, то трэба было чакаць, што ў раёнах Гродна, Ваўкавыска і інш. («Чорная Русь») мясцовае насельніцтва — брунеты, а Заходняя Украіна («Чырвоная Русь») заселена рыжымі, чаго на самай справе няма. Значыць, пры спробе растлумачыць тэрмін «Белая Русь» трэба зыходзіць не з антрапалагічнага тыпу беларусаў, а з нейкіх іншых меркаванняў.

На нашу думку, пры высвятленні паходжання і першапачатковага значэння назвы «Белая Русь» трэба зыходзіць з даных тапанімікі.

Як ужо было сказана, у глыбокія дагістарычныя часы на адной з ужо знікнуўшых моў вада, напэўна, называлася словам «русь». На зары свайго існавання славяне або іх продкі ведалі гэтае слова з такім значэннем і дадалі да яго «белая», г. зн. «Белая Русь» спачатку азначала «белая вада». Славянскія землі да гэтага часу маюць некалькі водных крыніц з такой назвай. Напрыклад, назву «Белая вада» мае правы прыток р. Раты ў Львоўскай вобласці; каля г. Закапане (Польшча) ёсць ручай «Бяла Вода»; такую ж назву маюць два ручаі ў Карпатах (Татрах); там жа назва «Бяла Вода» прысвоена адной з далін[3]. На тэрыторыі СССР налічваецца каля 50 рэк і

[1] *Карскі Е. Ф.* Беларусы. Вільна, 1904. Т. 1. С. 117.
[2] *Баднарскі М. С.* Слоўнік геаграфічных назваў. М., 1954. С. 21.
[3] Slownik geograficzny...

рэчак з назвай «Белая» і каля 20 азёр з назвай «Белае»[1]. Такія назвы маглі замацоўвацца за воднымі крыніцамі са светлай, празрыстай вадой.

Аб тым, што і іншыя народы карысталіся такім жа прынцыпам пры назве водных крыніц, даказваецца назвай «Аксу», г. зн. «Белая вода» (на многіх цюрскіх мовах «ак» — белы, а «су» — вада). Такую назву маюць некалькі рэк: рака ў Заходнім Кітаі, якая выцякае з Цянь-Шаня; прыток возера Балхаш у Казахскай ССР; два прытокі возера Ісык-Куль у Кіргізскай ССР; левы прыток р. Сулак у Дагестанскай АССР; левы прыток Куры і інш.[2].

І наадварот, тапаніміцы вядомы такія выпадкі, калі назва дадзена па забруджанасці вады. Напрыклад, у Канадзе ёсць возера Вініпег, што азначае «брудная вада». На мове мясцовых індзейцаў «wi» — брудны, а «піпі» — вада[3]. Частка Ціхага акіяна паміж Карэйскім паўостравам і берагам Кітая называецца Жоўтым морам, таму што тут вада афарбавана ў жоўты колер з прычыны вынасаў ракой Хуанхэ масы глею[4].

Няма ніякіх даных для высвятлення, якому народу, якой мове і ў які час належала слова «рось» (русь) у значэнні «вада». Несумненна толькі адно: славяне ўспрынялі гэтае слова ад нейкага старажытнага народа як адпаведнае слову «вада». Не выключана магчымасць, што першая частка назвы «Белая Русь», г. зн. «белая», таксама гучэла неяк інакш, але на адной славянскай тэрыторыі гэтая частка была перакладзена, а другая частка засталася без перакладу; на другой жа славянскай тэрыторыі аказаліся перакладзенымі абедзве часткі гэтай назвы, у выніку чаго ўтварылася назва рэк «Белая Вада».

Жывучасць тапанімічных назваў прывяла да таго, што на тэрыторыі Беларусі аказаліся яўныя сляды нейкага іншага моўнага слоя, не таго, у якім «вада» называлася словам «русь». Аднак і ў ім была назва, якая адпавядае нашаму «белая вада». Гутарка ідзе 1) аб рацэ Волма, якая пачына-

---

[1] *Баднарскі М. С.* Слоўнік геаграфічных назваў. М., 1954. С. 40, 42.

[2] Там жа. С. 10.

[3] Там жа. С. 70.

[4] Там жа. С. 109.

еца ў ваколіцах Загайна Мінскай вобласці, левым прытоку Іслачы; 2) аб рацэ Волма, якая пачынаецца ў ваколіцах Астрожыц Мінскай вобласці і працякае праз Смілавічы; 3) аб рэчцы Волма і мястэчку Волма ў Івянецкім раёне Маладзечанскай вобласці. У Крэсцецкім раёне Наўгародскай вобласці таксама ёсць рака з такой назвай. Каля Вільнюса ёсць населены пункт з назвай Волма. У Просніцкім раёне Кіраўскай вобласці ёсць рака і сяло Волма.

Праф. Казанскага універсітэта І. Н. Смірноў у сваей працы «Вацякі. Гісторыка-этнаграфічны нарыс» (Казань, 1890) паведаміў аб тым, што назвы рэк у Удмуртыі, якія канчаюцца на «ма», маюць тыя ж пачатковыя часткі, якія ўжываюцца ў назвах рэк у зыран і пермякоў, але з канечным «ва», напрыклад: у Удмуртыі «Віль-ма», «Нерт-ма», «Урдо-ма», у зыран і пермякоў «Віль-ва», «Нерт-ва», «Урд-ва». Грунтуючыся на гэтым, ён зрабіў наступны вывад: «з прычыны таго, што «ва» ў зырана-пярмяцкай мове азначае «ваду» і «раку», мы робім вывад, што тыя ж назвы мае і «ма». Адносна гэтага вываду І. Н. Смірнова акад А. І. Сабалеўскі заўважыў: «Сапраўды, сувязь назваў на «ва» з назвамі на «ма» нельга адмаўляць... Мы маем тут справу з адной са з'яў абфінення чужога фінскім мовамканчатку назваў рэк на «ма» праз замену яго фінскім словам «ва», якое азначае «вада, рака»[1].

Грунтуючыся на аўтарытэтах па пытаннях рускай тапанімікі праф. І. Н. Смірнова і акад. А. І. Сабалеўскага, а таксама прымыкаючага да іх у пытанні аб «ма» члена-карэспандэнта АН СССР Б. А. Серэбранікава[2], можна лічыць, што ў назве ракі Волма канечнае «ма» азначае «вада».

Магчыма, што ў Брацлаўскім павеце б. Падольскай губерні (пад Неміравам) зафіксаван паўпераклад гэтага слова — Валаводаўка. Гэта назва двух населеных пунктаў: вёска за 38 км ад Брацлава і прадмесце мястэчка Тульчын[3] б. Падольскай губерні. Валавод(аўка) тое ж самае, што і Волма,

[1] *Сабалеўскі А. І.* Назвы рэк і азёр рускай Поўначы//Изв. русск. яз. и слов. АН СССР. Л., 1927. Т. XXXII. С. 12.

[2] *Серэбранікаў Б. А.* Волга-Окская тапаніміка на тэрыторыі Еўрапейскай часткі СССР//Вопросы языкознания. 1955. № 6.

[3] Старажытны населены пункт, які называўся калісьці Несцервар. Гл. Slownik geograficzny... пад словам Tulczyn.

або ў перакладзе на іншы старажытны моўны слой «Белая Русь».

У фінаў, карэлаў, пермякоў і мансі па рацэ Чусавой, каля Верхатур'я і Чардыні словам «ма» называецца зямля. Але гэта яшчэ нічога не гаворыць супраць сцвярджэння, што калісьці слова «ма» азначала ваду, таму што ў даным выпадку ідзе гутарка не аб фінскіх народах, а аб якіхсьці іх папярэдніках, якія гаварылі на іншай, чым яны, мове. Тое, што ў плямён, калісьці жыўшых там, дзе зараз жывуць фіны, карэлы, пермякі і мансі, слова «ма» азначала ваду, а не зямлю, даказваецца назвамі працякаючых па іх тэрыторыі рэк з канечным «ма», якое ў гэтым выпадку магло азначаць ваду, а не зямлю. Напрыклад, Клязьма, Кастрама, Яхрама, Кема — у Валагодскай вобласці, Лохма і Іжма — прытокі Паўночнай Дзвіны, Волгома — прыток Сясі, упадаючай у Ладажскае возера: Підзьма — прыток Свіры, Сюзьма — рака, якая ўпадае ў Дзвінскую губу Белага мора, Тоцьма — прыток Сухоны і многія іншыя.

Пасля вывучэння назваў многіх з адзначаных тут рэк, а таксама многіх іншых акад. А. І. Сабалеўскі напісаў наступныя радкі: «Зробленыя намі параўнанні назваў рэк і азёр Паволжа, Прыкам'я і рускай Поўначы, у цэлым і ў частках гэтых назваў, прыводзяць нас да вываду, што мы маем справу са словамі адной і той жа індаеўрапейскай мовы, той мовы, якая належала аўтахтону ўсходняй і цэнтральнай Еўропы і значнай частцы Азіі...»[1].

Такім чынам, можна сцвярджаць, што ў назве ракі Волма канечнае «ма» азначае «вада».

Якое ж значэнне заключаецца ў складзе «вол», першым складзе слова «Волма»? У радзе моў ёсць словы, якія пачынаюцца з «вол» (або «вал») і абазначаюць «святло» або «белы колер». Па-марыйску «святло» называецца «волгодо», «маланка» — «волгончэ». Паняцце «белы» па-эстонску перадаецца словам «valge», па-фінску — «valkoinen». «Святло» называецца па-фінску «valo» і «valaistus», па-макшанску — «валда». «Маланка» па-эстонску называецца «valk», «па-грузінску (імерэтынску) — «валі». Па-фінску «valkea» —

[1] *Сабалеўскі А. І.* Назвы рэк і азёр рускай Поўначы//Изв. отд. русск. яз. и слов. АН СССР. Л., 1927. Т. XXXII. С. 27.

«агонь». Па-мардоўску «валкце» — «раніца». Корань «wal» уваходзіць у склад санскрыцкага слова «dhawala», што азначае «белы», а таксама ў склад слова «bhala» (з заменай у іншых мовах «в» на «v» і пропускам «h»), што азначае «святло», «бляск»[1].

Усе гэтыя прыклады ўжывання слоў, якія ўключаюць у свой склад корань «вол» («вал»), аб'ядноўваюцца ўяўленнем аб чымсьці светлым, у перакладзе на каляровыя ўражанні — уяўленнем аб чымсьці белым. Значыць, зусім праўдападобным будзе меркаванне, што ў слове «Волма» першая яго частка «вол» азначае «белая», а ўсё слова «белая вада».

Праўда, супраць такога заключэння можа быць выстаўлена пярэчанне, што ў даным выпадку большасць спасылак зроблена на ўгра-фінскія мовы, тады як «ма», другая частка слова «Волма», у папярэднім тлумачэнні аднесена да нейкай старажытнай індаеўрапейскай мовы. Дапускаць жа для глыбокай старажытнасці злучэнне ў адным слове двух рознамоўных частак наўрад ці магчыма. Аднак такое пярэчанне адпадае, калі прыняць пад увагу, што ў ліку моў указваюцца грузінская і санскрыт — мовы, не належачыя да ўгра-фінскай сям'і моў. Гэта па-першае. Па-другое, ёсць рад фактаў, якія пацвярджаюць сувязь індаеўрапейскіх моў з мовамі ўгра-фінскімі[2]. Такім чынам, усе «за» і «супраць» хутчэй за ўсё даюць повад думаць, што слова «Волма» ў якойсьці старажытнай індаеўрапейскай мове азначала «белая вада» і, значыць, супадае са значэннем «Белая Русь».

Вядома, не адна тысяча год прайшла з таго часу, калі была жывой мова, ад якой уцалелі нязначныя абломкі ў выглядзе асобных слоў або кораняў, параскіданых у розных мовах і тапанімічных назвах. У якасці доказу, што назвы, якія пачынаюцца з «вол», адносяцца да глыбокай старажытнасці, укажам на знаходку ў XIX ст. каменнай сякеры паблізу ад мястэчка Волпа Гродзенскай вобласці[3].

Такім чынам, назва «Белая Русь» уяўляецца паўперакла-

---

[1] *Гільфердынг А.* Аб блізкасці мовы славянскай з санскрыцкай. СПб., 1853. С. 40.

[2] *Гуйер. О.* Уводзіны ў гісторыю чэшскай мовы. М., 1953. С. 38.

[3] Slownik geografiszny... 1902. Т. XV. Ч. II. С. 701.

дам на славянскую мову якойсьці вельмі старажытнай назвы, якая азначае «белая вада»..

Як і «Русь», назва «Белая Русь» у далейшым пачала абазначаць тэрыторыю. Разам з тым этымалагічны аналіз назвы беларускай ракі Волма паказвае, што назва Беларусі «Белай вадой» паходзіць з дагістарычных часоў і гэты тэрмін адначасова быў вядомы і іншым тэрыторыям.

*

* *

Дзякуючы выкарыстанню тапанімікі, у прыватнасці назваў водных крыніц, можна растлумачыць паходжанне назваў «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь».

Назва «Чорная Русь» у XIII—XV стст. прымянялася да вобласці па Нёману з гарадамі Ноўгарадак, Ваўкавыск, Слонім, Эдзітаў, Гародня. Выказваецца думка, быццам назва «Чорная Русь» звязана з паняццем «чорны», г. зн. залежны, прыгнечаны, таму што ў другой палавіне XIII ст. пералічаныя гарады былі захоплены Літвой.

У Slownik'y geograficzn'ым krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich гаворыцца, што Чорная Русь — гэта частка Беларусі, якая ўключае ў свой склад Навагрудак, Слонім, Ваўкавыск, Мазыр, Рэчыцу, Бабруйск, Нясвіж, Мір, Налібокі, Ляхавічы, Жыровіцы, Ражаны з іх ваколіцамі. Такім чынам, вобласць Чорнай Русі значна расшыраецца на ўсход і на поўдзень. Складальнікі гэтага слоўніка тэрмін «Чорная Русь» тлумачаць цёмнымі і густымі лясамі, якімі багата была гэтая мясцовасць. Недакладнасць і супярэчлівасць уяўленняў аб межах тэрыторыі Чорнай Русі была характэрна і для XVIII ст. Так, напрыклад, уніяцкі свяшчэннік Іларыён Карпінскі ў сваім геаграфічным слоўніку 1766 г. указваў, што Чорная Русь знаходзіцца ў ваяводствах Мінскім і Ноўгарад-Літоўскім[1].

Пакідаючы ў баку пытанне аб тэрытарыяльных межах Чорнай Русі, пастараемся высветліць паходжанне назвы «Чорная Русь», выкарыстоўваючы даныя тапанімікі.

На падставе таго, што ўжо было сказана аб словах «Русь»

---

[1] *Салаўёў А*. Белая і Чорная Русь. Белград. 1940. С. 64.

і «Белая Русь», мы можам выказаць думку, што і назва «Чорная Русь» азначае «чорная вада». Такую назву атрымлівалі рэкі і азёры ад цёмнага колеру вады з-за лясістых берагоў або глыбіні.

Сапраўды, назвы «Чорная Вада», «Чорнае», «Чорная» — гэта назвы многіх рэк, азёр, крыніц на тэрыторыі, займаемай зараз славянамі. Напрыклад: Чорная Вада — ручай, які ўпадае ў р. Дунаец; Чорная Вада — прыток р. Барычы ў Познанскім ваяводстве; Чорная Вада — невялікая рэчка, якая працякае ў Польшчы, каля Хойніц; Чорная — прыток Віслы; Чорная — правы прыток Нёмана; Чорная — правы прыток р. Супрасль; Чорнае — возера ў раёне Сувалак; Чорнае — возера ў раёне Невеля[1], Чорнае — возера ў раёне Старой Русы; Чорны Стаў — возера ў Карпатах; Чорная — рака, якая ўпадае з левага боку ў Аку; Чорны — ручай у Ржэўскім раёне і многія іншыя.

Звычай называць водныя крыніцы тэрмінам «Чорная вада» ў глыбокай старажытнасці быў характэрны для многіх народаў. І да гэтага часу ў неславянскіх краінах ёсць яшчэ геаграфічныя назвы з гэтым паняццем, напрыклад мадзьярскае Jekete-viz, нямецкае schwarz-wasser, турэцкае Karasu. У назве ракі Мста мы бачым фінскае, што азначае «чорны». Назва ракі Рыо-Негро, прытоку Амазонкі, паходзіць ад двух іспанскіх слоў: rio — рака і negro — чорны. Назву «Чорнай» рака атрымала таму, што, працякаючы па льяносах, яна насычаецца растворам гумусу і набывае колер кавы[2].

Значэнне «чорная вада», г. зн. тое ж, што і «Чорная Русь», мы знаходзім у назве «нерома», якой у «Повести временных лет» па Лаўрэнцьеўскаму спісу абазначана адно з неславянскіх плямён, што жыло па суседству з усходнеславянскімі плямёнамі[3]. Склад «ма» ў слове «нерома», як аб гэтым сказана вышэй, азначае «вада». Гукаспалучэннем жа «неро» ў нейкай старажытнай мове абазначаўся чорны колер. У поўнай меры такое значэнне слова «неро» захавалася да нашых дзён у італьянскай мове, дзе «nero» азначае «чорны», «nerastro, ne-

---

[1] Slownik geograficzny... 1880. Т. 1.

[2] *Баднарскі М. С.* Слоўнік геаграфічных назваў. М., 1954. С. 256.

[3] У Пераяслава-Суздальскім летапісу пасля слова «нерома» сказана: сиречь жомоить, г. зн. жмудзь.

retto» — «чарнаваты», «nerezza» — «чарната», «nerofumo» — «сажа». Па-італьянску «чорны» не толькі «nero», але і «negro», «чарнець» не толькі «nereggiare», але і «negreggiare», таму не падлягае сумненню, што італьянскае «nero» блізкае да слова «negro», а абодвы яны блізкія з лацінскім «niger» — чорны. Блізкае да італьянскага «nero» неапалітанскае «niro» з тым жа значэннем. Па-французску «чорны» noir. Гэты ж корань ёсць і ў назвах рэк Нерча (упадае ў р. Шылку ў Чыцінскай вобласці), Нерль (дзве ракі: адна — правы прыток Волгі, другая — левы прыток Клязьмы). У Яраслаўскай вобласці ёсць возера Неро (інакш Растоўскае), у Архангельскай вобласці працякае рака Нерыца, левы прыток р. Печоры. Раку Вілію літоўцы называюць Нерыс, што можна параўнаць са словам гэтага ж кораня «нерома» — старажытнай назвай літоўцаў — жмудзі. У Польшчы ў Познанскім ваяводстве ёсць ручай Нер, левы прыток р. Просны; рака Нер — правы прыток р. Варты; рака Нер працякае ў Калішскім ваяводстве; рака Нерасль працякае ў ваяводстве Беластоцкім; рэчка Нерэтва на Валыні — прыток Буга; рака Нера на Апенінскім паўвостраве, левы прыток Тібра.

Не можа быць выпадковым такое шматлікае выкарыстанне гукаспалучэння «нер» у тапанімычных назвах, таксама ж, як не з'яўляецца і бессэнсоўным ужыванне ў такіх назвах гукаспалучэння «вол», якое выкарыстоўваецца, у прыватнасці, у назвах многіх водных крыніц са значэннем «белы». На нашу думку, гукаспалучэнне «нер» у пералічаных вышэй тапанімічных назвах з'яўляецца старажытным коранем са значэннем «чорны», чым і тлумачыцца яго шырокае распаўсюджанне, як і тапанімічных назваў з коранем «черн».

Калі мы параўнаем корань «нер» якойсьці старажытнай мовы з рускім коранем «черн», то ў некаторых выпадках выявім супаданне ў іх значэннях. Напрыклад, у прускай мове было слова «nertis» са значэннем «злосць»[1]; у рускай мове ёсць выразы «черная злоба», «черное дело» (злая справа), «черный глаз» (злое вока), у якіх «чернае», «черны» тоесны са значэннем прускага кораня «ner»; гэты ж корань знаходзіцца ў геаграфічнай назве вузкай пясчанай паласы, ад-

---

[1] *Брукнер А.* Этымалагічны слоўнік польскай мовы. Кракаў, 1927. С. 356.

дзяляючай Куршскі і Фрышскі залівы ад Балтыйскага мора — нямецкае «Nehrung», польскае «Nierzeja», чэшскае «Nereje». У польскай мове словамі «nerunga» і «nerzeja» наогул называецца нізінны марскі бераг, нізінны бок. Але ж і ў рускай мове плоскі бераг з мора, воддаль, калі ён яшчэ мала выразны, называецца словам «черні». Так, напрыклад, жыхары берагоў Каспійскага мора скажуць: «Эмбенскія Чэрні адкрыліся» (бачны), «узялі чэрні на від» (убачылі бераг), «завесіць чэрні» (скрыцца з выгляду ад берагоў). Жыхары Архангельскай вобласці гавораць: «ісці чэрнямі», «ісці чэрніста» (ісці паблізу берагоў), «ісці чэрнісцей»[1] (ісці бліжэй да берагоў).

Такім чынам, у старажытным індаеўрапейскім корані «ner» мы, бясспрэчна, сустракаемся са значэннем «чорны», якое маецца ў многіх тапанімічных назвах.

З адзначанага выцякае, што старажытная назва жмудзі, якая сустракаецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісу пад словам «нерома», азначае тое ж самае, што і «Чорная Русь» — «Чорная вада».

*

* *

Старажытнейшая крыніца, з якой мы даведваемся аб «Чырвонай Русі»,— гэта Лаўрэнцьеўскі летапіс, дзе пад 1018 г. упамінаюцца гарады Чэрвенсціі.

А. В. Салаўёў адмаўляе магчымасць паяўлення каляровых назваў у славян (прынамсі ў Далмацыі.— *П. К.*) па якіх-небудзь мясцовых тапаграфічных прычынах. Ён лічыць, «што каляровыя назвы «Белы і Чырвоны» з'явіліся на радзіме старажытных харватаў пад уплывам усходніх вандроўнікаў, хутчэй за ўсё пад аварскім уплывам. Нездарма там, дзе пазней знаходзілася Чэрвенская вобласць, жылі раней дулебы, аб падначаленні якіх аварам летапіс захаваў такі ясны ўспамін»[2].

Гэтае сваё разважанне А. В. Салаўёў выводзіць з фактаў

---

[1] *Даль В.* Тлумачальны слоўнік. М., 1955. Т. IV. С. 595.

[2] *Салаўёў А.* Белая и Черная Русь. Белград. 1940. С. 38.

ужывання каляровых назваў у вандроўнікаў урала-алтайскай групы: «угры белыя і чорныя» ў Х ст., «чорныя і сярэбраныя балгары», «Залатая Арда», «Сінія туркі», «Белая і Чорная Куманія». Усе гэтыя меркаванні А. В. Салаўёва з'яўляюцца водгаласам той ужо асуджанай у навуцы думкі, быццам вельмі многае, нават самую сваю назву, старажытная Русь запазычыла ў другіх. Аднак гэта нічым не даказана, таму што наяўнасць каляровых назваў у неславянскіх народаў нельга лічыць доказам запазычання славянамі назваў «Белая» і «Чырвоная».

У славянскай тапаніміцы ёсць некалькі назваў са значэннем «чырвоны», «красный». Напрыклад: «Чэрвона Вода» — ручай у Венгрыі, левы прыток р. Малы Попрад (па-венгерску Vorospatak); вёска ў б. Усходняй Прусіі, каля г. Розенберг (па-нямецку Rothwasser); вёска ў Памераніі, каля Ольштынка (нямецк. Rothwasser); у Чэхаславакіі з такой назвай ёсць мястэчка (Cervena woda). Чэрвонка — рака ў б. Седлецкай губерніі, прыток Ліўца; рака ў б. Ломжынскай губерні, прыток Яблоні; некалькі ручаёў у Заходняй Украіне. Чэрвонкі — возера ў Варміі. Чэрвоны — ручай у Заходняй Украіне, які ўпадае ў р. Чорны Дунаец, Чырвоны Стаў — у Венгрыі, у Татрах (па-венгерску Vorosto). Адносна апошняй назвы ў slownik'y geograficzn'ым ёсць заўвага, што яна паходзіць ад чырвонага колеру дна. Ва ўсходняй частцы Каспійскага мора ёсць Краснаводскі заліў. Такая назва дадзена гэтаму заліву ад чырвонага колеру яго вады[1]. Са значэннем «чырвоны» назва водных крыніц ёсць і ў іншых краінах: у Паўночнай Амерыцы ёсць дзве ракі Рэд-Рывер, што па-англійску азначае «чырвоная рака»[2].

Славянская тапаніміка ведае нямала назваў са словамі «сіні» і «зялёны»: р. Сіняя — правы прыток Свіслачы, р. Сіняя ў Віцебскай вобласці, Сіняўка — возера ў Бабруйскім раёне Магілеўскай вобласці, возера Сіняе ў Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці, возера Сіняе ў Чэрвенскім раёне Мінскай вобласці, ручай Сіняўка ў Кіеўскай вобласці. Назва «сіняя вада» зараз не сустракаецца. Але ў старажытнасці так называлася рака Сінюха, якая працякае ў Чэркаскай, Кіра-

---

[1] *Баднарскі М. С.* Слоўнік геаграфічных назваў. М., 1954. С. 160.
[2] Там жа. С. 252—253.

ваградскай і Нікалаеўскай абласцях УССР, левы прыток Паўднёвага Буга[1].

У Херсонскай вобласці УССР працякае р. Зялёная — левы прыток Інгульца; Зялёны — некалькі ручаёў на славянскай тэрыторыі, у прыватнасці ў Заходняй Украіне, у раёне Перэмышля; Зялёная — левы прыток Віслы, які ўпадае ў яе ніжэй Торуня; Зялёнае — возера каля Аўгустова; Зялёнае — возера ў Польшчы, у Хойніцкім павеце; Зялёны Стаў — сажалка ў Татрах, у даліне Белай вады[2].

Словамі «сіні» і «зялёны» называецца параўнальна невялікая колькасць водных крыніц, таму, напэўна, і не паявіліся назвы «Сіняя» і «Зялёная Русь».

*

* *

Усё паданае тут сведчыць аб тым, што як у глыбокай старажытнасці існавалі, так і зараз існуюць у тапаніміцы розныя каляровыя назвы водных крыніц. Звычай называць рэкі, азёры і да т. п. па колеру вады наглядаецца не толькі на тэрыторыі Еўропы, але і ў іншых частках свету; напрыклад, кітайская рака Хуан-хэ па-руску азначае «жоўтая рака», у ракі Сарысу ў Казахскай ССР назва цюркская, якая таксама азначае «жоўтая рака». На Каўказе возера Севан мае армянскую назву «Блакітны». Такім чынам, звычай называць водныя крыніцы па колеру вады можна лічыць адным з такога роду тапанімічных законаў, які быў характэрным для розных моў у старажытныя часы. З цягам часу па назвах водных крыніц пачалі называцца неселеныя пункты, а па найбольш важных з іх і вялікія тэрыторыі, як гэта відаць з назвы «Чырвоная Русь», якая паходзіць ад магутнага ў X ст. горада Чэрвеня (Заходняя Украіна), які ўпершыню ўпамінаецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісу пад 981 г.

Выказаная тут думка аб перанясенні назваў водных крыніц, у прыватнасці назваў «белы» і «чорны», на населеныя пункты даказваецца назвай сёл Ославы Белыя і Ославы Чорныя ў Заходняй Украіне (у прадгор'ях Карпат у Надвар-

---

[1] Slownik geograficzny. 1889. T. X. C. 620—621.

[2] Там жа. 1895. T. XIV.

нянскім раёне). Гэтыя сёлы стаяць на берагах аднайменных з імі рэчак, якія зліваюцца ніжэй па цячэнні ў р. Ославу (прыток Прута).

Тое, што назвы «Белая» і «Чорная Русь» маюць сваёй першакрыніцай ваду, даказваецца назвай югаслаўскай ракі Рсаў з тым жа коранем, што і Русь, і яе прытокамі Белы Рсаў і Црні Рсаў.

Хоць у афіцыйных дакументах Літоўскага княства і Польшчы заходнерускія землі і называюцца Літоўскімі або Рускімі, а насельніцтва — літвінамі або рускімі, усё ж, трэба лічыць, тэрмін «Белая Русь» у Літоўскім княстве быў вядомы і ўжываўся якойсьці часткай мясцовага насельніцтва, таму што ў дакументах, не звязаных з афіцыйнымі дзяржаўнымі ўстановамі, назва «Белая Русь» зрэдку сустракаецца. У якасці прыкладу можна ўказаць на дакумент, які расказвае аб падарожжы Пятра Магілы. «Петр Могила, милостию Божиею архиеписком митрополит Киевский, Галицкий и всея Росии... в року теперешнем тысеча шестьсот тридцать пятом, объежжаючи, и навежаючи краи великого князства Литовского и Белорусские, до епископии Мстиславское, Оршанское и Могилевское належачие, завитали... до Могилева»[1]. З гэтага відаць, што ў XVII ст. на тэрыторыі Літоўскага княства мясцовае рускае насельніцтва адрознівала ўласна Літву і Белую Русь. Ды і ў Маскве ў пачатку XVII ст. Белай Руссю называлі заходнерускія землі, якія знаходзіліся пад уладай Польшчы. Так, напрыклад, у 1621 г. рускі чыноўнік Юрый Радзіонаў пісаў, што ён чуў у Рызе, быццам «вялікі гасудар» сабраў «шэсцьдзесят тысяч воінскіх людзей, а ісці ім на Ліфлян, на Белую Русь і на Літву»[2].

Паколькі, з аднаго боку, слова «белы» ў Маскоўскай Русі было сінонімам «свабодны», а, з другога боку, заходнерускае насельніцтва прыгняталася панска-каталіцкай Польшчай, то, зразумела, калі ў Маскве ў пачатку XVII ст. гаварылі аб заходнерускіх землях як аб Белай Русі, зыходзілі не са значэння «белы» як «свабодны», а з нейкіх іншых мерка-

---

[1] Археалагічны зборнік дакументаў, якія адносяцца да гісторыі Паўночна-Заходняй Русі. Вільна, 1867. Т. II. № 43.

[2] Помнікі дыпламатычных зносін Старажытнай Расіі з дзяржавамі замежнымі, СПб., Т. II. С. 1366.

ванняў, хутчэй за ўсё мелі на ўвазе, што так называла сваю краіну мясцовае насельніцтва.

Старажытнейшы запіс, у якім побач упамінаюцца Літва і Белая Русь, знаходзіцца ў Іпацьеўскім летапісу пад 6823 (1315) г. У гэтым помніку пісьменнасці канца XIV або пачатку XV стст. гаворыцца наступнае: «Сице лях един по гривне, се есть по десяти грошей литовских, в Литве и в Руси Белой продаван был»[1].

У цытаваных дакументах першай палавіны XVII ст. палітычнае значэнне назвы «Белая Русь не выклікае сумненняў: гэта тэрыторыя сучаснай Беларусі, таму зусім дапушчальна, што і ў летапісу пад 6823 (1315) г., дзе таксама побач упамінаюцца Літва і Белая Русь, трэба разумець пад апошняй тэрыторыю заходнерускіх зямель, якія знаходзіліся пад уладай Літвы. І гэта больш натуральна для XIV ст., таму што тады ў значна большай ступені было пашырана ўсведамленне аб беларускіх землях як аб штучным прыдатку Літвы, чым гэта можна чакаць у XVII ст.

А. В. Салаўёў прывёў доказы таго, што ў XV ст. тэрмін «Белая Русь» прымяняўся да Паўночна-Усходняй Русі, а таксама выказаў думку, што гэты тэрмін азначаў вялікую або светлую дзяржаву, тады як процілеглы ёй тэрмін «Чорная», якім у гэтым час іншы раз называлі Літоўскую Русь, азначае «падначаленая, меншая» краіна»[2]. Сапраўды, вялікі князь Маскоўскі Іван III, канчаткова вызваліўшыся ад татарскай залежнасці, прыняў тытул вялікага князя Белай Русі. Аднак гэта не выключае магчымасці назвы Белай Руссю ў той жа час і заходнерускіх зямель. Узнікненне назвы «Белая Русь» у адносінах да Паўночна-Усходняй Русі тлумачыцца паступовым расшырэннем значэнняў слоў «белы» і «чорны», напаўненнем іх новым зместам. Шматзначнасць гэтых слоў была прычынай таго, што з першапачатковых дагістарычных і шырока распаўсюджаных назваў водных крыніц «белая вада» і «чорная вада» ў выніку іх доўгага пераасэнсавання і замацавання за пэўнымі тэрыторыямі паявіліся палітычныя назвы «Белая» і «Чорная Русь».

Акрамя таго, трэба мець на ўвазе, што ўзнікненне назвы

---

[1] Іпацьеўскі летапіс//ПЗРЛ. СПб., 1843. Т. II.

[2] Вопросы истории. 1947. № 7. С. 33.

«Чырвоная Русь», якая існавала побач з назвамі «Белая» і «Чорная Русь», не паддаецца тлумачэнню з фактаў гісторыі Рускай зямлі, а гэта дае права сцвярджаць, што аснову ўсіх гэтых назваў усё ж трэба шукаць у дагісторыі славянства, у тапаніміцы.

Назвы водных крыніц са словам «чырвоны», распаўсюджаныя пераважна ў Паўднёва-Заходняй Русі, былі прычынай таго, што ў палітычным значэнні тэрмін «Чырвоная Русь» замацаваўся не за Паўночна-Усходняй і не за Заходняй Руссю, а толькі за Паўднёва-Заходняй. Тапанімічныя назвы са словамі «белы» і «чорны» былі распаўсюджаны на тэрыторыі Паўночна-Усходняй і Заходняй Русі. Напаўненне гэтых слоў новым зместам («свабодны» для слова «белы» і «залежны» для слова «чорны») было прычынай таго, што ў розныя часы тая і другая тэрыторыі і ў палітычным значэнні называліся то Белай, то Чорнай Руссю.

Друкуецца па выданні: *Крапівін П. Ф.* Паходжанне назваў «Русь», «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь»//Весці Акадэміі навук БССР, 1956. № 3. С. 53—66.

***Я. ЮХО***

## ПРА НАЗВУ «БЕЛАРУСЬ»

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы...
А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

*Я. Купала*

Гісторыя беларускага народа значна старэй за яго назву. Тэрмін «Беларусь» у яго сучасным этнаграфічным, геаграфічным і дзяржаўна-палітычным значэнні пачаў ужывацца параўнальна нядаўна. Канчатковае прызнанне і замацаванне гэтага тэрміна адбылося толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і ўтварэння БССР. Таму каб правільна зразумець гісторыю беларускага народа, неабходна

прасачыць усе папярэднія імёны, якія насіў наш народ на працягу свае шматвяковай гісторыі.

Першае ўпамінанне аб насельніцтве, што пражывала на тэрыторыі сучаснай Беларусі, сустракаем у грэчаскага гісторыка Герадота, які жыў у V стагоддзі да нашай эры.

Герадот, расказваючы аб ваенным паходзе персідскага цара Дарыя на Скіфію ў 513 годзе да нашай эры, падае шэраг цікавых звестак пра паўночных скіфскіх суседзяў — неўраў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Калі скіфы папрасілі дапамогі ў сваіх суседзяў, бо самі не маглі адбіць сямісоттысячную армію Дарыя, то цары суседніх народаў, у тым ліку і неўраў, далі такі адказ: «Калі б вы першыя не рабілі крыўды персам і не пачыналі з імі вайны, то цяперашнюю просьбу вашу і цяперашнія вашы размовы мы палічылі б правільнымі... Што датычыць нас, то ні тады мы не крыўдзілі гэтага народу, ні цяпер не будзем абражаць яго. Вось калі б персідскі цар уварваўся і ў нашу зямлю і першы пакрыўдзіў нас, мы таксама не засталіся б убаку»[1].

З гэтага запісу Герадота можна зрабіць два выключна важныя вывады пра гісторыю неўраў. Па-першае, неўраў было даволі многа і былі яны моцныя, каб на іх падтрымку маглі разлічваць скіфы, альбо, адмовіўшы скіфам у дапамозе, не баяцца іх помсты. Па-другое, з гэтых звестак вынікае, што неўры былі не дзікуны, а мелі пэўную палітычную арганізацыю, на чале якой, паводле звестак Герадота, стаялі цары альбо іншыя асобы, што мелі права выступаць у міжнародных справах ад імя ўсяго народу. Пра наяўнасць у неўраў палітычнай арганізацыі сведчыць і тое, што Герадот гаворыць: «У неўраў норавы скіфскія»[2], г. зн. у іх звычаі, права і палітычны лад такія ж, як і ў скіфаў. У Скіфіі да таго часу ўжо склалася рабаўласніцкая дзяржава[3]. Гэтая думка падкрэсліваецца характарыстыкай, якую Герадот даў андрафагам, якіх ён лічыў дзікімі. Пра іх ён пісаў, што норавы ў іх самыя дзікія; яны не ведаюць ніякіх законаў. Значыць, у тых народаў, якіх Герадот не адносіў да дзікіх, ужо былі законы.

Далей Герадот расказвае легенду, паводле якой «штогод адзін раз кожны неўр ператвараецца на некалькі дзён у воў-

---

[1] *Геродот*. История в девяти книгах. М., 1988. Кн. 4. С. 356—357.
[2] Там жа. С. 351.
[3] *Смірноў А. П.* Скіфы. М., 1966. С. 168.

ка, а потым зноў становіцца чалавекам»[1]. У гэтай легендзе, мажліва, адлюстраваны звычай славян раз у год, на масленіцу, убірацца ў звярыныя шкуры, у знак абагаўлення некаторых лясных звяроў.

Мажліва, што з гэтым звычаем нашых продкаў звязана паходжанне назвы горада Ваўкавыска і гербы шэрагу гарадоў. У прыватнасці, на старажытным гербе горада Мсціслаўля быў воўк. Тут таксама будзе дарэчы адзначыць, што легенда аб тым, нібыта жыхары Беларусі перакідаюцца ў ваўкоў, была вядома і аўтару «Слова аб палку Ігаравым», які, расказваючы пра полацкага князя Усяслава, надае яму здольнасць перакідацца ў воўка.

Назва неўраў была вядома і старажытнарымскім гісторыкам і географам. Так, Пампоній Мела (I ст. н. э.) пісаў, што Тырас «бярэ пачатак у зямлі неўраў»[2]. Гай Пліній Секунд (I ст. н. э.) размяшчаў неўраў у вярхоўях Дняпра. Ён пісаў: «Неўры, ад каторых выцякае Барысфен»[3]. Ля Дняпра размяшчаў неўраў Марцін Капела (V ст. н. э.), які пісаў: «Неўры, ля якіх Барысфен»[4].

Назва неўраў вядома і нашым летапісам, у якіх яны называюцца «норыкамі» альбо «нарцамі».

У «Аповесці мінулых гадоў» ёсць такі запіс: «Нарцы, еже суть словяне»[5]. У другім летапісе запісана: «Норицы иже суть словене»[6]. Аб тым, што гэтыя назвы адносіліся да ўсходніх славян, сведчаць шматлікія геаграфічныя назвы ва Усходняй Еўропе, што захавалі корань слова «нур», «нор», «нар», «нев». Напрыклад, буйнейшае на Беларусі возера называецца Нарач, ёсць рэкі Нараў, Нарва, Нарэўка, Нурэц, гарадскі пасёлак Нароўля і іншыя падобныя назвы. Мажліва нават, што слова «народ» утварылася ад зліцця двух слоў «нар» і «род».

Акрамя назвы «неўры» славян у старажытнасці называлі і па-другому, у прыватнасці скіфамі. Гэта назва была не этнаграфічная, бо так называлі ўсе народы, што жылі ад Дуная

---

[1] *Геродот*. История в девяти книгах. М., 1988. Кн. 4. С. 351.
[2] Вестник древней истории. 1949. № 1. С. 280.
[3] Там жа. № 2. С. 283.
[4] Там жа, № 4. С. 280.
[5] Повесть временных лет. М.-Л., 1950. Ч. 1. С. 11.
[6] Полное собрание русских летописей. М., 1965. Т. 15. С. 19.

і Днястра да Волгі і Урала. Напрыклад, пад назвай «скіфы-ратаі» трэба разумець славян, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Кіеўшчыны.

У пачатку нашай эры частка славян у заходнееўрапейскай літаратуры атрымала назву «вянеды», а крыху пазней з'яўляецца новая назва — «славяне». Паходжанне гэтай назвы да сённяшняга часу не раскрыта. Як мяркуе вядомы славацкі вучоны Павел Йозэф Шафарык, што напісаў фундаментальнае даследаванне па гісторыі славян «Славянскія старажытнасці», народнасць (племя), якую называлі «славяне», была ў мінулыя часы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Пазней частка гэтага народу перасялілася і дала назву славакам, славенцам і ільменскім славянам. У доказ сваіх разважанняў аўтар прывёў шматлікія геаграфічныя назвы, што бытуюць у Беларусі. Напрыклад: Слаўцы Мінскай, Славены Магілёўскай і Смаленскай, Славена Віцебскай, Славіск Гродзенскай, Славянск альбо Славінск Віленскай, Славечна — рака Віленскай і Мінскай, Славешынка — рака, што ўпадае ў Славечну, Славенскае возера Мінскай губерні... «Я думаю,—пісаў далей П. Й. Шафарык,— што ў дагістарычныя часы гэтая славянская галіна жыла дзе-небудзь на тэрыторыях губерняў Мінскай, Магілёўскай і Валынскай»[1].

Магчыма, што і назва горада Слонім паходзіць ад імя славян.

Упершыню назва «славяне» ў пісьмовых помніках сустракаецца ў пачатку VI ст., і адносілася яна да паўднёвых славян[2].

Крыху пазней ва ўсходніх славян атрымала распаўсюджанне назва «Русь». Яна становіцца шырокавядомай у сярэдзіне IX стагоддзя, калі русы зрабілі некалькі паспяховых ваенных паходаў на Візантыю. Так, у адным з апісанняў гаварылася: «Усё па берагах Эўксіна (Чорнага мора — *Я. Ю.*) і яго ўзбярэжжа разбураў і спусташаў у набегах флот росаў (народ жа рос — скіфскі, жыве каля паўночнага

[1] *Шафарик П. И.* Славянские древности. М., 1848. Т. II. Кн. 1. С. 52—53, 74.

[2] Першым, хто запісаў гэту назву, лічаць епіскапа Марціна, які, пералічваючы народы, што прынялі хрысціянства, называў і славян // Русская история в очерках и статьях. Под ред. М. В. Довнар-Запольского. М. Т. 1. С. 71.

Таўра, грубы і дзікі). І вось самой сталіцы ён пагражаў жудаснай небяспекай»[1]. Тут, відаць, пад Руссю разумелі славянскае насельніцтва Паўночнага Прычарнамор'я, якое па традыцыі называлі яшчэ і скіфамі. Назва «Русь» у гістарычных помніках ужывалася ў розных значэннях. Так, у геаграфічным сэнсе з X ст. Руссю называлі ўсю Усходнюю Еўропу, дзе жылі славяне, незалежна ад іх этнічнай прыналежнасці. Гэтая назва змяніла найменне «скіфы», якое ўжывалі грэчаскія і візантыйскія пісьменнікі. Гэта зазначае і «Аповесць мінулых гадоў» — грэкі раней называлі славян, што жылі на Днястры, «Вялікая Скуф», г. зн.— «Вялікая Скіф». Тэрмін «Русь» ужыта аўтарам летапісу ў геаграфічным значэнні і тады, калі ён гаворыць: «Се бо такмо словенеск язык в Руси: поляне, древляне, ноугордьці, полочане, дреговичи, север, бужане»[2]. Называлі «Руссю» ў этнічным значэнні ў IX—XII стст. у асноўным толькі падняпроўскіх палян і іх паўднёвых суседзяў, што пацвярджае летапіс: «Поляне, яже ныне зовомая Русь»[3]. Тэрмін «Русь» ужываўся яшчэ і для вызначэння асобай сацыяльнай группы насельніцтва, г. зн. меў саслоўна-класавае значэнне, ім называлі ў асноўным кіеўскіх гарадскіх купцоў, баяр, дружыннікаў альбо наогул усіх кіеўскіх гараджан. Акрамя таго, тэрмін «рускі» стаў абазначаць рэлігійнае грэка-праваслаўнае веравызнанне ва ўсходніх славян. З пашырэннем хрысціянства тэрмін «рускі» ў яго царкоўна-рэлігійным значэнні пачаў ужывацца і на тэрыторыі Беларусі.

Да з'яўлення тэрміна «Русь» насельніцтва Беларусі падзялялася на крывічоў, дрыгавічоў (дрэгавічоў), бужан і радзімічаў. Аўтар «Аповесці мінулых гадоў» лічыў гэтыя назвы пляменнымі, хоць яны, несумненна, склаліся як дзяржаўна-геаграфічныя і адлюстроўвалі некаторыя этнічныя асаблівасці кожнага з названых народаў. Напрыклад, назва «бужане» мае ярка акрэслены геаграфічны характар і ўтварылася ад назвы ракі Заходні Буг. Бужане займалі тэрыторыю па ніжнім і сярэднім цячэнні ракі. У вярхоўях ракі жылі валыняне. Ананімны баварскі географ IX стагоддзя пісаў, што бужане

---

[1] История Византии. В 3 т. М., 1967. Т. II. С. 228.
[2] Повесть временных лет. Ч. 1. С. 13.
[3] Там жа. С. 21.

мелі 230 гарадоў, а валыняне — 70 гарадоў[1]. Пазней тэрыторыя, дзе жылі бужане, атрымала назву Падляшша, г. зн. зямлі, якая знаходзіцца недалёка ад ляхаў. У сакавіку 1569 г. Падляшша, паводле незаконнага распараджэння Сігізмунда-Аўгуста, было ўключана ў склад Польшчы і стала называцца Падляссем.

Назва «крывічы» паходзіць, відаць, ад назвы цэнтральнага горада зямлі, якім было старажытнае Крэва, і тады іх трэба называць крэвічы. Цікава адзначыць, што даўней латышы называлі ўсіх славян «крэвс». Тэрмін «крев» ужываў і В. Н. Тацішчаў. Магчыма таксама, што назва «крывічы» паходзіць ад слова «край» (у сэнсе ўскраіна зямлі). Вядома, што крывічы займалі паўночную і паўночна-ўсходнюю граніцу славянскай зямлі. У такім разе трэба было б гаварыць «краевічы». Цікава адзначыць, што адна з абласцей югаслаўскай Славеніі называецца «Крайна». Калі б удалося знайсці ўзаемасувязь гэтых тэрыторый у старажытнасці, то гэта была б цудоўная метрыка нашых крывічоў. Але як у адным, так і ў другім выпадках назву «крывічы» трэба ўважаць не пляменнаю, а геаграфічнаю. Назву «дрэгавічы» большасць гісторыкаў выводзіць ад балоцістай мясцовасці — дрыгвы. Але даволі зірнуць на геаграфічную карту, каб пераканацца, што мясцовасць «межю Припетью и Двиною» ўключае ў сябе не толькі палескія балоты, але і Мінскае ўзвышша. Вядомы польскі гісторык Г. Лаўмянскі звярнуў увагу на тое, што некаторая частка дрэгавічоў у старажытнасці перасялілася на Балканскі паўвостраў, дзе яны былі вядомы пад назвай другавітаў, і ад іх пайшлі геаграфічныя назвы Драгавіца, Драгавістыка[2].

Трэба думаць, што і ў сябе на радзіме насельніцтва гэтай тэрыторыі называлася другавітамі або драгавітамі (адсюль і назва ракі Друць і гарадоў Друцк, Драгічын), а потым гэтая назва трапіла ў трохі скажонай форме ў грэчаскую літаратуру, адкуль яна была перанесена і ў нашы летапісы. Магчыма, што слова «другавіты» ўтварылася ў сувязі з пакланеннем насельніцтва богу, якога называлі Вітам. Такім чынам, назва «другі Віта» ператварылася ў другавітаў. Альбо driчане, што пакланяліся Віту. Магчымы і іншыя падобныя меркаванні,

[1] *Тихомиров М. Н.* Древнерусские города. М., 1956. С. 9.

[2] Lowmiański Henryk. Początki Polski. Варшава, 1963. Т. II. С. 99.

але адно павінна быць цвёрда прынята, што выводзіць найменне дрэгавічоў, якія жылі на Мінскім узвышшы і нават на Палессі, няма як ад «дрыгвы», бо тады дрэгавічамі трэба было б называць украінскіх драўлян, ільменскіх славян і іншых насельнікаў нізінных мясцовасцей. Трэба звярнуць таксама ўвагу на тое, што імя Віта (Святавіта, Яравіта) было ў вялікай пашане ў славян. Праф. М. К. Любаўскі ўважаў, што гэта архаічнае імя святога і яркага святла («вити» — па-санскрыцку «святло»)[1]. Імя Віта, Вітэня, Вітолда, Вітаўта, Віталя было пашырана ў Беларусі і толькі часткова выцеснена хрысціянскімі (грэчаскімі і яўрэйскімі) імёнамі. З імем Віта, відаць, звязаны і назвы ракі Віцьбы і горада Віцебска, па-старому — Вітбеска.

Ёсць падстава думаць, што найменне радзімічаў насіла таксама дзяржаўна-геаграфічны характар і ўзнікла ад галоўнага горада зямлі — Радамля (у цяперашні час невялікая вёска за 20 км на поўнач ад горада Чавусы Магілёўскай вобласці).

Паступова на працягу XI—XIII стагоддзяў старыя найменні бужан, крывічоў, радзімічаў і дрэгавічоў пачалі выцясняцца новымі імёнамі «Літва» і «Русь». З гэтага часу ўзнікае і тэрмін «Белая Русь». Аб паходжанні тэрміна «Белая Русь» у гістарычнай літаратуры было выказана шмат самых розных меркаванняў. Напрыклад, у «Гісторыі БССР», выдадзенай Інстытутам гісторыі АН БССР у 1961 годзе, гаварылася: «Найбольш верагодна, што гэта назва (Белая Русь.— *Я. Ю.*) узнікла як процілеглая другой — «Чорная Русь». Чорнай Руссю называлася тая частка заходніх зямель Русі, якая ў першай палове XII ст. нібыта была захоплена літоўскімі князямі (раён Гродна, Слоніма, Навагрудка). Паняцце «чорны» азначала стан залежнасці, падпарадкавання, процілеглае паняццю «белы», якое выказвала стан волі, незалежнасці. Мажліва, што ў першай палове XIII ст. Белая Русь замацавалася за тою часткаю заходніх зямель Русі, якія за гэты час не былі падпарадкаваны ні татара-манголам, ні літоўскім феадалам»[2]. На першы погляд, такое меркаванне здаецца прый-

---

[1] *Любавский М.* История западных славян. М., 1918. С. 51.
[2] История БССР. Мінск, 1961. Т. 1. С. 74.

мальным, аднак яно поўнасцю супярэчыць фактам, а таму трэба яго прызнаць за памылковае[1].

Тэрмін «Белая Русь» упершыню з'явіўся не ў XIII, а ў XII ст., і таму яго ўзнікненне не можа звязвацца з татарскімі альбо літоўскімі захопамі рускіх зямель. Так, напрыклад, В. Н. Тацішчаў адзначаў, што тэрмін «Белая Русь» у летапісах упершыню ўспомнены пад 1135 годам у Раскольніцкім і Растоўскім манускрыптах[2]. Больш часта ўжыванне гэтага тэрміна адносіцца да другой паловы XII стагоддзя.

У летапісах вялікі князь Андрэй Юр'евіч (Багалюбскі) з 1157 г. называецца ўжо князем Белай Русі. «По смерти Юриеве ростовцы, суздальцы и володимирцы, со всеми городы здумавше, пояше Андрея, старейшего Юриева сына, и посадиша его на отчи столе во всей Белой Руси, в Ростове и Суздале»[3]. «Я всю Белую Русь (г. зн. Растова-Суздальскую.— *Я. Ю.*) городами и селами великими населил и многолюдной учинил»,— гаварыў, выхываючыся, князь Андрэй Багалюбскі[4]. Аналізу тэрміна «Белая Русь» В. Н. Тацішчаў прысвяціў цэлы раздзел сваёй працы, у якой пісаў: «О причине же имени сего разные мнения находятся. Герберштейн и другие от множества снегов написали, токмо сие неправо, ибо Великой Руси, где стужии снегов более бывает, паче бы согласовало. Польские и некоторые наши кладут от белого платья, которое при дворе царском в почтении было. Но и сие несогласно, ибо в Белой Руси более овец серых, следственно, и платья серого, нежели в Малой Руси... Древние наши писатели разумели под оным именем Польский и Мережской или Суздальский и Ростовский пределы с принадлежностьми, после Смоленское или Кревич, которое было особное владение, к тому присовокупили. Литовские, хотя похитить титул великих князей белорусских, обладав Смоленском, оное токмо за Белую Русь почли»[5].

Белаю Руссю называлі Маскоўска-Суздальскую Русь і пасля ўтварэння рускай цэнтралізаванай дзяржавы. У XV ст.

---

[1] *Ермаловіч М.* Па слядах аднаго міфа. Мінск, 1989.

[2] *Татищев В. Н.* История Российская. М.-Л., 1963. Т. II. С. 146, 265.

[3] Там жа. Т. IV. С. 251.

[4] *Ключевский В. О.* Сочинения. М., 1956. Т. 1. С. 289.

[5] *Татищев В. Н.* История Российская. М.-Л., 1962. Т. 1. С. 355.

найменне «Белая Русь» мела тое ж значэнне, што Вялікая Русь, і ніяк не было звязана з тэрыторыяй сучаснай Беларусі[1]. «Можна, здаецца, упэўнена сказаць,— пісаў праф. В. І. Ламанскі,— што ў канцы XV і ў XVI ст., калі пад Белаю Руссю разумелі вольную і незалежную, то мелі на ўвазе не Белую Русь ва ўласным сэнсе, а Русь паўночна-ўсходнюю, Маскоўскую»[2]. Пры вялікім князі Іване III тэрмін «Белая Русь» уносіцца ў тытул вялікага князя Маскоўскага. Як адзначаў М. М. Карамзін, «исчисляя в титуле своем все особенные владения государства Московского, Иоан наименовал оное Белою Россиею, то есть великою или древнею, по смыслу сего слова в языках восточных»[3]. Цікава заўважыць, што тэрмінам «Белая Русь» часамі называлі нават украінскія землі. Так, у паведамленні дзяка Кунакова ў Маскву гаварылася: «У гетмана у Богдана Хмельницкога и в полковников и всего Войска Запорожского положено на том... церкви благочистивые христианские веры в Киеве и во всей Белой Руси все от унеи учинил свободны, и костелов бы и унеи в Киеве и во всей Белой Руси отнюдь не было, и положил бы Киевское и Белой Руси правление на их гетманскую волю, а сам бы король в Киев и во все белорусские города ни в расправу и ни во што не вступался»[4]. З гэтага акта відаць, што пад Белаю Руссю разумелася ўся падуладная Багдану Хмяльніцкаму Украіна. Цікавыя ў гэтых адносінах звесткі ёсць у выпісцы з «Распросных речей полоняников в Патриаршем дворцовом приказе», дзе чытаем: «свели его в Киев, жил у белорусца», «родина де яе в Белой Руси в Хвастове»[5]. Трохі іншае разуменне тэрміна «Белая Русь» даецца ў «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі», якая напісана італьянцам Аляксандрам Гвагніні ў 1578 г., што быў на службе ў горадзе Віцебску. Вось што ён пісаў: «А ёсць Русь траякая: адна Белая, другая Чорная, трэцяя Чырвоная. Белая каля Кіева, Мазыра,

---

[1] *Соловьев А. В.* Великая, Малая и Белая Русь//Вопросы истории. 1947. № 7.

[2] *Ламанский В. И.* Белая Русь//Живая старина. СПб., 1891. Вып. III. С. 245—250.

[3] *Карамзин Н. М.* История государства Российского. Т. VI. С. 351.

[4] Белоруссия в эпоху феодализма. Мінск, 1960. Т. II. С. 35.

[5] Потебня А. А. Белая Русь//Живая старина. СПб., 1891. Вып. III. С. 118.

Мсціслаўля, Віцебска, Оршы, Полацка, Смаленска і зямлі Северскай, якая здаўна належыць Вялікаму княству Літоўскаму.

Чорная ў Маскоўскай зямлі каля Белага возера і там усюды да Азіі. Чырвоная каля гор, якія называюцца Бескідамі... Пад тымі ж гарамі паветы: Галіцкі, Перамышльскі, Саноцкі, а ўсярэдзіне вядомы горад Львоў... Абмяжоўваецца зямля з поўдня Татрамі, ракою Днястром; з усходу ракою Танаісам (Донам) і Перакопскаю зямлёю, з поўначы Літоўскаю зямлёю, а з захаду Польшчаю»[1].

Трэба адзначыць, што польскія гісторыкі ў XVI ст. не ведалі дакладна, дзе знаходзіцца Белая Русь. Так, вядомы польскі вучоны, былы рэктар Кракаўскага універсітэта Мацей Мяхоўскі, які выдаў у 1517 годзе «Трактат пра дзве Сарматыі», значнае месца адвёў апісанню Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. Але ён усяго адзін раз успомніў пра Белую Русь, адзначыўшы, што яна размешчана недзе між Уралам і Азоўскім морам. Ён пісаў: «...па апавяданням юграў або венграў, яны ідучы з Югры да Меацідскіх балотаў, у межах Белай Русіі бачылі ледзянога Ідала»[2]. А ён меў дакладныя звесткі пра нашу зямлю ад беларускіх студэнтаў, якія на той час вучыліся ў Кракаўскім універсітэце. Вядома, што ў пачатку XVI ст. у Кракаве навучаліся Ф. Скарына з Полацка, князь Павел з Гродзеншчыны, Вінцусь са Слуцка, Георг з Ваўкавыска, Мікалай з Ашмян і многа іншых ураджэнцаў Беларусі. Характэрна, што ні Ф. Скарына, ні С. Будны, ні Леў Сапега, ні іншыя нашы вучоныя ці палітычныя дзеячы таго часу не ўжывалі адносна сваёй зямлі назвы Белая ці Чорная Русь. Не ўспамінае пра Чорную Русь і Мацей Мяхоўскі. З гэтых выказванняў самых розных аўтараў можна зрабіць вывады: 1) найменне «Чорная Русь» ніколі не ўжывалася самім насельніцтвам Беларусі, не было яно вядома ў якасці этнаграфічнага тэрміна і бліжэйшым суседзям, а было выдумана іншаземцамі і ўжывалася да розных тэрыторый, як абразлівая мянушка; 2) тэрмін «Белая Русь» таксама амаль не ўжываўся для вызначэння цяперашняй Беларусі, а ў асноўным быў як

---

[1] Guagnini A. Kronika Sarmacyej Europskiej. Кракаў, 1611. Кн. 3. С. 13—14.

[2] *Меховский Матвей.* Трактат о двух Сарматиях. М.-Л., 1936. С. 120.

раўназначны тэрміну «Вялікая Русь». Такім чынам, нам неабходна ўстанавіць, а як жа называлася насельніцтва Беларусі ў XIII—XVIII стст., г. зн. звыш 500 год.

У XI—XII стст. насельніцтва цяперашняй Беларусі называлася паводле галоўнага горада тае ці іншае зямлі — дзяржавы. І таму ўсё насельніцтва падраздзялялася на палачан, віцяблян, берасцейцаў, слонімцаў, менян, случан, дручан, тураўцаў і г. д. Кожная такая зямля мела дзяржаўны суверэнітэт не толькі ва ўнутраных справах, але і ў знешніх сувязях, г. зн. была самастойнай дзяржаваю.

Пасля злучэння ўсіх беларускіх зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага насельніцтва Беларусі, акрамя мясцовых найменняў, называлі літвінамі, а беларускую зямлю — Літвою.

Гэтае найменне ўжывалася як унутры дзяржавы, так і ў міжнародных дагаворах. Напрыклад, у дагаворы Вялікага княства Літоўскага з Вялікім Ноўгарадам ад 1440 г. гаварылася: «Новгородцам из всее Новгородское волости торговати без пакости по всей Литовской земли. А нме, вел. кн. Казимиру, королевичу, блюсти новгородца, как и своего литвина, тако ж и новгородцам блюсти литвина, как и своего новгородца... А рубеж Новгороду з Литвою по старому рубежу земли и воды, и с полочаны, и с витбляны, и с торопьчаны»[1]. Такое же разуменне тэрміна «Літва» у летапісах і ў іншых пісьмовых помніках. Так, у Баркалабаўскім летапісе, расказваецца, што ў 1583 г. летам «великий жар был... все погорело у Литве, а звлаща около Менска»[2]. У спісе рускіх гарадоў, складзеным у канцы XIV альбо пачатку XV ст., такія беларускія гарады, як Слуцак, Гродна, Клецак, Крэва, Гальшаны, Друцак, Орша, Горваль, Лукомль, Лагойск, Полацк, Віцебск, Навагрудак, Барысаў, Ліда, Менск, і інш. аднесены да літоўскіх гарадоў[3].

Гэтай жа тэрміналогіі прытрымліваліся і вучоныя таго часу. У кнізе Мацея Мяхоўскага ўся Беларусь называецца Літвою, а Украіна — Расіяй. У гэтай кнізе гаворыцца: «ля Сар-

---

[1] Акты Западной России. СПб, 1846. Т. 1. С. 52—53.

[2] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959. С. 205.

[3] Белоруссия в эпоху феодализма. Минск, 1959. Т. 1. С. 112.

мацкіх гор (Карпат.— *Я. Ю.*) жыве народ рускі... Ля гэтых жа гор знаходзяцца акругі — Галіцыйская. У кірунку да цэнтра Расіі ляжыць Львоўская зямля, а ў ёй добра ўмацаваны горад таго ж імя. Гэта сталіца Русіі. На поўнач ідуць акругі Холмская, Луцкая і Бельзенская... Абмежавана Русія — з поўдня Сармацкімі гарамі і ракою Тырсам, якую жыхары называюць Днястром; з усходу — Танаісам (Донам.—*Я. Ю.*), Меацідамі (Азоўскім морам.—*Я. Ю.*) і Таўрыцкім вострававам, з поўначы — Літвою, з захаду — Польшчаю. Вядомая рака Барысфен, якая называецца жыхарамі Дняпром, цэчэ з Масковіі, праходзіць праз Літву і Русію»[1].

Літвою ў XVI—XVII стст. называлі Беларусь і самі беларусы. Так, Сымон Будны ў сваіх творах неаднаразова ўжываў такія выразы: «писано в Лоске, в Литве», «у нас в Литве, в Ивье»[2]. Афанасій Філіповіч у сваім палемічным творы «Дыярыуш» пісаў: «З Літвы, з манастыря Купятицкого, миля от Пинска лежачого»[3].

Літвою называлі Беларусь і ў Маскоўскай дзяржаве. Напрыклад, у паведамленні цару Івану IV аб прыездзе купцоў з Беларусі гаварылася, што прыехалі «из Литовское земли из города ис Кричева торговые люди»[4]. У другіх дакументах ёсць такія запісы: «Васька Рубцов ездил в Литовские городы в Витепск торговать... торговый человек Гриша Микулин ехал в Витепск с товаром, и как будет переехав рубеж по Витепской дороге, и тут де вышед из деревни литовские люди многие... на литовских на торговых людей на оршан»[5]. «А которые де, государь, Литовские городы по сю сторону Днепра и ис тех де, государь Литовских городов из всех паны, и державцы, и урядники... все выбежали»[6].

У афіцыйных дакументах XVI—XVIII стст., апроч «Літвы», для ўсяе тэрыторыі Беларусі другога наймення наогул не існавала, і ўвесь народ называлі Літвою. У нашай жа гістарычнай літаратуры да цяперашняга часу ігнаруюць гэта най-

---

[1] *Меховский Матвей.* Трактат о двух Сарматиях. С. 95.

[2] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Минск, 1962. С. 67, 74.

[3] *Коршунов А.* Афанасий Филиппович. Минск, 1965. С. 99.

[4] Русско-белорусские связи. Минск, 1963. С. 11.

[5] Там жа. С. 27, 28.

[6] Воссоединение Украины с Россией. М., 1954. Т. II. С. 24.

менне народаў, якое ён насіў больш чым 500 год. Так, сялян і гараджан Беларусі XIV—XVIII стст. называюць беларусамі, а феадалаў — літоўцамі, хоць і тыя і гэтыя стала жылі разам на адной і той жа зямлі, ужывалі адну і тую ж мову, мелі адны і тыя ж звычаі і правы і жылі ў адной дзяржаве.

Памылковасць такога падзелу будзе больш выразнаю, калі мы для параўнання ўспомнім пачатковую гісторыю Кіеўскай дзяржавы, у якой, паводле падання, княжылі прышлыя князі варагі.Але нават самыя зацятыя нарманісты ніколі не адважваліся называць увесь клас феадалаў Кіеўскай дзяржавы шведамі — варагамі. Для Беларусі ж такі падзел народу лічыцца амаль заканамерным. Падзел найменняў беларускага народа ўзнік таму, што польскія і рускія буржуазныя гісторыкі, якія пісалі нам нашу гісторыю ў мінулым, не прызнавалі існавання беларускай народнасці і нацыі, і адны бачылі на гэтай зямлі толькі «польска-літоўскую шляхту», а другія — «заходнерускі народ».

Такая блытаніна ў тэрміналогіі вядзе да скажэння ўсяго гістарычнага працэсу развіцця беларускага народа, да замоўчвання яго багатай гісторыі. Таму ў цяперашні час наспела неабходнасць удакладніць нашу гістарычную тэрміналогію і адкінуць некаторыя застарэлыя трафарэты і схемы.

Вядома таксама, што нават у другой палове XIX ст. пад найменнем «Літва» разумелі як землі этнаграфічнай Літвы, так і землі, якія ўваходзілі ў склад былога Вялікага княства Літоўскага[1].

У сувязі з тым, што стваральнікам і галоўнай асноваю Вялікага княства Літоўскага былі народы Беларусі і Літвы, і самую дзяржаву правільней было б, у цяперашні час, называць беларуска-літоўскай.

Разам з тым трэба сказаць, што ў XVIII ст. і асабліва ў першай палове XIX ст. усіх феадалаў-католікаў, а заадно і значную частку беларускіх сялян-католікаў сталі называць палякамі. У гэтым асабліва стараліся каталіцкія ксяндзы, якія былі фактычна замежнымі агентамі і выконвалі у Беларусі ролю ідэалагічных дыверсантаў, якія намагаліся ліквідаваць нацыянальную самасвядомасць беларускага народа. Пад уздзеяннем каталіцкай прапаганды і розных езуіцкіх

[1] «Słownik geograficzny Królewstwa polskiego i innych krajów słowiańskich». Варшава, 1884. Т. 5. С. 330.

хітрыкаў многія беларусы сталі і самі называць сябе палякамі, хоць змен у этнічным складзе насельніцтва Беларусі ні ў XVIII, ні ў XIX ст. не было. Не было таксама ніякага значнага перасялення народаў і раней, якое дало б падставу меркаваць аб зменах этнічнага складу насельніцтва.

Першае ўжыванне тэрміна «беларускі», якое паслужыла пачаткам этнаграфічнай назвы нашага народа, адносіцца да 1675 г. калі праваслаўны епіскап Феадосій, архімандрыт Слуцкага манастыра, атрымаў пацвярджальны прывілей на епіскапства Магілёўскае. У гэтым прывілеі епіскап Феадосій упершыню тытулаваны як «беларускі», што паслужыла пачаткам афіцыйнага прыняцця гэтага тэрміна. Спачатку «беларускай» называлася толькі Магілёўская праваслаўная епархія, потым паступова гэтым тэрмінам называюць усе землі, на якія пашыралася ўлада магілёўскага епіскапа. Пасля далучэння ў 1772 г. паўночна-ўсходніх зямель Беларусі да Расіі гэта найменне набывае новае адміністрацыйна-геаграфічнае значэнне. Ім абазначаюць дзве новыя створаныя губерні: Пскоўскую (пасля пераўтвораную ў Полацкую) і Магілёўскую. Напрыклад, у пастанове Сената ад 8 мая 1773 г. гаварылася: «...учредя с самого начала в присоединенных к Российской имерии из польских земель двух новых белорусских губерниях»[1]. У снежні 1796 г. былі ўнесены змены ў адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, паводле якога Полацкая і Магілёўская губерні былі пераўтвораны ў адну беларускую губерню з цэнтрам у горадзе Віцебску. Віленская і Слонімская губерні былі пераўтвораны ў адну літоўскую губерню з цэнтрам у горадзе Вільня. У склад літоўскай губерні былі ўключаны наступныя паветы: Слонімскі, Навагрудскі, Гродзенскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі, Віленскі, Завілейскі, Троцкі, Браслаўскі, Ашмянскі і інш. З гэтага пераліку відаць, што нават у самым канцы XVIII і пачатку XIX ст. значная частка Беларусі афіцыйна называлася яшчэ Літвою.

Паступова, з ростам нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, на працягу XIX ст. тэрмін «Беларусь» пачынае пашырацца на Мінскую губерню і некаторыя паветы Віленскай, а потым і на Гродзенскую. Пра маруднае пашы-

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Минск, 1961. Т. 3. С. 37.

рэнне новага тэрміна можа сведчыць той факт, што нават у 1918 г. горад Брэст называўся яшчэ Літоўскім.

У развіцці нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа выдатная роля належыць паўстанню 1863 г. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, якое ўскалыхнула грамадскую думку ў краіне і павысіла свядомасць усяго народу.

З 60-ых гадоў XIX ст. тэрмін «Беларусь» пачынае набываць яго сучаснае этнаграфічнае значэнне. У развіцці і станаўленні гэтага тэрміна вялікая заслуга належыць нашым этнографам, мовазнаўцам, літаратарам і іншым грамадскім і культурным дзеячам Беларусі.

Друкуецца па выданні *Юхо Язэп.* Пра назву «Беларусь»//Полымя. 1968. № 1. С. 175—182.

*Н. УЛАЩИК*

## БЕЛАЯ И ЧЕРНАЯ РУСЬ В «КРОНИКЕ» МАТВЕЯ СТРЫЙКОВСКОГО

В 1582 г. в Кенигсберге вышла книга на польском языке под названием «Кроника польская, литовская, жмудская и всей Руси Мацея Стрыйковского»[1]. Автору книги, человеку огромной энергии и столь же огромной начитанности, были хорошо известны не только произведения античных и средневековых писателей (в том числе, разумеется, работы поляков на латинском и польском языках), но и летописи — древние русские и более новые белорусско-литовские, причем летописи эпохи Киевской Руси он называл русскими хрониками, а белорусско-литовские — литовскими или русскими летописцами.

По уверению автора, у него было 13 (по другой версии — 15) собственных белорусско-литовских летописей. Опираясь главным образом на эти летописи, Стрыйковский и написал

---

[1] *Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, zmódzka i wszystkiej Rusi w Królewsu, 1582. Warszawa, 1846. Cz 1, 2. В дальнейшем это произведение называется «Кроника». При цитировании том показан латинскими цифрами, страница — арабскими.

историю Литвы — Великого княжества Литовского, причем, хотя некоторые места этих летописей и казались ему сомнительными, в целом он им доверял почти полностью[1].

Первую работу Стрыйковского, относящуюся к истории Литвы («Гонец добродетели»), он издал в 1574 г., после чего начал писать другую, гораздо более основательную, озаглавленную по-средневековому очень длинно: «О началах, выводах, стойкости, рыцарских и домашних делах славного народа литовского, жмудского и русского, которых раньше никто не описал...»[2]. Эта работа, задуманная автором в значительной мере как поэма о блужданиях вожака беглецов из Рима Палемона (в подражание «Энеиде»), была написана, но она не удовлетворяла Стрыйковского, который отложил ее и стал писать «Кронику». Что касается «Начал», то они увидели свет лишь в 1978 г., через четыреста лет после создания.

Давая ссылки на летописи, Стрыйковский применял к ним около 30 различных названий. Очень часто они называются вообще «летописцы», но есть «старые летописцы», «старые летописцы русские, литовские и жмудские», «все летописцы русские, литовские и жмудские», «старые литовские летописцы», «русский летописец» и др. Общим для всех белорусско-литовских летописей, которыми пользовался Стрыйковский, является то, что все они написаны «на русском», т. е. на старобелорусском языке (т. I, с. 354; Т.II, с. 11), и что все они содержали версию о прибытии предков литовской шляхты из Италии.

В тех разделах «Кроники», в которых говорится о Литве, Жмуди (Жемайтии) и Руси, Стрыйковский, определяя место, где происходили события, или, вообще говоря о стране, применял кроме выражений «Литва», «Жмудь», «Русь» названия «Литва Завилейская», «Литва Повильская», «Белая Русь», «Черная Русь». Из всех этих названий только Жмудь понималась им всегда как территория, вполне определенная,

---

[1] *Danitowicz I.* Ẃiadomićś o zyciu i piśmach Stryjkowskiego// Stryjkowski M. Kronika. Cz. 1, S. 19.

[2] *Stryjkowski M.* O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych slawnego narodu litewskiego, žemojdzkiego i ruskiego, nigdy przedtym od žadnego ani kuszone, ani opisane, z natchnienia bozego a z uprzejme pilnego doświadczenia. Warszawa, 1978.

ни с чем не смешиваемая, все же остальные такой определенностью не обладали, в особенности неясным представляется, что понимал Стрыйковский под Белой и Черной Русью.

Белой и Черной Руси Стрыйковский посвятил целый параграф (раздел третий книги четвертой) своей «Кроники», однако вопрос от этого не стал яснее. Уже пространный заголовок раздела говорит, что в представлении Стрыйковского Белой и Черной Русью называются земли (в современном понимании) русские и украинские, но не белорусские. Заголовок этого раздела следующий: «О Белой и Черной Руси, восточных, северных и южных народах старожитных, и их князьях великоновгородских, изборских, псковских, белозерских, киевских, владимирских, волынских, галицких, подгорских, подольских и т. д.». Однако дальше упоминаются и литовские белорусы. Значит ли, что под таким названием следует понимать волынских или владимирских жителей или хотя бы части современной Белоруссии? (т. I, с. 111). Здесь ясно лишь то, что под литовскими белорусами Стрыйковский понимал православных жителей, а поскольку это писалось после Люблинской унии, когда Украина уже отошла к Польше, то можно представить, что «литовские белорусы» — предки современных белорусов. В дальнейшем, однако, Белой Русью Стрыйковский чаще всего называл Русь Московскую и лишь изредка, и опять очень неопределенно, современную Белоруссию. Так, князь Иван Данилович (Калита) у него называется князем белорусским (т. I, с. 126). Великие князья московские именуются владельцами Бело-Русской монархии (т. II, с. 10). В то же время, согласно Стрыйковскому, Белая Русь должна находиться и где-то на юге. По крайней мере князь Владимир (Святославич.—*Н. У.*) захватил в свое время всю Северо-Восточную Русь «и лежащую на юге Белую и Черную (Русь)» (т. I с. 125). Черной Русью называется та часть Белоруссии, которая расположена по среднему и отчасти верхнему течению Немана (в настоящее время эта территория в основном составляет Гродненскую обл. БССР). У Стрыйковского же Черная Русь, по одной версии, должна была находиться к югу от Киева, а по другой — на западе, во всяком случае Львов в «Кронике» назван «главой» Черной Руси (т. II, с. 20), хотя на той же странице тот же Львов именуется главой всей Руси (под «всею Русью» Стрыйковский, всего вероятнее, понимал Галицию.— *Н. У.*). Еще больше за-

путывается этот вопрос, когда читаем, что «Василий, князь галицкий и владимирский... в то время был в Черной и Белой Руси старейшим и богатейшим» (т. I, с. 286). Здесь под Черной и Белой Русью понимаются Галиция и Волынь.

Точка зрения Стрыйковского, находившего Белую и Черную Русь в самых различных районах, не была для своего времени исключением. Оба термина долгое время были «бродячими», пока первый из них не стабилизировался на определенном месте, а второй исчез из употребления[1]. Лишь один раз Стрыйковский назвал Белой Русью территорию, чать которой составляла Белоруссия. Говоря о начале борьбы Свидригайло с Сигизмундом, Стрыйковский отмечает, что Свидригайло, посадив свои гарнизоны в Полоцке, Смоленске и Киеве, захватил, в сущности, всю Русь. На поле же против этого места отмечено, что Свидригайло завладел Белой Русью (т. II, с. 186). В Луцк в 1428 г. на съезд крупнейших феодалов Восточной Европы, созванный Витовтом, приехали в числе прочих «князья Белой Руси — Одоевские» (т. II, с. 168). Одоев в настоящее время находится в Орловской обл.

Вообще же в XVI в. (да и позже, чуть ли не до нашего времени) при делении Великого княжества Литовского на истори-

---

[1] О происхождении названия «Белая Русь» высказано немало предположений, однако считать вопрос решенным пока нет оснований. Об этом см.: *Ламанский В.* Белая Русь//Живая старина. СПб., 1891. Вып. III. С. 245—250; *Ильинский Г.* К вопросу о происхождении названия «Белая Русь» //Slavia. Praha, 1927. Zes 2—3. С. 388—393; Крапівін П. Ф. Паходжанне назваў «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь» //Весці Акадэміі навук БССР: Сер. грамадскіх навук. 1956. № 3. С. 53—67. Все названные работы имеют к указанному вопросу косвенное отношение. Сводку же сведений относительно территорий, к которым применялось название «Белая Русь», см.: *Соловьев А. В.* Великая, Малая и Белая Русь//Сборник Русского археологического общества в Югославии. Белград, 1940. Т. 4 (в сокращенном виде работа Соловьева изложена в статье, помещенной в журнале «Вопросы истории». 1947. № 7. С. 24—38); Idem. Weiss-, Schwarz-und Rotrussland. Versuch einer historisch-politischen Analyse.— In. Jahrbücher für Geschichte Osteuropas, 1959, Bd. 7, H. 1, S. 1—33. Однако в журнальной статье о Белой Руси фактически ничего не сказано. Наиболее полный обзор литературы о Белой Руси сделал Я. Юхо в статье «Пра назву Беларусь» (Полымя. Мінск. 1968. № 1. С. 175—182).

чески сложившиеся области выделяли Подляшье (в основном современное Белостокское воеводство в Польской Народной Республике), Жемайтию или Жмудь (территория, западной границей которой было Балтийское море, восточной — р. Невяжа, северной — частично Западная Двина и южной — Неман), Русь (область к востоку от р. Березины, вернее, вся современная восточная Белоруссия и те области Украины, которые входили в состав Великого княжества), наконец Литва (в основном это территория между Невяжей и Березиной, но чаще всего Литвой называли всю территорию Великого княжества Литовского, Русского и Жемойтского или Литовского, Жемойтского и Русского; официальное название этого государства).

После 1569 г. Украина и Подляшье отошли к Польше, в связи с чем понятие «Русь» (когда дело шло о Великом княжестве Литовском) соответственно сократилось, а Подляшье вообще выпало из областей этого государства.

Вместе с тем начиная с XIV в. в обиход все чаще стало входить выражение «Белая Русь» применительно вначале к Белорусскому Подвинью, а затем и к Поднепровью, пока впоследствии это название не стало применяться ко всем белорусским землям (окончательно такое понятие закрепилось только после Великой Октябрьской социалистической революции).

Стрыйковский если писал от себя, то обычно называл Великое княжество Литвой, если же придерживался терминологии источника, то постоянный (в отношении территориальном) смысл вкладывался им только в понятие «Жмудь» в показанном выше отношении. Что касается Руси и особенно Литвы, то границы их на ранних этапах истории Великого княжества Литовского у Стрыйковского резко изменялись.

Вопрос о границах Литвы, Жмуди и Руси у Стрыйковского тесно связан с его представлением о начальных этапах существования Литвы и Жмуди, близких между собой, но не идентичных. При всей разноречивости и путанности его взглядов на этот вопрос получается так, что жемайты (жмудины) были населением автохтонным, тогда как литовцы — это элемент пришлый (впрочем, это целиком заимствовано им из летописей).

Однако и в этом у Стрыйковского не было полной определенности. Так, говоря о нападении татар в 1506 г., он от-

мечает, что те «зашли за Неман (в районе Новогрудка.— *Н. У.*) в Литовскую землю». Следовательно, до Немана была земля не литовская, а русская, по терминологии того времени, по-современному же — белорусская. Но на той же странице у него сказано, что Махмет-Гирей, стоявший под Минском, «в земле Литовской и в Полоцке, и в Витебске, и в Друцке везде принес много вреда и много пролил крови» (т. II с. 327), а на с. 328 он сообщает, что после ухода татар распространилась эпидемия в «Минске и прочих литовских городах». Почти во всех этих случаях Стрыйковский передает терминологию летописей. В то, что благородные предки литовцев приехали из Италии и что они говорили на латинском языке, Стрыйковский верил безоговорочно.

Для уяснения вопросов, какова была первоначальная территория, занятая литовцами, как образовался литовский народ, откуда взялось название «Литва» и т. д., Стрыйковский обращался к античным и средневековым авторам, к польским и немецким хронистам, но всего больше к летописям. Весьма существенным в его рассуждениях является то, что все они касались исключительно литовцев. Подобные вопросы в отношении Жемайтии не ставились, поскольку жемайты числились населением автохтонным. Опять-таки опираясь на летописи, Стрыйковский утверждал, что собственно литовская территория находилась между Невяжей и Вилией (правым притоком Немана) (т. I, с. 85, 86). В дальнейшем, когда население стабилизировалось, т. е. когда прекратилась миграция из Жемайтии в Литву, то оказалось, что жемайты сидят от Балтийского моря до р. Невяжи, литовцы — от Невяжи до Вилии, восточная точка их обитания находилась около Браславля (сейчас Витебская обл. БССР), а к югу от Вилии находилась Русь (т. I, с. 235, 236, 239 и др.). То, что первоначально литовцы занимали область только между Невяжей и Вилией, для Стрыйковского было положением безусловным, так как он повторял это много раз.

Таким образом, «Кроника» Стрыйковского не может служить достоверным основанием для локализации Белой и Черной Руси в пределах той или иной территории.

Печатается по изданию: *Улащик Н. Н.* Белая и Черная Русь в «Кронике» Матвея Стрыйковского // Исследования по истории и историографии феодализма. М., 1982. С. 238—242.

*К. ТАРАСАЎ*

# РУСЬ ЛІТОЎСКАЯ

У сярэдзіне XVII ст., у паспяховы час руска-польскай вайны і паўстання Багдана Хмяльніцкага цар Аляксей Міхайлавіч унёс у свой тытул наступнае ўдакладненне зямельных інтарэсаў рускай дзяржавы: «Царь всея Великия, Белыя, Черныя и Червоныя Руси...» Ніколі потым геаграфічныя паняцці Чорная Русь і Чырвоная Русь, неўзабаве выключаныя з тытулу, у ім не аднаўляліся, а праз паўтара стагоддзя растварыліся ў больш ёмістых і гістарычна развітых назвах. Тут самы час паглядзець на шэраг геаграфічных і палітычных акрэсленняў, якія ў розныя часы дапасоўваліся да адной этнічнай назвы Русь: Кіеўская, Уладзіміра-Суздальская, Маскоўская, Северская, Залеская; потым — Вялікая, Малая, Новая; яшчэ тры як бы «каляровыя»: Белая, Чырвоная, Чорная. З гэтага немалога пераліку сёння афіцыйна існуе адна — Белая Русь, інакш Беларусь. Чорная Русь пераняла на сябе назву роднаснай ёй Белай Русі; Чырвоная, вядомая яшчэ як Галіцкая, сталаназывацца Украінай, падобна іншым малароскім землям.

На гістарычных картах, дзе нанесены ўсходнеславянскія княствы і землі XII—XV стст., тэрыторыя сённяшняй Гродзенскай вобласці пазначана нязвыклай назвай Чорная Русь. Нязвыклая яна таму, што ні ў народнай памяці, ні ў фальклоры, ні ў рэгіянальных гістарычных дакументах не прысутнічае; ужывалі яе, як будзе апавядана ніжэй, выключна за межамі Беларусі. На заходнееўрапейскія карты найменне Чорная Русь трапіла яшчэ ў XV ст., выкарыстоўвала яго ў сваёй дзяржаўнай палітыцы і Расія. Цікава прасачыць: які змест яно мела — занадта ж загадкавае паняцце. Быццам і шмат што вядома пра Чорную Русь, а на самай справе, калі наблізіцца да старажытных звестак і пільна да іх прыглядзецца — мала там дакладнага, ды і сам сэнс назвы ніхто яшчэ не здолеў растлумачыць пераканаўча. Настолькі рэдка яна ўжывалася, што апроч спецыялістаў і начытаных аматараў гісторыі ніхто пра яе не памятае. Нават у нас на Беларусі, дзе Чорная Русь і знаходзілася.

Займала яна дастаткова вялікі абшар, акрэслены гарадамі

Гродна, Слонімам, Ваўкавыскам, Турыйскам, Зэльвай, Лідай, Навагрудкам. Зараз мы называем гэтыя землі беларускімі, і нам здаецца, што так было заўсёды, спрадвечна. Аднак назва Белая Русь у дачыненні да цяперашняй тэрыторыі рэспублікі ўзнікла толькі ў мінулым стагоддзі, а раней — некалькі стагоддзяў таму — дапасоўвалася толькі да ўсходніх беларускіх зямель — Полацкай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мсціслаўскай і да Смаленскай зямлі. Дарэчы адзначыць, першапачаткова (XII—XIII стст.) Белай Руссю называліся толькі Уладзіміра-Суздальскія землі, а пазней найменне гэта зрушылася на захад — да Смаленска, Полацка, Віцебска — і тут замацавалася.

Верагодных тлумачэнняў сэнсу назваў Белая і Чорная Русь пакуль што няма. Некаторыя ранейшыя гісторыкі намагаліся, напрыклад, растлумачыць кантрастную розніцу назваў колерам вопраткі, але, натуральна, без поспеху, бо на Белай Русі, гэта значыць на Полаччыне, Віцебшчыне, Меншчыне, Магілёўшчыне, насілі такія ж прыкладна кашулі, світкі, споднї, як і на Чорнай Русі, гэта значыць на Гродзеншчыне. Ды і на Чырвонай Русі вопратка не біла ў вочы чырванню. Здаюцца няўдалымі спробы асэнсаваць кантраст назваў праз каляровую сімволіку, якой карысталіся нашы продкі ў сваім светапоглядзе. Ва ўсходнеславянскай каляровай сімволіцы белы колер асацыіраваўся з Усходам, чорны — з Поўначчу, чырвоны — з Поўднем, сіні ці зялёны — з Захадам. Усё было б зразумелым, калі б замест Чорнай была Сіняя (ці Зялёная) Русь. Да таго ж «каляровыя» найменні не могуць быць саманазвамі, бо Захад і Усход існуюць толькі для тых, хто знаходзіцца ў цэнтры. Ды і чорны колер у беларусаў, як і ва ўсіх усходніх славян, заўсёды ўспрымаўся як колер тугі, смутку, бяды, зла; штодзённая чорная вопратка нашай даўніне невядомая. Апроч гэтага, слова «чорны» раней было лаяльным і выкарыстоўвалася для акрэслення чарнакніжжа, вядзьмарства і г. д. Эпітэт «белы», наадварот, абазначаў прыгажосць і духоўную чысціню. Прыгадаем «белую» і «чорную» магіі. «Чорнымі» ж лічыліся язычнікі.

Таму бліжэй да ісціны думка, што супрацьлегласць назваў мае ў аснове розніцу рэлігійнага стану насельніцтва: на Белай Русі хрысціянізацыя закранула ўвесь народ і да XIII ст. набыла тут пэўную шырыню; як бы моцна не трымаліся на беларускіх землях перажыткі язычніцтва, народ звыкся

лічыць сябе хрысціянамі «грэчаскай веры» і гэтую новую веру прыняў за адну з сваіх адметных рыс. На Чорнай Русі язычніцтва ўсталявалася надоўга і цвёрда, бо тут сфарміраваўся асаблівы ўклад, абумоўлены тым, што пры каланізацыі гэтых зямель крывічамі і дрыгавічамі карэннае жыхарства ў сваёй большасці заставалася жыць поруч з чужынцамі. Безумоўна, каланізацыя напачатку вялася не мірным шляхам, аб чым сведчаць археалагічныя матэрыялы: раскопкі старажытных гарадзішчаў паказваюць, што ўсе яны былі спалены. Але гэта ніяк не азначала выгнання ці знішчэння карэннага насельніцтва — літоўцаў, прусаў, яцвягаў.

Як паведамляюць летапісы, кіеўскі князь Уладзімір, пра якога ўжо вялася гаворка, здзейсніў у 983 г. паходы супраць вяцічаў і радзімічаў, а таксама ў заходнім напрамку — супраць яцвягаў. Аб'яднаныя сілы валынян, палян, драўлян, дрыгавічоў выступілі на Пабужжа і зрушылі ў глыб Белавежскай пушчы — паўднёвую мяжу яцвягаў, што праходзіла па рэках Кшна і Мухавец. Менавіта тут на выспах пры ўпадзенні Мухаўца ў Буг — на месцы былога яцвяжскага паселішча — вырас горад Брэст. Можна меркаваць, што і пачатковая яго назва — Бярэсце — скалькіравана з яцвяжскай: па-яцвяжску «брэста» — дрэва. Як лічыцца, паход Уладзіміра быў першым наступам на яцвягаў. Для Уладзіміра — так, але для полацкіх крывічоў і дрыгавічоў — не, яны ўжо мелі векавы кантакт з яцвягамі і літоўцамі.

Пра яцвягаў нашыя падручнікі гісторыі апавядаюць неяк мімаходзь. Толькі ў апошнія гады з'явіліся даследаванні, якія асвятляюць адносіны паміж яцвягамі і славянамі з дастатковай глыбінёй. І выйшла на паверхню, што яцвягі маюць самае прамое дачыненне да «пачаткаў» беларускага народа. Спрошчанае, «школьнае» тлумачэнне гэтых «пачаткаў» зводзілася да наступнага: пасля развалу Кіеўскай Русі на пачатку XII ст. сталі ўтварацца народнасці — руская, беларуская і ўкраінская, і недзе гадоў праз трыста з'явілася беларуская этнічная агульнасць, сфарміраваліся адметныя рысы беларускай мовы. Аднак вынікі пошукаў археолагаў і лінгвістаў даюць іншы малюнак тых далёкіх падзей.

Крывічы, дрыгавічы, радзімічы, на аснове якіх складаўся беларускі народ, прыйшлі не на пустое месца. Да іх на землях сучаснай Беларусі жылі балцкія плямёны, вядомыя яшчэ Герадоту, які называў іх неўрамі. У прыватнасці гэта: літва,

аўкштоты, прусы, яцвягі, галядзь. У часы перасялення крывічоў і дрыгавічоў літоўскія і латышскія плямёны не адступалі самі па сабе да балтыйскага прыбярэжжа, у сучасныя межы. Частка іх загінула ў бітвах з прышэльцамі, але большасць засталася жыць, дзе жыла адвеку, і пастутова злівалася з славянскім насельніцтвам, прымаючы нешта ад яго і аддаючы яму ад сваіх адметнасцяў як матэрыяльных, так і моўных. Тут варта будзе прыгадаць, што дзевяноста працэнтаў назваў рэк і азёр на Беларусі захавалі сваё балцкае паходжанне: Ачоса, Бержыца, Беседзь, Бабруйка, Балога, Важа, Вілія, Волма, Гайна, Дражня, Іпа, Клева, Ласвіда, Лоша, Іслач, Лучоса, Нароўля, Нарач, Піна, Ольса, Арэса, Уша і інш.

Крывічы-палачане напачатку сутыкнуліся з продкамі сучасных латышоў, нават сама назва Полацка (Полотеск) запазычаная і нясе на сабе прамы адбітак латышскага паходжання. Заходнія межы дрыгавіцкай каланізацыі адзначаны гарадамі Драгічын, Мельнік, Брэст, Сувалкі, Беласток. Тут праходзіла этнічнае ўз'яднанне з яцвягамі. Пра былую прыналежнасць гэтых зямель да яцвяжскіх сведчаць назвы рэк — Груда, Ясельда, Зельва, Зальвянка, Сегда, Кшна, Айцэва, Цэжма, Сакольда. На левым беразе Нёмана жылі яцвягі, на правабярэжжы — літоўцы. Літоўскія землі каланізавалі крывічы, аб чым сведчаць найменні гарадоў — Гродна, Крэва, Крывічы, Вільня, Слонім, Ваўкавыск, шэраг славянскіх гідронімаў.

У той час агульнай назвы супольнасці, што стваралі крывічы, дрыгавічы, літоўцы і яцвягі, не было, як не існавала такіх агульных назваў на ўкраінскіх ці рускіх землях, дзе мелі месца аналагічныя змешванні з іншымі этнічнымі плямёнамі. Княствы называліся па стольнаму гораду: Полацкае, Тураўскае, Менскае, Валожынскае, Друцкае, Лагойскае, Гродзенскае і г. д. Паступова аформіліся рэгіянальныя найменні: Палессе, Падляшша, Полаччына, а ў адносінах да тэрыторыі цяперашняй Гродзенскай вобласці — Русь Літоўская накшталт Русі Залескай, Русі Северскай, Русі Маскоўскай. Абазначала гэтая назва месцазнаходжанне Русі, у нашым выпадку на землях, якія раней называліся Літвой (ад Гродна да Навагрудка, ад Ліды да Вільні).

Пад канец XIII ст. у Полацкай, Віцебскай, Магілёўскай землях стала ўжывацца назва Белая Русь. Адбылося гэта

наступным чынам. Упершыню найменне Белая Русь узнікла ў XII ст. у дачыненні да Уладзіміра-Суздальскай зямлі. У 1169 г. князь Андрэй Багалюбскі правёў пераможны паход супраць кіеўскага князя Мсціслава. Кіеў быў захоплены, разрабаваны і разбураны.

Парушаючы традыцыю, князь Андрэй не сеў княжыць у Кіеве, а перадаў горад малодшаму брату. Пагром уладзіміра-суздальскім войскам старажытнай сталіцы і нежаданне пераможцы браць кіеўскі пасад азначалі, што Кіеў не меў ужо статуса сталічнага цэнтра ўсёй Русі. Асяродак рускіх зямель перамясціўся на поўнач, на Уладзімірскія землі (пазней, у сілу розных абставін значэнне галоўнага горада рускіх зямель набыла Масква). Каб падкрэсліць другарадную ролю Кіева, патрабаваліся пэўныя ідэалагічныя меры. Андрэй палічыў, што горад страціў чысціню праваслаўя, і ўвёў у свой тытул паказальную прыбаўку — «князь беларускі», гэта значыць князь Белай Русі — зямель з адзінай праваслаўнай верай.

У 1236—1240 гг. рускія землі трапілі пад уладу татара-манголаў. І назва Белая Русь, разам з уцекачамі, перайшла на Смаленскія землі, яшчэ некранутыя ардынскай заваёвай. Але ў 1276 годзе і Смаленск быў захоплены татарамі. Тады Белай Руссю пачалі называць Полацкую, Віцебскую, Магілёўскую землі, якіх мангольскае нашэсце падпарадкаваць сабе не здолела. Тут найменне і замацавалася. Заходнія беларускія землі Белай Руссю ніколі не называліся, і няцяжка зразумець чаму. Паколькі назва мела царкоўнае паходжанне (ды і прыйшла разам са святарамі, што ратаваліся ад ардынскай няволі), дык перанесці яе на Гродзеншчыну ці Брэстчыну не дазваляла язычніцтва, распаўсюджанае тут як сярод літоўцаў і яцвягаў, так і сярод славянскага жыхарства. Царква і капішча мірна суіснавалі ў гарадах, а на вёсцы ў той час цэркваў наогул не будавалі. Нарэшце і сама назва Белая Русь стала асэнсоўвацца як праваслаўная пасля хрышчэння Літвы ў каталіцтва.

У мінулым стагоддзі буржуазныя гісторыкі пачалі шырока карыстацца назвай Чорная Русь, адносячы яе да зямель, якія ў летапісах называліся Літвой, а ў дакументах — Руссю Літоўскай. Паступова склалася памылковая звычка. Самой назвы Чорная Русь ніколі не існавала. Няма сумніву, што нашыя продкі з XIII—XIV стст. моцна здзівіліся б, калі б мелі

магчымасць зазірнуць у тыя кнігі, дзе гэтае найменне літаральна стракаціць на старонках. Кантраст назваў Белая і Чорная Русь выклікаў штучныя ідэалагічныя пабудовы. Так, напрыклад, была створана «тэорыя», якую абавязкова даюць у падручніках і нават у акадэмічных выданнях, быццам назва Русь Чорная ўзнікла пасля таго, як Літоўскае княства пад 1215 г. захапіла землі Гродзеншчыны, а ў адрозненне ад гэтых заваяваных зямель Полаччына і Віцебшчына сталі называцца Белай Руссю. Цяжка зразумець, чаму гэтае створанае афіцыйнымі гісторыкамі царызму «тлумачэнне» працягвае існаваць і мае багата адэптаў сярод навукоўцаў сталага веку. Яно супярэчыць рэальнасці і далёкае ад праўды, як зямля ад неба. Бо калі ўжо адшукваць падставы назвы ў захопе зямель язычнікамі, дык тады Чорнай Россю хутчэй называлі б рускія землі, сапраўды пакораныя Ардой. І галоўнае: наўрад ці знойдзецца сёння даследнік, які здолее акрэсліць на 1215 г. межы Літоўскага княства. Дзе знаходзілася ягоная сталіца? Хто там княжыў? Якім чынам захопліваў? Княствам Літоўскім ніяк не магла быць сучасная Літва. Яна на той час дзялілася на шэраг зямель, якія ў летапісах упамінаюцца як Жмудзь, Дзяволта, Нальшаны і ўласна Літва. Пра гэта пойдзе гутарка ніжэй, а зараз варта зазначыць, што ва ўласна Літве знаходзіўся горад Вільня, заснаваны крывічамі, а таксама Крэва, Слонім, Ліда. Паўднёвымі межамі ўласна Літвы летапісы называлі Нёман. Няма падставы гаварыць і пра захоп Чорнай Русі Літоўскім княствам, бо працэс каланізацыі меў адваротны напрамак, і да 1215 г. жыхарства тут было змешаным.

Чорная Русь — назва, нададзеная гэтай тэрыторыі крыжакамі ў апраўданне сваіх крывавых «місіянерскіх» паходаў. Невыпадкова яна ўпершыню з'явілася на заходнееўрапейскіх картах, і ўжо з іх запазычвалася іншымі дзяржавамі ў палітычных мэтах. Але чым кіраваліся крыжакі? Тым, што на гэтых землях жылі рускія «схізматыкі» і літоўскія «язычнікі». З пункту гледжання крыжакоў, як першых, так і другіх, патрабавалася «асвятліць» сапраўднай, «рымскай» верай. Так што «захоп» Чорнай Русі Літоўскім княствам адлюстроўвае блытаніну паняццяў. Княства Літоўскае выйшла на палітычную арэну пры Міндоўгу, а тады ягонай сталіцай быў Навагрудак. Сам Міндоўг паходзіў з нальшанскіх князёў, і радавое яго гняздо знаходзілася пад Ашмянамі. Інакш

кажучы, Чорная Русь, княства Літоўскае, Русь Літоўская, Літва — геаграфічна тое ж самае.

Але чаму можна казаць пра Чорную Русь паасобку ад Белай Русі, дзе засяроджаны найбольш вядомыя нашы гарады — Полацк, Віцебск, Менск, Слуцк, Орша, Клецк? Здавалася б, нельга, калі аб'ядноўцам беларускіх зямель выступаў Полацк са сваімі славутымі Рагвалодам і Усяславам-Чарадзеем. Гэта так, але, па-першае, паміж Белай і Чорнай Руссю ніколі не існавала граніцы, і розніца назваў не азначае карэннага супрацьпастаўлення інтарэсаў. Чорная Русь была створана тымі ж самымі плямёнамі крывічоў і дрыгавічоў, якія засялялі Белую Русь. Па-другое, XIII ст., пра якое тут ідзе гаворка, ніяк не пачатак Чорнай і Белай Русі, а адзін з часоў іх старажытнасці, калі палітычнае і ваеннае значэнне Полацка панізілася, землі яго падрабнелі, і на першы план выйшлі суседзі на чале з Навагрудкам, што да таго трымаліся ў цяні. Але большую важкасць тут маюць знешнія абставіны, якія выявіліся ў XIII ст., і былі яны такія, што XIII ст. істотна змяніла ход гісторыі многіх народаў.

У XIII ст. амаль адначасна на заходніх і ўсходніх межах Усходняй Еўропы ўзніклі магутныя агрэсіўныя сілы, змаганне з якімі на паўтара — два стагоддзі стала сэнсам дзяржаўнага жыцця ўсіх тутэйшых народаў. У Лівоніі ўзнік Ордэн мечаносцаў, і без адцяжкі пачаліся ягоныя войны з літоўцамі і беларусамі. У 1223 г. на Калцы сышліся на першую сваю бітву татары і рускія. Разгром, які напаткаў у гэтай бойцы аб'яднаныя сілы рускіх княстваў і полаўцаў, стаў пралогам да Батыева нашэсця. З 1236 г. татары на працягу пяці гадоў прайшлі з мячом амаль усе рускія землі, разбурылі Кіеў, галіцкія і валынскія гарады, ашаламілі Заходнюю Еўропу спусташэннем Венгрыі, Малапольшчы і Сілезіі. У 1237 г., калі гарэлі Разань, Суздаль, Уладзімір, калі татары старадаўнім салігерскім шляхам рухаліся да Вялікага Ноўгарада, дабрацца куды, на шчасце, не здолелі з-за адлігі,— у цяжкі гэты год лівонскія мечаносцы з'яднаўліся з прускімі крыжакамі. Узнік Тэўтонскі ордэн, які адразу ж пайшоў у наступ на прускія, а потым на літоўскія, польскія і беларускія землі.

Час быў змрочны, выпрабаванні, што выпалі на долю народам, выклікалі да дзейнасці людзей вялікай духоўнай моцы: на Беларусі і Літве — гэта князь Міндоўг, у Галіцка-Валынскай Русі — князь Данііл Раманавіч, ва Уладзіміра-Суздаль-

скай Русі — Аляксандр Неўскі. Усе яны былі людзьмі гераічнай натуры, дзяржаўнага мыслення і ўвайшлі ў гісторыю значнымі справамі.

З Міндоўгам настолькі цесна звязаны найважнейшыя падзеі беларускай і літоўскай гісторыі, што няма ніводнай даследніцкай працы пра тую эпоху, якая б абышла ўвагай незвычайную асобу князя. Ён — першы аб'яднаўца часткі беларускіх і некаторых літоўскіх зямель у адзінае гаспадарства — Вялікае княства Літоўскае, пры ім атрыманы значныя перамогі над немцамі і татарамі, ён акрэсліў палітыку адносін Вялікага княства з Ордэнам крыжакоў, якой трымаліся ўсе ягоныя пераемнікі аж да 1410 г., калі Ордэн пацярпеў паражэнне ў славутай Грунвальдскай бітве.

Навуковыя спрэчкі пра паходжанне Міндоўга не спыняюцца па сённяшні дзень, што можна растлумачыць мізэрнасцю гістарычных звестак пра яго. Упершыню імя Міндоўга ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1219 г. у пагадненні галіцкіх князёў з літоўскімі аб сумесных дзеяннях супраць палякаў. Міндоўг называецца там у ліку старэйшых князёў літоўскіх, імёны якіх летапісец паведамляе ў наступным парадку: «Жывінбуд, Даўян, Даўспрунк, брат яго Міндоўг...» Потым звесткі пра яго сустракаюцца праз шаснаццаць гадоў, і зноў размова ідзе пра адносіны паміж Галіцкай Руссю і Польшчай. Згаданы вышэй Данііл Раманавіч варагаваў тады з князем Конрадам Мазавецкім і ў 1235 г., як занатаваў храніст, «возведе на Конрада Літву Міндога і Ізяслава Новогородского» (Навагрудскага). Гэты кароценькі запіс захоўвае мноства тайнаў. Але да іх мы звярнемся пазней, а зараз неабходна падкрэсліць, што з саракавых гадоў і Міндоўг, і Навагрудак становяцца аб'ектам пільнай увагі летапісаў і хронік. З Навагрудкам звязаны галоўныя справы і сталыя гады жыцця Міндоўга. Але адкуль ён прыйшоў у Навагрудак і ў якой якасці, чаму зрабіў гэты горад сталіцай новастворанага гаспадарства, ў якіх адносінах быў з літоўскімі плямёнамі і рускімі княствамі — усё гэта тлумачыцца неаднзначна, часцей супярэчліва.

Асабістыя прыхільнасці гісторыкаў дазвалялі выстаўляць Міндоўга то жмудзінам, то злітавізаваным беларусам з роду полацкіх князёў, то абруселым літоўцам, то запрошаным князем Навагрудка, то заваёўнікам яго і г. д. Калі меркаваць, што ў дамове 1219 г. названы менавіта ён, а не іншы князь

з такім жа імем, дык у гэтым выпадку актыўная палітычная, дзяржаўная і ваенная дзейнасць Міндоўга ахоплівае вялікі прамежак часу — амаль паўстагоддзя. Трэба сапраўды нарадзіцца пад шчаслівай зоркай, каб ва ўмовах феадальнай варожасці, змоў, бясконцых ваенных паходаў заставацца жывым і паспяхова здзяйсняць свае задумы: сфарміраваць жыццяздольнае, моцнае гаспадарства, задаць яму ідэі, сэнс на прышлае існаванне і развіццё.

Літву XIII стагоддзя нельга атаясамліваць з сучаснай; тады на цяперашняй тэрыторыі рэспублікі развіваліся некалькі племянных аб'яднанняў. Іпацьеўскі летапіс падае іх так: Жамойты (Жмудзь), Рушковічы, Булевічы, Дзяволтва; яны мелі пэўныя адрозненні ў мовах, асабліва Жмудзь, і захоўвалі дастатковую самастойнасць. У даследаваннях па гісторыі Літвы, што абапіраюцца на рускія летапісы, нямецкія хронікі і на тагачасныя дакументы, карціна складу Літвы выглядае некалькі інакш: яна прадстаўлена дзвюма буйнымі абласцямі — Жэмайціяй і Аўкштотай. Жмудзь займала тэрыторыю ад Балтыйскага прыбярэжжа да ракі Нявежы — правага прытоку Нёмана. На ўсход ад яе ляжала Аўкштота, якую складалі землі: Дзяволтва, Нальшаны і ўласна Літва; межы апошняй праходзілі па рэках Мерачанка, Вілія, Нёман. Галоўнымі паселішчамі Нальшанскай зямлі былі Ашмяны, Эйшышкі, Меднікі, Варняны, Свіраны, Свянцяны, Крэва. За Нальшанамі і ўласна Літвой знаходзілася Дзяволтва.

Іпацьеўскі летапіс мяжу паміж Літвой і Наваградскім княствам праводзіў па Нёману: на левым беразе — Наваградак, цераз раку — Літва. Гэта вынікае з паведамлення аб будаўніцтве сынам Міндоўга, князем Вайшэлкам, манастыра: «...и приде опять в Новоградак и учини собе манастырь на реце на Немне меж Литвою и Новымгородком». Раней ужо прыгадвалася, што Наваградак быў пабудаваны на літоўскіх землях на месцы захопленага паселішча Жоўны. За два стагоддзі, як бачна, землі так аславяніліся, что летапісец ужо забывае пра былую іх прыналежнасць. Але насельніцтва заўсёды мае лепшую памяць. Паколькі землі Русі Літоўскай сталі цэнтрастваральным ядром новага гаспадарства, дык за імі замацавалася іх старая назва, карэнная, геаграфічная — Літва. Дзяржаўнае аб'яднанне ў пач. XIII ст. беларускіх, дзяволцкіх, нальшанскіх, літоўскіх зямель атрымала назву Вялікага княства Літоўскага, а пасля прылучэння Украіны і Жмудзі пачала

называцца Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жэмойцкім. Правільная расшыфроўка гэтага наймення наступная: Літоўскае — западная частка Беларусі, Аўкштота, Рускае — усход Беларусі і Украіна, Жэмойцкае — Жмудзь (захад сённяшняй Літвы).

Наогул, з назвамі Літва, літвін, літовец не ўсё так проста, як здаецца сучаснаму чалавеку. Для масквічоў XVI — XVII стагоддзяў кожны прышэлец з Вялікага княства Літоўскага незалежна ад таго, хто ён быў — беларус, жмудзін, украінец, заставаўся літвінам. Напрыклад, літвінам называлі Пятра Мсціслаўца. Пад час войнаў войска Вялікага княства менавалася праціўнікамі агульнай назвай — літоўскае войска, часам і прасцей — літва. Упамянёныя ў летапісах набегі літвы на смаленскія, наўгародскія землі не азначаюць, што здзяйснялі іх толькі этнічныя літоўцы; нападалі з Літвы, а Літвой зваліся землі ад Гродна да Навагрудка і ад Вільні да Палесся. «Літва, айчына мая!» — пісаў яшчэ і ў XIX ст. Адам Міцкевіч у паэме, якую прысвяціў справам Навагрудскага павета, а род Міцкевічаў паходзіў з-пад Ліды. Жыхароў Жмудзі ніколі ў той час не называлі літоўцамі, як у нашыя дні, а выключна жмудзінамі. Адпаведна для беларусаў рускія з Маскоўскай Русі былі «маскавітамі», «маскалямі», гэта значыць таксама, як для апошніх першыя былі літвой, літвінамі.

Але зноў звернемся да геаграфіі. На поўдзень ад Русі Літоўскай знаходзілася Палессе — пачатковая вобласць расселення дрыгавічоў — з галоўнымі сваімі княствамі Тураўскім і Пінскім. Лясы і балоты Палесся і Брэстчыны аддзялялі Русь Літоўскую ад Галіцка-Валынскай Русі, ствараючы «прыродную» перашкоду для яе імкненняў аб'яднаць усе паўднёвыя і заходнія рускія землі. Русь Літоўская і ўласна Літва мелі свае планы наконт аб'яднання навагрудскіх, гродзенскіх, літоўскіх і беларускіх зямель і аказаліся спаборнікамі галічан і валынцаў. Гэтае спаборніцтва адзначана і ваеннымі сутыкненнямі, і папераменнымі поспехамі. Ускраіннае становішча Галіцка-Валынскіх княстваў, ваенны націск татараў, венграў, палякаў не дазволілі ім выканаць сваю злучальную місію, і ў наступным стагоддзі значная частка іхніх зямель была далучана больш моцным сапернікам — Вялікім княствам Літоўскім.

Роднасныя літоўцам яцвягі — заходнія суседзі Русі Літоўскай — займалі Белавежскую пушчу і землі, што да яе

прылягалі, так званае Падляшша. У 983 г., як адзначалася вышэй, у яцвягаў аднялі землі, асяродкам якіх стала Бярэсце, тут жа, на былых яцвяжскіх паселішчах, узніклі і другія гарады — Кобрын, Камянец, Драгічын. На яцвяжскія тэрыторыі прэтэндавалі і палякі — у барацьбе за Брэсцкае княства інтарэсы рускіх і мазавецкіх князёў прыходзілі ў сутыкненне.

У 1263 г. пачалося паўстанне прусаў і яцвягаў супраць Тэўтонскага ордэна. Вялікую ваенную дапамогу аказалі паўстанцам беларусы і літоўцы. Вайна цягнулася дваццаць гадоў і завяршылася перамогай Ордэна. Прусы ў наступным былі германізіраваны, яцвягі ў большасці сваёй загінулі. Частка іх прыйшла жыць на Гродзеншчыну. Яцвяжскія вёскі ёсць на Скідзельшчыне. Есць сёлы яцвягаў ля Дзятлава. Лічаць, што з пленных яцвягаў пачаўся горад Барысаў. Яцвяжскія імены — Дзіркот, Коман, Рыкала, Скумант, Скурко, Сох, Вазола і іншыя — можна прасачыць у беларускіх тапонімах і прозвішчах. На жаль, яцвяжская мова згублена і пакуль што ў нас не было спроб вычленіць лексічныя яцвяжскія запазычанасці.

Назва «Літва» ў дачыненні да зямель Чорнай Русі захавалася да XIX ст. Але ўжо к паўстанню 1863 г., асабліва пасля яго, з развіццём нацыянальнай самасвядомасці сама назва беларусы, Беларусь — стала агульнаўжывальнай на ўсіх беларускіх землях.

Артыкул перапрацаваны. Першапачатковы варыянт быў надрукаваны ў часопісе «Нёман». 1986. № 6.

*ВЯЧ. ИВАНОВ*

## ЦВЕТОВАЯ СИМВОЛИКА В ГЕОГРАФИЧЕСКИХ НАЗВАНИЯХ В СВЕТЕ ДАННЫХ ТИПОЛОГИИ

### (К названию Белоруссии)

Первые данные о названии Белоруссии относятся ко второй половине XIV в. н. э. В стихотворении австрийского поэта Петера Зухенвирта, посвященном памяти рыцаря, умершего в 1360 г., встречается выражение Weizzen-Reuzzen, явно представляющее собою перевод названия Белоруссии (Белой





Руси)[1]. Соотносящиеся с этим наименованием обозначения Красной и Черной Руси впервые засвидетельствованы в XV в. н. э. на карте монаха Фра Мауро (умер в Венеции ок. 1457 г.), где употреблены соответственно переводные названия Rossia biancha, Rossia rossa и Rossia negra[2]. В начале XV в. н. э. прусские рыцари употребляли название Weise Rewsen по отношению к Московской Руси, что находит продолжение и в характерном для начала XVI в. словоупотреблении Rutheni albi в противоположность Rutheni rubli, относившемуся к восточнославянскому населению западных земель, входивших в Великое княжество Литовское (у архиепископа Laski в 1514 г.)[3]. Для времени от начала татаро-монгольского ига до его конца — до второй половины XV в.— может быть правдоподобным недавно предложенное И. Кноблохом объяснение, согласно которому «красный» может указывать на связь восточных славян, остававшихся в западных землях, с константинопольским патриархом в отличие от зависимости «белых» русских от Золотой Орды[4]. Эта гипотеза Кноблоха основывается на сближении эпитета «красный» в применении к западным группам восточнославянского населения с употреблением тюркского qrzrl в сочетаниях типа qrzrl alma «красное (-золотое) яблоко» как обозначения христианского собора и соответственно христианского города (Будапешта, Вены)[5]. В то же время церковное использование эпитета «белый» по отношению к некрещеным частям славянского населения засвидетельствовано по отношению к южным славянам — хорватам уже у Константина Багрянородного: τῶν 'αϐαπῖισῖῶν ϰρωϐάτων ϰαί ῖῶν 'ασπρῶν'ϱονομ αsομένωυ «некрещеные хорваты, которые также называются белыми»[6]. Однако в подоб-

[1] Manczak W. Biala, czarna i czerwona Rus//International journal of siavic linguistics and poetics, 1975. Vol. 19. P. 19.— Зухенвирт жил при венском дворе в 1356—1395 гг., что дает возможность примерно оценить дату стихотворения.

[2] Ibid.

[3] Ibid. S. 36.

[4] Knobloch J. Sprache und Religion. Bd. 1. Heidelgerg, 1979. S. 16—17.

[5] Laude-Cirtautas I. Der Gebrauch der Farbbezeichnungen in den Turkdialekten. Wiesbaden, 1961. S. 53.

[6] Constantini Porphyrogeniti de administrando imperio liber (Patrologia Graeca. T. CXIII). Paris, 1964. P. 281.

ных случаях возникает вопрос, в какой мере цветовой эпитет связан с побочными значениями (религиозными, политическими), а не с первоначальным географическим распределением, соотносившимся соответственно с символикой цветов (в особенности у тюркских и других алтайских народов). Географическую схему для объяснения соотношений трех цветовых эпитетов при названии Руси принимает и Кноблох, но для более позднего времени, когда в конце XVI в.[1] и в середине XVII в.[2] область поселения восточных славян, примыкающая к Литве и соответствующая современной Белоруссии, называется Russia alba, тогда как Russia nigra (название, ранее относившееся к более северным областям) употребляется по отношению к верховьям Днепра и к Задонщине, а Russia rubra (ранее использовавшееся и в качестве синонима Russia nigra) представляет собой небольшую область, примыкающую к Венгрии, со столицей во Львове. Для географического распределения эпитетов в это время (или, точнее говоря, по данным этой эпохи, которые могут более адекватно отражать ситуацию реального употребления названий самими славянами) кажется несомненным наличие противопоставлений белый — черный и белый — красный, соотнесенных с различием сторон света.

Хотя использование цветовых различий для обозначения сторон света известно и в языках средневековой Западной Европы[3], тем не менее большинство ученых в настоящее время склоняется к точке зрения, согласно которой в Центральную Европу характерная для азиатских культурных традиций цветовая символика сторон света проникла под влиянием степных кочевников Евразии во времена переселения народов[4]. Из тех обозначений, которые представляют особый географический и исторический интерес для сопоставления со

---

[1] Cuagninus A. Sarmatiae Europeae descriptio. Speier, 1581; Manczak W. Op. cit. S. 38.

[2] Cellarius A. Regni Poloniae, Magnique Ducatus Lituaniae, omniumque regionum juri Polonico subjectorum, novisimma descriptio. Amsterdam, 1659. P. 310; Knobloch J. Op. cit. S. 17.

[3] Reichenkron G. Historische Latein-Altromanische Grammatik. I. Wiesbaden, 1965. S. 345.

[4] Ludat H. Farbenbezeichnungen in Volkernamen. Saeculum, 1953, 4. S. 155.

не Жмудзі, Нальшчанаў і г. д.). Дапамагчы лакалізацы летапіснай Літвы мог бы наступны фрагмент хронікі: «Русь (у арыгінале відавочная апіска — Pruscia) лучыцца з Вугоршчынай і цягнецца далей на поўнач, мяжуе з Польшчай, Яцвеззю, Літвою, урэшце адхіляецца на поўнач і паўночны захад, агінаючы Латвію (Leciam), Лівонію і Эстонію». Такое апісанне не супярэчыць меркаванню, што старажытная зямля, вядомая пад назвай Літва, ахоплівала і частку беларускай тэрыторыі з горадам Наваградкам.

Храніст кажа, што літоўцаў яцвягаў і нальшчанцаў (у адрозненне ад жмудзінаў) «лёгка хрысціць, бо іх ад самых пялюшак хрысціянскія няньки гадуюць». Ст. Самалавічус і Ст. Абрамаўскас у сувязі з гэтым зазначаюць, што такімі «хрысціянскімі нянькамі» хутчэй за ўсё былі славяне. Атрымліваецца, што і тагачасная Літва, і тагачасная Беларусь — гэта зоны інтэнсіўных кантактаў паміж славянамі і балтамі. Зрэшты, нездарма вядомы маскоўскі даследчык В. Сядоў ды іншыя вучоныя лічаць, што менавіта балцкая кроў найболей спрычынілася да ўтварэння самабытнага беларускага этнасу.

З Міндоўга і старажытнай Літвы пачынаецца гісторыя Вялікага княства Літоўскага, якое ў часы вялікага князя Вітаўта (1392—1430) было найвялікшай дзяржавай у Еўропе, бо ахоплівала землі ад Вязьмы і ракі Угры на ўсходзе да Падляшша на захадзе, ад Жмудзі на поўначы да Чорнага мора на поўдні. Этнічныя літоўцы (у цяперашнім сэнсе) у гэтай дзяржаве былі меншасцю: большую частку насельніцтва складалі ўсходнія славяне. Літоўская знаць пераняла ад славян мову і веру, а беларусы ўзялі, як кажа гісторык М. Ермаловіч, «гістарычны псеўданім» — «ліцвіны».

Дарэчы, беларускія адраджэнцы ў свой час доўга ламалі дзіды ў дыскусіях пра саманазву нашага народу. Як правільна: «ліцвін», «крывіч», «русін» ці «беларус»? Маем зараз яшчэ адно пацверджанне гістарычнай даўнасці апошняе назвы. Рэч у тым, што ананімны аўтар хронікі ў Яцведзь прыбыў з супольнікам, які таксама місіянерстваваў і на Белай Русі («in Alba Ruscia»). Відавочна, Белая Русь суседнічала з балцкімі землямі. Пэўна, на Белай Русі між хрышчаных русінаў жылі паганцы-балты, да якіх ішлі з місіяй мніхі. Калі аўтар хронікі вылучыў Белую Русь з іншых усходнеславянскіх земляў, значыць, ён усведамляў яе адметнасць.

Есць розныя думкі пра паходжанне назвы нашай Радзімы.

Гэта — этнаграфічнае тлумачэнне (па колеры адзення беларусаў). Існуе гіпотэза, што Белаю стала называцца тая частка Старажытнае Русі, якая не трапіла пад мангола-татарскае ярмо. (Дарэчы будзе адзначыць, што мангола-татары заваявалі тэрыторыю цяперашняга цэнтра і поўдня Расіі, а таксама Украіну, у XIII ст. Значыць, і паводле гэтай тэорыі назва «Белая Русь» з'явілася не пазней, чым у сярэдзіне XIII ст.)

Магчыма, ва ўсіх гэтых канцэпцыях ёсць доля ісціны. Ды ўсё ж, здаецца, больш слушна разважае літоўскі гісторык і бібліёграф Лявас Уладзіміровас. У зборніку «Гісторыя» за 1982 г. ён піша, што назвы Вялікая Русь і Малая Русь не маюць нічога супольнага ні з велічынёй, ні з веліччу. У старой славянскай традыцыі «Малая» значыць цэнтральная, раней абжытая тэрыторыя, а «Вялікая» — вонкавая, нядаўна заселеная зямля. Адсюль не толькі назвы Вялікая Русь (цяперашняя Расія) і Малая Русь (цяперашняя Украіна), але таксама Вялікая і Малая Польшча, Вялікая і Малая Масква. Вось жа і Белая Русь названа гэтак не паводле асаблівасцяў краіны ці яе жыхароў, а згодна з геаграфічным становішчам: «белы» ў славянскай тапанімічнай традыцыі часцей за ўсё абазначае «заходні». Інакш кажучы, Беларусь — гэта Заходняя Русь.

Калі прыняць версію Л. Уладзіміроваса (а яе трымаюцца і многія іншыя), дык тэрмін «беларускі» стасуецца да ўсяго, што звязана з заходнімі землямі Старажытнай Русі. Пасля гэтага нельга называць антынавуковымі погляды тых гісторыкаў, якія называюць беларускаю культуру IX — XIII стст.

Лявас Уладзіміровас пісаў пра назву Беларусі ў артыкуле «На якой мове гаварылі і пісалі ў Вялікім княстве Літоўскім у XIV — XVII стст.?» (Istorija, XXII, 1982). Ён не пагаджаецца з тымі літоўскімі мовазнаўцамі, якія лічаць пісьмовую мову Вялікага княства штучнаю, адарванаю ад жывой гаворкі і таму безнацыянальнаю — гэткім эсперанта на старaславянскай аснове, а называюць яе «славянскай канцылярскай» ці «рускай актавай». Адрозненне гэтай мовы ад старaславянскай выдатна ўсведамлялі мясцовыя дзеячы (параўнай Скарынавы прадмовы).

Карані ўзнікнення адметнай беларускай мовы аўтар бачыць як у дыялектных асаблівасцях прабеларускіх плямёнаў, гэтак і ў пазнейшай палітычнай гісторыі Беларусі. Беларуская

мова нагэтулькі стала чужою велікарусам, піша Л. Уладзіміровас, што ў Масковіі XVI — XVII стст. яе звалі літоўскай. Мовы і пісьменства ў Маскоўскай Русі і ў Вялікім княстве Літоўскім развіваліся адменна: у першай панаванне царкоўнаславянскай моўнай стыхіі працягвалася да самых пятроўскіх рэформаў і абумоўлена было манаполіяй праваслаўя ў духоўным жыцці дзяржавы. У Вялікім княстве Літоўскім, дзе такой манаполіі не было, стараславянска-мясцовае двухмоўе было пераадолена (на карысць жывой старабеларускай мовы) значна раней, прычым не толькі ў афіцыйным справаводстве, але ва ўсім пісьменстве, рэлігійным у тым ліку.

Л. Уладзіміровас спасылаецца на знанага нарвежскага славіста Хр. Станга, які сцвярджаў, што мова дзяржаўных дакументаў Вялікага княства Літоўскага XIII — XIV стст. характарызавалася адзінствам элементаў беларускіх і ўкраінскіх гаворак. Але з XV ст., паводле Станга, у большасці дакументаў пануе паўднёвабеларуская гаворка, якая з часоў Жыгімонта Аўгуста (другая палова XVI ст.) змяняецца беларускім дыялектам Віленшчыны. Насычэнне гэтай мовы запазычаннямі з польскай і літоўскай надало ёй своеасаблівы каларыт.

Унармаваная старабеларуская мова ўжывалася на ўсёй, г. зн. і неславянскай, тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Гэтаму спрыяла ўхваленне Статута Вялікага княства Літоўскага, аддрукаванага ў 1588 г. масавым тыражом. Кожны шляхціц абавязаны быў ведаць Статут, а значыць, і разумець мову, якою той быў напісаны. На старабеларускай мове пісалі летапісы-хранографы, на яе перакладалі рыцарскія раманы.

Панаванне беларускае мовы ў Вялікім княстве Літоўскім спыніў працэс апалячвання беларускага мяшчанства (гараджан) і шляхты, а таксама негатыўнае стаўленне кансерватыўных праваслаўных дзеячаў да мовы «простых людзей». Праваслаўныя іерархі адмовілі вялікаму гетману Вялікага княства Літоўскага Р. Хадкевічу ў ягонай просьбе перакласці на жывую мову царкоўныя кнігі.

Але як усё ж называць мову, якой размаўлялі і пісалі ў Вялікім княстве Літоўскім? У XIV—XVI стст. жыхары і Беларусі, і Украіны сваю мову звалі «рускаю». Рускаю называў яе і Францішак Скарына. У другой палове XVI ст. Сымон Будны друкаваў пратэстанцкія кнігі на «літоўска-рускай»

мове (так называў яе рускі царкоўны гісторык Макарый). У сярэдзіне XVII ст. П. Бярында ў сваім слоўніку ўжывае азначэнні «па-руску» ў дачыненні да ўкраінскай мовы і «па-літоўску» — у дачыненні да мовы беларускай. Беларускі вучоны Лаўрэн Зізані таксама лічыў сваю мову «літоўскай». Такім чынам, назва «руская» засталася за стараўкраінскаю моваю, а беларускую сталі называць «літоўскай». Літоўскаю нашу мову называлі ў той час і ў Масковіі. Каб не было тэрміналагічнай блытаніны, аўтар прапаноўвае называць дзяржаўную мову Вялікага княства Літоўскага, сфармаваную на аснове жывых гаворак, старабеларускую.

Старабеларуская мова была ў Вялікім княстве Літоўскім міжнацыянальнаю (А. Жураўскі да абшару распаўсюджвання гэтай літаратурнай мовы адносіць таксама Малдавію і Валахію, гл. «Летапіс гісторыі Літвы», 1983). Уплывы яе на літоўскую былі нагэтулькі значныя, што працягваліся і ў эпоху Рэчы Паспалітай, і пасля акупацыі Расійскай імперыі.

Зменам моўнай сітуацыі ў Віленскім краі прысвечаны артыкул географа П. Гаўчаса і мовазнаўцы А. Відугірыса «Этналінгвістычная сітуацыя літоўска-беларускага памежжа з канца XVIII да пачатку XX ст.» («Geografija», XIX, 1983).

Нягледзячы на апалячванне верхніх пластоў грамадства, пішуць П. Гаўчас і А. Відугірыс, сярод сялян беларуская і літоўская мовы захоўваліся, прычым пашыралася зона літоўска-беларускага двухмоўя. Яно было пераходным этапам да асіміляцыі літоўскага насельніцтва. На тэрыторыі былых Віленскай губерні, Новааляксандраўскага павета Ковенскай губ. і Гродзенскага павета Гродзенскай губ. замена літоўскай мовы на беларускую пачалася з другой паловы XVIII ст. Пэўную ролю ў гэтым працэсе адыгралі сталіцы Вялікага княства Літоўскага Вільня (Вільнюс) і Трокі (Тракай).

У ваколіцах Вільні літоўская мова выцеснілася раней, чым у аддаленых парафіях. Беларуская мова стала тут умацоўваць пазіцыі з канца XVIII — пачатку XIX ст. На правым жа беразе ракі Вяллі (Віліі, Нярыс) гэты працэс пачаўся з сярэдзіны XIX ст. Аўтары спрабуюць прасачыць яго паэтапна на гэтай і прылеглых тэрыторыях, зыходзячы са звестак перапісаў, прац гісторыкаў, парафіяльных спісаў, сведчанняў перыёдыкі. Абагульніць такі стракаты матэрыял нялёгка. Моўная сітуацыя на памежжы, як і заўсёды ў двухмоўных раёнах, дазваляла адносіць той самы населены пункт да роз-

ных моўных абшараў; няпэўная была і этнічная самасвядомасць тутэйшых насельнікаў. Некаторыя польскія аўтары лічылі беларускамоўнае каталіцкае насельніцтва часткаю польскае нацыянальнасці, а Р. Эркерт усіх праваслаўных адносіў да рускіх. Але даследчыкі далі сабе рады, правялі параўнальны аналіз крыніц і прыйшлі да пэўных высноваў.

Паўночная мяжа зоны, дзе беларуская мова пераважала ў 30-ыя гады мінулага стагоддзя, праходзіла ля Солаў праз Астравец, Шумск, Лаварышкі. На поўдні яна ішла па лініі Трокі — Гальшаны. На тэрыторыі сучаснай БССР літоўскамоўныя абшары захоўваліся ў сучасных Браслаўскім, Пастаўскім, Астравецкім, Воранаўскім раёнах, на поўначы Гродзенскага. У Ашмянскім, Іўеўскім, Лідскім жыло шмат літоўска-беларускіх білінгваў, г. зн. людзей, якія размаўлялі аднолькава добра на абедзвюх мовах.

У 50-ыя гады XIX ст. беларуская мова ўжо пераважала ўздоўж асноўных шляхоў цяперашняга Вільнюскага раёна. Па дарозе з Вільні ў Кярнова (на паўночны захад) да в. Айрэнай людзі, сустрэтыя вядомым беларуска-польскім пісьменнікам Ул. Сыракомлем, размаўлялі з ім па-беларуску.

Парадаксальна, але на гэтых землях апалячванне і русіфікацыя павялічвалі значэнне мясцовага беларускага дыялекту: яго веданне дазваляла разумець як польскамоўных арыстакратаў ды святароў, гэтак і рускамоўных урадоўцаў. Беларускамоўная тэрыторыя працягвала пашырацца, і да канца стагоддзя яна (у межах сучаснай Літоўскай ССР) ахоплівала Вільнюскі раён без паўночнага захаду, усход Тракайскага, значную частку Шальчынінскага; літоўска-беларускае двухмоўе назіралася на паўднёвым усходзе Швянчонскага раёна (акад. Яўхім Карскі ў сваёй «Этнаграфічнай карце беларускага племя» з 1903 г. прыблізна так і акрэсліў беларускую моўную мяжу на паўночным захадзе.— *В. В.*). На сучаснай тэрыторыі БССР тады заставалася літоўскае насельніцтва ў ваколіцах Парэчча (сучасны Гродзенскі раён), Лаздунах Іеўскага, Гярвятаў Астравецкага, Засецця Дзятлаўскага, Лынтупаў Пастаўскага раёнаў. Літоўцы жылі на большай частцы Воранаўскага раёна. (Літоўскія выспачкі засталіся ў некаторых названых абшарах і паселішчах дагэтуль.— *В. В.*).

Уздым з канца XIX ст. літоўскага нацыянальнага руху (літоўскі друк, казані ў касцёлах), які спыніў славізацыю,

да першай сусветнай вайны толькі часткова ўплываў на ход этнічных і моўных працэсаў на Віленшчыне. Тут для беларуска- і літоўскамоўнага каталіцкага насельніцтва стала асабліва характэрна польская нацыянальная самасвядомасць, якую ўпарта прышчаплялі прадстаўнікі польскай арыентацыі — свецкія і духоўныя.

Таму не дзіва, што паводле перапісу 1897 г. у Вільні (без войска і іншых нацыянальнасцей) жыло 2,1 % літоўцаў, 3,9 % беларусаў, 14,5 % рускіх і 33,6 % палякаў. Аднак для Віленскага павета той жа перапіс дае ўжо 34,9 % літоўскамоўных, 41,9 % беларускамоўных і 12,1 % палякаў. Таму, дадамо ад сябе, на гэтых землях развіўся беларускі нацыянальна-вызваленчы і нацыянальна-культурны рух, і Вільня стала яго-ным галоўным асяродкам.

І ў наш час, як піша той жа Алаізас Відугірыс у артыкуле «Да кантактавання моў у Паўднёва-Усходняй Літве» («Пытанні літоўскага мовазнаўства», вып. XXIII), мясцовая беларуская гаворка ў тым краі пануе. Хоць яна і не мае афіцыйнага статуса (няма беларускіх школ, перыёдыкі, радыёперадач), ёю гавораць у сям'і і ў грамадзе, на сходах і на працы. Ёю тутэйшы літовец можа паразумецца з тутэйшым палякам і рускім, так што беларуская гаворка адыгрывае на Віленшчыне ролю рэгіянальнай. Нямала жыхароў тут глядзяць беларускія тэлеперадачы і слухаюць беларускае радыё. Але ўплыў беларускай літаратурнай мовы на гаворку не такі моцны, як можна было б чакаць, бо звычайна гэтыя людзі беларусамі сябе не лічаць, а сваю мову трактуюць як своеасаблівы дыялект польскай (ці рускай) мовы.

...Перагартана ўсяго некалькі артыкулаў, але яны закранулі ці не ўсе асноўныя перыяды гісторыі Беларусі і Літвы. Як бачым, даследаванні літоўскіх навукоўцаў даюць спажыву для роздуму і нам.

Артыкул перапрацаваны. Першапачатковы варыянт быў надрукаваны ў часопісе «Крыніца». 1988. № 2.

А. РОГАЛЕЎ

# ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАЙ РУСІ

Адкуль пайшла назва Белая Русь? Які яе спрадвечны сэнс? Адказ на гэтыя пытанні цесна звязаны з пачатковымі старонкамі нашай гістарычнай памяці, бо назва роднай зямлі — гэта адзін з тых элементаў духоўнай культуры, з якіх пачынаецца ўсведамленне Радзімы.

...У дзяцінстве я прачытаў легенду, якая трывала замацавалася ў маёй памяці. Даўным-даўно жылі на нашай зямлі магутныя і моцныя духам людзі. Нялёгкае ў іх было жыццё, але яны смела сустракалі і прыродныя стыхіі, і чужакоў, што прыходзілі на іх зямлю далёка не з мірнымі мэтамі. Былі нашы продкі вясёлага нораву, вырошчвалі хлеб, займаліся паляваннем і рыбалоўствам і насілі выключна льняное белае адзенне — сімвал чысціні, сумленнасці, шчырасці, і самі яны былі светларусымі...

Край гэты прываблівау увагу географаў і падарожнікаў з заморскіх краін. «Там часта падае падобны на пер'е снег, і доўгі час зямля служыць толькі ўтварэнню лёду і халодным прыстанішчам паўночным вятрам»,— пісаў рымскі натураліст I стагоддзя новай эры Пліній. А «бацька гісторыі» Герадот, які наведаў у V стагоддзі да новай эры Паўночнае Прычарнамор'е, са слоў скіфаў, што жылі там, адзначаў, што ў далёкай мясцовасці на поўнач ад Скіфіі «пухам напоўнены зямля і паветра», суцэльны снег надоўга пакрывае лясы, палі і рэкі, і зямля зіхаціць асляпляльнай белізной.

Выснова напрошвалася сама па сабе: белае адзенне, светлы колер твару і валасоў, ззяючы снег далі падставу для нараджэння імені краіны — Белая Русь. Мне падабалася гэтае паэтычнае вытлумачэнне. Але хутка я даведаўся, што акрамя Белай Русі былі яшчэ Чорная Русь і Чырвоная Русь. І тады я зразумеў, што прачытанае мною ў дзяцінстве — казка.

Казка ўзнікае тады, калі забыты рэальныя, гістарычныя крыніцы. А тады такое простае, на першы погляд, але ёмістае і таямнічае паняцце Белая Русь уяўлялася нейкім зашыфраваным знакам, расшыфраваўшы які, мы адгарнулі б адну з пачатковых старонак нашай гістарычнай памяці.

# АБ ЧЫМ ГАВОРАЦЬ ТАПАНІМІЧНЫЯ ФАКТЫ?

Першыя паведамленні аб назве Беларусі адносяцца да другой паловы XIV ст. У вершы аўстрыйскага прыдворнага паэта Петэра Зухенвірта, прысвечанага памяці рыцара, які памёр у 1360 г. сустракаецца выраз Weizzen-Reuzzen, які ўяўляе сабой пераклад наймення Беларусі (Белай Русі). Паэт Зухенвірт жыў пры венскім двары ў 1356—1395 гг., што дае магчымасць прыкладна вызначыць дату напісання верша. Першая фіксацыя наймення Белая Русь, на жаль, не змяшчае інфармацыі аб яе геаграфічнай праекцыі. Аднак дакладна вядома, што ўжо ў пачатку XV ст. прускія рыцары выкарыстоўвалі гэтае найменне ў адносінах да Маскоўскай Русі. У 1413 г. вялікі магістр Прусіі паведамляў чэшскаму каралю аб хуткай вайне з Масковіяй і называў гэтую краіну Б е л а й  Р у с с ю. Польскі храніст XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі лічыў вялікага правіцеля Маскоўскага княства Івана Данілавіча Каліту «князем беларускім». Першы прафесійны расійскі гісторык Васіль Тацішчаў, які карыстаўся такімі матэрыяламі (хронікамі і летапісамі), аб якіх мы можам толькі марыць, таксама размяшчаў Белую Русь у гістарычных межах Маскоўскай дзяржавы[1].

Гэтым і іншым фактам або не знаходзілі тлумачэння, або лічылі іх памылковымі і нават фальсіфікацыяй, наўмысным размяшчэннем Белай Русі ў межах Масковіі.

Справа ў тым, што адзначаную геаграфічную праекцыю Белай Русі магчыма зразумець толькі пры ўмове дакладнага ўразумення значэння слова «белы» ў спалучэнні Белая Русь. Нас цікавіць не наогул сукупнасць усіх разнастайных пераасэнсаванняў слова «белы», якія сустракаюцца ў фальклорных і міфалагічных сюжэтах розных народаў (што, зразумела, цікава ў плане вывучэння колеравай сім-

---

[1] *Иванов В. В.* Цветовая символика в географических названия.. в свете данных типологии (к названию Белоруссии) //Балто славянские исследования 1980.//М., 1981. С. 163—164; *Татищев В. Н.* Лексикон Российской исторической, географической, политической и гражданской//*Татищев В. Н.* Избранные произведения Л., 1979. С. 183; *Улащик Н. Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М. 1985. С. 84—86.

волікі наогул, яе адлюстравання ў дахрысціянскай культурнай традыцыі, якая ўзыходзіць да найстаражытнейшай індаеўрапейскай эпохі). Мы павінны асэнсаваць менавіта ***тапанімічнае*** значэнне слова «белы», якое цалкам «расшыфроўваецца» пры супастаўленні з іншымі геаграфічнымі назвамі. У гэтай сувязі асабліва паказальная назва горада Вены, якая ўзыходзіць да старажытнакельцкага абазначэння Vindobona, дзе *vind* — *find* — «белы». Такія абазначэнні служылі, перш за ўсё, для наўмення *асабліва значнага горада*[1]. На славянскіх тэрыторыях блізкімі або тоеснымі па першапачатковаму значэнню аказваюцца шматлікія назвы гарадоў тыпу Белгарад, Белград, Белая Царква.

Часта пры спробах растлумачыць назву Белая Русь спасылаюцца на шэраг этнічных найменняў, якія маюць азначэнне «белы»: *белыя калмыкі* (продкі сучасных алтайцаў), *белаукраінцы* (этнаграфічная група славенцаў), *белыя харваты* (вядомыя нам з «Повести временных лет»), *белыя угры* (гэтае найменне, пад якім хаваюцца, відаць, орды гунаў, таксама ўпамінаецца ў «Повести временных лет») і іншыя. Але рабіць падобныя супастаўленні нельга па некалькіх прычынах. Па-першае, таму, што колеравая сімволіка ў геаграфічных і этнічных назвах не з'яўляецца ідэнтычнай. Па-другое, у кожным з нагаданых этнічных найменняў не выключана сваё, асаблівае, спецыфічнае разуменне слова «белы». Нарэшце, істотна тое, што назва Белая Русь нараджалася менавіта як *геаграфічнае паняцце*. Этнічнае абазначэнне *беларусцы (беларусы)*, якое было ўтворана ад геаграфічнай назвы Белая Русь (Белоруссия), з'яўляецца вельмі позна, у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя[2].

Такім чынам, найменне Белая Русь на ўсходнеславянскай тэрыторыі першапачаткова мела хутчэй за ўсё значэнне «цэнтральная, галоўная, самая значная зямля, палітычны цэнтр».

---

[1] Иванов В. В. Цветовая символика... С. 165.
[2] Этнаграфія беларусаў//Мінск, 1985, С. 81.

## АД «БЕЛАЙ» МАСКОЎСКАЙ РУСІ ДА ГІСТАРЫЧНАЙ БЕЛАРУСІ

Адна справа, калі назва з падобным значэннем належыць гораду, «сталіцы» пэўнай зямлі. Зусім іншая справа, калі гэта назва распаўсюджваецца на пэўную тэрыторыю. У такім выпадку яна (назва) вельмі хутка набывае палітычны падтэкст-сімвал. Цікава, што яшчэ ў 1157 годзе ўладзіміра-суздальскі князь Андрэй Багалюбскі ўзяў сабе тытул князя Белай Русі, прычым зрабіў гэта ў той момант, калі задумаў узяць уладу і над Кіевам, а гэта значыць, і над ўсёй Руссю. Як бачым, тытул князя Белай Русі ўжо ў старажытнасці каштаваў вельмі многа. Дык вось, калі нават і згадзіцца з тым, што першыя расійскія гісторыкі (у прыватнасці, В. М. Тацішчаў) наўмысна падкрэслівалі лакалізацыю Белай Русі перш за ўсё на гістарычных землях Маскоўскага княства, гэта не мяняе сутнасці справы. Масковія XV — XVI стагоддзяў лічылася Белай Руссю. І нічога дзіўнага, тым больш дрэннага, антыгістарычнага ў гэтым няма. Назва — сімвал з палітыка-геаграфічным асэнсаваннем была ў той час вельмі патрэбная мацнеючай дзяржаве. Мінуў час, і неабходнасць у штучным падкрэсліванні сваёй значнасці адпала. Расія стала вялікай на справе, а не толькі ў назве.

Мы згодны з тымі даследчыкамі, якія адмаўляюць дастасаванне назвы Белая Русь да тэрыторыі цяперашняй Беларусі да канца XVII стагоддзя[1]. Толькі з гэтага часу адпадае неабходнасць у спецыяльным падкрэсліванні з дапамогай назвы-сімвала Белая Русь палітычнага лідэрства і моцы Маскоўскай дзяржавы.

У 1788—1789 гг. у Маскве быў надрукаваны «Новый и полный географический Словарь Российского государства, или Лексикон, описующий азбучным порядком географически, топографически, идрографически, физически, исторически, политически, хронологически, генеалогически и геральдически, наместничества, области и уезды; города, крепости, редуты, форпосты, остроги, ясашныя зимовья, станицы, местечки, сёла, погосты, ямы и слободы; соборы, церкви и монастыри; рудные и другие заводы и фабрики; реки, озёра и моря; острова и горы; прежния и новыя иностранныя поселения;

[1] *Юхо Я.* Пра назву Беларусь // Полымя. 1968. № 1. С. 175—182.

обитателей как природных Российских, так и других народов, и прочия достопамятныя места обширной империи Российской при нынешнем ея состоянии, в царствование императрицы Екатерины Великия» пад рэдакцыяй Л. М. Максімовіча. Гэтае выданне было спецыяльна падрыхтавана пасля далучэння да Расіі ў 1722 г. усходняй часткі сучаснай Беларусі (прыкладна да Мінска). Таму яно з'яўляецца па сутнасці першым геаграфічным апісаннем беларускага краю, зробленым рускімі даследчыкамі. У «Слоўніку» Беларуссю называюцца вобласці ад вярхоўяў Дняпра і па заходняй частцы Дзвіны — Смаленскае, Мсціслаўскае, Віцебскае і Полацкае княствы з іх паветамі. У 1635 годзе магілёўскі біскуп П. Магіла зрабіў запіс, згодна з якім «беларускія краі — гэта тыя, што належаць да епіскапіі Мсціслаўскай, Аршанскай і Магілёўскай»[1]. У 1772 г. цікавае выданне «Starożytna Polska» паведамляла: «Ваяводствы Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае і частка Мінскага называюцца Беларуссю»[2]. У 1766 годзе «Геаграфічны слоўнік» Карпінскага, выдадзены ў Вільне, адзначаў: «Белая Русь уключае ваяводствы Мсціслаўскае, Полацкае, Віцебскае і Смаленскае»[3]. І. Зяленскі, аналізуючы думкі розных даследчыкаў, заключыў: «Настоящая Белоруссия простиралась в древние времена с севера на юг от г. Дриссы и оз. Освея до Могилёва и Друцка, а с востока на запад — от Великих Лук и от р. Ловати до м. Белого на границе Виленской и Минской губерний (Борисовский уезд), т. е. Белоруссией называлась вначале страна между Двиною, Днепром и Друтью»[4].

У сувязі з прыведзенымі фактамі заканамерна ўзнікае пытанне: чаму назва Белая Русь у XVIII — XIX стст. рознымі даследчыкамі і пісьмовымі крыніцамі размяшчаецца менавіта на паўночным усходзе і ўсходзе сучаснай Беларусі і суседніх з ёю землях Смаленшчыны? Чаму загадкавая

---

[1] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильно, 1867. Т. 2. С. 57.

[2] *Зеленский И.* Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. С.-П, 1864. Ч. I. С. 406.

[3] *Зеленский И.* Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. Ч. I. С. 406.

[4] *Зеленский И.* Там же. Ч. I. С. 406—407.

геаграфічная назва не «перавандравала» куды-небудзь у іншым кірунку?

Ніякай выпадковасці тут не было і быць не магло. Уважлівае разгляданне тэрыторыі, на якой у XVIII — XIX стст. лакалізуецца назва Белая Русь, прымушае згадзіцца з тым, што старажытны тапонім трывала замацоўваўся за старажытнымі гістарычнымі землямі Полацкага княства.

На думку аўтара гэтых радкоў, Полацкая зямля яшчэ ў X—XI стст. у час найбольшай сваёй магутнасці і росквіту замацоўвала за сабой назву-сімвал Белая Русь. Далейшыя сумныя падзеі прывялі да заняпаду Полацкай дзяржавы, якая страціла і сваю алегарычную назву. Але мінуў час, і ў канцы XVII — пачатку XVIII ст. старая назва Белая Русь, страціўшы ў значнай ступені палітычныя адценні, вярнулася на тыя землі, дзе, відаць, пачаліся яе вытокі.

У канцы XVIII — першай палове XIX ст. пад Беларуссю разумелі толькі Віцебскую і Магілёўскую губерні, часам таксама і Мінскую. На пачатку XX ст. у этнаграфічную тэрыторыю Беларусі ўключаліся цалкам Магілёўская і Мінская губерні, шэсць паветаў Віленскай губерні (Ашмянскі, Вілейскі, Віленскі, Дзісненскі, Лідскі, Свянцянскі), сем паветаў Віцебскай губерні (Віцебскі, Веліжскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Лепельскі, Невельскі, Полацкі), пяць паветаў Гродзенскай губерні (Гродзенскі, Ваўкавыскі, Пружанскі, Слонімскі, Сакольскі)[1].

У нашай версіі цэнтральным з'яўляецца пытанне аб тым, як, пры якіх абставінах у самыя старажытныя часы замацавалася назва Белая Русь за гістарычнымі землямі Полацкага княства. Мы не выпадкова ў гэтай сувязі прыгадалі X ст., час праўлення легендарнага полацкага ўладара Рагвалода. Каб разабрацца ў гэтым нашым сцвярджэнні, неабходна зноў адхіліцца ад асноўнага напрамку ў нашым апавяданні і звярнуцца да абставін з'яўлення Рагвалода ў Полацку.

---

[1] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мінск, 1970. Т. 2. С. 268—269.

«Повесть временных лет» паведамляе, што Рагвалод прыйшоў у Полацк «з-за мора». У летапісах гэтыя, не вельмі дакладныя геаграфічныя арыенціры сустракаюцца некалькі разоў. Пад запісам «у год 859», у прыватнасці, паведамляецца: «Имаху дань варязи изъ заморья на чюди и на словенех, на мери и на всехъ кривичехъ...».[1] «За морам» жылі варагі, якія спаганялі даніну з тых плямёнаў, якія насялялі паўночную частку будучай Старажытнай Русі. Браць даніну азначала ў той час трымаць уладу над адпаведнай тэрыторыяй і над народамі, што тут жылі. Плямёны крывічаў, чудзі, славен і меры змагаліся супраць такой залежнасці. У 862 годзе яны «выгналі варагаў за мора» і не далі ім даніны, пачалі самі сабой валодаць. Але вельмі хутка самі ж «пайшлі за мора, да варагаў» з прапановай узяць уладу над іх зямлёй. Можна думаць, што ўсё было трохі не так. Варагі сілай падпарадкавалі непакорныя плямёны, а летапіс рысуе нам своеасаблівую ідылію, паўлегендарнае сказанне. Але гэта не мяняе сутнасці справы: «з-за мора» прыйшлі тры браты — Рурык, Сінявус і Трувар са сваімі радамі. І з таго часу трымалі ўладу ў той зямлі, дзе стаяў і горад Полацк. Адбывалася гэта яшчэ за 120 гадоў да таго, як у Полацку будзе княжыць «вараг» Рагвалод.

Што хацеў сказаць летапісец, калі заўважаў: «Бѣ бо Рогъволодъ пришелъ и-заморья...»? Ці толькі намякаў на родныя сувязі полацкага князя з варагамі стогадовай даўніны і лічыў яго Рурыкавічам, патомкам легендарнага Рурыка? Ці недвухсэнсава і прама сведчыў аб прыбыцці Рагвалода, у распараджэнні якога быў магутны па тых часах флот, «з-за мора»? Нам здаецца, што абедзве думкі маюць сэнс і адпавядаюць рэчаіснасці.

Варажскія князі Рурыкавічы трымалі ўладу ў паўночных рускіх гарадах. Летапіс называе тыя гарады, дзе княжылі «мужы» Рурыка,— Растоў, Белавозера, Полацк, Избарск, Мурам. Яны «сядзелі» ў гэтых цэнтрах з сярэдзіны IX ст., з 862 г., гэта значыць больш чым за 100 гадоў да Рагвалода.

---

[1] Тут і далей спасылкі на «Повесть временных лет» робяцца па выданню: Памятники литературы Древней Руси. Начало русской литературы. XI — начало XII века. М., 1978.

А ў 865 ці ў 867 г. кіеўскія князі Аскольд і Дзір напалі на Полацк і падпарадкавалі яго Кіеву. Полацкая зямля страціла самастойнасць на доўгія гады, амаль да 40-ых гадоў X ст. Не раней сярэдзіны 40-ых гадоў X ст. у Полацку з'явіўся Рагвалод[1]. Ён прыбыў па Дзвіне, «з-за мора», з магутнай варажскай дружынай. Захапіўшы ўладу ў горадзе, Рагвалод абвясціў сябе законным полацкім князем. Рабіў ён гэта свядома, бо быў упэўнены, што род яго яшчэ сто гадоў назад уладарыў у горадзе на Дзвіне.

Калі Рагвалод быў варагам, то чаму ён насіў славянскае па паходжанні імя Рагвалод — літаральна «ўладальнік рога», г. зн. «сілы, улады, магутнасці і багацця»; параўн., напрыклад, выразы з слоўніка У. І. Даля: рогом стереть — «сілаю, уладаю»; яны рагата жывуць, они рогато живут — «у дастатку, багата»; рогач — «чалавек магутны». Супярэчнасці ў гэтым няма. Слова в а р а г і не з'яўляецца этнічным найменнем. Па паходжанні яно ўзыходзіць да кельцкіх моў і мае значэнне «народ вады, мора»[2]. Варагамі лічыліся вайсковыя атрады, галоўнымі заняткамі якіх была вайна. Яны ў літаральным сэнсе прапаноўвалі свае паслугі розным князям і правіцелям і за адпаведную плату ўдзельнічалі ў паходах і баях. Гэта былі наёмныя воіны. Варажскія дружыны («варангі», «марангі») служылі візантыйскім імператарам, іх выкарыстоўвалі і славянскія князі для ўзаемнай барацьбы. Базіраваліся варагі на паўднёвым узбярэжжы Балтыйскага мора і на прыбярэжных астравах. Каб трапіць да варагаў, як апісвае летапіс, трэба было плыць па Заходняй Дзвіне ў Варажскае (Балтыйскае) мора. Адзін, два ці тры дні марскога падарожжа прывозілі ў краіну варагаў, «марскога, воднага народа», які за шчодрую плату ішоў на самыя неверагодныя вайсковыя авантуры.

У празванні варагаў крывічамі, славенамі, чуддзю і мераю ёсць адзін істотны штрых. Прадстаўнікі названых плямён «пайшлі за мора, да варагаў, да русі». «Повесть временных лет» расказвае: «Тыя варагі называліся руссю, як іншыя

---

[1] *Ермаловіч М. І.* Старажытная Беларусь//Маладосць № 7. С. 149.

[2] Гл.: *Кузьмин А. Г.* Об этнической природе варягов/к постановке проблемы//Вопросы истории. 1974. № 11. С. 54—83.

называюцца шведы, а іншыя нарманы і англы, а яшчэ іншыя гатландцы...» Як бачым, наш старажытны летапіс недвухсэнсава і дакладна падкрэслівае надэтнічную прыроду варагаў. Тыя варагі, якія прыйшлі ў паўночную частку ўсходнеславянскіх зямель, знаходзіліся на службе ў князёў Русі. Русь (племя, племянное аб'яднанне?) і даслала ў адказ на просьбу мясцовых плямён трох братоў — Рурыка, Сінявуса і Трувара. Дарэчы, такіх князёў магло быць і больш, бо тры летапісныя браты нешта вельмі нагадваюць трох братоў з усходнеславянскіх казак, таму могуць быць чыста міфічнымі, легендарнымі персанажамі. Прызванне прадстаўнікоў іншаземнай дынастыі, якое не вымушалася знешнім націскам, а выклікалася ўнутранымі працэсамі, не было выключнай з'явай, падобнае здаралася ў розных краінах і розных землях[1]. Князь адкульнебудзь збоку з прычыны сваёй нейтральнасці даволі хутка згладжваў супярэчнасці паміж мясцовымі плямёнамі. Акрамя таго, іншаземныя правіцелі звычайна былі вопытнымі воінамі, вызначаліся ведамі ў гандлёвых справах і знаёмствам з чужымі краінамі.

«Браты» прыйшлі са сваімі радамі. А гэта ўжо ўказанне на міграцыйныя працэсы, на этнічныя сувязі, якія існавалі паміж насельніцтвам Полацкай, Наўгародскай зямель, з аднаго боку, і жыхарамі паўднёвага ўзбярэжжа Балтыйскага мора, у прыватнасці, паморскімі палабска-балтыйскімі славянамі, з другога боку. «Сляды» гэтых этнічных сувязей дагэтуль існуюць на тэрыторыі Беларусі ў выглядзе цікавых геаграфічных назваў, якія маюць дастаткова паказальнае падабенства з этнічнымі найменнямі шэрагу плямён паморскіх і палабска-прыбалтыйскіх славян. Каб не быць галаслоўнымі, нагадаем некаторыя з такіх назваў. Тапонім *Нудзічы* (вёска Брагінскага раёна) цалкам адпавядае палабскаму этноніму *нудзічы*. Найменне *Лучыцы* (вёскі Петрыкаўскага і Асіповіцкага раёнаў) супаставіма з этнічным найменнем *люцічы-вялеты* (адно з самых моцных заходнеславянскіх плямён, пляменных аб'яднанняў). Этнонім *памаране* верагодна адлюстраваўся ў геаграфічных назвах *Памо́ршчына* (вёска Валожынскага раёна), *Па́марайшчына* (вёска Мядзельскага раёна). Этнонім *ленчычане* цікава параўнаць з

---

[1] *Ловмяньский X.* Русь и норманны. М., 1985. С. 205—208.

тапонімам *Лельчыцы* (райцэнтр Гомельскай вобласці), якія ў мясцовых гаворках гучыць як *Ленчыцы* (з першапачаткова *Ленчычы*?). Найменне племені *ліпяне* (ліпляне) ёсць сэнс супаставіць з геаграфічнымі назвамі *Ліпяні* (вёска Мінскага раёна), *Ліплянск* (вёска Сенненскага раёна), *Ліпляні* (вёска Глыбоцкага раёна). Прыклады можна было б працягваць. Але і тыя, што мы нагадалі, дастаткова паказальныя.

Скажам яшчэ вось аб чым. Імя легендарнага князя Рурыка выклікае шматлікія спробы растлумачыць яго на скандынаўскай аснове. Але яно вельмі абгрунтавана этымалагізуецца пры супастаўленні з польскім словам raróg — «сокал-балобан». Дарэчы, *рарогі* (рарэгі) — літаральна «сокалы» — гэта адно з заходнеславянскіх плямён. Калі асабовае імя князя Рурыка сапраўды мае такія этнанімічныя вытокі, то становяцца зразумелымі адбіткі сокала на манетах Рурыкавічаў X—XI стагоддзяў, а таксама на плінфах найстаражытнейшай кіеўскай Дзесяціннай царквы. З сокалам звязана і сімволіка «Слова пра паход Ігаравы», дзе вобраз гэтай птушкі служыць для абазначэння таго ці іншага князя з дынастыі Рурыкавічаў. У былінах герой падчас надзяляецца здольнасцю пераўтварацца ў сокала. Усё гэта вельмі цікавае і шматабяцаючае. Аднак вернемся да варагаў-русі.

Варагі-русь, відаць, паходзілі з вострава Руяны, які размяшчаўся ў Одэрскім заліве. Гэты востраў меў некалькі варыянтаў назвы ў розных крыніцах: *Ругія, Рутэнія, Русінія, Райана, Руйана, Рэўна*. А насельнікі вострава называліся адпаведна ру*гамі*, ру*тэнамі*, ру*сінамі*, ру*сцамі*, ра*йанамі*, ру*йанамі*, ра*намі*. Заходнееўрапейскія крыніцы апавядалі аб жыхарах Руяны наступнае: «Самае моцнае славянскае племя. ...Народ жорсткі, звыш меры адданы ідаласлужэнню, пераважна выдатны сярод усяго славянскага народа».[1] Насельніцтва Руяны славілася сваім вялікім марскім флотам і сваімі багаццямі. Галоўны горад русаў Руяны — *Аркон*. У гэтым горадзе знаходзілася славутае і галоўнае сярод усіх паморскіх славян свяцілішча найвышэйшага са славянскіх багоў, прадраканні якога былі самымі сапраўднымі і дзейснымі,— *Святавіта (Свентавіта)*. Акадэмік А. С. Фамін-

---

[1] *Державин Н. С.* Славяне в древности. М., 1945. С. 32.

цын у кнізе «Божества древних славян» (С.-Птб., 1884) пісаў: «...Самым вялікім шанаваннем у Арконе на востраве Руяне карыстаўся Святавіт з чатырма галавамі... У правай руцэ кумір трымаў рог з розных металаў, які кожны год звычайна напаўняўся віном з рук жраца для варажбы пагоды і ўрадлівасці наступнага года...»

У XIX ст. у Мінскай губерні паміж Нясвіжам і Слуцкам збіральнікам старажытнасцей, прафесарам Каяловічам быў адшуканы ўрывак з пачатковай, яўна тэндэнцыйнай праваслаўнай творчасці на Русі. Вось што там гаварылася: «Быв на Руси Чорный Бог, перед ним стоял Туров рог; и он на Киев поглядав, гомон ведьмин подавав...»

Зноў рог — сімвал боскай улады, сімвал магутнасці і трываласці. Той, хто валодае сімвалічным рогам, той падобны на самога бога, той першы ўладар на гэтай зямлі. «Уладальнік рога», князь Рагвалод — такое імя мог насіць сапраўдны ўладар. Гэты князь, родам «з-за мора», з вострава Руяны, ці Рутэніі, Русініі, з рода русаў, і стварыў на старажытнай беларускай зямлі першую вядомую нам дзяржаву — Полацкае княства. Нездарма за гістарычнай тэрыторыяй былой Полацкай зямлі праз некалькі стагоддзяў назаўсёды замацавалася назва — Русь Белая. Руссю лічыў свой край прыдзвінскі крязь — русін Рагвалод, як лічылі яшчэ за сто гадоў да яго тыя паморскія князі, якія з радамі сваімі ўпершыню з'явіліся ў Наўгародскай і Полацкай зямлі, на Белавозеры і ў Ізбарску, у Растове і Мураме.

Цікава, што бог Святавіт у Арконе на востраве Руяне меў свайго жраца, які апранаўся заўсёды ў белае адзенне. І быў у жраца конь — увесь белы. А ў час вайны жрэц апранаўся ў чорнае адзенне і садзіўся на варанога каня, якога пакрываў чорнаю папаломаю. Шматзначная колеравая сімволіка, як бачым, была арганічна ўплецена ў светаразуменне старажытных русаў. Таму не дзіўна, што і ў найменні сваёй краіны князь Рагвалод жадаў бачыць адлюстраванне сваёй веры, свайго светапогляду, сваёй сутнасці. Таму і лічыў ён Полаччыну не проста Руссю, а Белай Руссю, Руссю магутнай і вялікай, Руссю мірнай, чыстай і праведнай...

Такім чынам, вытокі назвы Белая Русь трэба шукаць не ў XVII—XVIII стст., калі яна фіксуецца ў дастасаванні да паўночна-ўсходняй часткі сучаснай беларускай тэрыторыі, і не ў XIV ст., калі яна ўпершыню з'явілася ў пісьмовых

крыніцах. Геаграфічнае паняцце Белая Русь з'явілася на ўсходнеславянскіх землях на заранку айчыннай дзяржаўнасці, у IX—X стагоддзях.

Вялікую, шматвяковую гісторыю мае найменне Белая Русь. Былі ў гэтай гісторыі і «чорныя» плямы. У 1840 г. цар Мікалай I спецыяльным загадам забараніў выкарыстоўваць назву Беларусь. Відаць, спрадвечны сэнс гэтага абазначэння быў цару не даспадобы. Але сапраўдныя вытокі назвы, яе спрадвечны сэнс знішчыць нельга. Яны жывуць у народнай памяці і абавязкова адраджаюцца зноў. У гістарычнай бессмяротнасці — іх сутнасць.

P. S.

У апошні час А. Ф. Рогалеў зрабіў спробу даказаць, што пазбегнуць супярэчнасцей і ўзгадніць ўзаемавыключныя версіі аб паходжанні назвы Белая Русь можна было б разглядаючы даннае найменне не ў статычным плане, г. зн. у момант мяркуемага ў той ці іншы час яго паходжання, а на працягу некалькіх стагоддзяў, у рэтраспектыўным плане, прымаючы пад увагу верагодную неадэкватнасць успрыймання харонімаў (уласных імёнаў пэўных тэрыторый) рознымі народамі ў розныя гістарычныя перыяды (гл.: Рогалев А. Ф. Русь Белая и Черная: к вопросу о восприятии древних географических названий в разные исторические периоды // Славяне: адзінства і мнагастайнасць. Міжнародная канферэцыя. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Т. II.— Мн., 1990.— С. 70—72).

На думку А. Ф. Рогалева, азначэнне *Белая* ў складзе назвы Белая Русь у X—XIV стагоддзях па-рознаму асэнсоўвалася, напрыклад, усходнімі славянамі і цюркамі, у прыватнасці, булгарамі. Для насельніцтва Волжскай Булгарыі першапачатковая Русь (землі крывічоў, наўгародскіх славен, чудзі, меры, весі) з'яўлялася заходнім суседам, што магло абумовіць выкарыстанне геаграфічнага паняцця Белая Русь у этнамоўным цюркскім (булгарскім) асяроддзі ў прасторавым сэнсе, г. зн. Белая Русь — «заходняя» (менавіта цюркскія народы былі найбольш паслядоўнымі носьбітамі агульнаеўразійскай пpасторавай сімволікі колераў, у якой захад сімвалізаваўся белым колерам).

У разуменні славян белы колер сімвалізаваў вышэйшы, боскі пачатак, станоўчыя, праведныя якасці. Не выпадкова, першыя вядомыя нам фіксацыі назвы Белая Русь (XIV—

XV стст.) суадносілі яе (назву) з Маскоўскай Руссю, якая аб'ядноўвала ў той час рускія землі.

У XVI—XVIII стст. узмацняюцца рэлігійная і этнічная семантыка назвы Белая Русь. Не выпадкова ў гэты перыяд данае найменне замацоўваецца за ўсходняй часткай сучаснай Беларусі, дзе пераважала праваслаўнае славянскае насельніцтва.

У XVIII—XIX стст. харонім Белая Русь канчаткова страчвае ўсялякія сэнсавыя адценні і становіцца звычайным моўным знакам з геаграфічнай функцыяй, як і шматлікія іншыя назвы.

Артыкул перапрацаваны. Першапачатковы варыянт быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва». 1988. 18 сакавіка.

*А. ГРЫЦКЕВІЧ*

## БЕЛАЯ РУСЬ

Белая Русь, назва некаторых зямель Паўночна-Усходняй Русі ў XII—XVI стст. і Беларусі з XIV ст. Паходжанне тэрміна канчаткова не высветлена. Паводле адной версіі, Белай Руссю называлі тыя рускія і беларускія землі, якія ў пэўны час не залежалі ні ад мангола-татарскіх ханаў, ні ад літоўскіх князеў: «белая» ў дадзеным выпадку — вялікая, незалежная, вольная, свабодная. Паводле другой версіі, гэта назва паходзіць ад белага колеру адзення (белых світак, сукенак, кашуль) жыхароў гэтых зямель або ад іх фізічных адзнак — бландзіны. Трэцяя версія тлумачыла, што Белай Руссю называлі землі, насельніцтва якіх было хрысціянскае, у процівазе Чорнай Русі, дзе быццам бы больш доўгі час захоўвалася язычніцтва (што не адпавядала сапраўднасці). Вучоныя больш схіляюцца да 1-ай версіі.

В. М. Тацішчаў адзначаў, што ўпершыню тэрмін «Белая Русь» згадваецца ў Раскольніцкім і Растоўскім рукапісах пад 1135 г. пры назве Растова-Суздальскага княства. Яго часцей ужывалі з 2-ой паловы XII ст. Так называлі да XV ст.

і Маскоўска-Уладзімірскае княства. Маскоўскі князь Іван III у 2-ой палове XV ст. афіцыйна ўвёў тэрмін «Белая Русь» для абазначэння Рускай дзяржавы (атаясамлівалася з паняццем Вялікая Русь). У дальнейшым гэты тэрмін для абазначэння Маскоўскай Русі не ўжываўся. Адносна белых зямель назва Белая Русь упершыню паявілася ў XIV ст. у Іпацьеўскім летапісе, пры апавяданні пра жаніцьбу (1325) польскага караля Казіміра з дачкой вялікага князя літоўскага Гедыміна Ганнай. Назву «Белая Русь» ужываў у «Хроніцы Польшчы» (1333—1385) вядомы польскі храніст XIV ст., падканцлер Янка з Чарнкава. Ён называе Полацк «крэпасцю Белай Русі». Тэрмін «Белая Русь» у XVI ст. адносілі пераважна да Беларускага Падзвіння і Падняпроўя, што адзначалася ў тагачасных хроніках. Паступова ён пашырыўся на большую тэрыторыю. Папскі нунцый у Варшаве Торэс у сваім лісце ў Рым (1662) адзначаў: «Белая Русь, якая працягваецца ад Рыгі, сталіцы Ліфляндыі, да Маскоўскай мяжы і ўключае Полацк, Оршу, Віцебск, Магілёў...» У звароце праваслаўнай шляхты Беларусі і Украіны да сейма (1623) пералічаны гарады Белай Русі: Полацк, Віцебск, Мсціслаў, Орша, Магілёў, Дзісна і інш. Польскі пісьменнік, гісторык і публіцыст С. Старавольскі ў кн. «Польшча ці апісанне становішча каралёўства Польскага» (1632 — на лацінскай мове, 1976 — на польскай мове) адносіў да Белай Русі 6 ваяводстваў: Навагрудскае, Мсціслаўскае, Віцебскае, Мінскае, Полацкае і Смаленскае, г. зн. большую частку зямель Беларусі. У XVII ст. урад Рускай дзяржавы Белай Руссю лічыў Полацкую, Віцебскую, Мсціслаўскую і Смаленскую землі, г. зн. усходнюю частку Беларусі і Смаленскую зямлю. Астатнія беларускія землі ён называў літоўскімі (адсюль назва гарадоў Брэст-Літоўскі, Камянец-Літоўскі і г. д.). У самым пачатку руска-польскай вайны 1654—1667 гг. цар Аляксей Міхайлавіч у даравanай грамаце баярыну Бутурліну ад 8 мая 1654 г. упершыню назваўся «Гасудар, цар і вялікі князь усяя Вялікія і Малыя і Белыя Расіі самадзержац». А калі рускія войскі занялі большую частку тэрыторыі Беларусі, Украіны і Вільню, цар асобнай граматай ад 3 верасня 1655 г. афіцыйна і канчаткова дадаў да свайго тытула «вялікі князь Літоўскі, Белыя Расіі і Падольскі». З 1-ай паловы XVII ст. усходняя частка Беларусі ў дакументальных матэрыялах трывала называецца Беларуссю. У прадмовах і пасляслоўях Францыска Скарыны назва

Белая Русь не сустракаецца. Землі сваёй радзімы Скарына называў тэрмінам «Русь» («братия моя Русь»), які на працягу некалькіх стагоддзяў існаваў разам з назвай Белая Русь і даволі часта атаясамліваўся з ёй.

Друкуецца па выданні: *Грыцкевіч А. П.* Белая Русь // Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1988. С. 263.

*Г. САГАНОВІЧ*

## НАЙМЕННЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Паводле акадэмічнага падручніка па гісторыі БССР (1961 г. выдання), край наш атрымаў назву «Белая Русь» яшчэ да сярэдзіны XIII ст. з прычыны таго, што застаўся вольным, не захопленым «ані мангола-татарамі, ані літоўскімі феадаламі». Слушна крытыкуючы такую версію, вядомы даследчык Язэп Юхо чамусьці адмаўляе дастасаванне назвы «Белая Русь» да тэрыторыі цяперашняй рэспублікі ледзь не да канца XVII стагоддзя і звязвае яе з Маскоўскай дзяржавай, паколькі, маўляў, тэрмін «Вялікая Русь» і «Белая Русь» тады былі адназначнымі (фактычна гэткія ж высновы за 20 гадоў да Я. Юхо рабіў гісторык А. Салаўёў). Пісьменнік Кастусь Тарасаў лічыць, што паняцце «Белая Русь» царкоўнага паходжання і прыйшло яно да нас у XIII стагоддзі, перасоўваючыся з Усходу на Захад (ад Уладзіміра-Суздальскага княства), па меры наступу мангола-татараў. А па найноўшай версіі, прапанаванай А. Рогалевым, «Белая Русь» — тое самае, што «Заходняя Русь», бо колеры белы, чорны і чырвоны сімвалізівалі калісьці бакі свету — захад, поўнач і поўдзень. В. Вячорка паведаміў, што гэтаксама «расшыфраваў» назву нашай краіны літоўскі гісторык Л. Уладзіміровас і сам, відавочна, стаў прыхільнікам якраз такой гіпотэзы. Праўда, А. Рогалеў далей ідзе за Тацішчавым і аддае перавагу іншаму тлумачэнню: «белая» — гэта «цэн-

тральная» (у геаграфічным сэнсе), а таксама важная, самая галоўная, найбольш значная зямля».

Пералічаныя версіі, хоць, мажліва, і маюць большую ці меншую долю ісціны, не ў стане «прыняць» усяго багацця фактаў, спраўдзіцца ў іх. Усе яны могуць быць пастаўлены пад сумненне.

Калі паходжанне «Белай Русі» тлумачыць, зыходзячы з традыцый старажытнай прасторавай арыентацыі, дык чаму тады першыя пісьмовыя згадкі гэтай назвы (XII ст.) аніяк не стасуюцца з заходнімі межамі старажытнарускіх земляў? Наадварот, яны лакалізуюцца ў межах самага ўсходняга, Уладзіміра-Суздальскага княства. Да сярэдзіны XIII ст. назва гэтая, здаецца, ані разу не ўжывалася ў адносінах да сённяшняй Беларусі. Спроба А. Рогалева давесці, што ўжо з X стагоддзя Полацкае княства «замацавала» за сабой назву «Белая Русь», выглядае фантазіяй. Сапраўды, апавядаючы пра змаганні ноўгарадскага князя Уладзіміра з Яраполкам кіеўскім, Мацей Стрыйкоўскі спыняецца і на полацкай трагедыі, падае, што Уладзімір захапіў Паўночна-Усходнюю, а таксама «Белую і Чорную Русь, якія ляжаць на поўдзень». Але ж аўтар не звязвае гэтую «Белую Русь» з Полаччынай, бо ўжо ў іншых месцах «Кронікі» ён адносіць яе то на поўдзень ад Кіева, то на захад да Львова. Ды нават калі б адсюль і вынікала, што ў 976 г. Уладзімір Святаслававіч захапіў менавіта цяперашнюю «Белую Русь», гэта яшчэ не сведчыла б пра такую ж назву Полаччыны X стагоддзя, бо Стрыйкоўскі карыстаўся тэрміналогіяй, натуральна ж, свайго часу, а не эпохі Рагвалода.

Калі «белы» — гэта «заходні», то хто і чаму называў «белымі калмыкамі» продкаў сучасных алтайцаў, што качавалі па стэпах у познім сярэднявеччы? На захад ад каго жылі белакраінцы — этнічная група славенцаў? Чаму Валашскае і Малдаўскае ваяводства ў XV стагоддзі называліся Белаю і Чорнаю Валахіяй?

Пагадзіўшыся, што тэрмін «Белая Русь» мог у асноўным мець рэлігійнае адценне, мушу заўважыць: «белымі» ў познім сярэднявеччы называлі не толькі і не столькі царкоўныя землі, але і ўладанні свецкіх феадалаў, якія не плацілі дзяржаўных падаткаў. Неабавязковай была яго сувязь з «чыстым праваслаўем» і ў XII ст. Па-першае, «Белая Русь» упершыню згадваецца пад 1135 г., калі яшчэ не было патрэбы падкрэс-

ліваць чысціню праваслаўя нейкай асобнай зямлі; па-другое, Андрэй Багалюбскі ўзяў сабе тытул князя «Белае Русі» ужо ў 1157 г., задоўга да паходу растова-суздальцаў на Кіеў і фармальнага пераносу сталіцы. Таму апошняя падзея не магла прычыніцца да з'яўлення новай назвы.

Прыхільнікі размяшчэння «Белай Русі» ў межах Маскоўскай дзяржавы (а гэта даводзілі яшчэ такія волаты рускай дваранскай гістарыяграфіі, як Тацішчаў і Карамзін) не асабліва каб вызначаліся аб'ектыўнасцю ў падбіранні і тлумачэнні фактаў. Удалым узорам іх прынцыпаў можна лічыць словы В. І. Ламанскага, напісаныя гадоў пад сотню таму: «У канцы XV і ў XVI ст., калі пад Белаю Руссю разумелі вольную і незалежную, то мелі на ўвазе не Белую Русь ва ўласным сэнсе, а Русь Паўночна-Усходнюю. Маскоўскую». Хіба магло тады пісацца інакш? Але вось жа дзіўна, што і ў 1940-ых гг. А. Салаўёў катэгарычна сцвярджаў: у XV стагоддзі тэрмін «Белая Русь» тычыўся Паўночна-Усходняй Русі і азначаў «вольную, вялікую і светлую» дзяржаву, а Літоўская Русь тады называлася «Чорнай», што разумелася як «падпарадкаваная, меншая» краіна...

Так, Мацей Стрыйкоўскі і сапраўды колькі разоў нібыта называе Масковію «Белаю Руссю», але куды часцей ён адназначна раздзяляе гэтыя паняцці («Масква і ўсе беларусцы», «маскоўскія і беларускія народы»). Больш таго, у адным месцы ён дакладна лакалізуе гэты тэрмін у межах уласнай Беларусі: распавядаючы пра пачатак унутранага змагання Свідрыгайлы з Жыгімонтам (па смерці Вітаўта), кажа, што першы пасадзіў гарнізоны ў Полацку, Смаленску і Кіеве, а на палях пазначае: Свідрыгайла авалодаў Белаю Руссю. Праўда, у іншых месцах «Кронікі» назва гэтая дастасоўваецца і да Валыні з Галіцыяй. Слушна адзначыў М. М. Улашчык. «Кронікай» Стрыйкоўскага лепей не карыстацца ў пошуках аўтэнтычных Белай і Чорнай Русі.

Есць жа нямала важкіх аргументаў, што разбураюць версію непрыналежнасці назвы «Белая Русь» да нашых земляў у познім сярэднявеччы. Узяць хоць бы найбольш спраўджаныя і даўно вядомыя. Ужо ў 1304 годзе Беларусь была названа сваім імем. У канцы таго ж стагоддзя польскі гісторык Ян Чарнкоўскі, апавядаючы пра месца зняволення Ягайлы, назваў Полацк «крэпасцю Русі». У 1413 г. вялікі

магістр Прусіі паведамляў чэшскаму каралю, што Вітаўт рыхтуецца да вайны, заключае пагадненні з суседзямі і што ім (нямецкім рыцарам) давядзецца ваяваць «mit den Weissen Russen» (з Белаю Руссю). Адназначна лакалізаваў Белую Русь у 1578 г. А. Гвагніні, які — няма сумнення — добра ведаў мясцовую геаграфію, бо служыў у Віцебску. Вось што ён пісаў: «А Русь ёсць траякая: адна Белая, другая Чорная, трэцяя Чырвоная. Белая каля Кіева, Мазыра, Мсціслава, Віцебска, Воршы, Полацка, Смаленска і зямлі Северскай, якая здаўна належыць Вялікаму княству Літоўскаму». Дарэчы, Маскоўскую дзяржаву ён тут называе Чорнаю Руссю. Прыкладна тым жа часам датаваны не менш каштоўны запіс у Густынскім летапісе: «Вестно есть всем, яко сии все... Москва, Белая Русь, Волынь, Подоля, Украйна, Подгоря... единокровны и единорастлны, ибо суть и ныне все общеединым именем Русь нарицаются». Як бачым, Масква тут — зусім не Белая Русь. Гістарычныя вобласці славянскага свету пералічваюцца тут з усходу на паўднёвы захад і пад «Белую Русь» трапляе прынамсі Беларускае Падняпроўе.

У 1620 г. рыжскі ратман Бенядзікт XI, запісваючы, адкуль прыехалі купцы, адзначаў Віцебск і Полацк як гарады «Weissreusland» (Беларусі). А гэта факт першаступеннага значэння. Калі ганзейскія купцы ў Рызе добра ведалі Беларусь як частку Вялікага княства, то хіба не магло гэта разысціся далёка па Заходняй Еўропе?

Недзе ў тыя ж гады магілёўскі біскуп па дакументах фігураваў ужо як «епіскап Белай Русі». У 1632 г. польскі гісторык Сымон Старавольскі, апісваючы Рэч Паспалітую, канстатаваў: «Чырвоная Русь... мяжуе з поўдня з Венгрыяй, Малдавіяй і Бесарабіяй, з усходу — са стэпамі Скіфіі і магутным царствам Масковіі, з поўначы — з Белай Руссю, якая ляжыць пры рэках Стыр і Прыпяць, з захаду — з Малою Польшчаю». Гэта, бадай, першы выпадак уключэння ў Беларусь заходняй часткі Беларускага Палесся.

Пачынаючы з 1648 г. віхура казацка-сялянскіх паўстанняў, падрыхтоўка да захопу беларускіх земляў і сама вайна 1654—1667 гг. прывяла да значнага пашырэння выкарыстання тэрміна «Белая Русь» і да немалой блытаніны. Скажам, у дакументах тых часоў трапляюцца звесткі пра нейкую «Белую Русь» нават на Украіне. Пры больш уважлівым іх аналізе высвятляецца, што гэта падначаленыя Б. Хмель-

ніцкаму вайсковыя аддзелы, сфарміраваныя, відавочна, з беларусаў. Так, рускі пасол РыгорУнкоўскі ў 1649 г. дакладваў гетману, што ён, «едучы па Запарожскай зямлі, праведваў Войска Запарожскае і ўсю Белую Русь, ці сапраўды хочуць яны быць пад высокаю рукой царскай вялікасці». У іншым месцы пісалася: «А якія людзі Запарожскага Войска і Белай Русі былі на Доне, і тыя з Дону да гетмана прыйшлі».

У ідэалагічным саперніцтве дыпламатыя Аляксея Міхайлавіча натуральна ж імкнулася скарыстаць розніцу палітоніма варожае дзяржавы («Літва») і этноніма «Белая Русь», які ўваходзіў у шырэйшы ўжытак, падспудна апелявала да «Беларускіх людзей, якія жывуць за (пад.— *Г. С.*) Літвою». Пры гэтым вось што істотна: царскія палітыкі разглядалі ўжо амаль усю этнаграфічную Беларусь у яе адзінстве. Захапіўшы Вільню ў 1655 г., Аляксей Міхайлавіч дапоўніў свой тытул словам «беларускі». А пасол германскага імператара Мейерберг, які быў у Маскве ў 1661 г., у сваім «Падарожжы ў Масковію» напісаў, што пад Белаю Руссю трэба разумець прасторы «паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіною з гарадамі Наваградкам, Менскам, Мсціславам, Смаленскам, Віцебскам і Полацкам і іх ваколіцамі». Няцяжка здагадацца, што ягонымі вуснамі гаварыў маскоўскі двор, аб чым, дарэчы, яскрава сведчыць ужо наступны запіс Мейерберга: «Усё гэта (названыя землі.— Г. С.) калісьці належала па праву Рускім, але ў выніку ваенных выпадкаў яны ўступілі шчасцю і харобрасці Палякаў і Літоўцаў». Гэткая падазроная дакладнасць і «шчодрасць» царскай стратэгіі ўжо, відаць, мусіла лічыцца прынамсі з рэальнай этнаграфічнай адметнасцю акрэсленай тэрыторыі, з існаваннем тут самастойнай народнасці.

Друкуецца па выданні: *Сагановіч Г.* Найменне Бацькаўшчыны // Літаратура і мастацтва. 1988. 23 верасня.

*Г. САГАНОВІЧ*

## «БЕЛАЯ РУСЬ» ПАВОДЛЕ ТАЦІШЧАВА

Можа хто спытае: «Дзе ж цяпер Беларусь?»
*Францішак Багушэвіч*

Адным з першых прафесійных даследчыкаў мінулага, што займаліся пытаннем паходжання і гісторыяй назвы Белая Русь, быў Васіль Мікітавіч Тацішчаў. Ён яшчэ ў 1740-ых гг. стварыў адмысловую канцэпцыю, якая жыве дасюль ды ўсё больш актыўна скарыстоўваецца ў публікацыях нашага часу. У некалькіх словах сутнасць гэтай версіі можна пераказаць так.

Першапачаткова Белая Русь была далёка-далёка ад нашай зямлі. Ажно за Масквою, дзе знаходзяцца гарады Растоў ды Суздаль. І называлі той край гэтак нібыта яшчэ да XII ст. Толькі праз не менш як чатыры — пяць стагоддзяў «Белая Русь», пабыўшы яшчэ назваю Маскоўскай дзяржавы, прывандравала да нас і дасталася цяперашняй Беларусі.

Што ж, можа было і такое. А можа і не...

### ПАД РАСТОВАМ І СУЗДАЛЕМ

Сапраўды, ужо ў І томе сваёй грунтоўнай «Истории Российской» В. М. Тацішчаў піша, што пад назваю «Белая Русь» старажытныя аўтары разумелі «Суздальский и Ростовский пределы», ды вось жа літоўцы, «хотя похитить титул великих князей Белоруских, абладав Смоленском, оное токмо за Белую Русь почли». Абвяргаючы гэты падман супрацiўнікаў, ён даводзіць: «древнейшие манускрипты, н. 1 и 2 везде, а н. 4 на многих местех всю сию страну, кроме Смоленска, Белая Русь имянуют...» Вось тут мы і вымушаны прыпыніцца: пераканацца, што ў тых найстаражытнейшых летапісах запісана менавіта гэтак,— нельга! Бо так званых «Растоўскага і Раскольніцкага манускрыптаў», дзе, па Тацішчаву, упершыню ўзгадваецца Белая Русь, не існуе. А ці былі яны ўвогуле?

У тэкстах «Истории Российской» назва Белая Русь фігуруе як самы звычайны, шырокавядомы тэрмін. Пры гэтым Та-

цішчаў не спасылаецца ані на якія іншыя крыніцы, апроч вышэй адзначаных. Бачна, што «Белаю Руссю» аўтар мэтанакіравана падмяняе назву Растова-Суздальскай зямлі. Паводле яго, дык Белая Русь была вядомай ужо ў XI ст.: пагадненні любечскага з'езда 1097 г. дапамаглі пераяслаўскаму князю Уладзіміру атрымаць «удзел отца его всю Белую Русь, Ростов, Смоленск и Суздаль». Юрый Даўгарукі таксама названы князем «Белай Русі». І сын ягоны Андрэй Багалюбскі быў паклiканы растоўцамі ды суздальцамі княжыць «на отчи столе во всей Белой Руси, в Ростове и Суздале». Цікава, што на старонках твора пры апісанні падзей гэтага часу зусім натуральна ўжываецца і назва «Малая Русь» (?).

Не знаходзячы дакладных спасылак, даследчык вымушаны аднесці ўсе гэтыя важныя паведамленні пра Белую Русь да катэгорыі так званых «тацішчаўскіх звестак» (звестак, якія не пацвярджаюцца крыніцамі). Ці можна лічыць іх праўдзівымі?

## ПАДСТАВЫ ДЛЯ СУМНІВУ

М. М. Карамзін, гэтаксама вялікі знаўца летапісаў, аўтар не менш знакамітай «Истории государства Российского», ідучы ледзь не па слядах В. М. Тацішчава, не знаходзіў прычын называць Растова-Суздальскую зямлю Белаю Руссю. Наадварот, ён шматкроць адзначаў: «Татищев везде называет область Ростовскую и Суздальскую Белою Русью: чего нет в летописях»; «Суздаль и Ростов никогда не назывались Белою Русью».

В. В. Ключэўскі, што праўда, адзін раз скарыстоўвае назву Белая Русь у дачыненні да Суздальскай зямлі. Аднак аўтар спасылаецца пры гэтым на Тацішчава. Затое С. М. Салаўёў у месцы, дзе гаворыць пра эпоху Старажытнай Русі, пад Белай Руссю разумее землі Падзвіння. Акадэмік А. А. Шахматаў пасля грунтоўнага аналізу летапісаў вызначаў, што Суздальская ды Растоўская зямля пачала называцца Руссю ўвогуле з 1238 г...

Бясспрэчна, да гэткага аўтарытэту, як «бацька рускай гісторыі», цяжка паставіцца зусім аб'ектыўна, цвяроза. Між тым ленінградскі вучоны С. Л. Пешціч зрабіў крытычны

аналіз «Истории Российской», дэталёва разглядзеў і параўнаў усе важнейшыя паведамленні Тацішчава ў розных рэдакцыях. І выявіў... месцы, што аніяк не належаць да старажытных летапісаў. Тацішчаў, у прыватнасці, па-свойму інтэрпрэтаваў так званыя паведамленні пра «дамову» з волжскімі баўгарамі 1006 г., сфальсіфікаваў падзеі 1113 г. у Кіеве. Да ўсяго аўтар анічым не аддзяляе ўласных меркаванняў ад летапісных запісаў. Таму карыстацца ягоным творам як даследаваннем можна толькі з вялікай асцярогай. Як падкрэсліў С. Л. Пешціч, такая інтэпрэтацыя гісторыі аніяк не адрозніваецца ад наўмыснай яе фальсіфікацыі (калі не з'яўляецца апошняй).

Ленінградскі гісторык не адзін у сваім крытычным стаўленні да Тацішчава. Яшчэ да рэвалюцыі П. М. Мілюкоў зусім не прызнаваў за «Историей Российской» права «называцца гісторыяй», а лічыў яе «летапісам у новым тацішчаўскім зводзе»; Б. І. Сырамятнікаў пісаў, што Тацішчаў тлумачыў усе падзеі вельмі прагматычна. Акадэмік З. С. Ліхачоў назваў «міфам» нават самую думку аб існаванні «асаблівых» крыніц тацішчаўскай «Истории Российской». Блізкія меркаванні выказвалі яшчэ некаторыя даследчыкі...

## У РАЗУМЕННІ ТАЦІШЧАВА

Кожны чалавек — дзіця свайго часу, свайго народу, свайго асяродка. Светапогляд і грамадска-палітычныя перакананні аўтара гістарычных твораў нібы адмысловая лінза карэлююць у ягонай перадачы ўсю мінуўшчыну.

Тэндэнцыйнасць В. М. Тацішчава вызначаў найперш ягоны шчыры манархізм. Гэта нельга пакідаць без увагі. Абвяшчаючы тэзіс «никакое сообсчество малое или великое без начальства и власти быть не может», ён старанна абгрунтоўваў яго гістарычнымі прыкладамі і, натуральна ж, меў на ўвазе канкрэтныя «начальство и власть» — расейскі абсалютызм. Рэабілітацыя дзейнасці князёў, гераізацыя мінулага сваёй дзяржавы і ўзвышэнне ўсяго расейскага — толькі некаторыя з ягоных прынцыпаў. Увогуле падпарадкаванне сапраўднай гісторыі вызначанай схеме было характэрнай рысай усёй дваранскай гістарыяграфіі. У Тацішчава ж гэта набліжалася да сярэднявечных ідэалагічных

канцэпцый. Усялякія супраціўныя крыніцы (у прыватнасці, польскія хронікі Длугаша, Кромера і інш.) для яго — «безстыдные лжи и басни».

Абгрунтоўваючы выключнасць і перавагі маскоўскага самаўладдзя, Тацішчаў даводзіць, што яно паходзіла непасрэдна ад царскіх скіфаў, якія «для их силы и преизясчества пред другими тако имянованы». Сутнасць ягонай версіі такая: царскія скіфы «всю Белую Русь» (у іншым варыянце «всю Белую Русь, ныне Московскую губернію» — *Г. С.*) наполняли и особых государей имели, к чему град Шуя вероятие подает, что в оном цари жили...» Далей усё па ланцужку: з Шуі іх рэзідэнцыя перанеслася ў Растоў, Юрый Даўгарукі перанёс яе ў Суздаль, Андрэй Багалюбскі — ва Уладзімір, а Іван III — у Маскву!

Назвы колераў «белы» і «чорны» ў тацішчаўскім ра́зуменні мелі перад усім палітычны змест. Аўтар піша, што ўсе сцяпныя народы па «рускай традыцыі» зваліся чорнымі «яко дикие и подлость». А вось жа рэзідэнцыя ўсходнерускіх князёў ад пачатку была на Белай Русі, бо «белы» — гэта выключны, важнейшы...

Цікава разважае Тацішчаў пра назву Маскоўскай дзяржавы XIV—XVI стст. «Последнее имя Московия, Москов, москали, також весьма недавно от поляк произнесенное, и от других за неведением было принято. Причина сему есть злость и зависть поляков». Маўляў, літоўскія князі ў цяжкі для Русі час захапілі яе вялізныя тэрыторыі і «сами князи руские, а по соединении с Польшою королями рускими писаться стали». Адсюль, выходзіць, усе спрэчкі. Захопнікі, у разуменні Тацішчава, жадаючы «то свое насилие утвердить, а славу рускую и честь государей умалить», не хацелі вяртаць рускім князям старажытнага тытула ды прыніжалі іх: «московскими имяновали». На самай жа справе гэтую назву, сцвярджае Тацішчаў, «ни государи, ни народ обсче никогда... не употребляли». Хіба ж не ведаў аўтар, што гэта пярэчыць фактам?

## РАЗВІТВАЦЦА З КАНОНАМІ

Дык ці мог В. М. Тацішчаў выдумляць гісторыю, наўмысна «перасяляць» Белую Русь пад Растоў ды Суздаль? Ён жа быў сапраўды стаўпом гістарычнай навукі свайго часу, энцы-

клапедыстам, «бацькам»! Усё так, вялікае культурнае значэнне ягонай працы бясспрэчнае. Але, між тым... Тацішчаў асабіста назіраў за расправай над кіраўнікамі башкірскага паўстання 1737—1739 гг. Ён асабіста напісаў загад: «Татарына Тайгільду за тое, што ён, прымаючы хрышчэнне, ізноў прыняў магаметанскі закон, на страх іншым, пры сходзе ўсіх ахрышчаных спаліць, а жонак і дзяцей ягоных выслаць у расейскія гарады». Тацішчаў аддана служыў сваёй дзяржаве...

А XVIII стагоддзе — век містыфікацый. У гэты час фальсіфікаваліся нават гістарычныя дакументы і цэлыя творы! Пісалі ж тады, што кнігадрукаванне ў Маскоўскай дзяржаве пачалося ў 1440 г., як і ў Нямеччыне...

Такім чынам, кананізаваць «Историю Российскую» сапраўды не выпадае. І пошукі вытокаў «Белай Русі» працягваць трэба, думаю, з улікам прыведзеных фактаў.

Друкуецца па выданні: *Сагановіч Г.* «Белая Русь» паводле Тацішчава. Чырвоная змена. 1989. 22 красавіка.

*С. САНЬКО, Х. КАШКУРЭВІЧ*

## ЗАГАДКАВАЯ КРАІНА АРТАНІЯ

Паведамленні пра тры цэнтры Русі пачынаюць з'яўляцца ў мусульманскай геаграфічнай літаратуры з X ст. Пра іх пісалі арабскія аўтары Аль-Балхі, Аль-Істахры, Ібн-Хаўкаль і персідскі анонім X ст., аўтар «Кнігі межаў свету ад усходу да захаду». Тэкстуальныя супадзенні ў творах адзначаных аўтараў дазваляюць лічыць, што ўсе яны карысталіся адной крыніцай, якая да нашых дзён не дайшла, а складзеная была ў IX, а то і ў VIII стст.

Вось што пісаў, да прыкладу, Аль-Балхі каля 920 г. н. э. «Русы складаюцца з трох пляменаў, з якіх адное бліжэй да Булгара, а цар ягоны жыве ў горадзе з назвай Куяба, які большы за Булгар. Другое племя — далей першага, гукаецца Славія. Яшчэ племя завецца Артаніяй, а цар ягоны жыве ў Арце. Людзі выпраўляюцца гандляваць у Куябу; а што тычыцца Арты, то мы не прыгадваем, каб хтосьці з іншаземцаў тамака вандраваў, бо яны забіваюць кожнага іншаземца, які падарожнічае па іхнай зямлі. Яны адно выпраўляюцца па вадзе і вядуць гандаль, але нічога не распавядаюць

пра свае справы і тавары і нікому не дазваляюць правесці іх і трапіць у іхную краіну. З Арты вывозяць чорных сабалёў і свінец». Аль-Істахры ўдакладняе, што «артанцы» для гандлю «спускаюцца па вадзе». Ібн-Хаўкаль дадае, што Славія знаходзіцца «вышэй» за Куябу, што артанцы для гандлю «спускаюцца па вадзе» ў Куябу і што з Арты, апроч чорных сабалёў і свінцу, вывозяць таксама «чорных лісіц». А персідскі анонім нечакана сцвярджае, што з Арты (Уртаба) вывозяцца вельмі каштоўныя мячы, «якія можна згінаць удвая і якія, калі адпусціць руку, вяртаюцца да былой формы».

Гэта, бадай што, і ўсе звесткі пра тры цэнтры Русі. Звесткі дужа цьмяныя, каб можна было рабіць нейкія адназначныя высновы. На сёння большасць даследчыкаў згаджаюцца з меркаваннем, што пад Куябай і Славіяй трэба разумець Кіеў вобласць Ільменскіх Славенаў. А вось што датычыць Артаніі, тут што ні аўтар — то новая гіпотэза. Арту шукалі на вялізных абшарах ад Скандынавіі (прыхільнікі так званай «нарманскай» тэорыі) да Таманскага паўвострава (прыхільнікі паўднёвага паходжання «русаў»). Ды толькі адное месца ўпарта абыходзілі даследчыкі ўвагай, менавіта тэрыторыю этнічнай Беларусі і, перадусім, тэрыторыю, на якую ў той час існаваў адзін з буйнейшых плямённых саюзаў — саюз Крывічоў. Паводле летапісных звестак, апошнія жылі ў вярхоўях трох буйнейшых еўрапейскіх рэк: Заходняй Дзвіны, Дняпра і Волгі. Натуральна, займаючы такую важную ў стратэгічных адносінах тэрыторыю, здавён уключаную ў працэсы гандлёвых стасункаў паміж Захадам і Поўначчу, з аднаго боку, і Усходам і Поўднем, з другога, Крыўскі саюз не мог заставацца ўбаку ад інтэнсіўных грамадскіх працэсаў, якія адбываліся ў тагачаснай айкумене: працэсаў феадалізацыі і ўтварэння феадальных дзяржаў.

Сама сабою нараджаецца думка: а ці не гэтыя землі мелі на ўвазе мусульманскія географы, апісваючы загадкавую ўжо для іх Артанію? Паспрабуйма праверыць гэтую гіпотэзу.

## КРЫЎСКАЯ АРТАНІЯ

Паводле паведамленняў арабскіх аўтараў, бліжэйшым да Усходу і добра вядомым усходнім купцам быў горад Куяба. Пра яго гаворыцца, што ён знаходзіцца бліжэй да Булгара, што гэты горад буйнейшы за Булгар і што ўсходнія купцы едуць гандляваць менавіта ў Куябу. Сапраўды, археалагічныя і нумізматычныя матэрыялы сведчаць за тое, што гандлёвыя шляхі з Усходу праз Волгу, Дон, Чорнае мора і Дняпро да Кіева былі пракладзеныя ўжо даволі даўно.

Указанне, што «купцы прыбываюць у Куябу», сведчыць, на нашу думку, што менавіта старажытны Кіеў з'яўляўся своеасаблівым пунктам адліку ў апісаннях арабскіх географаў земляў Славян і Русі (а не Волжскі Булгар, як лічылі некаторыя даследчыкі; што, зрэшты, не пацвярджаецца тэкстуальна). Таму мы павінны паглядзець на тагачасны руса-славянскі свет вачыма ўсходняга падарожніка, які з гандлёвым караванам апынуўся ў Куябе-Кіеве. Аднак само па сабе гэта яшчэ не здымае праблем з лакалізацыяй двух другіх цэнтраў Русі — Славіі і Арты. Праблемы ўскладняюцца наяўнасцю пэўнай дваістасці ў размяшчэнні рознаэтнічных краін у Цэнтральнай і Усходняй Еўропах IX—X стст.

Сапраўды, у час, які нас цікавіць, існавалі дзве Славіі — Дунайская і Ільменская, дзве Куябы — на Дняпры і ў Польшчы, два Булгара — Волжска-Камскі і Дунайскі, а таксама яшчэ адна Русія (Ругія, Ранія) на востраве Руген у Балтыйскім моры. Здавалася б, магчымая наступная лакалізацыя трох цэнтраў: Куяба адпавядае Куявіі (гістарычнай вобласці ў Польшчы). Славія — польскім землям на поўначы паміж Куявіяй і Балтыйскім морам, Артанія — востраў «русаў» Руген. Аднак супраць гэтай гіпотэзы можна прывесці наступныя меркаванні. Па-першае, ніколі гэты агромністы цэнтральна-еўрапейскі рэгіён у цэлым не называўся Руссю, за выключэннем дзяржавы на востраве Руген. І, па-другое, каб трапіць з Ругена-Арты ў Куябу-Куявію, трэба было не «спускацца па вадзе (па рацэ)», як сведчаць мусульманскія географы, а, наадварот, плысці цераз Орду ў вярхоўі Варты. Таму гэткая версія нам падаецца непраўдападобнай.

Мы будзем лічыць, што Куяба гэта Кіеў. Тады словы «далей» і «вышэй» за яго проста ўказваюць на поўнач, на землі Ільменскіх Славенаў, а ўдакладненне «вышэй» выклю-

чае з разгляду ўвесь Прыдунайскі рэгіён. Што гутарка тут сапраўды ідзе пра вобласць Ільменскіх Славенаў, можа сведчыць і амаль поўная адсутнасць якіхсьці больш дэталёвых звестак аб ёй (вытлумачаецца гэта вялікай адлегласцю паміж Славіяй і Куябай).

Наогул, утвараецца пэўная іерархія звестак аб трох цэнтрах Русі. Куяба фігуруе як горад добра вядомы любому ўсходняму падарожніку і таму размяшчэнне яго не ўдакладняецца, а звесткі аб ім падаюцца ў іншых месцах безадносна Арты і Славіі. Славія, фактычна, толькі называецца. Усё, што мы даведваемся пра яе, заключаецца ў словах «далей» і «вышэй». Праўда, Ібн-Хаўкаль нешта паведаміў пра цара Славіі (ці то ягонае імя, ці то назву сталіцы Славіі), але гэтае месца ў рукапісе пашкоджанае і прачытаць яго немагчыма.

Арта ў гэтай іерархіі звестак займае відавочнае сярэдзіннае становішча. Яна досыць загадкавая для купцоў і вандроўнікаў, але ў той жа час злучаная з Усходам (праз Куябу) эканамічнымі сувязямі: з яе на Усход вывозілася дарагая пушніна, якая высока цанілася ўсходнімі манархамі. Дарэчы, асаблівасці пушнога экспарту Артаніі дадаткова сведчаць за яе паўночнае размяшчэнне, бо лісіцы з чорным футрам звычайна паляваліся менавіта на поўначы. Прынамсі, для еўрапейскіх лесастэпаў (ці, у нашых тэрмінах, для Куябы) яны былі рэдкасцю.

Што датычыць экспарту свінцу (альбо волава), то гэтыя рэчывы наўрад ці былі прадметамі гандлю саміх артанцаў, бо ва ўсім паўночна-заходнім рэгіёне няма прамысловых радовішчаў ні таго, ні другога. Але, як сведчаць матэрыялы археалагічных раскопак, свінец у Крывію прывозіўся з радовішчаў Польшчы, Венгрыі, Англіі, магчыма, Скандынавіі і ўжо праз яе мог трапляць далей на Усход. Тое ж самае можна сказаць адносна «цудоўных» мячоў, якія траплялі ў Арту-Крывію з Заходняй Еўропы і таксама маглі быць прадметамі экспарту на Усход.

Узаемнае размяшчэнне Арты-Крывіі і Кіева-Куябы добра стасуецца з паведамленнямі пра тое, што жыхары Артаніі дзеля гандлю «спускаюцца па вадзе» ў Куябу. Сапраўды, гэтыя дзве вобласці злучаюцца выключна зручным транспартным шляхам — Дняпром, які здавён скарыстоўваўся ў якасці адрэзку славутага гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі».

Пра сталыя гандлёвыя сувязі Паўночнага Захаду Усходняй Еўропы пісаў у сярэдзіне X ст. візантыйскі гісторык Канстанцін Барвянародны: «Даннікі іх (Кіеўскіх Русаў) славяне, якіх гукаюць крыветэінамі і лензанінамі, і іншыя славяне выrабляюць чаўны ў сваіх гарах зімою і... з адкрыццём сезона, як растане лёд, уводзяць (іх) у бліжэйшае возера. Затым, паколькі вазёры злучаюцца з Дняпром, то адтуль яны і самі ўваходзяць у гэтую раку, прыходзяць у Кіеў, выцягваюць чаўны на бераг... І прадаюць русам». Нельга не заўважыць пэўнай супярэчнасці ў гэтым паведамленні, якая неахвотна заўважаецца гісторыкамі, а менавіта тое, што «даннікі» русаў прыязджаюць у Кіеў і там прадаюць свае чаўны і, магчыма, тое, што ў іх прывозілася. Ці не йдзе тут гаворка пра звычайныя гандлёвыя падаткі за права гандляваць у Кіеве альбо правозіць тавары праз ягоныя землі? Гэта вельмі праўдападобна. Тым болей, што мусульманскія аўтары ніколі не адзначалі падначаленасці Славіі альбо Арты Куябе.

Нарэшце, трэба адзначыць яшчэ адзін вельмі істотны для нашай гіпотэзы довад — нумізматычны. Справа ў тым, што выгоднае геаграфічнае становішча крывіцкіх земляў на скрыжаваннях гандлёвых шляхоў павінна было прыводзіць да значнага асядання ў іх тагачаснай міжнароднай валюты — арабскіх дырхемаў. І сапраўды, тапаграфія скарбаў гэтых манет даволі характэрная. Прыкладам, за апошнія 150 год у адной толькі былой Полацкай зямлі было знойдзена каля сарака скарбаў манет IX—XI стст., буйныя скарбы былі знойдзеныя каля Лукомля, Оршы, Гараўлянаў, Полацка, Смаленска, у Вялікіх Луках і г. д. А полацкі скарб, знойдзены ў 1972 г. школьнікамі ля вёскі Каз'янкі, наогул, быў названы «падзеяй веку ў нумізматыцы». Ён утрымліваў каля 7500 куфічных дырхем агульнай вагою каля 20 кг. Зусім натуральна, што гэтакае засяроджванне срэбра стварала спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення дзяржаўнасці на гэтых землях. Напэўна, ужо ў сярэдзіне X ст. Рагвалод мог мець уласнае самастойнае (незалежнае ад Кіева) княжэнне ў Полацкай зямлі. Ёсць падставы лічыць, што гэткія ж працэсы мелі месца і ў тагачасным Смаленску.

Такім чынам, лакалізацыя легендарнай Артаніі недзе ў Крывіі альбо ў яе нейкай частцы выглядае, прынамсі, праўдападобна. Але пакуль застаецца загадкай іншае: чаму гэтыя

землі атрымалі ў вуснах арабаў назву Артанія, якая так кантрастуе з вядомымі з іншых крыніц Куябай і Славіяй? Пытанне гэта няпростае і ўсе адказы на яго з неабходнасцю могуць быць гіпатэтычнымі.

## БЕЛАЯ РУСЬ X СТАГОДДЗЯ

Перадусім адзначым, што слова «Арта» — гэта толькі адзін з варыянтаў прачытання адпаведнага слова ў арабскіх крыніцах. Другі прыняты варыянт прачытання дае назву «Арса». Справа ў тым, што ў арабскім арыгінале стаіць літара, якая перадае гук, падобны на англійскае міжзубнае «TH», якога няма ў мовах славянскіх. Менавіта гэтая двалістасць транскрыпцыі паклікала да жыцця даволі папулярную гіпотэзу аб тоеснасці Арсы-Арты з Разанню. Прыхільнікі гэтай гіпотэзы звязваюць назву Разань са славянізаванаю назваю аднаго з мардоўскіх плямёнаў — Эрзя. Але гэта, бадай, адзіны пераканаўчы довад у гэтай гіпотэзе. Усе іншыя грунтуюцца на даволі штучных прыпушчэннях, якія слаба стасуюцца са звесткамі мусульманскіх географаў. Ніжэй мы яшчэ скажам пра гэта некалькі слоў, а зараз паспрабуйма даць сваю інтэрпрэтацыю гэтага слова.

Бясплённасць этымалагізацыі слова «арса» ці «арта» з арабскіх моў схіляе да меркавання, што гэтае слова магло застацца ў спадчыну арабскім купцам ад нейкіх іранамоўных купцоў (персаў, харэзмійцаў ды інш.), якія маглі карыстацца Балтыйска-Волжскім гандлёвым шляхам задоўга да арабаў. За гэтае сведчыць, па-першае, узгадванне ў кітайскай хроніцы «Паўночных двароў» VII ст. сярод прадметаў экспарту з Харэзму бурштыну, які мог трапляць туды толькі з Балтыкі, і, па-другое, здавальняючае вытлумачэнне слова «арса» менавіта з іранскіх моў.

Напрыклад, асецінскае слова «орс», што значыць «белы», «светлы», амаль дакладна па форме адпавядае слову «арса». Да гэтага варта дадаць таксама стараперсідскае «аўруш» з тым жа значэннем, новаперсідскае «эрзіз» са значэннем «волава», г. зн. «белы, светлы метал» (параўнай лацінскае «аргентум», старагрэцкае «аргюрос» са значэннямі «срэбра, белы, зіхацісты метал», лацінскае «аўрум» — «золата» аднакарэннае з «аўрора» — «світанак» і г. д.). Дарэчы,

узгаданае вышэй найменне аднаго з мардоўскіх плямёнаў — эрзя — таксама можа вытлумачацца як «белая» мардва з іранскіх моў, тым больш што і самы этнонім «мардва» шмат даследчыкаў выводзіць з іранскіх моў са значэннямі альбо «смяротны» чалавек, альбо «тыя, што ядуць мерцвякоў», збліжаючы, такім чынам, слова «мардва» з герадотаўскім «андрафагі», што значыць «людаеды». Сапраўды, пачатковы рускі летапіс узгадвае нейкіх «белых уграў» у VII ст.

Наогул, мы маем справу з нейкай глыбокай і старажытнай традыцыяй, карані якой нам пакуль незразумелыя, а менавіта традыцыяй называць народы (часта суседнія) «белымі». Вось толькі некаторыя прыклады для Усходняй Еўропы. Аорсы — іранамоўны народ, роднасны скіфам, які разам са скіфамі і сарматамі меў дачыненне да этнагенезу асецінаў. Этнонім «аорс» добра вытлумачаецца з асецінскай мовы словам «орс» — «белы, светлы». Яны ж пазней фігуруюць пад назвай «аланы», што можна вытлумачаць з агульнаіндаеўрапейскага «ал» — «белы, светлы, зіхацісты, бліскучы» (у сучаснай рускай мове гэты корань захаваўся ў слове «алый» для выражэння адцення чырвонага колеру).

У гэты шэраг можна дадаць этнонім «фіны» (саманазва «суомі»), які быў ужыты антычнымі географамі Пталемеем і Тацытам у II ст. У сучаснай венгерскай мове слова «фены» азначае «святло, ззянне» і з'яўляецца дакладнай паралеллю да старагрэцкага слова «фанос», што значыць «ясны, светлы, зіхацісты». Цікава, што, у сваю чаргу, фінскае слова «рус» азначае «белы, светлы». Гэтаксама «белыя» азначае этнонім «балты» (літоўскае «балтас» — «белы»). Гэткія прыклады можна было б множыць і множыць.

Але хацелася б звярнуць увагу на тое, што назва «Белая Русь» гістарычна звязвалася фактычна толькі з былымі землямі крывічоў. На гэтую назву прэтэндавалі Маскоўскае княства, Смаленскае княства і Полацкія землі, дзе яна ў рэшце рэшт і замацавалася. У сувязі з гэтым характэрная статыстыка гідронімаў з коранем «бел-» на Беларусі. З 46 гідронімаў з гэтым коранем, пададзеных у папулярнай энцыклапедыі «Природа Белоруссии», 30 назваў адносяцца да Віцебскай вобласці. А ў Верхнім Падняпроўі, па даных В. Н. Тапарова і А. Н. Трубачова, гэткіх гідронімах ужо некалькі соцень. Такая ж статыстыка і для гідронімаў з коранем «чорн-». Чым вытлумачаецца такая сімпатыя нашых

продкаў да гэтых колераў, вытлумачыць нялёгка. Гэта — тэма для асобнай гутаркі. Тут мы яго канстатуем проста як факт.

## ДЗЕ ШУКАЦЬ АРСУ?

Нам засталося закрануць яшчэ адно пытанне, якое можа праліць святло на ўсю праблему, пытанне: а ці існавала, наогул, Арса як нейкі цэнтр крывіцкіх земляў? Рускія летапісы не даюць нам аніякіх звестак пра яе. А ў якасці буйных крыўскіх гарадоў называюць Полацк, Смаленск, Ізборск. Зусім верагодна, што пад назваю Арса хаваецца адзін з гэтых гарадоў.

Але магло стацца і так, што арабскія географы палічылі за «царскі» горад зусім не цэнтр якогасьці княства, а проста нейкі гандлёвы цэнтр, які мог месціцца на скрыжаваннях гандлёвых шляхоў. Паводле апісанняў, гэты цэнтр, верагодна, знаходзіўся недзе ў басейне Дняпра і меў (мог мець) назву, падобную па гучанню на слова «арса». Указаным патрабаваннем адпавядае бадай што адзіны горад, які ў летапісах фігуруе пад назвай Рша, а цяпер мае назву Орша. За тое, што «Арса» можа перадаваць старажытнае «Рша», сведчаць наступныя назіранні.

Звернем увагу на тое, што арабскія і персідскія аўтары па-рознаму перадаюць назву гэтага горада: арабы як «А-рса», персы як «У-ртаб». Гэткае розначытанне наводзіць на думку, што «а» і «у» ў гэтых словах маюць так званы пратэтычны (прыстаўны) характар і з'явіліся з таго, што ні арабская, ні персідская мовы не дазваляюць збегу зычных у пачатку слова, падстаноўка нейкай галоснай тут абавязковая, неабавязковая толькі самая канкрэтная галосная. Затым і з'яўляюцца тут у якасці варыянтаў і «а» і «у».

Нашы падазрэнні адносна лакалізацыі Арсы-Арты недзе на рацэ Рша (сучасная Аршыца) узмацняюцца з улікам мажлівасці звязаць гэтыя гідронім і тапонім са словам «белы, светлы». Прынамсі, такую гіпотэзу прапанаваў у 1960 г. Я. Атрэмбскі, які звязаў назву Рша са словам «рось» у значэнні «белы, светлы».

Праўда, археалагічныя раскопкі ў Воршы не даюць падстаў лічыць, што сучасная Орша і была тою загадкавай

Арсаю. Але горад мог быць перанесены ў пачатку XI ст. бліжэй да буйной воднай магістралі, а раней ён мог знаходзіцца недзе на рацэ Ршэ (Аршыце), на адным з водных шляхоў, які злучае Дняпро і Заходнюю Дзвіну, напрыклад, ля вёскі Лучосы (недзе паміж вярхоўямі Аршыцы і Лучосы), дзе былі знойдзены 4 скарбы дырхемаў VIII—IX стст. агульнай вагою 2,5 пуда, альбо ля вёскі Чаркасава, дзе знойдзены рэшткі старажытнага ўмацаванага паселішча. Магчыма, мы памыляемся і Арсу трэба шукаць у нейкім іншым месцы. Тут апошняе слова, натуральна, за археолагамі.

Усё, што нам хацелася тут зрабіць,— гэта прыцягнуць увагу да вельмі цікавай праблемы, якая, магчыма, мае дачыненне да гісторыі нашай Бацькаўшчыны і яе назвы Беларусь.

Друкуецца па выданні: *Санько С., Кашкурэвіч Х.* Загадкавая краіна Артанія // Чырвоная змена. 1989. 22 красавіка.

*У. ІГНАТОЎСКІ*

## КАРОТКІ НАРЫС ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ[1]

### першы перыяд Беларускай гісторыі (IX—XIII стст.)

Гісторыю старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве пісаць вельмі цяжка. Перш-наперш таму, што розныя пісьмовыя крыніцы часта пярэчаць адна другой. Тым не менш можна лічыць, што аб'яднанне ўсходнеславянскіх земляў вакол Кіева было пачата пры Алегу (882—912 гг.). Яго людзі сядзелі ў Смаленску. Ці залежаў ад Кіева Полацк, сказаць цяжка. Ва ўсякім разе можна лічыць, што ён быў саюзнікам Кіева. Радзімічы, якія раней плацілі даніну хазарам, сталі плаціць яе Алегу. Не будзе памылковым сцвярджэнне, што і дрыгвічы плацілі даніну кіеўскаму князю.

У. Ігнатоўскі піша, што пры Ігары (912—945 гг.), Вользе (945—964 гг.) і Святаславе (964—972 гг.) залежнасць Полацка ад Кіева паступова падае. Ігар і Святаслаў былі занятыя войнамі з Візантыяй і качэўнікамі. Святаслаў наогул хацеў перанесці сталіцу з Кіева ў Балгарыю. У гэты час Полацк, верагодна, і ўмацоўвае свае пазіцыі на зямлі дрыгвічоў. Есць звесткі пра тое, што заснавальнік горада

[1] Падрыхтоўка тэксту і каментарыі Анатоля Сідарэвіча.

Турава — легендарны князь Тур — быў адным з ваяводаў у полацкага князя Рагвалода. Але звестак пра тое, што Тураўская зямля належала Полацку, няма. Вядома таксама, што Рагвалод у канцы свайго княжэння меў прэтэнзіі на ноўгарадскія землі, што і было адной з прычын канфлікту паміж ім і Уладзімірам Святаслававічам, які быў у той час князем у Ноўгарадзе. Не выключана таксама, што Полацк імкнуўся ў той час пашырыць свой уплыў і на балцкія землі.

Нанова фарміраваць «імперыю Рурыкавічаў» пачаў Уладзімір Святаслвіч Чырвонае Сонейка (980—1015 гг.). У прыватнасці, у 980 годзе ён сілаю далучыў да Кіева Полацк, у 983 годзе хадзіў на яцвягаў і падпарадкаваў заходнія землі цяперашняй Беларусі; у 984 годзе кіеўскі ваявода Воўчы Хвост зламаў супраціўленне радзімічаў.

## СТАРАЖЫТНЫЯ НАСЕЛЬНІКІ БЕЛАРУСІ

Каля часоў IX стагоддзя землі, занятыя ўсходнімі, рускімі славянамі, дзяліліся паводле рачных сістэм і гандлёвых цэнтраў на чатыры тэрыторыі. На поўначы, сярод азёр, балот і лясоў, цэнтруючыся вакол Ільмена, лягла зямля ноўгародскіх славян. Далёка на ўсход цягнуліся гэтыя землі, даходзячы аж да Уральскіх гор. Кіраваў імі «господин Великий Новгород». Пад усходнімі землямі Ноўгарада, паміж Волгаю і Акою, ляглі землі, што цягнуліся ад Растова Вялікага і да Суздаля. Значную ролю будуць мець гэтыя землі толькі з пачатку XIII стагоддзя. На поўдні, па сярэднім і ніжнім Дняпры, уваходзячы аж у стэпы, легла Дняпроўская Русь, сцэнтраваная вакол багатага Кіева. Гісторыя гэтае зямлі нам добра вядома з агульных курсаў расійскай гісторыі... Паміж заходнімі ноўгарадскімі і кіеўскімі землямі, па верхняй Заходняй Дзвіне і Верхнім Дняпры з Прыпяццю, Бярэзінаю і Сожам леглі землі будучай Беларусі, якія цэнтраваліся вакол горада Полацка. Гэта ёсць так званая Полацкая Русь.

Насельнікамі вышэйпаказанай тэрыторыі (Полацкай) былі тры ўсходнеславянскія, рускія плямёны: крывічы, дрыгвічы і радзімічы. Сярод крывічоў і дрыгвічоў жылі яшчэ літвіны, напрыклад яцвягі.

Найвялікшым племем былі крывічы, якія жылі на вышнявінах рэк — Заходняй Дзвіны, Дняпра і Ловаці. (...) Дрыгвічы рассяляліся паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіною.

Сярэдзіна рассялення дрыгвічоў супадае з нашай Меншчынай. Яны жылі пасярод лясоў і балот, дзе шмат было багнін, інакш кажучы дрыгвы. Адсюль і пайшло іх імя. Пасля іх толькі ў Меншчыне засталося больш як 30 тысяч курганоў-магільнікаў. Радзімічы былі невялікім племем і жылі на абодвух берагах Сожа. Яны прыйшлі сюды пазней ад крывічоў і дрыгвічоў з ляшскай (польскай) стараны. Летапіс гаворыць аб іх так: «Бяста бо два брата в Лясех: Радим, а другой Вятко, и пришедша седоста Радим на Соже, и прозвашася Радимичи, Вятко седе с родом своим по Оце, от него ж прозвашася Вятичи».

(...) З раскопак мы бачым, што плямёны будучага беларускага народа, нягледзячы на блізкасць па крыві і суседства, мелі не зусім сходныя звычаі. Так, напрыклад, кожнае з іх паводле ўласнага звычаю хавала нябожчыкаў. Крывічы палілі труп, попел збіралі ў пасудзіну, якую потым пакрывалі насыпам. Вакол насыпу капалі раўчак, а курган абводзілі стужкай з каменю. Дрыгвічы клалі сваіх нябожчыкаў на зямлі і насыпалі над імі курганы. Радзімічы да X стагоддзя сваіх нябожчыкаў палілі, а пасля гэтага часу клалі нябожчыка на ложак, пасыпаны попелам, і над ім рабілі наспу. Уклад хаўтурны крывіцкі быў найскладанейшы: гэта гаворыць аб тым, што і культура іх павінна была быць вышэйшаю.

Па тых рэчах, што знаходзяцца ў курганах, ясна, што дзяды нашы не сквапныя былі да вайны, ім больш падабалася мірная праца: земляробства, звералоўства і гандаль. Яны ўмелі ўжо ткаць на кроснах, ведалі бандарную і ганчарную справу. Былі сярод іх людзі заможныя, якія любілі хораша прыбрацца. На шыі яны насілі маністы з шкляных пацерак, часам бронзавых і срэбных з разнаітымі падвескамі, добра апрацаванымі. Відаць, што пацеркі, вельмі штучна зробленыя, дзесь купляліся (...). Прафесар Завітневіч аб курганавых рэчах гаворыць так: «Курганные предметы Полесья по своему материалу ценнее, а по форме разнообразнее, затейливее, а иногда изящнее нынешних». І няма тут ніякага дзіва. Нашу бацькаўшчыну багаціў вялікі водны шлях з Варагаў у Візантыю, па якім ішоў сусветны гандаль таго часу. У гэтым гандлі працавалі і мелі немалы заробак і нашы прародзічы. Цікава тое, што некаторыя рэчы, якія ўжываліся тады, ужываюцца і цяпер беларусамі іншага часу. Жыхар курганавага Палесся меў звычай падпя-

рэзвацца раменным паскам з скураным кашэлікам, у якім ён хаваў крэсіва, крамень, губку і ножык. Наш беларус некаторых паветаў Горадзеншчыны, Магілёўшчыны і Меншчыны таксама носіць пры сабе ў кашэліку на раменным паску тыя самыя рэчы; толькі ён дадаў да іх, як чалавек нашае культуры, яшчэ тытунь і люльку. (...)

## ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНЫ ЛАД

З сярэдзіны IX стагоддзя сярод усіх усходніх славян пачынаецца дзяржаўна-грамадская арганізацыя. Плямёны крывічоў, дрыгвічоў і радзімічаў ідуць па тым жа гістарычным шляху. Будуецца гаспадарства[1] і тут. Яшчэ да заклікання вядомых нам князёў-варагаў (862 г.) пачалі тут складвацца валасці-княствы. Вёскі валасцей цягнуліся, як да цэнтру, да бліжэйшага горада. Чым большы і багацейшы быў горад, тым большую тэрыторыю вясковую канцэнтраваў ён вакол сябе. Зразумела, што валасці былі розныя паводле абшараў сваіх тэрыторый. Найвялікшымі паміж імі лічыліся: Полацкая, Смаленская[2] і Тураўская. У летапісе, апроч іх, успамінаюцца яшчэ і іншыя валасці з меншай тэрыторыяй, напрыклад: Віцебская, Аршанская, Друцкая, Мсціслаўслая, Ізяслаўская, Слуцкая, Наваградская, Нясвіжская, Менская, Пінская, Мазырская, Свіслацкая і іншыя.

Кожная валасць кіравалася з боку ўстаноўча-заканадаўчага — вечам, а з боку выканаўчага — князем і яго дружынаю. Адкуль і як ўзяліся князі ў Полацкай Русі? Магчыма думаць, што ўлада князя ў розных мясцінах вынікала з розных крыніц. Часам князь быў адным з роданачальнікаў[3] племя. Энергія і здольнасці, асабліва ў ваяўніцкіх справах, выстаўлялі яго наперад з агульнай масы старшынь.

---

[1] Слова «гаспадарства» (дзяржава) ідзе ад тытула «гаспадар», які належаў вялікаму князю літоўскаму. Параўнай: государь — государство.

[2] Смаленская зямля была заселена крывічамі. Як вынікае з аднаго летапісу, Смаленск знаходзіўся ў Полацкай валасці, г. зн. напачатку быў падпарадкаваны Полацку.

[3] Роданачальнік — тое ж, што і старэйшына роду. Некалькі родаў складалі племя.

У некаторых мясцінах, дзе жыццё было спакайнейшае, ён станавіўся першым проста на аснове родавага старшынства па гадах. Князі, што выйшлі з роданачальнікаў, былі, такім чынам, элементам мясцовым. Апроч гэтых князёў мясцовай фармацыі у Полацкай Русі, як і ў Кіеўскай, былі князі прышлыя. Яны вербаваліся з тых нармана-варажскіх элементаў, якія часта праходзілі праз Русь з поўначы на поўдзень і часта асядалі ў гарадах. Як вербаваўся ў князі гэты прышлы элемент, можна бачыць, напрыклад, з летапіснага падання аб запрашэнні князёў-варагаў Рурыка, Сінявуса і Трувора. Маглі быць выпадкі, калі варагі бралі на сябе ўладу і без запрашэння, проста сілаю зброі. У Полацкую Русь варагі траплялі як з поўначы, так і з захаду, ідучы сюды з дружынамі па Заходняй Дзвіне. Уласныя князі, як ужо было сказана вышэй, мелі выканаўчую ўладу ў сваёй воласці. Найчасцей ім прыходзілася весці ваяўніцкую працу: яны баранілі тэрыторыю воласці і яе маёмасць ад ворага і рабілі з сваёй дружынаю паходы на суседнія варожыя воласці і на чужаземныя краі. Апроч таго, князь з дружынаю рабіў адміністрацыйную работу, чыніў суд і расправу і павінен быў пільнаваць гандлёвыя шляхі й караваны, якія ішлі праз яго воласць.

Заканадаўчая ўлада ў воласці належала вечу, або народнаму сходу. Веча збіралася ў найгалоўнейшым горадзе воласці-княства. Веча запрашала князя, гадзілася з ім; калі князь парушаў пастаўленыя яму ўмовы, яно «показывало князю путь», іначай кажучы, адбірала ў яго княжую ўладу. Веча выдавала ўсялякія пастановы для насельнікаў воласці, абірала ўраднікаў[1] на патрэбныя пасады. Веча абвяшчала войны і рабіла згоду з суседзямі. Улада веча шырылася не толькі на горад, але й на ўсю воласць, якая цэнтравалася вакол горада і вёскі, якія параскіданы па ўсім княстве. Пры гэтым меншыя ў воласці гарады лічыліся прыгарадамі галоўнага горада. Кіеўскі летапісец так гаворыць аб уладзе веча: «Новгородци изначала, и смольняне, и кияне, и полочане, и вся власти (воласці.— *У. І.*), яко же на думу, на веча сходятся, на что же старейшии сдумают, на том и пригороды станут». Веча ў воласці мела магутную моц. Усякі жыхар воласці па-

[1] Ураднік — службовая асоба, чыноўнік. Адсюль слова «ўрад». У рускай мове слова «урядник» набыло абмежаваны сэнс.

вінен быў слухаць яго голасу, у тым ліку і князь, які быў, як мы казалі вышэй, толькі наймітам веча.

Звычай вечавога народапраўства[1] — існаваў як у Кіеўшчыне, так і ў Полаччыне з незапомных часоў. Як рабіліся справы на вечах, мы мала ведаем, бо ад вечавых сходаў не засталося да нашага часу аніякіх пісаных дакументаў. (...) Права голасу на сходзе мелі ўсе вольныя дарослыя людзі, незалежныя гаспадары. На вечы найперш дакладвалася аб той справе, на якую веча павінна было даць той ці іншы адказ. Даклад аб справе рабіўся ці князем, ці ўраднікамі, ці проста якім-небудзь старым чалавекам. Затым ішло абгаворванне справы. Веча адказвала прамоўцам гоманам. Пэўна, што асобных галасоў не лічылі, а толькі на слых адгадвалі, што ўхваляе веча. Іншы раз выпадала так, што большасць веча была нязначная і меншасць не хацела адступіцца ад сваёй думкі. Тады справа даходзіла да бойкі і аднагалоснасць дасягалася сілком; меншасці затыкалі рот кулаком і яе галасоў не было чутна.

З усіх валасцей наймагутнейшым веча было ў Полацку. Тут яно існавала з незапомных часоў і вяло сваю ўстаноўча-заканадаўчую працу аж да самага канца XV стагоддзя (1498 г.), калі гораду было даравана магдэбургскае права. Яно выступала тут ва ўсе больш-меньш рызыкоўныя моманты жыцця як рашучая сіла. Яно прымала і выганяла сваіх князёў: у 1151 годзе яно, напрыклад, «паказала пуць» адразу і князю Рагвалоду Барысавічу і пасадніку[2] Расціславу Глебавічу. Яно заключала дагаворы з князямі іншых валасцей: вядомы дагаворы полацкага веча з Ольгавічамі і з літоўскімі князямі. Полацкаму вечу прад'яўляліся пратэсты на дзейнасць полацкіх князёў, як гэта было, напрыклад, у 1127 годзе з боку кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча. Князь у Полацку заўжды ведаў сваё месца і юрыдычна не меў вялікай сілы. Улада яго грунтавалася на яго індывідуальных здольнасцях. Ён і яго дружына жылі асобным жыццём

---

[1] Гаварыць пра народапраўства (дэмакратыю) у старажытным Полацку не даводзіцца, бо, як далей піша сам У. Ігнатоўскі, на вечы галоўную ролю адыгрывалі «незалежныя гаспадары». Значная частка гарадскога насельніцтва была пазбаўлена права голасу.

[2] Пасаднік — вышэйшы ўраднік у Полацку і ў Ноўгарадзе, выбраны вечам.

ад горада і змяшчаліся не ў самім горадзе, а за некалькі вёрст ад горада, у вёсцы Бельчыцы, дзе былі пабудаваны для князя з дружынаю палацы. Апрача таго, вядома, што князь і яго дружына не мелі нават права купляць і валодаць у Полацку нерухомай маёмасцю. Таксама было ў Ноўгарадзе і Пскове. Трэба сказаць, што становішча ноўгарадскіх князёў было больш пэўнае, чым князёў полацкіх. Справа ў тым, што веча ў Ноўгарадзе звычайна абірала сабе князя з роду кіеўскіх Яраславічаў[1]. Пакрыўджаны ноўгарадскі князь мог знайсці сабе дапамогу ў сваіх кіеўскіх родзічаў і ў кіеўскага вялікага князя, які быў найстаршым ў родзе і павінен быў бараніць малодшых сваіх родзічаў. Што датычыць полацкіх князёў, дык яны нікому ніколі не маглі паскардзіцца на сваю крыўду. Жылі яны асобным ад кіеўскіх князёў жыццём і нават найчасцей былі ў спрэчках з імі. Згубіўшы па якіх-колечы прычынах свой пасад у Полацкай воласці, князь павінен быў бегчы на чужую старану, да чужых людзей. Такою стараною звычайна была суседняя Літва. Трэба ўсё ж такі сказаць, што полацкія князі ўмелі зжывацца з полацкім насельніцтвам, былі папулярныя ў Полацку, і палачане падтрымлівалі сваіх князёў Ізяславічаў[2], і баранілі іх, а разам з імі і сябе, ад крыўды князёў роду, напрыклад Яраславічаў Кіеўскіх.

Полацк быў найгалоўнейшым горадам у воласці. Усе іншыя гарады воласці былі залежныя ад Полацка і лічыліся яго прыгарадамі. Такімі прыгарадамі былі, напрыклад Менск, Віцебск, Барысаў, Стрэжаў, Усвят, Друцк і інш. Гэтая залежнасць адносілася толькі да знешніх спраў. У сваіх унутраных справах усе прыгарады былі незалежнымі і кіраваліся сваімі вечамі і князямі.

[1] Яраславічы — дынастыя вялікіх кіеўскіх князёў, якая вяла свой род ад Яраслава Мудрага.

[2] Ізяславічы — дынастыя полацкіх кнізёў, якая вяла свой род ад Ізяслава, сына Рагнеды і вялікага кіеўскага князя Уладзіміра Чырвонае Сонейка. Паколькі Рагнеда была дачкою Рагвалода, род гэты часта называюць Рагвалодавічамі. Ізяслаў быў родным братам Яраславу Мудраму.

## ЗМАГАННЕ ПОЛАЧЧЫНЫ З КІЕЎШЧЫНАЙ

Больш-менш каля часу заклiку ў Ноўгарадскую Русь варагаў (862) Полаччына мела сваіх мясцовых князёў, пра якіх успамінае адна з скандынаўскіх сагаў, Эймундава сага. Гэтых князёў назваць па імёнах мы не маем магчымасці. Вядома, што ўжо ў тыя часы былі нейкія непаразуменні паміж Полацкім і Кіеўскім цэнтрамі. Хутка пасля заклiку князёў варагі-нарманы Аскольд і Дзір, родзічы прышлых з поўначы князёў — Рурыка, Сінявуса і Трувора — захапілі ўладу ў Кіеве. Асеўшы тут, яны адразу ўвайшлі ў мясцовыя інтарэсы і сталі ў варожыя адносіны да Полацкай Русі. У Ніканоўскім летапісе мы чытаем: «Аскольд и Дир вовеваша полачан и многое зло им сотвориша».

Чым была выклікана вайна паміж Кіеўскім і Полацкім гандлёвымі цэнтрамі, мы не ведаем. Відаць толькі, што Полаччына ад гэтае вайны шмат пацярпела ўбыткаў.

Аскольд і Дзір доўга ў Кіеве не выседзелі. Род прышлых нарманскіх князёў Рурыкавічаў лічыў, што яны селі ў Кіеве незаконна. Іх змяніў апякун Рурыкавіча Ігара Алег (879—912 гг.). Гэты першы гістарычна праўдзівы кіеўскі князь пачаў цэнтраваць вакол Кіева розныя плямёны. Ён накладваў на іх даніну, адкуль і пайшло слова «падданыя». У ліку іншых падданых плямёнаў Іпацьеўскі летапіс называе і крывічоў. (...) «Олег прия город Смоленск и посади в нем муж своих». Аб падданні Алегу Полацка і дрыгвічоў у летапісе звестак няма, але магчыма думаць, што і гэтыя землі былі ў нейкай залежнасці ад Кіева. Так, напрыклад, летапіс, гаворачы аб «укладах», якія браў Алег з Візантыі, называе «ўклад» не толькі на Смаленск, але і на Полацк. «Укладам» завецца ваенны здабытак, які прысылаўся кіеўскаму князю з Візантыі. Звярнуўшы ўвагу на тое, што Смаленск і Полацк мелі свае асобныя ўклады, мы павінны прызнаць, што яны былі не рабамі Кіева, а яго супольнікамі ў змаганні з Візантыяй. Гэты факт пацвярджаецца тым, што ў паходах Алега ў 907 і ў 911 гадах на Візантыю, паводле летапісу, Смаленск і Полацк прымалі ўдзел. Праўда, Алег у далучаных гарадах ставіў сваіх «мужей», але яны былі не столькі ураднікамі, колькі прадстаўнікамі эканамічных інтарэсаў кіеўскага князя. Справы гарадоў і валасцей па звычаі вялі мясцовыя вечы і князі «пад Ольгом суўе».

Пры пераемніках Алега (Ігар, Вольга, Святаслаў) залежнасць Полацка ад Кіева паступова ўсё падае. У апошнюю чвэрць X стагоддзя ў Полацку ўжо княжыць Рагвалод.

Некаторыя вучоныя лічаць, што Рагвалод быў патомкам нармана-варажскіх князёў, што з'явіліся ў Полаччыну ў канцы IX стагоддзя адначасова з тымі, якія прыйшлі ў Ноўгарад. У той час, як апошнія прыйшлі з поўначы, продкі Рагвалода з'явіліся на Русь па Заходняй Дзвіне і тут аселі. Але магчыма думаць, што Рагвалод быў патомкам тых мясцовых князёў, якія раней былі ў Полацку. Гэта пацвярджаецца чыста славянскім імем самога Рагвалода і дачкі яго Рагнеды.

Рагвалод[1] скарыстаў слабасць Кіеўшчыны ў часы Ігара, Вольгі і Святаслава і стаў пашыраць свой уплыў на поўнач, стараючыся адарваць Ноўгародчыну ад сувязі з аслабелай Кіеўшчынай. Апроч таго, у далейшыя часы ён выкарыстаў спрэчкі паміж сынамі Святаслава Кіеўскага — Яраполкам, Алегам і Уладзімірам. Ён значна пашырыў тэрыторыю полацкага ўплыву на поўдзень, атрымаўшы верх у Тураўскім committee княстве, якое дагэтуль цалкам залежала ад Кіеўшчыны.

Аднак моц Полаччыны хутка зменшылася. У час далейшай барацьбы сыны Святаслава, Яраполк і Уладзімір, шукалі сабе дапамогі з боку Рагвалода. Дзеля гэтай мэты абодва браты дамагаліся рукі Рагвалодавай Рагнеды, каб палітычны саюз зацвердзіць сваяцтвам. Маладыя князі заслалі сватоў да полацкай князёўны. Летапіс гаворыць, што Рагнеда, даведаўшыся, што Уладзімір быў сынам Святаслава і рабыні, не захацела быць жонкаю рабыніча і з пагардай адказала так: «Не хочю розути робычича, а за Яраполка иду». Калі Уладзіміру перадалі адказ Рагнеды, ён у 980 годзе пайшоў паходам на Полацк, разбіў полацкае войска, зруйнаваў горад, забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а Рагнеду забраў у Кіеў і прымусіў быць сваёй жонкаю. Ад яе ён меў чатырох сыноў і дзве дачкі, старшы з сыноў быў Ізяслаў»[2].

---

[1] Тут больш правільна казаць не аб Рагвалодзе, а пра Полацк, бо малаверагодна, каб Рагвалод княжыў з 912 года да сваей смерці ў 980 г.

[2] Другім сынам Рагнеды і Уладзіміра быў Яраслаў Мудры. Аб Рагнедзе можна больш падрабязна прачытаць у аповесці Канстанціна Тарасава «Три жизни Рогнеды» (кніга «Путешествие в тесном кругу»: Мн., «Мастацкая літаратура», 1986).

Нават тут, у палацы кіеўскага князя, ішоў працяг спрэчкі паміж Полацкам і Кіевам. Водгукі гэтай спрэчкі адчуваюцца ў Кіеўскім летапісе. Паданне гаворыць аб тым, што Рагнеда не магла забыць сваёй крыўды і хацела раз забіць Уладзіміра. Ён хапіўся за меч, каб засячы гордую палачанку, але маленькі Ізяслаў стаў таксама з мечам на заслону сваёй маткі. Гэты маленькі абаронец так спадабаўся Уладзіміру, што ён даў яму дзедзічнае[1] Полацкае княства. А для Рагнеды ён збудаваў каля Менска новы горад Ізяслаўль[2] і адаслаў яе туды на жыццё. (...) Ад Ізяслава і пачынаецца род гістарычных полацкіх князёў, якія завуцца Ізяславічамі. Поруч з гэтым часта летапіс называе полацкіх князёў «Рогволожими внуками».

Пасля таго як Рагнеда, здзейсніўшы няўдалы замах на жыццё вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча Чырвонае Сонейка, была выслана ў новы горад Заслаўе (Ізяслаўль; названы гэтак у гонар Ізяслава, сына Рагнеды і Уладзіміра), аднаўляецца княская дынастыя ў Полацку. Сын Рагнеды, унук Рагвалода Ізяслаў, кладзе пачатак роду Ізяславічаў. Ён умацоўвае горад і зямлю і перадае яе ў спадчыну сыну Усяславу. Пра гэтага вялікага князя полацкага, які прабыў на пасадзе няшмат, мы амаль нічога не ведаем. Пасля яго смерці полацкі пасад заняў другі сын Ізяславаў — Брачыслаў. Ён таксама ўмацоўвае зямлю (між іншым заснаваў горад Брачыслаў — сённяшні Браслаў). Адчуўшы сілу, ён стаў змагацца са сваім дзядзькам Яраславам Мудрым за ўплыў на паночныя землі Старажытнае Русі. У 1021 годзе Яраслаў, нягледзячы на тое, што перамог свайго нябожа ў бітве, вымушаны быў аддаць Полацкай дзяржаве Віцебск і Усвят — важныя пункты на шляху з варагаў у грэкі. Тым самым Кіеў прызнаў самастойнасць Полацкае зямлі.

Імперыю Рурыкавічаў К. Маркс называў шматковай. Яе можна параўнаць з імперыяй Карла Вялікага. Унукі Карла падзялілі ягоныя ўладанні на тры часткі. Унукі Уладзіміра, Яраславічы, таксама падзялілі дзедаву спадчыну. Акадэмік У. Ігнатоўскі тлумачыць адпадзенне Полацкай, Смаленскай ды іншых земляў заходнімі ўплывамі. Святаполк Акаянны не толькі ажаніўся з дачкою польскага караля, не толькі трымаў пры двары каталіцкага біскупа. У літаратуры ёсць звесткі, што ён нават хрысціў тураўцаў паводле заходняга звычаю. Аднак не гэта было галоўнаю прычынаю разрыву з Кіевам. Усходняя вера на Тураўшчыне ў рэшце рэшт перамагла. Што ж датычыць

[1] Гэта значыць спадчыннае. Такім чынам Уладзімір прызнаў права старэйшага Рагвалодавага ўнука на дзедаў пасад.

[2] Цяпер горад Заслаўе Мінскага раёна.

Полаччыны, дык тут заходнія ўплывы не былі такія моцныя. Пазней, у час барацьбы з крыжакамі, праваслаўе адыграе тут важную ролю. Галоўная прычына распаду Старажытнай Русі таксама і не ў мясцовых адрозненнях, не ў памкненнях мясцовых князёў, не ў іх, як цяпер кажуць, сепаратысцкіх дзеяннях. Феадальная раздробленасць, як пісаў гісторык У. Маўродзін, «была той формай дзяржаўнай улады пануючага класа, якая адпавядала дадзенаму ўзроўню развіцця прадукцыйных сіл». Натуральная гаспадарка давала дробным феадальным дзяржавам магчымасць існаваць самастойна.

Полацк раней за іншыя воласці пачаў барацьбу за незалежнасць ад Кіева. Пасля смерці Брачыслава вялікім князем полацкім стаў ягоны сын Усяслаў, які ўвайшоў у гісторыю як Усяслаў Чарадзей. Пра гэтага валадара народ склаў легенды і быліны[1].

У знешняй палітыцы Усяслава таксама пераважаў адзін напрамак: поўнач. Ягонае імкненне распаўсюдзіць уплыў Полацка на Ноўгарад і Пскоў выклікала супраціўленне з боку кіеўскіх князёў і астатніх Яраславічаў. Самай прыкметнай фігурай сярод іх становіцца Уладзімір Манамах. Удзельны князь у Пераяславе, прадстаўнік не старшай лініі ў сваім родзе, ён стаў у 1113 годзе вялікім князем кіеўскім і здолеў на час прыпыніць драбленне Кіеўскай Русі, кансалідаваць яе.

Полацкая ж Русь пасля смерці Усяслава Брачыслававіча пачала развальвацца на часткі. Такі ж лёс напаткае Смаленшчыну і Тураўшчыну. На Полаччыне вылучаюцца Полацкае, Менскае і Друцкае княствы. У Полацку княжыць Давыд Усяслававіч, у Менску — Глеб, заснавальнік дынастыі Глебавічаў, у Друцку — Рагвалод-Барыс.

З трох братоў асаблівай актыўнасцю вылучаецца Глеб. Менскі князь пашырае свае ўладанні да Дняпра (Орша і Копысь) і вярхоўе Нёмана (да Наваградка). Ён ваюе земгалаў на поўначы і дрыгвічоў на поўдні. У 1116 годзе Глеб Усяслававіч учыніў паход на Случаск. Манамах, якому падпарадкавалася Тураўская зямля, і, значыць, Случаск, вядзе войска на Менск, акружае яго. Глеб здаецца на ласку кіеўскага князя. Забраўшы ў яго частку ўладанняў, Манамах пакідае Глебу Менск. Жадаючы вярнуць страчаныя Оршу ды Копысь, вярхоўе Нёмана, Глеб разам з палачанамі нападае на смаленскія і наваградскія землі. У 1117 годзе сын Манамаха Мсціслаў Уладзіміравіч бярэ ў аблогу Менск. Глеб зноў здаецца на ласку пераможцы. Але на гэты раз яго бяруць у палон і вывозяць у Кіеў. Там ён у 1118 годзе памірае. Ёсць думка, што яго атруцілі. Да 1146 года менскі ўдзел пераходзіць пад уладу паўднёварускіх князёў.

---

[1] Гл. нарыс Сяргея Тарасава «Герой паэмы і былін» («Крыніца», 1988, № 8), раман Леаніда Дайнекі «След ваўкалака» (Мн., 1988).

Пасля падзей 1116—1117 гадоў для Полацкай зямлі настае параўнальна спакойны час. Давыд Усяслававіч Полацкі не асмельваецца весці актыўную палітыку. У 1125 годзе памірае Уладзімір Манамах. Вялікім князем кіеўскім становіцца яго сын Мсціслаў (1125—1132 гг.). Верагодна, што полацкі князь успрыняў смерць Манамаха як сігнал да дзеяння. У адказ у 1128 годзе Мсціслаў здзяйсняе паход на Полаччыну. У гэтай выправе бяруць удзел Вячаслаў Тураўскі, Андрэй з Уладзіміра-Валынскага, Усеваладак з Горадна, Вячаслаў Яраславіч з Клечаска, ноўгарадцы, торкі і інш. Незадаволеныя палачане тады ж выганяюць князя Давыда Усяславіча і запрашаюць на полацкі пасад ягонага брата — друцкага князя Рагвалода-Барыса. Але гэтаму Усяславічу доўга княжыць не давялося: у 1129 годзе ён памёр. У 1129 годзе адбываюцца яшчэ дзве падзеі: Мсціслаў Уладзіміравіч Кіеўскі ідзе паходам на літоўцаў, якія плацілі даніну Полацку, а Полацк адмаўляецца браць удзел у супольным паходзе рускіх князёў на полаўцаў. Такім чынам, зноў абвастраюцца супярэчнасці паміж Полацкам і Кіевам. І Кіеўскі князь рашаецца на кардынальны крок: ён высылае Ізяславічаў у Канстацінопаль. У «Степенной книге» названы толькі чатыры Ізяславічы, якіх вывезлі ў Візантыю: Расціслаў, Святаслаў-Георгій Усяславіч (бацька будучага полацкага князя Васількі і св. Ефрасінні Полацкай), сыны Рагвалода-Барыса Васіль ды Іван. Частка полацкіх князёў знайшла прытулак у літоўцаў.

У 1129 годзе Полацкая зямля апынулася пад уладай Манамахавічаў. Вялікі князь кіеўскі Мсціслаў пасадзіў у Полацку спачатку свайго сына Ізяслава, а потым — Святаполка.

Спрэчка паміж Полаччынаю і Кіеўшчынаю не скончылася пры Уладзіміры з высылкаю Рагнеды. Яна прыняла толькі другую форму, не выходзячы з сям'і вялікага князя кіеўскага. У летапісе мы чытаем адно апавяданне, якое, на першы погляд, як бы і не дае матэрыялаў для нашага пытання, але, угледзеўшыся ў каторае, мы бачым працяг кіеўска-полацкага змагання. Мы маем на ўвазе тут барацьбу, якая ішла паміж Уладзімірам і Яраславам Кіеўскім, з аднаго боку, і Яраполкам Тураўскім[1] — з другога боку. Тут трэба разабрацца ў гэтай гісторыі, бо яна не так ясна, як здаецца на першы погляд.

У часы Рагвалода Тураўская воласць належала да Полацка. Уладзімір Кіеўскі, перамогшы Рагвалода, далучыў Тураў з яго землямі да Кіева як асобную воласць веліка-

---

[1] Тут памылка друку. Далей у тэксце гаворка ідзе пра Святаполка Акаяннага.

няскага пасада. Зразумела, што мясцовыя дрыгавіцкія князі тураўскія згубілі сваю незалежнасць. Тураў зварачаў на сябе ўвагу князя кіеўскага як былая воласць Полаччыны. Апроч таго, Тураў быў размешчаны на Прыпяці, якая была водным шляхам на Захад. Заходнія ўплывы былі магчымы як у Тураве, так і ва ўсёй Полаччыне, дзякуючы такім рэкам, як Заходняя Дзвіна, Нёман і Прыпяць. Гэтыя ўплывы рабілі Тураў тыповаю воласцю Полаччыны. Што датычыць Кіеўшчыны, дык яна мела яўна выразны чыста візантыйскі, усходнепаўднёвы кірунак.

Калі мы звернем увагу на гэтую з'яву, дык зразумеем, чаму кіеўскія князі заўсёды на тураўскім пасадзе трымаюць намеснікамі сваіх старэйшых сыноў. Так было і ў часы Уладзіміра. Намеснікам тут сядзеў Святаполк Уладзіміравіч, які павінен быў, на думку бацькі, праводзіць у жыццё краю кіеўскі паўднёва-візантыйскі кірунак. Але Святаполк не спраўдзіў надзей Уладзіміра. Ён хутка стаў паддавацца заходняму ўплыву. Ён, як вядома, ажаніўся з дачкой польскага караля Баляслава, якая была хрысціянкай заходняга абраду[1]. З ёю да тураўскага князя-намесніка прыехаў заходні біскуп Рэйнбэрн. Абапіраючыся на тураўцаў, якія добра памяталі незалежнасць Тураўскай воласці ад Кіеўшчыны, а таксама моцна спадзеючыся на вайсковую дапамогу цесця свайго, караля польскага Баляслава, Святаполк намерыўся адлучыцца ад Кіеўшчыны. Аднак жа яго намеры не спраўдзіліся. Уладзімір, даведаўшыся аб варожых планах свайго старэйшага сына, раптам напаў на яго, схапіў яго самаго, яго жонку і біскупа Рэйнбэрна і ўсіх для бяспекі пасадзіў у «поруб». Зразумела, што пасля таго, што здарылася, Святаполк ужо не мог быць тураўскім князем.

Пасля таго як у 1051 годзе памёр Уладзімір, Святаполк як старэйшы ў родзе атрымаў права заняць кіеўскі вялікакняскі пасад. Гэта не магло спадабацца яго братам, якія былі ўзгадаваны ў другім кірунку. Паміж імі і Святаполкам узнялася барацьба вельмі крывавая. Кіеўскі летапісец, які

---

[1] Падзел царквы на ўсходнюю (праваслаўную) і заходнюю (каталіцкую) адбыўся ў 1054 г. Аднак дагматычныя, літургічныя і кананічныя адрозненні паміж гэтымі дзвюма галінамі хрысціянства існавалі задоўга да расколу.

стаяў на ўсходнехрысціянскім, чыста візантыйскім грунце і бачыў у асобе Святаполка прадстаўніка другога, варожага кірунку, чорнаю фарбаю малюе гэтага князя. Ён вінаваціць яго ў смерці братоў Барыса і Глеба, нават ў тым, што ён меў намер загубіць ўсіх братоў, і, урэшце, дае яму прозвішча «Акаянны».

Справа скончылася так: браты, з Яраславам на чале, перамаглі Святаполка. Яго выжылі з Русі, і ён павінен быў бадзяцца, як выгнаннік, па замежных краінах, пакуль і не загінуў дзесь на чужыне за тое, што быў у Кіеўшчыне прадстаўніком культурна-палітычнага кірунку Полаччыны.

Барацьба паміж Полаччынай і Кіеўшчынай ідзе ў далейшыя часы. Яраслаў Мудры Кіеўскі змагаецца з Брачыславам Ізяславічам Полацкім, дзядзька — з пляменнікам. Вялікая спрэчка разгарэлася з-за Ноўгарада, які быў як бы паўночным ключом воднага шляху з варагаў у грэкі. Мець у руках гэты ключ было вельмі важна. Хто меў гэты ключ, той меў магчымасць замкнуць і адчыніць шлях тагачаснага гандлю і культуры. Апроч таго, спрэчка ідзе з-за ўладання двума гарадамі — Віцебскам і Усвятам. Гэтыя гарады мелі таксама вялікае эканамічнае значэнне. Той, хто ўладаў імі, уладаў ключамі ад вышэйшага Падзвіння і меў надта важную частку вялікага шляху, дзе былі волакі паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной і Ловаццю. Барацьба паміж Полацкай і Кіеўскай тэрыторыяй скончылася тым, што Кіеўшчына адмовілася ад прэтэнзій на Віцебск і Усвят[1]. Што датычыць да Ноўгарада, дык пытанне аб ім не было вырашана, усё ж такі ён быў больш пад уплывам Кіеўшчыны.

З часу Брачыслава Полацкага змаганне паміж тэрыторыямі робіцца няспынным і беспярарыўным. У летапісах гэтае змаганне адзначана як барацьба паміж кіеўскімі Яраславічамі і полацкімі Ізяславічамі. Апроч старой Рагвалодавай і Рагнедзінай крыўды паміж гэтымі тэрыторыямі лягло суперніцтва за ўплыў на Ноўгарад і за пяршынства ва ўсходнеславянскім свеце. Разгар змагання выпадае на часы князявання ў Полацкай Русі Брачыслававага сына Усяслава.

---

[1] У 1021 годзе.

## УСЯСЛАЎ ПОЛАЦКІ (1044—1101)

Выдатнае месца ў гісторыі Полаччыны здабыў Рагвалодаў прапраўнук Усяслаў. На яго асобе сканцэнтравалася шмат легендарных і летапісных вестак. Калі іх сабраць, то мы маем такі малюнак асобы Усяслава.

Шчыра працаваў князь для паляпшэння Полацкай тэрыторыі, баронячы яе ад націску суседзяў і нападаючы на суседнія, асабліва Кіеўскую, тэрыторыі. Не ведаў ён праз усё сваё доўгае жыццё, што такое вольны час і адпачынак. І адкуль толькі ўзялося столькі палітычнага розуму, хітрасці і невычэрпнай энергіі і жвавасці ў гэтага работніка сівой старасветчыны? Гэтае пытанне цікавіла і сучаснікаў Усяслава. Сучаснікі не маглі яго зразумець і не маглі згадзіцца з тым, што гэта звычайны, просты чалавек, як усе. Ці можа просты чалавек мець такую энергію, моц і жвавасць? І народ быў перакананы ў тым, што Усяслаў мае ў сабе надзвычайную сілу, што ён чараўнік, што ён, напрыклад, можа рыскаць шэрым ваўком за сотні вёрст. Хадзіла сярод шырокіх мас паданне, што і радзіўся ён ад чарадзейства; што ад нараджэння меў ён на галаве чарадзейскую прыкмету, асабліва радзімы знак, ад якога і залежала ўся яго цудоўная надзвычайная сіла. Каб не кідаўся людзям у вочы гэты знак, князь-чарадзей заўжды насіў на галаве павязку.

Як чараўніка, малюе Усяслава і (...) пясняр «Слова аб палку Ігаравым». Ён таксама спявае аб князі: «Усяслаў князь людзям суды судзіў, князям гарады парадкаваў, а ўначы сам воўкам рыскаў; з Кіева ён дасягаў да Тмутаракані да першых пеўняў, ваўком перацінаў шлях Вялікаму Сонцу — Хорсу. У Полацку ў святой Сафіі званы звоняць на завутраню, а ён у Кіеве званы гэтыя чуе. Хоць і вешчы дух у харобрым целе, але надта бяды ён відзеў. Яму і Баян вешчы раней прыказку спяваў: ні хітраму, ні гараздаму, ні птушцы лятучай суда божага не пазбыцца». Сваім розумам, сваім непакорным, бурным духам князь-чараўнік надоўга застаўся ў народнай памяці. З ўсяго гэтага пясняр «Слова» і зрабіў свой малюнак. Як у Полаччыне, так і ў Кіеўшчыне добра ведалі ўсе гэтага чалавека з вешчым духам у харобрым целе.

Пакуль яшчэ жыве Яраслаў Мудры, Усяслаў у згодзе з паўднёвымі князямі. Пасля смерці Яраслава (1054 г.) у воласцях Кіеўшчыны сталі князяваць яго сыны, разабраўшыя

асобныя гарады па старшынству. На кіеўскі пасад сеў найстарэйшы сын Ізяслаў з тытулам вялікага князя, на чарнігаўскі пасад сеў Святаслаў, на пераяслаўскі — Усевалад і г. д. У першыя часы і з імі Усяслаў жыў згодна, нават быў супольнікам у некаторых ваяўніцках справах паўднёвых князёў. На поўдні ў гэты час з'явіўся на змену разбітых печанегаў новы мангольскі народ — полаўцы. Асеўшы ў стэпах, полаўцы звярнулі на сябе ўвагу Кіеўшчыны, пагражаючы ёй кожны момант. Так было аж да 60-ых гадоў. З гэтага часу зноў пачынаецца змаганне Полаччыны і Кіеўшчыны, якое цягнецца аж да смерці Усяслава. Прычыны змагання нам добра невядомы. Магчыма думаць, што й цяпер, як і пры Брачыславе, сварка пачалася за ўладанне Ноўгарадам.

Ноўгарад у той час належаў да Кіеўшчыны. З гэтым аніяк не магла згадзіцца Полаччына. У 1067 годзе Усяслаў «воззни стрикусы оттвори врата Нову-граду». Узяўшы ў Ноўгарадзе шмат здабычы[1], вярнуўся Усяслаў у Полацк. Даведаўшыся аб гэтым, паўднёвыя князі — Ізяслаў Кіеўскі, Святаслаў Чарнігаўскі і Усевалад Пераяслаўскі — згадзіліся паміж сабою адпомсціць Полаччыне. Яны сабралі вялікую ўзброеную сілу і пайшлі паходам на Менск, які ў той час быў адным з багацейшых прыгарадаў Полацка. Нягледзячы на абарону, Менск яны забралі. Расправа з Менскам была жорсткая: мужчынскае насельніцтва было пагалоўна перабіта, а жанчыны і дзеці былі раздадзены, як здабыча, дружыннікам кіеўскіх князёў.

Расправіўшыся з горадам і падзяліўшы здабычу, павялі яны свае войскі далей па рэчцы Нямізе, што цячэ ў Свіслач, і тут сустрэліся з войскам Усяслававым. Маленькая рэчка 3 сакавіка 1067 года бачыла на сваіх берагах страшэннае збойства. Аб тым, што было тут, пяе пясняр «Слова аб палку Ігаравым»: «На Немизе снопы стелют головами, молотят цепами булатными, на току жизнь кладут, веют душу от тела. Немиги кровавы бреги не житом были посеяны, а костьми сынов русских». Рэчка Няміга цяпер высахла. Па рыцьве яе ідзе Нямігская вуліца ў Менску.

Дрэнна скончылася гэтая Нямігская бітва для сыноў

[1] Усяслаў, як вядома, зняў званы з ноўгарадскай Сафіі і прывёз іх у Полацк для пабудаванага тут трэцяга на Русі храма св. Сафіі.

Полаччыны. Большая частка іх палягла тут, як снапы на полі, і не вярнуліся яны да хат сваіх. Але не малыя былі страты і кіеўскіх Яраславічаў. Замест таго, каб скарыстаць перамогу і гнаць далей разбітых палачан, яны павінны былі праз нейкі час зазваць да сябе Усяслава, каб зрабіць з ім згоду. Усяслаў з двума сынамі і невялікаю дружынаю прыйшоў у кіеўскі лагер, не спадзеючыся, што паўднёвыя князі ўмыслілі злачынства. Яны схапілі яго і сыноў, закавалі іх у моцныя кайданы і адвезлі ў палон у Кіеў. Смутна было на сэрцы палоннага князя, які сядзеў у ланцугах у кіеўскім порубе пад велікакняскімі палацамі. Яго цягнула ў Полаччыну, якая была месцам яго працы. Недарма гаворыць пясняр у «Слове аб палку Ігаравым», што Усяслаў (...) чуе званы, якія звоняць на завутраню ў царкве св. Сафіі ў Полацку.

Але нядоўга таміўся гэты чарадзей-князь у порубе. Яго чары, істота якіх была ў яго папулярнасці, былі мацнейшыя ад ланцугоў і праз моцныя сцены турмы ішлі па Кіеве да кіеўскага народу. Небяспечны быў полацкі палоннік для даволі слабага і безнадзейнага кіеўскага князя.

На другі год палону Усяслава кіеўскі князь Ізяслаў павінен быў паспешна ісці паходам на вандроўнікаў-полаўцаў, якія пачалі руйнаваць паўднёвыя землі Кіеўскай Русі. Полаўцы разбілі войскі князя, і ён з ганьбаю вярнуўся дадому. Абураныя кіяўляне падняліся супраць свайго князя, прагналі яго, вызвалілі з поруба князя-чарадзея і запрасілі яго на кіеўскі пасад замест Ізяслава, парушыўшы такім спосабам традыцыю замяшчэння кіеўскага пасаду Яраславічамі.

Здаецца чаго больш было жадаць Усяславу. З сумнай турмы падняўся ён на «залатакованы» кіеўскі велікакняскі пасад, на той самы пасад, які быў так пажаданы для кожнага з (...) Яраславічаў. Навокал былі пашана і багацце; паўднёвая прырода давала свае падарункі, якія немагчыма было параўнаць з падарункамі прыроды Полаччыны. Дык вось — не! Як і раней у порубе, звалі Усяслава званы, якія званілі ў св. Сафіі ў Полацку. І моцна, відаць, званілі яны ў галаве князя Полаччыны, калі ён толькі сем месяцаў здолеў выседзець на «залатым» кіеўскім стале. Цягнула яго да сябе далёкая Полаччына, пакрытая смугою-туманамі балот, але блізкая яму па той працы, якую ён тут вынес на сваіх плячах. Сваё становішча ў Кіеве ён, мабыць, не лічыў моцным, бо не меў тут такой сувязі, якую меў на бацькаўшчыне.

Далей справа разгарнулася так. Прагнаты з кіеўскага пасаду Ізяслаў звярнуўся па дапамогу да караля польскага Баляслава. Апошні з войскамі з'явіўся ў Кіеўшчыну, каб пасадзіць Ізяслава на цёплае месца. Кіеўскае войска выступіла насустрэчу і стала пад Белгарадам. Сярод кіяўлян, відаць, былі нейкія нелады. Відаць, тут пачала выяўляць сябе партыя, якая стаяла за выгнанага Ізяслава. Не хочучы ўпутвацца ў справы, якія былі вельмі няпэўныя, князь-чарадзей кінуў войска і ўначы ўцёк у далёкую Полаччыну якая забяспечвала яму падтрыманне і надзейнае месца. Усе гэтыя падзеі так апісвае пясняр «Слова аб палку Ігаравым»: «Кінуў жэрабя Усяслаў (...), даткнуўся пікаю да залатога пасаду кіеўскага. І пабег ён зверам лютым ад іх аб поўнач з Белграду і знік у сіняй смузе...»

Ізноў ішло змаганне паміж Полаччынаю і Кіеўшчынаю, паміж Рагвалодавымі ўнукамі Ізяславічамі і Уладзіміравым племем — Яраславічамі. Сярод апошніх у гэтыя часы ўжо ўзрасла новая і працавітая і даравітая асоба — Уладзімір Манамах, сын Усевалада Пераяслаўскага. Шмат гора і бяды прынёс Полаччыне гэты добра вядомы нам з агульнарасійскай гісторыі вялікі князь Кіеўшчыны. Многа раз пад яго кіраўніцтвам злучаюцца паўднёвыя князі, каб руйнаваць і нішчыць Полацкую тэрыторыю, каб палоннікамі, узятымі з яе абшараў, запаўняць паўднёвыя рынкі. Два разы ўдавалася Яраславічам прагнаць Усяслава з полацкага пасаду, але ён зноў і зноў варочаўся назад у Полаччыну, бо яго падтрымлівала насельніцтва полацкае.

Апошні паход на Полацкую зямлю адбыўся ў 1084 годзе. Уладзімір Манамах сабраў вялізнае войска і павёў яго на поўнач. Дайшлі да Менску. Горад быў узяты і зруйнаваны дашчэнту. Воі Уладзіміра, як кажа летапіс, «не оставіша ни челядина, ни скотины, вся разграбиша и пожгоша». (...).

Гэтым паходам, здаецца, і закончылася барацьба Усяслава з Яраславічамі. Полацкі князь быў ужо вельмі стары[1]. Цяжкае, поўнае працы і барацьбы, жыццё засмірыла яго разум; «хоць і вешчы дух у харобрым целе, але надта бяды

[1] Паводле падлікаў С. Тарасава, у 1084 годзе Усяславу было прыблізна 54 гады. Пры тагачаснай сярэдняй працягласці жыцця ён і сапраўды быў стары. Але Чарадзею было наканавана пражыць яшчэ каля 17 гадоў.

ён відзеў». Пасля 57 год княжання пайшоў гэты працаўнік спачываць у сэрую зямельку сваёй пакутнай бацькоўшчыны. Пад 1101 годам у летапісе запісана: «Преставися Всеслав Полотский князь, месяца априля в 14 день, в 9 час дне, в среду».

## ПОЛАЧЧЫНА ПАСЛЯ УСЯСЛАВА

Пасля смерці чарадзея-князя Полаччына пачынае хіліцца ўсё данізу. Прыгарады Полацка вядуць безупыннае змаганне з іх галоўным горадам, а таксама і паміж сабою. На чале варожых гарадоў становяцца асобныя князі Рагвалодавага роду і вядуць змаганне як адзін з другім, так і ўсе разам з старэйшым полацкім князем[1]. У кожным горадзе на вечавых сходах ідзе барацьба паміж багацейшымі і бяднейшымі станамі грамадзянства[2]. Адным словам, на абшарах Полацкай тэрыторыі разгарэлася (...) палітычная і грамадзянская барацьба. З тых скупых вестак, каторыя прыпадкова спатыкаюцца ў летапісах, няма ніякай магчымасці даць поўны і дакладны малюнак гэтай хатняй[3] барацьбы і выясніць усе яе прычыны.

А адначасова з гэтай хатняй барацьбой ідзе далейшы працяг таго змагання Полацкай вобласці з воласцю Кіеўскай, якое пачалося са старых часоў Рагвалода, Уладзімір Манамах Кіеўскі, які яшчэ раней выказаў сябе як упарты вораг Полаччыны, зноў арганізуе і робіць паходы на Полацкую зямлю. Ён руйнуе такія гарады, як Менск, Друцк, Орша, Капыль і інш. Бачачы, што ў дэзарганізаванай Полаччыне можна лёгка атрымаць вялікі здабытак, кіеўскія князі[4] нават злучаюцца для гэтай мэты, што наогул рэдка з імі бывае. У 1127[5]годзе яны робяць хаўрусны паход. Зніштожаны агнём

---

[1] Полацкіх князёў з роду Ізяславічаў можна называць вялікімі. Як «велиции» — вялікія — яны фігуруюць у летапісах; вялікім князем полацкім у сваім поўным тытуле называў сябе і такі знаўца генеалогіі і летапісаў, як Іван Грозны.

[2] Грамадзянства — тое ж, што і грамадства. Абодва словы паходзяць ад слова «грамада».

[3] Унутранай.

[4] Маюцца на ўвазе ўсе Яраславічы.

[5] Паводле іншых звестак, у 1128 г.

і мячом такія гарады, як Полацк, Лагойск, Ізяслаў і інш. Урэшце кіеўскі князь Мсціслаў (у 1129 г.) выгнаў з Полацка і іншыў гарадоў Ізяславічаў і іх падручных князёў, а на іх месца пасадзіў сваіх сыноў і родзічаў. Тэрарызаваныя вечы маўчалі і павінны былі згадзіцца з гэтымі пераменамі, бо на старане новых прышлых князёў была (...) моц зброі. Гэтыя князі не адчувалі ніякай адказнасці перад мясцовымі элементамі і фатыгаваліся толькі аб тым, каб яе найбольш выкарыстаць з забранага краю.

Увесь край быў знішчаны і дайшоў да руін. Гарады і вёскі пусцелі. Палі, кінутыя, працоўнаю рукою, зарасталі лясамі і зеллем. Прыгнечаныя эканамічна і абрабаваныя, насельнікі забіраліся ў няволю. Іх потым тысячамі гналі на невольніцкія рынкі і гандлявалі гэтым жывым таварам як у Рускай зямлі, так і ў далёкай Азіі. Нявольнічы гандаль пашырыўся. Ад яго карысталіся як прышлыя князі, так і мясцовыя капіталісты[1], інтарэсы якіх супалі з інтарэсамі князёў. Такім спосабам мясцовая буржуазія таго часу і чужаземная палітычная ўлада, маючы на ўвазе толькі сваю карысць, руйнавалі Полацкі край.

Але часам прыходзіць канец і цярплівасці працоўных мас. Так на гэты раз сталася і ў Полыччыне. У 1132 годзе, як кажа летапіс, разгарэлася народная помства. Паднялося шырока паўстанне, якое ахапіла вялікія народныя масы. Народ выгнаў прышлых князёў і іх мясцовых прыхільнікаў. За гэтым у Полацку сабралася веча і вынесла пастанову, каб звярнуць на бацькаўшчыну выгнаных кіеўскімі князьмі дзедзічаў полацкага пасаду, Рагвалодавых унукаў Ізяславічаў. (...)

З князёў гэтага часу трэба адзначыць унука чарадзея Усяслава, Васільку Рагвалодавіча[2], і яго сына — Усяслава Васількавіча. Заціхлі дамовыя[3] войны і спрэчкі. Край пачаў ажываць, народ зноў прыняўся за працу. Прыпыніліся і паходы з Кіеўшчыны (...). Ёй было цяпер не да паходаў. Там настаў час асаблівага ўціску паўднёвых вандроўнікаў полаўцаў, і ўсе сілы Кіеўшчыны павінны былі адцягнуц-

[1] У. Ігнатоўскі мае на ўвазе тагачасных купцоў і ліхвяроў.
[2] Васільку Святаславіча.
[3] Дамовыя, хатнія — унутраныя, грамадзянскія.

ца на поўдзень. Не прыпыніліся там адначасна і хатнія спрэчкі паміж асобнымі валасцямі й князьмі. Ад гэтых бед беглі людзі з Кіеўшчыны — хто ў Полаччыну, хто ў Ноўгарадскія землі, хто на паўночны ўсход, у Растова-Суздальскую тэрыторыю. Асабліва многа народу пайшло на паўночны ўсход. Першымі сталі асядаць там некаторыя з кіеўскіх князёў, якія шукалі спакайнейшага месца. Ужо Уладзімір Манамах быў адным з такіх князёў. Князі затрымоўваюць тут уцекачоў з Кіеўшчыны, арганізуюць іх як эканамічна, так і палітычна. Утвараюцца новыя адносіны паміж насельніцтвам і князем. Тут гаспадаром жыцця становіцца князь. Юры Даўгарукі, потым яго сын Андрэй Багалюбскі найбольш разгарнулі тут сваю княжацка-гаспадарчую працу. Хоць яны і кіеўскія князі, але традыцыі Кіева ўжо чужыя для іх. Расце і ўзмацняецца тая Растова-Суздальская тэрыторыя Русі, якая дагэтуль не мела вялікага значэння. Усе сілы гэтай тэрыторыі йдуць на яе ўзрост, і ёй зараз не да Полаччыны. Усё гэта давала Полаччыне магчымасць зноў прыняцца за спакойную працу і адпачываць ад таго цяжкага жыцця, якое выпала на яе долю ў першай траціне XII стагоддзя. (...)

Тут мы вымушаныя спыніць цытаванне кнігі У. Ігнатоўскага, бо далей ён пераказвае легенду аб трыццацігадовым перыядзе жыцця Полацка без князёў, што цяпер абвяргаецца вучонымі. Таму мы выкладаем беларускую гісторыю за пяцьдзесят з лішкам гадоў самастойна.

У 1132 годзе памёр сын Манамаха,— вялікі князь кіеўскі Мсціслаў Уладзіміравіч. Полацкае веча пазбаўляе пасаду Святаполка Мсціславіча. З Канстанцінопаля вяртаюцца «ўнукі Рагвалодавы» — Ізяславічы, якія парадніліся з візантыйскімі імператарамі. Веча называе вялікім князем полацкім Васільку Святаславіча, унука Усяслава Чарадзея, брата князёўны Прадславы, якая ўвойдзе ў гісторыю як святая Ефрасінія Полацкая.

Звестак пра княжанне Васількі Святаславіча (1132—1144 гг.) мала. Зрэшты, яно і не дзіўна, бо, мабыць, як і ягоны прапрадзед Ізяслаў пасля прыезду з Кіева, Василька пасля вяртання з Візантыі больш займаўся ўнутранымі справамі. Балазе Менск не быў вернуты яго стрыечным братам Глебавічам, а ў Друцку сядзеў лаяльны князь Рагвалод Барысавіч, таксама дваюрадны брат. Полацкі летапіс не захаваўся, а іншыя данеслі да нас скупыя весткі. З іх можна даведацца, што Васілька Святаславіч меў нейкія прэтэнзіі да Ноўгарада, г. зн. працягваў палітыку свайго прадзеда Брачыслава і дзеда Усяслава Чарадзея.

Невядома, хто быў князем з 1144 па 1146 год. Ведаем, што з 1146 па 1151 год вялікім князем полацкім быў Рагвалод Барысавіч з Друцка. У 1146 годзе аднаўляе сваю самастойнасць Менскае княства. Там пасад займае ўнук Усяслава Чарадзея і сын першага менскага князя Расціслаў Глебавіч. Расціслаў і яго брат Валадар працягвалі бацькаву палітыку ў дачыненні да Полацка. Тым больш, што Рагвалод Барысавіч быў саюзнікам Манамахавічаў, якія былі вялікімі князямі ў Суздалі, Смаленску, часцей за іншых сядзелі ў Кіеве і Ноўгарадзе, якім падпарадкоўваліся Тураўская (да 1157 года) і Берасцейская землі. Незадаволеныя палітыкай свайго князя былі і палачане. У 1151 годзе яны выдаюць Рагвалода Барысавіча менскім князем. Полацкі пасад займае Расціслаў Глебавіч (1151—1158 гг.).

Такая расстаноўка сіл у Полаччыне не задавальняе ноўгарад-северскага князя Святаслава Ольгавіча, якому Юрый Даўгарукі ў 1149 годзе аддаў Случаск, Клечаск і «вси дреговичи». Пад націскам Ольгавічаў і Юрыя Даўгарукага Глебавічы былі вымушаныя выпусціць Рагвалода Барысавіча. Святаслаў Ольгавіч даў яму полк, каб ён заняў Друцк. Наступаюць перамены і ў Полацку. Веча «пакаялася», і з 1158 па 1162 год полацкі пасад зноў займае Рагвалод Барысавіч. Яму, прыхільніку Манамахавічаў, даводзілася падтрымліваюць іх і адначасна змагацца супраць менскіх Глебавічаў. У 1158 годзе ён у саюзе са смаленскімі князямі ідзе на Менск, а потым дапамагае кіеўскаму князю ў паходзе на Тураў, дзе ў 1157 годзе ўладу ў свае рукі ад Манамахавічаў забраў ацалелы прадстаўнік старэйшай лініі Яраславічаў князь-ізгой Юрый Яраславіч. Паход на Тураў быў няўдалы. Юрый Яраславіч заснаваў турава-пінскую дынастыю Яраславічаў, з якое паходзіць славуты род князёў Астрожскіх. У 1159 годзе Рагвалод Барысавіч вымушаны быў вызваляць ад Глебавічаў ізяслаўскага князя Брачыславіча; у 1160 годзе ён пасылае Усяслава Віцебскага, сына былога вялікага князя полацкага Васількі Святаславіча, на дапамогу Святаславу Ольгавічу; у 1161 годзе пры дапамозе торкаў, якіх яму прыслаў кіеўскі князь Расціслаў, ідзе на Глебавічаў і заключае з імі мір. Мір з менскімі князямі быў нетрывалы. У 1162 годзе Рагвалод Барысавіч ідзе на Валадара Глебавіча. Той зачыняецца ў Гарадцы, а ўначы разам з літоўцамі разбівае полацкае войска. Рагвалод Барысавіч уцякае да Ольгавічаў у Случаск. Праз тры дні ён, ведаючы, што яму давядзецца адказваць перад полацкім вечам за нядбайнасць, адмаўляецца ад полацкага пасаду і вяртаецца ў Друцк.

У тым жа годзе на полацкі пасад з Віцьбеска быў пакліканы Усяслаў, сын Васількі Святаславіча. Князю Усяславу (1162—1186 гг.) таксама давялося змагацца з Глебавічамі і быць саюзнікам Манамахавічаў. Складаныя адносіны былі ў яго і з колішнім полацкім прыгарадам Смаленскам. У 1165 годзе да Давыда Расціславіча

Смаленскага пераходзіць Віцьбеск. Здавалася б, Усяслаў Васількавіч павінен быў пачаць вайну. Але спакою яму не давалі Глебавічы. У 1167 годзе менскі князь Валадар захоплівае Полацк. Усяслаў Васількавіч мусіў шукаць ратунку ў Давыда Расціславіча, а за гэта — ахвяраваць яму Віцьбеск. З дапамогаю князя смаленскага Рамана Расціславіча ўдалося вярнуць полацкі пасад. Але не паспеў ён выгнаць Валадара, як зноў трэба было збіраць войска — на дапамогу смалянам і Андрэю Багалюбскаму, бо ў гэты час ноўгарадцы выгналі свайго князя Святаслава Расціславіча са смаленскай дынастыі. Не паспелі вярнуць Расціславіча на ноўгарадскі пасад (1167 г.), як Ноўгарад, Пскоў і Кіеў наладзілі паход на Полацк (1168 г.). Зноў на дапамогу прыйшлі смаляне. У падзяку за гэта Усяслаў Васількавіч у 1168 годзе падтрымаў князёў смаленскага і суздальскага ў няўдалым паходзе на Кіеў, а ў 1169 годзе — на Ноўгарад.

На пяць гадоў наступае замірэнне. Прынамсі летапісы нічога не паведамляюць пра баявыя паходы. Толькі пад 1174 годам згадваецца выправа на Кіеў. У 1178 годзе кіяўляне і ноўгарадцы вырашылі адпомсціць Полацку, але на абарону свайго саюзніка выступае смаленскі князь Раман Расціславіч.

У 1175 годзе баяры забіваюць Андрэя Багалюбскага, у 1180 годзе памірае Раман Расціслававіч Смаленскі. Мяняюцца саюзы. У 1180 годзе Усяслаў Васількавіч вяртае пад сваю руку Віцьбеск і садзіць там свайго брата Брачыслава. У тым жа годзе ён разам з братам, літоўцамі, лагожскім, ізяслаўскім да іншымі князямі спрабуе падпарадкаваць сабе друцкага князя Глеба, сына былога князя полацкага Рагвалода Барысавіча. На дапамогу Усяславу Васількавічу выйшаў вялікі князь Святаслаў Усеваладавіч з сынам Уладзімірам, якія былі ў той час у Ноўгарадзе. У паходзе браў удзел і ноўгарад-северскі князь Ігар Святаславіч, герой паэмы «Слова пра паход Ігаравы». Але Святаслаў Усеваладавіч трохі спазніўся, і гэта выкарыстаў Давыд Смаленскі, былы віцебскі князь, якога выгнаў Усяслаў Васількавіч. Ён узяў Глеба Рагвалодавіча Друцкага пад сваю апеку. Так у Полацкай зямлі склаліся тры партыі: полацка-віцебская, друцкая пад эгідай Смаленска і менская (там князем пасля Валадара Глебавіча стаў сын ягонага брата Глеб Расціславіч).

У 1186 годзе ў бітве з літоўцамі вялікі князь полацкі Усяслаў Васількавіч загінуў. Пасля яго смерці друцкім князем замест Глеба стаў Усяслаў (ці не другі сын Рагвалода Барысавіча?), а да менскай партыі далучыўся лагожскі князь Васілька Валадаравіч. Абодва гэтыя князі падтрымалі ў тым жа 1186 годзе Давыда Расціславіча Смаленскага і яго сына Мсціслава Ноўгарадскага ў паходзе на Полацк. Палачане пачалі перамовы. Віцебск перайшоў з рук Брачыслава Васількавіча ў рукі Глебавічаў. Менская партыя ўмацавалася.

Як бачым, полацкая гісторыя з 1132 па 1186 год поўная ваенных падзей. Але Полацкую зямлю чакалі суровыя выпрабаванні: у 1186 годзе, калі вялікім князем полацкім стане Уладзімір (ці не сын Усяслава Васількавіча?), у вусці Заходняе Дзвіны высадзяцца крыжакі. Але пра гэта — пазней.

## ХРЫСЦІЯНСТВА І АСВЕТА

Нам добра вядома, як пашыралася хрысціянства ў Кіеўскай Русі. Князь Уладзімір, зрабіўшыся хрысціянінам, апіраючыся на заможныя пласты грамадзянства, якім была эканамічна цікавая сувязь з хрысціянскай гандлёвай Візантыяй, выдаў загад знішчыць балваноў (ідалаў): адных пасячы, другіх спаліць. Асабліва ён здзекваўся з Перуна, які быў галоўнейшым богам нашых продкаў. Па загадзе князя яго прывязалі да конскага хваста, пацягнулі ў Дняпро, і слугі князя па дарозе білі яго батагамі. Потым вярхоўнага бога кінулі ў рэчку. (...) Веруючыя ў свайго бога людзі плакалі, бегучы за зняважаным богам, і крычалі: «Выдыбай божа». Але бог не выплыў.

Потым Уладзімір (...) запатрабаваў, каб усе прыйшлі на рэчку прыняць вадохрышча, абвясціўшы, што невыкананне гэтага загаду будзе прызнана як супраціўленне дзяржаўнай уладзе. Народ павінен быў паслухаць загаду. У некаторых мясцінах йшла справа не так гладка. У летапісе не раз упамінаецца аб барацьбе хрысціянства з паганствам, святчэннікаў з кудзеснікамі і валхвамі. Што датычыць Ноўгарада, дык там «Дабрыня[1] хрысціў агнём, а Пуцяга — мячом», як кажа летапіс.

Аб тым, як пашырылася хрысціянства ў Полацкай Русі, мы маем таксама некаторыя звесткі. Прыняўшы хрысціянства, у тым жа годзе (...) Уладзімір успомніў і аб сваёй апальнай жонцы ў Полаччыне. Ён прыслаў у Ізяслаўль, дзе жыла Рагнеда, сваіх пасланцаў, якія ад імя князя перадалі ёй такія словы: «Аз убо ныне крещен есмь и приях веру и закон християнский; подобает мне едину имети жену, юже поял в християнстве. Избери себе от вельмож моих, его же хощеши, да сочетаю тя ему». З гэтай весткі мы бачым, што Уладзімір больш зацікаўлен ліквідаваннем сваіх

[1] Дзядзька Уладзіміра Святаславіча Чырвонае Сонейка.

паганскіх шлюбных звязкаў, чым пашырэннем у Полаччыне хрысціянства. Выслухаўшы пасланцоў, Рагнеда ў кароткіх словах так адказала свайму былому мужу: «Быв княгинею, могу ли быть рабою у слуги твоего». Уладзіміра гэты адказ не задаволіў, бо ён не ліквідаваў шлюбнай справы. Праз нейкі час зноў ідуць ад яго пасланцы да Рагнеды, кажуць ёй прыняць хрысціянства. Прапазіцыя была зроблена так энергічна, што Рагнеда зрабілася не толькі хрысціянкай, але прыняла манаскі пастрыг пад імем Анастасіі. Для новапастрыжанай манашкі-княгіні быў пабудаваны манастыр, у якім яна і пражыла некалькі гадоў да смерці ў 1000 годзе. Ведама таксама, што ў гэты час у Полацку ўжо была адна хрысціянская царква. Гэтае летапіснае паданне гаворыць нам аб тым, што кіеўскі князь надта цікавіўся вераю Рагнеды. У такога палітыка, як Уладзімір, гэтая цікавасць не так рэлігійнага, як палітычнага значэння. Ён турбаваўся не аб тым, каб яго апальная жонка знайшла пэўнае месца ў нябесным царстве, а аб тым, каб злучыць Полацкую воласць з Кіеўскай у рэлігійных адносінах, а ў царкоўных адносінах падпарадкаваць яе кіеўскаму мітрапаліту. У кожным выпадку трэба сказаць, што ў Полаччыне кіеўскі князь не выдаваў загаду аб абавязковым для ўсіх прыняцці вадохрышча, як у Кіеве, і не змагаўся сілаю з паганствам.

Што датычыць да Ізяслава, сына Рагнеды, дык можна думаць, што ён згодаю, а не сілком пашыраў новую веру ў Полаччыне. Адзін, праўда, ужо пазнейшы летапіс так малюе характар гэтага князя: Ізяслаў быў рахманы, ласкавы і міласэрны. Ён паважаў духоўны і манаскі сан і вельмі любіў чытаць Святое пісьмо. Такі характар князя як нельга лепей быў здатны для згоднага, паступовага пашырэння хрысціянства. Калі з'явіліся першыя хрысціяне ў Полаччыне, трудна дазнацца. (...) Ёсць паданне, што ўжо ў IX стагоддзі тут былі хрысціяне. (...)

Пад гэтымі паданнямі ёсць пэўныя гістарычныя асновы. Землі Беларусі ляжалі на вялікім водным шляху з варагаў у грэкі. Па гэтым шляху йшлі гандлёвыя зносіны як з усходне-хрысціянскай Візантыяй, так і з заходнімі хрысціянскімі народамі. Гандляры, як варагі, так і рускія, везлі па гэтым вялікім шляху не толькі чужаземныя тавары, але й чужаземную хрысціянскую культуру, веру.

Усе гэтыя весткі гавораць нам аб тым, што новая вера не прыйшла сюды, як вера, што заваёўвае сабе месца агнём і мячом. Праўда, ішла нейкая барацьба паміж свяшчэннікамі новай веры і валхвамі, якія прадстаўлялі паганства, але ўсё ж такі наогул хрысціянскія погляды прасочваліся ў жыццё, як і ўся культура, згодным паступовым шляхам. Часам яны выціскалі з быту грамадзянства старыя паганскія погляды, а яшчэ часцей зліваліся з імі. Політэістычная[1] паганская вера не ставіла ніякіх перашкод для бога і святых новай веры, бо яна прызнавала, што існуе не адзін бог, а многа. Прызнаць новых багоў было для яе магчымым тым больш, што новых багоў яна малявала падобнымі на сваіх старых багоў. Святы прарок Ілля стаў падобен на Перуна, святы Улас на Вялеса і г. д. Такім спосабам утварылася яшчэ з часоў старасветчыны тое дваявер'е, якое існуе і ў сучаснай нам Беларусі. Наша вёска і дагэтуль носіць на сваіх рэлігійных паглядах пячатку далёкага мінулага. Тут згодна ўжываецца старое славянскае паганства з усходнім і заходнім хрысціянствам.

Кніжная асвета ў Полаччыне з самага пачатку стала ў сувязь з хрысціянскай верай. Укола царквы групавалася тады (...) адукаваная інтэлігенцыя. Так было не толькі ў Полаччыне, але і ў Кіеўшчыне, у Заходняй Еўропе, і ў Візантыі. Асвета ўсяго свету насіла тады царкоўны кірунак, і шмат патрэбна было часу змагацца за сваю незалежнасць ад царквы. Рэлігійнымі і культурна-асветнымі цэнтрамі былі манастыры. У іх альбо пры іх існавалі (...) школы, пісаліся і перапісваліся кнігі, групаваліся людзі асветы. (...) З прадстаўнікоў кніжнай асветы першага перыяду гісторыі Беларусі мы павінны адзначыць: у Смаленску — Клімента Смаляціча, у Тураве — Кірылу Тураўскага, у Полацку — князёўну Прадслава-Еўфрасінню[2].

Клімент Смаляціч жыў у першай палавіне XII стагоддзя. Як кажа летапіс, гэта быў кніжнік, якога не было на ўсёй

---

[1] Ад слова «політэізм» — шматбожжа.

[2] Такое старое напісанне. Ефрасінні Полацкай прысвечана аповесць Вольгі Іпатавай «Прадслава» і раман Таісы Бондар «Спакуса» (Мн., 1989). Пра яе чытайце ў часопісе «Спадчына» (1989, № 1) і кнігу Уладзіміра Арлова «Асветніца з роду Усяслава» (Мн., 1989).

Русі. Жыў ён у манастыры, але больш быў вучоным, чым манахам. У яго келлі побач з кнігамі Святога пісання можна было знайсці і айцоў царквы[1], з якіх ён атрымліваў веды аб антычных аўтарах: Гамеры, Платоне і Арыстоцелі. Ён добра ўчытваўся ў літаратуру і бачыў, што ў ёй ёсць шмат чаго такога, на што трэба звярнуць увагу і без чаго не можна добра зразумець Святое пісьмо. На яго погляд, антычныя аўтары былі звестунамі хрысціянскіх ідэй сярод паганскіх народаў таксама, як старазапаветныя пракорі сярод яўрэяў[2].

Паводле вестак, якія дайшлі да нас, Клімент быў вельмі працавіты і пладавіты аўтар: ён напісаў шмат кніжак, казанняў, лістоў, тлумачэнняў і г. д. З усіх гэтых матэрыялаў да нашага часу дайшоў толькі адзін ліст, напісаны Кліментам смаленскаму свяшчэнніку Фаме. Гэты ліст мае вялікаю вартасць затым, што ён сведчыць пра кірунак мыслі Клімента і яго сучаснікаў. Мы бачым, што тагачаснае грамадзянства цікавілася навукова-рэлігійнымі пытаннямі, а з іх асабліва пытаннем, як разумець і тлумачыць Святое пісьмо. Адны гаварылі, што разумець Біблію трэба так, як напісана, г. зн. літаральна. Другія не задавальняліся такім тлумачэннем і гаварылі, што зразумець святыя кнігі можна толькі пры дапамозе свецкай навукі, напрыклад, антычных аўтараў[3]. Зразумела, што такое тлумачэнне ўжо не магло быць літаральным. Сам Клімент[4], як гэта відаць з кірунку яго мыслі, трымаўся гэтага погляду. Паміж спрэчнымі старанамі спрытна йшла палеміка, у якую паміма волі ўцягвалася і мясцовае грамадзянства.

Другі прадстаўнік кніжнай асветы (...) Кірыла Тураўскі жыў таксама ў XII стагоддзі. Гэта быў не столькі кабінетны вучоны, як Клімент, колькі выдатны царкоўны прамоўца.

---

[1] Багасловы, якія сфармулявалі дагматыку хрысціянскай царквы, яе філасофскую і сацыяльную дактрыны, правілы багаслужбы, законы ўнутрыцаркоўнага жыцця.

[2] Біблія складаецца з дзвюх частак: Старога запавету і Новага запавету. Стары запавет з'яўляецца свяшчэннай кнігай для іўдзеяў і хрысціян, Новы запавет прызнаюць толькі хрысціяне.

[3] У гэтым сказе замест «толькі» трэба чытаць «і».

[4] Клімент (? — пасля 1164) быў з 1147 па 1154 г. мітрапалітам кіеўскім, г. зн. кіраўніком царквы на Русі.

Імя яго спатыкаем у агульных курсах рускай літаратуры старэйшага перыяду. Усе прамовы Кірылы[1] даюць нам добрыя прыклады царкоўнай красамоўнасці таго часу. Яго казанні і навучанні створаны паводле правілаў візантыйскай рыторыкі. Сучаснікі далі яму назву рускага Златавустага[2], і гэтая назва з поўным правам застаецца за ім і да нашага часу. Праф. Галубінскі, выдатны вучоны па гісторыі рускай царквы, так характарызуе яго казанні: «Казанні Кірылы Тураўскага, не маючы нічога агульнага з іншымі сучаснымі яму казаннямі, становяць сабой зусім такія самыя аратарскія творы, як казанні сучасных нам вучоных царкоўных прамоўцаў. Калі б перакласці іх на расійскую мову і сказаць, што яны належаць якому-небудзь сучаснаму прамоўцу, дык, можа, толькі добры знаўца справы заўважыць гэты абман». Ён гаварыў свае казанні такою мовай, што пэўна толькі нязначная частка народу магла зразумець іх, але усё ж, нягледзячы на гэтае, яго добра ведалі не толькі ў Полаччыне і ў Тураўшчыне, але і ва ўсёй Русі як выдатнага прамоўцу.

Прадслава-Еўфрасіння, князёўна Полацкая, таксама жыла ў XII стагоддзі. Яна была ўнучкаю вядомага нам полацкага князя-чарадзея Усяслава Брачыславіча. Як кажуць паданні, яна сваім хараством і розумам стаяла вышэй ад усіх сваіх равесніц. Жаніхі дабіваліся рукі князёўны, але яна адмаўлялася выйсці замуж. Бацькі хацелі аддаць яе замуж сілком. Даведаўшыся аб гэтым, яна патаемна пакінула родную сям'ю і ўцякла ў жаночы манастыр, на чале якога стаяла яе цётка. Калі бацькі даведаліся аб тым, на што прамяняла іх дачка княскія палацы, яны пачалі прасіць яе вярнуцца дадому. Нягледзячы на ўсё гэтае, Прадславе ўсё ж такі ўдалося застацца ў манастыры, і яна праз нейкі час нават прыняла пострыг. Яшчэ жывучы ў бацькоў

[1] Кірыла Тураўскі (каля 1130 — каля 1180) паходзіў з сям'і заможных граждан. Вучылі яго грэкі. Потым ён стаў манахам, адасобіўся ад свету, жыў на адзіноце і чытаў. Калі вызвалілася кафедра ў Тураве, яго выбралі епіскапам. Праваслаўная царква кананізавала Кірылу Тураўскага.

[2] Задоўга да Кірылы жыў выдатны царкоўны прамоўца, адзін з айцоў усходняй (праваслаўнай) царквы Іаан (каля 350—407), якога за красамоўства назвалі Златавустым.

коў, Прадслава любіла аддаваць свой адпачынак чытанню кніг. Кніга ў тыя часы была рэдкаю з'яваю ў грамадзянстве. Яшчэ і тады, каб мець кнігу, Прадслава з вялікім стараннем і цярплівасцю перапісвала яе. Прыняўшы манаскі пострыг, яна ўвесь час пачала працаваць над перапіскаю кніжак. Укола яе пачалі гуртавацца паслядоўцы асветы і кнігі, апроч таго, яна сама збірала ў манастыры перапісчыкаў і перапісчыц. І вось такім спосабам той манастыр, дзе жыла і працавала Прадслава-Еўфрасіння[1], стаў тым цэнтрам, ад якога кнігі расходзіліся ва ўсе староны. Шмат кніжных людзей дзякуючы працы манастыра атрымалі магчымасць чытаць кнігу, і асвета пашыралася ў Полацкай Русі і ў суседніх з ёю славянскіх тэрыторыях. Праца Еўфрасінні была, такім спосабам, тым дапаўненнем да прац вучоных, без якога навука не можа стаць культурным набыткам шырокага кола грамадзянства. Пад старасць Прадслава зрабіла падарож у Палесціну, у Ерусалім. Там яна і памерла ў 1173[2] годзе.

## ДРУГІ ПЕРЫЯД ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ (XIII—XVI стст.)

Каментарый да першага перыяду гісторыі Беларусі мы скончылі падзеямі 1186 года. Цяпер мы павінны прасачыць, як жылі і што рабілі блізкія суседзі нашых продкаў — літоўцы, або, шырэй кажучы, прадстаўнікі лета-літоўскай моўнай групы, балты.

Славяне (крывічы, дрыгвічы, радзімічы, северане) сутыкнуліся з імі ў час каланізацыі тых абшараў, якія займаюць цяпер Беларусь, Смаленшчына, Браншчына, частка Маскоўскай, Калужскай, Калінінскай і Пскоўскай абласцей Расіі, Чарнігаўскай вобласці Украіны, а таксама Беластоцкага ваяводства ў Польшчы. Балты адступілі на поўнач і захад, але частка гэтых плямёнаў стала тым субстратам, на аснове якога ўзнік беларускі народ. Адрозненні ў мове і звычаях, хоць і нязначныя, былі паміж славянскімі плямёнамі і дагэтуль. Асіміляцыя часткі балтаў стала адной з прычын

---

[1] Спасаўскі манастыр у Полацку. Часткова захаваўся да нашых дзён. Захаваўся таксама храм Спаса, які па заказу Ефрасінні пабудаваў дойлід Іаан. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны прапаў шэдэўр ювелірнага мастацтва — крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены майстрам Лазарам Богшам.

[2] Мошчы Ефрасінні цяпер захоўваюцца ў Спаса-Ефрасіннеўскім храме ў Полацку.

узнікнення беларускага народа, як асіміляцыя фіна-ўгорскага насельніцтва — адной з перадумоў фарміравання велікарускай народнасці.

У час славянскай каланізацыі балты не толькі адступалі, не толькі часткова былі асіміляваныя — балцкія паселішчы і нават цэлыя арэалы ўяўлялі сабой як бы астравы і паўастравы ў славянскім моры. Адным з гэткіх паўастравоў была гістарычная Літва. Паводле беларускага гісторыка М. Ермаловіча, яна займала тэрыторыю (прыкладна) ад Маладзечна да Ляхавіч, ад Менска да Наваградка. Тая частка Беларусі, дзе зараз Смаргонь, Ашмяны, Крэва і Гальшаны, называлася Нальшчанамі. З захаду ад Літвы была Чорная Русь (Горадзен, Наваградак, Слонім, Ваўкавыеск), каланізаваная дрыгвічамі, з паўднёвага захаду — Берасцейская зямля, якая стала пасля смерці сына Манамаха Мсціслава Уладзіміравіча часткай Галіцка-Валынскага вялікага княства, з паўднёвага ўсходу — Турава-Пінская зямля, якая з канца X стагоддзя была пад уладай кіеўскіх князёў, а ў 1157 годзе стала самастойнаю. З усходу і з Літвой і з Нальшчанамі суседзілі княствы Полацкай зямлі.

Адносіны паміж балтамі і палачанамі неадназначныя. Што датычыць ніжняга Рубона (гэтак называлі Заходнюю Дзвіну), дык да 1186 года тутэйшыя балцкія плямёны і лівы сталі падданымі Полацкай зямлі. Полацк меў выхад да мора, тут існавалі княствы Кукейнос і Герцыке, на чале якіх стаялі васалы вялікага князя полацкага Уладзіміра (1186—1216 гг.) Князь Герцыке Усевалад (пра яго чытайце: «Крыніца», 1988 г., № 11) быў зяцем літоўскага кунігаса Даўгерута. Не пазбаўлена грунту думка, што Полацк і літвіны былі саюзнікамі ў нападах на землі славенаў і тых крывічоў, якія не ўваходзілі ў Полацкую дзяржаву, але разам з тым літоўскія дружыны нападалі на Полацкую зямлю. З другога боку, полацкія крывічы каланізавалі літоўскія землі ў басейне Нёмана, пра што сведчаць назвы гарадоў і цвярдыняў: Крыў-горад (будучая Вільня), Крэва, Крывічы... Літоўскія воіны вербаваліся полацкімі і ўдзельнымі князямі для вырашэння ўнутраных спрэчак. Гэта мы бачылі ў часы Рагвалода Барысавіча. Як паведамляе летапіс, Усяслаў Васількавіч у 1181 годзе выкарыстоўваў у сваіх мэтах «Либь (ліваў) и Литву», а праз пяць гадоў загінуў у баі з літоўцамі. Акадэмік У. Ігнатоўскі зусім справядліва сцвярджае, што рашаючым фактарам, які абумовіў аб'яднанне літоўскіх плямёнаў, была нямецкая агрэсія. Але працэс кансалідацыі праходзіў хваравіта. Пазней мы ўбачым, што за вяршэнства змагаліся паміж сабою князі Літвы, Нальшчанаў і Жамойці (Жмудзі), а ўзнікненне Вялікага княства Літоўскага стала магчымым дзякуючы ўзвышэнню Наваградка. Полацкая зямля ў пачатку XIII стагоддзя вымушана была весці барацьбу з немцамі, літоўцамі, Ноўгарадам, Смаленскам. Каб у чытачоў склалася больш яснае ўяўленне пра

падзеі таго часу, пакажам іх у храналагічнай паслядоўнасці.

1186 — смерць Усяслава Васількавіча: князем стаў Уладзімір. Мэйнгард высадзіўся ў вусці Дзвіны. Давыд Расціславіч Смаленскі і яго сын Мсціслаў Ноўгарадскі ідуць на Полацак. Іх падтрымліваюць Усяслаў Друцкі і Васілька Валадаравіч Лагожскі. Палачане аддаюць Віцьбеск зяцю Давыда Смаленскага, аднаму з унукаў Глеба Менскага.

1196 — Яраслаў Усеваладавіч Чарнігаўскі ідзе на Віцьбеск пры дапамозе ўнука Усяслава Васількавіча Васількі Брачыславіча, Барыса Усяславіча Друцкага (унук Рагвалода Барысавіча). У змаганне ўмешваюцца смаленскія князі. Васілька Брачыславіч становіцца князем віцьбескім. Памірае Мэйнгард. Яго месца займае Бертальд.

1198 — у баі з лівамі загінуў Бертальд. Палачане разам з літоўцамі напалі на Лукі.

1199 — ноўгарадцы, псковічы і ладажане ідуць на Полацк. Палачане сустракаюць іх «з паклонам» і заключаюць мір.

1200 — у вусці Рубона высажваецца Альберт з крыжакамі.

1202 — Папа Інакенцій III зацвердзіў ордэн братоў воінства Хрыстова (Лівонскі ордэн).

1203 — Уладзімір Полацкі ўварваўся ў Лівонію, захапіў Ікесколу. Немцы заселі ў Гольме. Узяць яго Уладзімір не здолеў. Немцы заснавалі Рыгу.

1206 — абат Тэадорых пасланы заключыць мір з Полацкам, але раней за яго прыйшлі паслы ад ліваў; улетку Уладзімір арганізаваў няўдалы паход на Ікесколу і Гольм. Літва ідзе праз Полацкую зямлю на Смаленск.

1207 — Вячка, князь Кукейноса, просіць Уладзіміра выкарыстаць ад'езд Альберта для паходу на немцаў. Але Альберт яшчэ не паспеў адплыць і вярнуўся. Вячка вымушаны пакінуць Кейкенос.

1209 — Альберт ідзе на Герцыке. Васілька Брачыславіч Віцебскі аддае сваю дачку за Усевалада Вялікае Гняздо.

1210 — Рудольф Ерыхонскі прапануе Полацку мір, але гіне ў баі з эстамі. Замест яго прыбыў рыцар Арнольд. Дамоўлена, што лівы будуць плаціць Полацку даніну або непасрэдна, або праз біскупа Рыгі.

1212 — частку ўладанняў Герцыке захапілі немцы. Уладзімір накіроўвае пасольства да біскупа Рыгі. Заключаецца саюз з немцамі супраць літоўцаў. Дзеля гэтага Уладзімір адмаўляецца ад Лівоніі. Полацкія купцы атрымалі магчымасць правозіць тавары па Дзвіне да мора.

1213 — Даўгерут, цесць Усевалада, князя Герцыке, заключае саюз з Ноўгарадам.

1216 — эсты накіроўваюць пасольства да Уладзіміра. Заключаецца саюз з імі, літоўцамі і лівамі, ладзіцца сумесны паход.

Перад паходам Уладзімір раптоўна памірае. Есць думка, што яго атруцілі нямецкія выведцы. Веча паклікала на трон віцебскага князя Васільку Брачыславіча.

1220 — літоўцы напалі на Полацкую зямлю. На дапамогу прыйшоў Мсціслаў Давыдавіч Смаленскі. Даніла Раманавіч Галіцкі адваяваў Бярэсце ў кракаўскага князя Лешкі Белага.

1221 — Мсціслаў Давыдавіч у саюзе з Яраславічамі бярэ Полацк і Віцьбеск пад сваю апеку. Князі полацкі і віцебскі становяцца падручнымі ў князя смаленскага. У гэтым годзе летапіс згадвае полацкіх князёў Барыса і Глеба, сыноў Уладзіміра.

1222 — смаляне ўзялі Полацак і пасадзілі на княжэнне Святаслава Мсціслававіча, які падпарадкуецца Мсціславу Давыдавічу.

1223 — паход літоўцаў на Полацкую зямлю і далей на ўсход. Ноўгарад аддае Юр'еў (Тарту) ва ўладанне былому князю Кукейноса Вячку. Бітва на Калцы. У ёй бярэ ўдзел Юрый Нясвіжскі.

1224 — Вячка загінуў пры абароне Юр'ева ад немцаў.

1225 — Конрад Мазавецкі, пабачыўшы, што не зможа адолець прусаў, запрашае Тэўтонскі ордэн. Літоўцы ладзяць новы паход праз Полацкую зямлю на ўсход. Сын Усевалада Вялікае Гняздо і бацька Аляксандра Неўскага Яраслаў гнаў іх на захад і ў саюзе са смаленскімі князямі разбіў ля Усвята. Другі атрад, што дзейнічаў ля Полацка, разбіў Мсціслаў Давыдавіч Смаленскі.

1228 — Тэўтонскі ордэн прыйшоў у Прусію.

1229 — Смаленская Гандлёвая Праўда — дагавор, заключаны Мсціславам Давыдавічам ад імя Смаленска, Полацка і Віцебска з Рыгай і Готландам. Рускія вучоныя Пыпін (1883) і Сабалеўскі (1887) лічылі, што ў гэтым дакуменце ўжо выразна чуюцца гукавыя асаблівасці беларускае мовы.

1230 — памірае Мсціслаў Давыдавіч Смаленскі.

1232 — Святаслаў Мсціслававіч аб'ядноўвае Полацкую і Смаленскую землі. Смаленскае веча незадаволена тым, што князь прывёў палачан і абапіраецца на іх.

1234 — Полацак аддзяляецца ад Смаленска. Князем абраны сын Васількі Брачыславіча Брачыслаў Васількавіч, будучы цесць Аляксандра Неўскага. Паход літоўцаў на ўсход. Пры вяртанні ля Дуброўны іх разбівае Яраслаў Усеваладавіч.

1235 — Даніла Раманавіч Галіцкі ў пошуках саюзнікаў супраць Конрада Мазавецкага і тэўтонцаў звяртае ўвагу на літоўскага князя Міндоўга.

1236 — Даніла Галіцкі забраў у тэўтонцаў Дарагічын-на-Бузе. Разбіты ордэн вядзе перамовы з мечаносцамі.

1237 — Лівонскі і Тэўтонскі ордэны аб'ядноўваюцца. Паход Батыя на Русь.

Полацкая Русь за ўвесь час свайго папярэдняга існавання вяла амаль што не бесперарыўную барацьбу з Руссю

Кіеўскай. На яе трацілася шмат сілы і коштаў, гінулі людзі, жывёла і маёмасць. Руйнавалася ў змаганні ўсё тое, што было здабыткам цяжкай працы. У дамовым жыцці тэрыторыі паступова вынікла і разгарэлася змаганне двух сацыяльных класаў грамадзянства: на адным баку стаяла невялікая, але моцная група людзей лепшых, эканамічнай і палітычнай арыстакратыі; проціў іх на другім баку выступілі вялікая, але неарганізаваная маса подлых, нізшых людзей працоўнай беднаты. Гэтае змаганне таксама руйнуе эканамічнае і палітычнае палажэнне краю.

Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць, што пайшла барацьба гарадоў паміж сабою, гарадоў з прыгарадамі; барацьба валасцей і князёў паміж сабою і валасных князёў з вечамі. Стала цяжка жыць у Полаччыне. Пачынаецца эміграцыя з краю. Людзі розных станаў[1] грамадзянства, шукаючы лепшых умоў жыцця ці проста жадаючы выратаваць сваю галаву і маёмасць, уцякаюць з краю, як з нейкага гіблага месца. Эміграцыя пачала яшчэ больш пустошыць і нішчыць край. Эміграцыя ідзе ва ўсе бакі і найчасцей кіруецца на захад, у Літву. Бягуць у Літву прадстаўнікі розных груп грамадзянства. Ад сістэматычнага ўціску мясцовага капіталу бяжыць у заходнія лясы і балоты прыгнечаная бедната. Асабліва многа ўцякае рабоў[2], якія ва ўцёках знаходзяць магчымасць атрымаць волю. Капітал, баючыся выбухаў народнай помсты, таксама йдзе пэўным крокам у непачатыя куты Літвы. Туды ж бяжыць часам і князь з дружынаю, выгнаны з Полаччыны ці вечам, ці князем-родзічам, ці князем прышлым з Кіеўшчыны. Абжыўшыся ў Літве і набраўшы ў сваю дружыну сілы з літвінаў, вяртаецца гэты пакрыўджаны князь зноў у Полаччыну, каб зрабіць помсту і ўзяць назад тое, што ў яго адабралі. Сувязь полацкіх князёў з Літвою ў канцы XII і пачатку XIII стагоддзя часта выяўляецца ўжо ў тым, што адтуль прывозяць яны з сабою і літвінскія іменні, якія ставяць побач з ранейшымі хрысціянска-полацкімі, а то і без іх.

Эміграцыя ў Літву, шкадлівая для інтарэсаў Палаччаны,

---

[1] Стан — саслоўе.

[2] Рабамі на Русі былі палоннікі і тыя, хто прадаўся ў рабства. Асноўнай прадукцыйнай сілай грамадства былі сяляне. Праводзіць аналогію паміж рабствам на Русі і ў антычным свеце нельга.

пайшла на карысць Літве. Там пачынаецца нейкі рух — як культурны, так і палітычны. Літва пачынае злучацца і пачынае будаваць уласнае гаспадарства. Злучыўшы культурна і палітычна асобныя плямёны ў адзін дзяржаўны арганізм, яна будзе рабіць палітычную справу і ў Полаччыне.

Развінуўшы асвету, культуру і эканоміку, Полацкая тэрыторыя не здолела захаваць свайго асобнага дзяржаўнага жыцця. Літва ўзяла ў Полаччыны яе асвету, культуру і эканамічны развітак і прыйшла на тэрыторыю будучай Беларусі, каб даць ёй новы палітычны звязак і сувязь з сабою. Ідзе векавая супольная праца; на месцы зруйнаванай палітычна Полаччыны і на тэрыторыі Літвы будуецца вялікае і моцнае гаспадарства з літоўскаю ўладаю і полацкай культурна-эканамічнаю асноваю. Жыццё гэтага гаспадарства складае другі, літоўска-беларускі перыяд гісторыі Беларусі.

Гэты перыяд называюць яшчэ эпохаю Літоўска-Рускага гаспадарства. Мы лічым патрэбным назваць яго літоўска-беларускім перыядам. Справа ў тым, што як раз на працягу гэтага перыяду вынікла і развінулася тая дыферэнцыяцыя ўсходнеславянскага, рускага племя, якую мы бачым дагэтуль ў асобе трох прадстаўнікоў рускага племя — велікаруса, украінца і беларуса. Літва злучыла заходнія элементы рускага племя. Тут ішло сваё асобнае культурна-эканамічнае і сацыяльна-палітычнае будаўніцтва, над якім у цэнтры новай дзяржавы працавалі беларусы з літвінамі, а на паўднёвай ускраіне — украінцы. На ўсходзе ў гэты самы час збудавалася Маскоўскае гаспадарства, якое злучыла ўсходнюю палавіну рускага племя. Тут таксама йшла асобная культурна-эканамічная і сацыяльна-палітычная праца велікаруса[1]. (...)

## ЛІТВІНЫ

Што датычыць да літвінаў, дык весткі аб іх у летапісе надта небагатыя. Першы раз імя іх сустракаецца тут толькі

[1] Па сутнасці тут У. Ігнатоўскі паўтарае Марксаву думку пра тое, што ва ўсходніх славян было два цэнтры: Літва і Масква. Гэтая думка сустракаецца і ў працах вядомага рускага гісторыка С. Салаўёва.

ў X стагоддзі. Мяркуючы па летапісе, літвіны — невялікі народ, які не мае нават пачуцця сваёй этнаграфічнай еднасці. Сялібы літвінаў былі раскіданы як бы астраўкамі сярод пушчаў і непраходных балотаў. Тэрыторыя, якую займалі літвіны, ляжала большасцю па рэчцы Нёмну і па яго прытоках, часткаю па Заходняй Дзвіне і ўсходніх прытоках Віслы. На поўначы яна падыходзіла да берагоў Балтыйскага мора, а на поўдні землі літвінаў даходзілі да сярэдняй часткі Заходняга Буга.

Апроч летапісаў весткі аб літвінах даюць яшчэ і курганы. З гэтых курганных вестак мы бачым, што ў Еўропе яны жывуць вельмі даўно і што ў старажытныя часы яны займалі куды шырэйшую тэрыторыю, чым потым, напрыклад, у X стагоддзі. У тыя незапомныя часы іх сялібы ад берагоў Балтыйскага мора праз басейны рэк Нёмна і Заходняй Дзвіны цягнуліся далёка на ўсход аж да сярэдняй Акі. У цяперашняй Калужскай губерні, напрыклад, можна знайсці літоўскія археалагічныя памяткі. Якія прычыны ўтварылі гэты адход літвінаў на захад, мы не ведаем. Магчыма прыняць здагадку, што рускія плямёны, якія прыйшлі сюды з поўдня, як мацнейшыя і лепш арганізаваныя, адціснулі неарганізаваных літвінаў і занялі лепшыя месцы на ўсходзе.

У часы ад X да XII стагоддзя невялікі літвінскі народ распадаўся на шмат зусім дробных плямён. На крайняй поўначы, на правым беразе Заходняй Дзвіны, жылі летголы, продкі сучасных латышоў, на поўдні ад іх, на левым беразе Заходняй Дзвіны, у цяперашняй Ліўземшчыне, жылі земголы. Ад нізоўя Дзвіны аж да самага Балтыйскага мора сядзелі куроны (паводле наменклатуры заходніх хронік, ці Корсь — паводле рускіх летапісаў). Паміж утоку рэк Нёмна і Віслы — прусы, якія, паводле падання, дзяліліся яшчэ на 10 кален-родаў. Назовы двух з гэтых кален сустракаюцца ў александрыйскага вучонага II стагоддзя н. э. Пталемея. Апроч вышэйпаданых плямёнаў можна назваць такія літоўскія плямёны, як жамойць (Ковеншчына), аўкстотэ (Віленшчына), яцвягі (Гарадзеншчына). Усе гэтыя плямёны доўга жылі не толькі розна, але нават і варожа адно ад другога.

Вучоныя, мяркуючы па мове літвінаў і па другіх этнаграфічных прыкметах, прызналі, што яны належаць да арыйскіх, ці іначай кажучы, да індаеўрапейскіх народаў.

Да гэтага ж самага кораню належаць персы, грэкі, рымляне, кельты, германцы і славяне. (...)

Што датычыць да звычайных промыслаў, якімі жылі і карміліся літвіны, дык і тут яны йшлі тым шляхам, які паказвала ім матка-прырода. Балоты, азёры і рэкі клікалі іх да рыбацтва, адвечныя лясы — да зверaлоўства і пчалярства. (...) Асеўшы на мясцох, літвіны пачалі эксплуатаваць тыя кавалкі сухога грунту, якія былі раскіданы па іх зямлі. Так павінна было з'явіцца сярод іх земляробства. Усе летапісы XII і XIII стагоддзяў у адзін голас гавораць, што літвіны таго часу былі ўжо земляробамі і мелі дзякуючы гэтаму больш чым даволі хлеба.

Жывучы ў лясным зацішку, агароджаныя ад суседзяў балотамі і азёрамі, літвіны не маглі развінуць той культуры, якая была ў той час у ўсходніх і заходніх славян. Гарадоў, як гандлёвых цэнтраў, у іх не было. Зрэдку можна было спаткаць гарады, як цэнтры стратэгічныя, якія мала чым розніліся ад вёсак. Найчасцей жылі яны па вёсках, збіраючыся ў купу патрыярхальнай сям'і ці роду. На чале такіх сем'яў і родаў стаялі звычайныя старшыні, роданачальнікі, ці князі, якіх літвіны называлі рыкасамі і кунігасамі. Летапісы гавораць, што такіх князёў у літвінаў было шмат. У нас ёсць, напрыклад, такія звесткі, што (...) Аляксандр Неўскі ў бойцы пад Тарапцом забіў восем літоўскіх князёў; Даніла Раманавіч, князь галіцка-валынскі, змагаючыся з яцвягамі, забіў сорак яцвяжскіх князёў. Нам трэба выясніць, кім былі гэтыя літвінскія кунігасы ці рыкасы, якую яны мелі ўладу і моц. Мы мала можам адказаць на гэтае пытанне. Усё ж такі вядома, што ўлада літвінскіх князёў пашыралася на нязначныя па тэрыторыі вясковыя аколіцы, але ў гэтым невялікім абшары яны кіравалі зусім незалежна адзін ад другога. Паміж імі часта адбываліся хаўрусы, а яшчэ часцей ішло змаганне з прычын чыста мясцовых ці родавых; іншы раз яны злучаліся для якога-колечы хаўруснага паходу на суседзяў. Магчыма думаць, што некаторыя кунігасы былі проста патомкамі родавы старшыні, другія абіраліся патрыярхальнымі грамадамі, для таго, каб стаць на чале іх у цяжкі час барацьбы з другімі такімі ж грамадамі; трэція прыйшлі з боку і сілком накінулі сваю ўладу, скарыстаўшы ці сваю эканамічную моц, ці цяжкае і гаротнае жыццё асобнай літоўскай групы. Часам з летапісаў можна

бачыць, што асобныя літоўскія князі збіралі вакол сябе ахвотнікаў да нажывы, арганізавалі нешта падобнае на славянскую і германскую дружыну і рабілі напады на суседнія землі. (...)

У літвінаў доўга трымалася паганская вера, бо, дзякуючы асобнасці свайго грамадскага і палітычнага развіцця, яны не мелі ніякіх шырокіх зносін з народамі хрысціянскай рэлігіі. Нават у XIII стагоддзі, калі ўжо ўсе народы навокал літвінаў прынялі хрысціянскую веру, яны, як і раней, былі паганскім народам. Літвіны, як раней і славяне, лічылі, што ўся прырода заселена багамі, і кланяліся сілам прыроды. (...) Як і ўсе арыйцы, літвіны асабліва паважалі і кланяліся жыватворнаму агню ва ўсіх яго з'явах і формах, лічачы агонь наймацнейшай боскай сілай. Пакланенне агню было астаткам моцна развітага калісь культу продкаў. Дзеля гэтага агонь дамовага вогнішча быў свяшчэнным нават у пазнейшыя часы, калі літвіны зрабіліся ўжо хрысціянамі.

Найгалоўнейшым персаніфікаваным богам лічыўся пан маланкі і грому Пяркунас, падобны да ўсходнеславянскага Перуна. (...) Наогул кажучы, рэлігія літвінаў была дужа падобна на паганскую веру ўсходніх славян. (...)

## АБ'ЯДНАННЕ ЛІТВЫ

У канцы XII і пачатку XIII стагоддзя сярод літвінскіх плямёнаў, раскіданых сярод лясоў і балот, пачынаецца нейкі канцэнтрацыйны рух. Калі мы ўглядаемся, што выклікала гэты рух, дык бачым, што ён вынік як адказ на той уціск, які рыхтуецца ў гэты час на Літву з поўдня і ўсходу. Паводле рускіх летапісаў, на працягу XII стагоддзя і раней на Літву йдуць досыць частыя паходы паўднёва-рускіх князёў. Так, напрыклад, вядома, што ўжо Уладзімір Кіеўскі (так званы святы) не раз рабіў паходы на яцвягаў і некалькі разоў перамагаў. Адзін з сыноў Уладзіміра, добра вядомы Яраслаў Мудры, таксама не адзін раз хадзіў паходамі на Літву, карыстаючыся з неарганізаванасці яе насельнікаў. Для стратэгічных мэт, каб мець апорны пункт пры наступе ў Літву, Яраслаў пабудаваў на мяжы Літвы з Руссю горад, які назваў Наваградкам. Асабліва многа паходаў на тэрыторыю Літвы рабілі галіцка-валынскія князі.

Бліжэйшыя суседзі літвінаў на ўсходзе, палачане[1] і іх князі, таксама не раз урываліся ў зямлю літвінаў. Такая паступовая палітыка была ў тыя часы, калі Полаччына была моцная і не разрывалася на кавалкі ад хатніх палітычных і сацыяльных спрэчак, напрыклад, пры Усяславе Чарадзеі. Але калі Полаччына аслабла ад бесперарыўнага змагання з Кіеўшчынай і ад таго бязладдзя, якое ў ёй пачалося пасля Усяслава, то, зразумела, адносіны яе да Літвы сталі зусім іншыя. Наступ на захад павінен быў прыпыніцца. Асобныя князі і прадстаўнікі варожых у Полаччыне груп грамадзянства пры павароце не на іх карысць павінны былі эміграваць з бацькаўшчыны і шукаць для сябе новай лепшай долі на Літве. Воляю ці няволяю асядаючы тут, яны станавіліся як бы правадырамі ў новую тэрыторыю той культуры і арганізацыі, якая былі ў пакінутай імі Полаччыне. Разам з уцекачамі прыходзіў на Літву і капітал і ваенная моц. Уцекачы-князі групавалі вакол сябе дружыннікаў з літвінаў, знаёмілі іх з тэй ваеннай арганізацыяй, якая была добра знаёма ім самім. Часта, скарыстаўшы згрупаваную імі літвінаўскую ўзброеную сілу, князі-ўцекачы вялі яе на барацьбу проціў Полаччыны. Адсюль толькі адзін крок да таго, каб літвіны без запрашэння і без ініцыятывы прышлых князёў, па сваёй добрай волі і ахвоце пачалі мяшацца ў жыццё Полаччыны. Так яно і сталася з працягам часу: літвіны з пасіўнага матэрыялу рабіліся актыўным суседам Полаччыны. Прыходзячы ў Полаччыну і ўмешваючыся ў яе хатнія справы, літвіны яшчэ лепш і шчыльней маглі падысці і звыкнуць да арганізацыі і культуры, якую бачылі ў Полаччыне.

Такім спосабам паходы паўднёвых і асабліва заходніх рускіх князёў на Літву пачалі гуртаваць раскіданыя літоўскія плямёны, якія павінны былі бараніцца і для гэтага гуртавацца. Поруч з гэтым Полацкая Русь рабіла культурны ўплыў на Літву праз сваіх эмігрантаў. Усё гэтае пачало на Літве арганізацыйны рух. Спачатку зладзілася вайсковая арганізацыя і потым толькі арганізацыя накіравалася на дзяржаўны шлях.

---

[1] У. Ігнатоўскі пад тэрмінамі «палачане» і «полацкія славяне» разумее і дрыгвічоў.

У канцы XII стагоддзя Літва ўжо выступае на гістарычную арэну. Яна ўжо робіць акуратныя паходы на Полаччыну, маючы на мэце прылучэнне да Літвы новых тэрыторый. Пачаўшы з абароны, яна потым перайшла да нападу. Адзін з такіх момантаў нападу на Полаччыну апісвае пясняр «Слова аб палку Ігаравым»: «Мутна цячэ Дзвіна ў палачан пад грозным клікам Літвы паганскай, Толькі адзін Усяслаў[1], сын Васількаў, пазваніў вострымі мячамі аб шаломы літоўскія, думаючы аб славе дзеда свайго Усяслава, але сам ён ужо ляжыць на крывавай руні, пад шчытамі чырвонымі, пацяты мячамі літоўскімі. Не было з ім брата Брачыслава[2] і другога брата Усяслава[3]. Адзін ён выраніў душу з харобрага цела праз залатое ажэрэлле». Як відна з гэтай выняткі, Літва ўжо мела перавагу над Полаччынай: Літва будавалася. Полаччына раскідалася.

Следам за вайсковаю арганізацыяй пачалася ў літвінаў, як мы казалі, арганізацыя дзяржаўная. Яна была таксама як бы адказам на другі ўціск, уціск з захаду, з боку немцаў. Гэты ўціск на Літву пачаўся крыху пазней.

Першы раз немцы з'явіліся ў утоку Заходняй Дзвіны каля палавіны XII стагоддзя. Існуе такое паданне, што немцы пазнаёміліся з літоўскім краем і яго насельніцтвам зусім выпадкова. Марская бура прыбіла сюды іх карабель, і з гэтага часу яны пачалі ездзіць сюды ўжо па сваёй волі. Заявіліся немцы па-добраму: без зброі, без шуму, ціха і згодна, як простыя гандляры, шукаючы карыснага памену. Праз нейкі час разам з гандлярамі прыехаў сюды свяшчэннік Мэйнгард. Лівонская хроніка так піша аб гэтым: «Названы свяшчэннік (Мэйнгард) атрымаў дазвол ад полацкага караля Вальдэмара (Уладзіміра), якому паганскія лівы плацілі даніну, а разам з тым і падарункі ад яго, і, прапаведуючы хрысціянства, пабудаваў царкву ў вёсцы Укэсколе (Ікесколе). За ім паспяшалі з'явіцца і іншыя місіянеры». Трымаючы ў руцэ сакрамант і крыж, за пазухай мелі яны добры камень для сваіх духоўных авечак. Гэта відаць, з таго, што следам за царквою хутка тут ужо будуецца высокі, моцны

[1] Гаворка пра Усяслава Васількавіча. У арыгінале «Слова» ён названы Ізяславам.

[2] Брачыслаў Васількавіч быў у 1180—1186 гг. князем віцебскім.

[3] Усяслаў, князь друцкі. Верагодна, сын Рагвалода Барысавіча.

замак, муры і вежы якога пануюць над абшарамі акружных лясоў і балот. Гэты замак рабіў місіянераў панамі не толькі над душою, але і над целам мясцовага люду і даваў ім магчымасць мець не толькі маральную, але й палітычную моц.

Раней, калі літвіны і іх суседзі лівы бачылі ў прышлых людзях прапаведнікаў і пашырыцеляў веры, яны прыслухаліся да іх слоў і зварачалі нейкую ўвагу на новыя праўды. Але з цягам часу адносіны іх да гэтых людзей з крыжамі ў руках змяніліся. Мясцовыя жыхары сталі добра прыглядацца да чужынцаў і хутка пабачылі, што місіянеры не так цікавяцца сваім духоўным уплывам, як пашырэннем і ўзмацненнем сваёй улады ў гэтым краі. Таму, хто прыняў вадохрышча, прыйшлося цяпер плаціць не толькі даніну полацкаму князю, але і дзесяціну каталіцкай царкве. Пасля гэтага не надта ахвотна сталі слухаць прапаведнікаў, а потым і зусім перасталі.

Праз нейкі час мы бачым, што ў Літве выбухаюць паўстанні. Часта нямецкіх місіянераў разам з гандлярамі праганяюць з краю. Літвіны і лівы, прыняўшы вадохрышча, пры першай магчымасці зноў апускаюцца ў чыстыя воды Дзвіны, змываюць з сябе хрысціянства (...) Калі на Захадзе даведаліся аб гэтым, дык рымскі папа абвясціў крыжовы паход на Лівонію і Літву, бо ў той час у Заходняй Еўропе якраз ішла эпоха крыжовых паходаў. Розныя класы заходняга грамадзянства, дабіваючыся сваіх палітычных і эканамічных мэт, давалі матэрыял і грунт для гэтай мэты. Пад знакам крыжа хаваліся палітычныя і эканамічныя інтарэсы ўдзельнікаў паходаў: рыцары шукалі новых феодаў, гандляры — новых рынкаў, музыкі-сервы — вольнага жыцця, духавенства — новых парафій, якія б плацілі яму дзесяціну, і г. д. Гэты натоўп з далёкімі ад хрысціянства метамі і інтарэсамі прыйшоў з Заходняй Еўропы ў Лівонію і Літву для пашырэння рэлігіі Хрыста.

У 1200 годзе пры ўтоку Заходняй Дзвіны ўжо з'яўляецца крыжовае апалчэнне, на чале якога стаіць будучы біскуп Лівоніі Альберт Буксгаўдэн. З крыжам, такім спосабам, прыйшоў меч. У 1201 годзе[1] за чатырнаццаць кіламетраў ад мора на Заходняй Дзвіне Альберт закладае горад Рыгу,

[1] У 1203 годзе.

які робіць месцам сваёй кафедры. Біскуп добра разумеў, што на аднэй прапаведзі аперціся не можна. Каб зберагчы заснаваны горад, патрэбна была немалася ваенная сіла, якая абараняла б яго. Каб утварыць яе, ён пачаў раздаваць у літоўскіх землях феоды тым рыцарам, якія сюды з'яўляліся. Але гэтага было мала. Трэба было мець большы лік людзей і лепшую арганізацыю. Сучасная яму гісторыя паказала выхад. У гэтым жа годзе[1] ён засноўвае для Літвы і Лівоніі рыцарска-манаскі ордэн, падобны тым, якія засноўваліся ў Палесціне. Новы ордэн, атрымаўшы статут палесцінскага ордэна тампліераў, пачаў называцца брацтвам Хрыстовай дружыны, а потым — ордэнам мечаносцаў, або Лівонскім. Відочная адзнака рыцараў-манахаў гэтага ордэну такая: белы плашч з чырвоным крыжам і мячом на плячах. Сябры ордэну атрымалі ад папы не толькі абавязак пашырыць хрысціянства, але і права ўладаць пакоранымі землямі залежна ад рыжскага біскупа. Крыжам, мячом і агнём робяць яны сваю справу, рабацяць ліваў і літвінаў (...) Каб лепш трымаць у сваіх руках новых католікаў, яны муруюць моцныя замчышчы ў Крэйцбурзе, Дынабурзе, Волькэнбэрзе, Люцыне, Рэжыцы і г. д. Без страху седзячы ў мурох сваіх замкаў, яны занявольваюць, эксплуатуюць і германізуюць край ад паўночнай мяжы цяперашняй Ковеншчыны да Фінскай затокі і Пскоўшчыны. Мясцовыя жыхары, згубіўшыя вольнасці і сілком перароблены на хрысціян, падымаюць паўстанне і гуртуюцца, каб мець магчымасць абароны ад уціску.

Крыху пазней ад Лівонскага ордэну ля Балтыйскага мора, паміж Нёманам і Віслай, на землях літвінскага племя прусаў абсеўся другі духоўна-рыцарскі ордэн — Тэўтонскі. З'явіўся ён сюды з Палесціны, дзе існаваў з часу трэцяга крыжовага паходу. Затрымацца ў Палесціне на далейшыя часы ён не мог, бо там мусульмане пачалі праганяць крыжакоў. У такі цяжкі для ордэну момант да яго звярнуўся... герцаг мазавецкі Конрад. Ён запрасіў да сябе рыцараў Тэўтонскага ордэну, каб яны абаранілі яго землі ад нападаў літоўскага племя прусаў. Калі рыцары аселі на новыя месцы, пачалося іх змаганне з прусамі. Барацьба была ўпартая і крывавая. Дзякуючы свайму ваяўніцкаму штукар-

[1] У 1202 годзе.

ству і добрай зброі ўрэшце тэўтонцы атрымалі верх. Прусы прымушаны былі часткаю выселіцца на паўднёвы ўсход[1], часткаю загінулі ў няроўнай барацьбе, часткаю зліліся з немцамі. Літоўскі нацыянальны твар іх сцёрся, а імя перайшло да немцаў, якія зрабілі гэты літоўскі край сваёй калоніяй.

Палажэнне Лівонскага ордэну між тым пагаршалася. Апроч ліваў на яго напіралі суседзі рускія, якія мелі свой эканамічны ўплыў на Літву і не хацелі ад яго адмовіцца. Ордэн разлагаўся і ўнутры ад адсутнасці дысцыпліны (...). Мечаносцы сваім «манаскім» жыццём праслаўляліся па ўсёй Еўропе. Не бачачы ніякага паратунку для ордэну, яго магістр Вольквін прапанаваў Тэўтонскаму ордэну, каб той згадзіўся на зліянне мечаносцаў з імі. Пасля перагавораў у 1237 годзе абодва ордэны злучыліся, каб лепш змагацца з Літвою. Літвіны, устрывожаныя гэтымі суседзямі, пачалі з імі крывавую барацьбу, бароначы сваю народнасць. Пэўна, што і літоўскім плямёнам трэба было злучацца ў адно моцнае гаспадарства, каб цалкам не загінуць у гэтай барацьбе.

Такім спосабам, само жыццё прымушала літвінскія плямёны да аб'яднання. З двух бакоў былі яны сціснуты сваімі суседзямі. З аднаго боку, з усходу, напіралі на іх рускія славяне, а з другога боку, з захаду, ішоў гвалтоўны нямецкі ўціск. Літоўцам, у адказ на гэты двухбочны націск, прыйшлося гуртавацца. Раней яны гуртуюцца ў ваенныя сувязі, пазней з гэтых сувязяў вынікае грамадзянская і дзяржаўная арганізацыя. Арганізуючы адпор сваім заходнім і ўсходнім суседзям, літвіны падаліся некалькі на ўсход, бо славяне былі слабейшыя ад немцаў (...). Спаткаўшыся з полацкімі славянамі ўжо на славянскай тэрыторыі, літвіны аказаліся з палітычна-арганізацыйнага боку мацнейшымі і пачалі творчую працу ў Полаччыне. Так пачаўся перыяд супольнага жыцця ў адным гаспадарстве літвінаў і Полацкай Русі, перыяд Літоўска-Беларускага гаспадарства.

Перш чым публікаваць чарговы параграф «Кароткага нарыса гісторыі Беларусі», мы павінны зрабіць пэўныя істотныя заўвагі.

У. Ігнатоўскі следам за некаторымі рускімі гісторыкамі піша,

---

[1] На тэрыторыю сучаснай Беларусі, пра што сведчаць назвы вёсак — Прусы, Вялікія Прусы і г. д. Гэта адбылося пры вялікім князі Тройдзені.

што Міндоўг, «карыстаючы... з агульнага перапалоху, які зрабілі на Русі татары... захватвае так званую Чорную Русь...» Трэба адзначыць, што да 1246 года пагроза з боку татараў як для Чорнае, гэтак і для Полацкае Русі была ўжо не такая небяспечная: Уладзіміра-Суздальская, Кіеўская ды Галіцка-Валынская землі, учыніўшы супраціўленне нашэсцю, зрабілі немагчымым масіраванае наступленне ханаў на Чорную Русь ды Полацк.

Дзякуючы таму, што ад татара-мангольскага нашэсця аслабела Галіцка-Валынскае вялікае княства, а Прусія і Жамойць (Жмудзь) ды Полацкая зямля вымушаныя былі весці вайну з немцамі, узвысіўся Наваградак, які трапіў быў у залежнасць ад праўнука Манамаха Данілы Раманавіча Галіцкага. Наваградскім баярам ды купцам хацелася падпарадкаваць Чорную Русь і Літву. Дзеля гэтага яны выбралі Міндоўга, які раней служыў наваградскаму князю Ізяславу, а ў 1235 годзе быў выкарыстаны Данілам Галіцкім у яго барацьбе супраць Конрада Мазавецкага. Славалюбны Міндоўг хацеў узяць верх над астатнімі балцкімі князямі. У пачатку 40-ых гадоў XIII стагоддзя ён па просьбе куронаў выправіўся ваяваць з немцамі, але быў разбіты. Ягонае паражэнне выкарысталі супернікі, і Міндоўг вымушаны быў уцячы у Наваградак. Тут у 1246 годзе ён прыняў праваслаўе і быў абраны князем. Толькі пасля гэтага Міндоўг, кажучы словамі летапісу, «Литву зане». Заняўшы Літву, ён стаў распраўляцца з сваімі праціўнікамі. Сярод іх былі Вікант, Едзівіл і Таўцівіл. Уцёкшы ў Полацк, Таўцівіл прыняў праваслаўе і стаў там баявым князем (пра яго чытайце: «Крыніца», 1989, № 11). У сувязі з гэтым фактам уяўляецца памылковым сцверджанне У. Ігнатоўскага, што ў Полацку зацвердзіліся падручныя князі Міндоўга.

Праціўнікам Міндоўга быў і Даніла Галіцкі. Ён пры дапамозе Віканта падняў на Міндоўга яцвяжскіх ды жамойцкіх князёў. Саюз з імі заключылі крыжакі. І тады праваслаўны Міндоўг перайшоў у каталіцтва, адцураўся ад сваіх прэтэнзій на Жмудзь на карысць Ордэна. За гэта ён атрымаў ад папы каралеўскую карону (1250 г.). У 1253 годзе Даніла Галіцкі з братам Васількам і сынам Львом пры падтрымцы Таўцівіла і качэўнікаў падышоў да Пінска, які быў саюзнікам Наваградка, і прымусіў пінскіх князёў ісці на Наваградак. Войска ўварвалася спачатку ў Літву, а потым «Плениша всю землю Новогородьскую». У той самы час сын Данілы, Раман, узяў Горадзен.

Пабачыўшы няўдачы караля, наваградскае веча пазбавіла яго пасаду і запрасіла на княжэнне старэйшага сына Міндоўга — праваслаўнага Войшалка (1254 г.). Застаўшыся валадаром Літвы, Міндоўг апынуўся ў двайной залежнасці: ад Ордэна і Данілы Галіцкага. Дапамагаючы Данілу ў яго барацьбе з татарамі, ён справакаваў набег на Літву. А тым часам жмудзіны і куроны разбілі ордэнскае войска (1260 г.). Але гэты была не канчатковая пера-

мога. Жамойтам, куронам, як і земіголам, патрэбная была дапамога. Жамойцкі князь Транята паехаў да Міндоўга і, запатрабаваўшы, каб той адрокся ад хрысціянства, паабяцаў яму вярхоўную ўладу не толькі ў Літве, але і ў Корсі, Прусіі, Мазовіі і Жамойці. Транята, які надумаў забіць Міндоўга, падгаварыў яго пачаць паход у Лівонію. Дзеля гэтага Міндоўг распачаў перамовы з ноўгарадскім князем Аляксандрам Неўскім. Аднак паход з розных прычын не ўдаўся. Потым быў няўдалы паход на галіцка-валынскія землі (1262 г.), смерць жонкі Марфы. Міндоўг вырашыў ажаніцца з сястрою нябожчыцы — жонкай нальшчанскага князя Даўмонта (пра яго чытайце: «Крыніца», 1989, № 8). Даўмонт, склаўшы змову з Транятам, Гердзенем, наважыўся забіць Міндоўга і яго малодшых сыноў у час паходу на Бранск (1263 г.), а затым уцёк у Пскоў, дзе быў абраны князем.

Да ўлады прыйшоў Транята. Ён паклікаў з Полацка Таўцівіла дзяліць «добыток Миндовгов». Небяспечны і моцны праціўнік быў забіты. Але Транята няшмат пабыў вялікім князем. Войшалк, які пасля бацькавай смерці ўцёк у манастыр пад Пінскам, рукамі Міндоўгавых слуг забіў Траняту.

Тут трэба ўдакладніць адзін момант. Ігнатоўскі піша, што пры бацьку Войшалк кіраваў Наваградкам і Чорнаю Руссю. Пры бацьку ён быў наменікам у Слоніме і Ваўкавыску. На наваградскі сталец сеў пасля таго, як Наваградак не захацеў мець сваім гаспадаром Міндоўга. Стаўшы князем, Войшалк паехаў у Холм на сустрэчу з Данілам Галіцкім і аддаў за ягонага сына, Шварна, сваю сястру. Даніла запатрабаваў, каб Наваградская зямля была аддадзеная Шварну, але Войшалк аддаў яе Раману Данілавічу. Робячы гэта, Войшалк бачыў, што Галіцкая зямля становіцца ўсё больш залежнаю ад татараў. Трэба было дачакацца яе поўнага заняпаду. Раман едзе ў Наваградак, а Войшалк застаецца заложнікам. Тут ён прымае манаскі пострыг. У 1258 годзе князь-манах вяртаецца ў Наваградскую зямлю і будуе на мяжы з Літвою Лаўрышаўскі манастыр. Са свае келлі ён вядзе перамовы з князем полацкім Таўцівілам. Полацк, які меў інтарэсы ў Літве, ухваляе саюз з Войшалкам.

Дазнаўшыся, што на Галіцка-Валынскую зямлю збіраюцца татары, Войшалк здымае клобук і разам з Таўцівілам забірае Наваградак у Рамана Данілавіча. Даніла Галіцкі ідзе на Наваградскую зямлю, але ў гэты час у яго ўладанні ўрываюцца татары і патрабуюць, каб ён ваяваў Літву і Нальшчаны.

Уцёкшы пасля бацькавай смерці ў манастыр, паражыўшы тут смерць Таўцівіла, арганізаваўшы забойства Траняты, зноў скінуўшы клобук, вярнуўшы з дапамогай пінчукоў і бацькавай дружыны Наваградак і Літву, расправіўшыся з унутранымі ворагамі, Войшалк заключае мір з Ордэнам, а потым прызнае сябе васалам Васількі Раманавіча Берасцейскага, брата Данілы Раманавіча.

Галіцка-Валынская дзяржава да гэтага часу заняпала. Даніла Раманавіч па патрабаванні татараў вымушаны быў знесці муры вакол сваіх гарадоў. Войшалк запрашае на наваградскі пасад свайго швагра — бяздзетнага Шварна. Пры дапамозе Васількі Раманавіча і Шварна Войшалк падпарадкаваў Наваградку Дзяволтву (цэнтр — Вількамір) і Нальшчаны (цэнтр — Крэва), якія былі ў цеснай сувязі з Полацкам. Полацкі князь Ізяслаў у 1264 годзе прызнаў «волю» Войшалка над Полацкам. У тым жа годзе Войшалк вырашыў ахрысціць Літву і папрасіў прыслаць святароў Пскова, але Даўмонт, князь пскоўскі, не прыслаў іх. Тады, зноў надзеўшы клобук, Войшалк накіраваўся ў Галіцкую зямлю, у Палонінскі манастыр, дзе ён прыняў манаства. Тут яго запрасіў князь Леў Данілавіч і ў час піру забіў князя-манаха (1267 г.).

Менавіта Войшалк, аб'яднаўшы Наваградак, Чорную Русь, Літву, Нальшчаны і Дзяволтву, стварыў Вялікае княства Літоўскае.

Пасля смерці Шварна ў 1270—1282 гадах наваградскі пасад займаў Тройдзен (пра яго чытайце: «Крыніца», 1989, № 12). Пры ім тэўтонцы перамаглі прусаў, лівонскія рыцары — землігоду, палякі — яцвягаў. Вялікі князь даў прытулак усім ім. (З часам рэшткі гэтых народаў будуць асіміляваныя беларусамі.) Пры Тройдзені немцы падышлі непасрэдна да Чорнае Русі і Літвы. Вялікаму князю ўдалося пакарыць Жамойць. (Цяпер дзяржава стала называцца Вялікім княствам Літоўскім і Жамойцкім.) Ён пачынае будаваць сістэму замкаў, стварае рэгулярнае войска, ваюе з палякамі і галіцка-валынскімі князямі. У 1277 годзе адбыўся першы супольны паход Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага і Полацкага на ордэнскія землі.

У 1282—1293 гадах вялікім князем быў Лютавер, бацька Віценя (1293—1316 гг.) і Гедыміна (1316—1341 гг.). Віцень зацвердзіў агульнадзяржаўны герба Пагоня. Княжыванню Лютавера і Віценя супраціўлялася знаць на чале з сынам Тройдзена Пялузе. У 1286 годзе ён уцёк у Ордэн, абвясціў сябе вялікім князем і чыніў набегі. Толькі ў 1314 годзе трапіў у рукі да Гедыміна і быў пакараны смерцю. Моцна супраціўлялася Віценю Жмудзь. У 1294 годзе жамойцкія князі сталі саюзнікамі крыжакоў і паднялі паўстанне. Да канца Віценевага княжэння яны не хацелі браць удзелу ў паходах на Ордэн.

Што ж уяўляў сабою ў гэты час Полацк?

У 1239 годзе князь Брачыслаў Васількавіч аддаў сваю дачку за ўнука Усевалада Вялікае Гняздо Аляксандра Яраславіча, а ў 1240-ым — дапамог зяцю ваяваць супраць шведаў (у Неўскай бітве вызначыўся Якаў Палачанін). Пра дату смерці Брачыслава Васількавіча мы не ведаем. Вядома, што ў канцы 40-ых — пачатку 50-ых гадоў XIII стагоддзя князем у Полацку быў Таўцівіл, потым згадваецца князь Канстанцін (вясна і лета 1264 года). Яго супернікам, мабыць, быў Ізяслаў, які ўвосень 1264 года прызнаў «волю»

Войшалка. У 1264—1267 гадах на пасадзе сядзеў сын Давіда Расціславіча Гердзень, сваяк Міндоўга. Ён заключыў мір з Рыгаю і Готландам, адмовіўся ад Латгаліі і земляў, якія Ордэну аддаў Канстанцін. Загінуў Гердзень у баі з псковічамі, на чале якіх стаяў Даўмонт. Затым князем зноў быў Канстанцін (згадваецца каля 1271 года), пасля яго — Яраслаў Ізяславіч і, нарэшце, невядомы князь з Літвы. Трэба адзначыць, што ў гэты час палачане разам з літоўцамі неаднаразова хадзілі на Смаленск. У 1307 годзе Віцень прапанаваў полацкаму вечу абраць князем ягонага брата Воіна. З гэтага часу пачынаецца гісторыя Вялікага княства Літоўскага, Жмудскага і Рускага. Пазней Гедымін назаве сваю дзяржаву Вялікім княствам Літоўскім і Рускім.

## БУДАВАННЕ ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ Ў XIII СТАГОДДЗІ

У другой чвэрці XIII стагоддзя, больш-менш каля часу злучэння двух нямецкіх ордэнаў, летапісы часта пачынаюць гаварыць і выдзяляць з іншых літоўскіх кунігасаў аднаго кунігаса Міндоўга. Яны яго адзначаюць, як мацнейшага і заможнейшага ад усіх літвінскіх князёў. На падставе летапісных даных мы можам меркаваць, што ён ужо ад свайго бацькі Рынгольда атрымаў значныя сілы для барацьбы з сваімі супернікамі. Пад 1236 годам у Валынскім летапісе Міндоўг ужо лічыцца галоўным князем і прадстаўніком інтарэсаў усёй Літвы. Ліўземская кроніка, апісваючы ў сваіх радках пад 1244 годам адзін з многіх наскокаў літвінаў на лівонскіх рыцараў-крыжакоў, гаворыць, што зямлю лівонскую зусім спустошыла літоўскае войска, якое налічвала ў сваім складзе да 30 тысяч чалавек, і што на чале яго стаяў Міндоўг, «магутны кароль літоўскі». Гэтыя частыя паўторныя весткі летапісаў і кронік трэба разумець так, што Міндоўг быў проста старшым над кунігасамі і меў пяршынства ў некаторых ваяўніцкіх справах. Адначасова з гэтым мы бачым, што малодшыя князі далёка яшчэ не згубілі сваёй незалежнасці. Летапісы адзначаюць не раз, што кунігасы маюць поўную магчымасць весці сваю асобную палітыку, як у ваяўніцкіх, так і ў грамадзянскіх справах. Так, напрыклад, вядома, што ў 1246 годзе, нягледзячы на тое, што паміж Валынню і Міндоўгам была поўная згода, ішла вялікая бойка паміж валынскім вялікім князем і адным з літоўскіх князёў... І гэтая бойка зусім не парушыла згодных адно-

сін паміж Валынню і Міндоўгам. Міндоўг зусім не лічыў сваіх інтарэсаў закранутымі ў гэтым выпадку.

Пачынаючы з 1248 года кірунак улады Міндоўга змяняецца. Ён ужо не задавальняецца значэннем першага князя паміж незалежнымі літоўскімі кунігасамі. Ён прагнецца быць поўным гаспадаром усёй Літвы. Дзеля гэтай пастаўленай сабе мэты ён энергічна вядзе барацьбу з тымі князямі, якія ўпарта хочуць захаваць сваю незалежнасць. Барацьба была няўпынная і крывавая. Міндоўг не спыняецца ні перад чым. Шмат дробных князёў, нават блізкіх родзічаў і сваякоў яго, загінула ў гэтай беспарарыўнай барацьбе ад рук Міндоўга.

Адначасна з гэтым Міндоўг накладае сваю цяжкую руку на незалежнасць суседніх княстваў Полацкай Русі[1]. Карыстаючыся з таго агульнага перапалоху, які зрабілі на Русі татары, ён захватвае так званую Чорную Русь, тэрыторыя каторай займала левыя прытокі Нёману. Тут ён атрымаў уладу над ніжэйпаданымі гарадамі: Наваградкам, Слонімам, Гародняю, Ваўкавыскам і г. д. Яго падручныя князі ў гэты самы час зацвердзіліся ў Полацку. Сталіцаю свайго гаспадарства Міндоўг зрабіў Наваградак.

Такім спосабам Міндоўг збудаваў гаспадарства, якое з самага пачатку было не проста Літоўскім, а Літоўска-Беларускім. Літоўскі гаспадар добра разумеў, што аперціся ў сваёй будоўлі толькі на адных літвінаў ён не можа. Племя літвінаў было невялікае, апроч таго, у ім не было культурнай моцы. Трэба было прыцягнуць да дзяржаўнай творчасці полацкае грамадзянства. Толькі яно было тым элементам, з якога можна было чэрпаць і збройную сілу і арганізацыйна-культурную традыцыю, што надта патрэбна для маладога, чуць пачынаўшага сваю арганізацыйную працу гаспадарства. І трэба зазначыць, што Полацкая Русь дала новаму гаспадарству свае парадкі, звычаі, установы і культуру.

Найбольш пагражалі новаму гаспадарству заходнія суседзі — крыжакі. Часам здавалася, што малады дзяржаўны арганізм не вытрывае заходняга націску. Крыжакі карысталі

---

[1] Як і раней, пад словамі «полацкі», «Полацкая Русь» і г. д. У. Ігнатоўскі часта мае на ўвазе і дрыгвічоў, якія жылі ў Чорнай Русі і Турава-Пінскай зямлі.

з кожнага выпадку, каб умяшацца ў хатнія справы Літвы і Беларусі. Змагацца з імі зброяю яшчэ не было магчыма. І Міндоўг, добра разумеючы, што барацьба з немцамі прывядзе гаспадарства ды гібелі, стрымліваў іх, робячы ім усялякія ўступкі і пасылаючы ім падарункі. Каб лепш забяспечыць сваё гаспадарства ад нападаў крыжакоў, ён прыняў нават у 1250 годзе вадохрышча[1]. Само сабою разумеецца, што гэтае вадохрышча мела выключна толькі палітычны кірунак і «было льстиво», як кажа летапісец. Перамяніўшы сваю веру і зрабіўшыся афіцыйна хрысціянінам, Міндоўг у сваёй істоце ніколькі не перамяніўся. Ён, як і раней, прыносіў ахвяры сваім старым паганскім багам, верыў сваёю старою вераю: выходзячы на паляванне, ён заўжды, як і раней, асцерагаўся і баяўся, каб заяц не перабег яму дарогі, а калі гэта бывала, то ён варочаўся дахаты.

Праз нейкі час усё ж такі выявілася, што гэтае «льсцівае» вадохрышча не забяспечыла Літвы ад нападаў немцаў, каторыя, як і раней, не давалі Міндоўгу спакою. Абачыўшы гэтае і пераканаўшыся, што дабром ад крыжакоў нічога не дабіцца, ён зрокся хрысціянства, стаў на чале абуранага нямецкімі нападамі народу і так разбіў ордэнскія войскі, што яны доўгі час памяталі гэтую навуку і ўстрымліваліся ад паходаў на літоўска-беларускія землі.

Асобныя літоўскія князі былі вельмі незадаволены самаўладствам Міндоўга. Мясцовыя сепаратыўныя пажаданні падтрымлівалі іх настрой. Не маючы усё ж такі моцы адкрыта, са зброяю ў руках, змагацца з Міндоўгам, яны ўчынілі патаемную змову. Золата адчыніла ім моцна замкнутыя дзверы да спальнага пакою гаспадара. Напаўшы на спячага князя, яны забілі яго разам з двума малалетнімі сынамі. Так скончылася першая самаўладная спроба пабудаваць Літоўска-Беларускае гаспадарства.

Забіўшы Міндоўга, змоўцы пачалі дзяліць захопленую ўладу паміж сабой. Тым не менш кожны з іх разумеў, што грунтоўным кірункам палітычнага жыцця Літвы і Белай Русі з'яўляецца злучэнне ўсіх зямель. Кожны з іх лічыў, што выкананне гэтай мэты павінна быць зроблена яго рукамі і што будучае першае месца ў гаспадарстве павінна быць

[1] Паводле каталіцкага абраду.

за ім. Зноў пачынаецца барацьба за ўладу паміж тымі, хто не мог выцярпець цяжару вярхоўнай улады Міндоўга.

У пачатку ўладу атрымаў адзін з супернікаў князь Таўцівіл. Праз нейкі час мы бачым на чале маладога гаспадарства жмудскага князя Траняту. Але і ён не змог доўга ўтрымаць уладу ў сваіх руках. Скора яго пасаду займае дастойны свайго бацькі, старэйшы сын Міндоўга, хітры і дыпламатычны Войшалк.

Яшчэ ў той час, як жыў на свеце Міндоўг, Войшалк па даручэнні бацькі кіраваў, як намеснік, у Наваградскім княстве і ў Чорнай Русі, каторая групавалася вакол Наваградку. Ен быў падобен на свайго бацьку і па тэй мэце, якую паставіў перад сабою: утварыць усімі спосабамі ў Літве аднаўладства, узяўшы ўладу ў свае рукі.

Летапісец так малюе Войшалка ў той час, калі ён быў князем-намеснікам у Чорнай Русі: «Войшалк кожны дзень забіваў па тры ці чатыры чалавекі. Калі ў які дзень яму не было здарэння забіць каго-небудзь, то ён рабіўся вельмі сумным і засмучаным, а калі ён каго забіваў, то быў надта рады».

Як прачытаеш гэтую кароценькую летапісную вестку, то здаецца, што Войшалк быў якімсьці лютым, дзікім зверам, каторы карміўся чалавечым мясам і крывёю. Зразумела, што сапраўды гэтага быць не магло. Усё ж такі летапіснае паданне дае нейкую адзнаку таго, што тварылася ў тыя часы. Трэба думаць, што былі пэўныя і грунтоўныя прычыны, каторыя прымушалі Войшалка, як і Міндоўга, праліваць кроў і рабіць забойствы. Ен быў занадта разумны і хітры для таго, каб без прычыны і без мэты займацца людскім забойствам. Справа ў тым, што Войшалк падтрымліваў бацькоўскую ідэю аднаўладства. Пэўна, што трэба было дапамагчы свайму айцу зламаць ворагаў аднаўладства, якіх, мы ведаем, было нямала. Калі мы звернем увагу на ўсё гэтае, то зразумеем, што Войшалк рабіў забойствы не дзеля свайго капрызу, а дзеля палітычнай мэты.

Некалькі раней, калі была спрэчка паміж галіцкім князем Данілам Раманавічам і Міндоўгам, літоўскі князь, жадаючы згоды, паслаў дзеля гэтай справы ў Галіччыну Войшалка. Войшалку ўдалося дабіцца згоды. Потым ён застаўся жыць у Холме ў Галіччыне, мабыць, дзеля таго, каб падтрымаць згоду. Гэтая дыпламатычная місія яму ўда-

лася. Згода ўзмоцнена выданнем замуж сястры Войшалка за сына Данілы — Шварна. Княяванне над Чорнаю Руссю, а таксама жыццё ў Галіцкай Русі зрабілі з Войшалка прыхільніка рускай нацыі, культуры і праваслаўнай веры. Раней паданне не шкадавала чорнай фарбы, калі давала малюнак паганскага жыцця Войшалка. Цяпер яно таксама не шкадуе ружовай фарбы, малюючы Войшалка ў хрысціянстве. Паданне кажа, што, жывучы ў Галіччыне, Войшалк пазнаёміўся з адным ігуменам Грыгорам, такім святым чалавекам, якога, водлуг падання, «не было раней, і не будзе пазней». Гэты святы ігумен меў такі ўплыў на літоўскага сярдзітага князя, што ён рабіўся святым чалавекам. Войшалка стала грызці сумленне за ўсе тыя забойствы, каторыя ён утварыў раней, калі быў у паганскім стане. Ён прыняў вадохрышча, не задаволіўшыся гэтым, ён потым зрокся мірскога грэшнага жыцця і прыняў манаскі пострыг. Тры гады пражыў Войшалк у Галіччыне пад кіраўніцтвам ігумена Грыгора, але яму ўсё жадалася свяцейшага жыцця. Даведаўшыся, што гэтае жыццё можна знайсці на Афоне, ён паехаў туды. Да Афону з нейкіх прычын яму не давялося дабрацца, і тады ён вярнуўся на бацькаўшчыну. Тут, недалёка каля Наваградку, ён заснаваў манастыр, дзе і жыў як просты звычайны манах. Міндоўг, каторы ў той час быў жывы, гневаўся на сына, што ён замест таго, каб дапамагаць бацьку ў палітычных справах, зачыніўся ў манастыры, але Войшалк быў цвёрдым і астаўся манахам.

Так кажа летапіснае паданне. Але далейшыя падзеі прымушаюць крыху іначай тлумачыць хрысціянскі настрой Войшалка.

Нам, напрыклад, вядома, што, калі Міндоўг быў забіты змоўцамі, Войшалк уцёк да Пінску і тут жыў бязбоязна, пакрыты манастырскай расай і клобукам. Манаскі сан даваў паратунак не столькі яго грэшнай душы, колькі целу. Але калі прыйшоў зручны момант пасля смерці Таўцівіла, калі Войшалк зрабіўся мацнейшы за сваіх ворагаў, ён адразу без вагання скінуў з сябе расу і зрупаваў вакол сябе беларускія хрысціянскія масы, каторыя падтрымлівалі яго, забраў Наваградак і абвясціў сябе вялікім аднаўладным князем у гаспадарстве. Пачалася крывавая расправа з тымі князямі, каторыя былі ворагамі яго бацькі і арганізавалі яго забойства, а таксама і з тымі, каторыя былі ў варожых

адносінах да яго самога. Адных ён пазабіваў і пасаджаў па турмах, а другія павінны былі пакінуць бацькаўшчыну і ўцякаць у чужаземныя краі. Вялікаю цаною, але ўсё ж такі зноў у Літве і Беларусі было дасягнута аднаўладства.

Пасля вышэйпаданага мы чакаем, што Войшалк, забяспечыўшы за сабою ўладу, будзе берагчы яе і ўзмацняць. Аднак жа гэтага не сталася. Па невядомых нам прычынах праз нейкі час Войшалк кінуў усе справы, зноў адзеўшы манаскую расу, і пакончыў сваё жыццё ў адным з манастыроў.

А ў Літве і Русі зноў пайшлі спрэчкі паміж асобнымі князямі, каторыя змагаліся за вярхоўную ўладу. І так ішла справа праз увесь канец XIII стагоддзя, пакуль уладу ў гаспадарстве не ўзяў у свае рукі ў 1293 годзе Віцень. Віцень разам з братам і наступнікам сваім Гедымінам ужо на добра збудавалі моцнае і вялікае Літоўска-Беларускае гаспадарства.

## АСНОЎНЫЯ МОМАНТЫ ЖЫЦЦЯ НОВАГА ГАСПАДАРСТВА

У XIV стагоддзі і далей новае Літоўска-Беларускае гаспадарства стаіць ужо на цвёрдых нагах. Нават з падручнікаў дарэвалюцыйнага часу нам добра вядомы такія імёны, як Віцень (1293—1316 гг.), Гедымін (1316—1341 гг.), Альгерд (1345—1377 гг.) і Кейстут (1345—1379 гг.)[1], Ягайла, Вітаўт і г. д. Даваць дакладную характарыстыку справавання гэтых гаспадароў мы не будзем, бо гэта не ўваходзіць у нашыя заданні. Мы толькі пастараемся адзначыць галоўныя, асноўныя моманты палітычнага жыцця дзяржавы,каторыя дадуць як бы агульны тон і кірунак для далейшай гісторыі Літоўска-Беларускага гаспадарства ў гэты перыяд.

Новая дзяржава з самага пачатку і далей групуе ў адзін арганізм літоўскую і заходнерускія землі. Пачынаючы з часу Гедыміна сталіцаю гаспадарства заместа Навагрудку стала Вільня пры ўтоку рэчкі Вілейкі ў Віллю[2]. Месца было выбрана

---

[1] Літоўскія гісторыкі лічаць, што Кейстут быў вялікім князем у 1381—1382 гг., калі ён часова пазбавіў пасаду Ягайлу. Але фактычна Кейстут быў напарнікам Альгерда.

[2] Нагадаю, што раней на месцы Вільні быў Крыў-горад (Крывы горад). Другою сталіцаю былі Трокі (Тракай); рэзідэнцыяй вялікіх князёў быў і Крэўскі замак.

зручнае. Тут якраз праходзіў гандлёвы шлях з поўдня ў Балтыйскае мора. Апроч таго, рэчка Вілля злучала ўсходнія землі з заходняй часткай Літоўска-Беларускага гаспадарства. Вільня пабудавалася на стыку двух шляхоў і зрабілася моцным эканамічным і палітычным цэнтрам дзяржавы. Тут жа быў і рэлігійны цэнтр паганскай Літвы, перанесены сюды ў 12-ым стагоддзі. Тут у даліне Свентарога быў пабудаваны храм бога Пяркунаса і гарэў для літвінаў святы агонь «зніч»[1].

Што датычыць горада Полацка, то ён разам са сваёй воласцю яшчэ пры Віцені, ратуючыся ад немцаў, у 1307 годзе паддаўся пад уладу літоўскага гаспадара. Упачатку выканаўчую ўладу там мелі намеснікі гаспадара пры заканадаўчай уладзе веча, што засталося ад старажытных часоў; потым на полацкім пасадзе сядзелі малодшыя браты ці сыны гаспадара. З гэтага часу Полацк ужо даволі моцна закрапіўся за Літвою. За Полацкам прыйшоў чарод і да Віцьбеска, каторы яшчэ ў ранейшыя часы адасобіўся ад Полацка ў незалежнае княства. Апошні віцебскі князь, не маючы наследнікаў па мужчынскай лініі, аддаў сваю дачку за сына Гедымінавага, Альгерда. Па смерці цесця Альгерд зрабіўся віцебскім князем і, разумеецца, быў у залежнасці ад бацькі свайго Гедыміна. Хутка ўвайшоў у склад новага гаспадарства і наш Менск са сваёй воласцю. У летапісе пад 1326 годам ёсць вестка, што ў Ноўгарад прыходзілі пасланцы ад літоўска-беларускага гаспадара. Паміж імі названы і Васіль, князь менскі. Выходзіць, што яшчэ да гэтага часу тэрыторыя Меншчыны ўвайшла ў склад новай дзяржавы, калі ў 1326 годзе менскі князь быў адным з падручных князёў літоўска-беларускага гаспадара. Магчыма думаць, што каля гэтага самага часу, ці, можа, некалькі раней, зрабіліся залежнымі ад Літвы княствы Лукомскае і Друцкае. Каля гэтага ж часу маладое гаспадарства ўключыла ў склад сваёй тэрыторыі Турава-Пінскае Палессе і зямлю Берасцейскую, каторая ў заходняй сваёй палавіне насіла назву Падляссе[2].

---

[1] Зніччу пакланяліся і крывічы — спачатку як паганцы, потым па традыцыі.

[2] Тут У. Ігнатоўскі ўжывае польскую назву гэтай тэрыторыі. Сапраўднае яе найменне Падляшша, г. зн. зямля, якая непасрэдна суседзіць з тэрыторыяй, населенай ляхамі.

Пасля смерці Гедыміна тэрыторыя гаспадарства ўсё пашыраецца, уключаючы ў свой склад тэрыторыі, населеныя заходнімі рускімі славянамі. У часы Альгерда і Кейстута, настаўнікаў Гедыміна[1], да Літоўска-Беларускага гаспадарства прылучыліся Чарнігаўшчына і Кіеўская зямля з Валынню і Падоллем. Трэба адзначыць, што Кіеўшчына яшчэ ў пачатку XIV стагоддзя не была падобна на тую багатую, моцную і магутную Кіеўшчыну, каторая ў часы, напрыклад, Уладзіміра Манамаха руйнавала і нішчыла з такой заўзятасцю тэрыторыю Полаччыны. Кіеўшчына ў гэтыя часы сама была зруйнавана і знішчана дашчэнту як хатнім бязладдзем, так і набегамі паўднёвых стэпнякоў-манголаў,— раней полаўцаў, а потым татар. Слава і багацце вялікага князя кіеўскага зніклі. Ён зрабіўся адным з маленькіх паўднёвых князькоў, каторыя ледзьве-ледзьве трымаліся, апіраючыся на нязначную жменьку рускіх насельнікаў, пазасталых у стэпу, нягледзячы на небяспечнасць ад татар. «Маці гарадоў рускіх», паўднёвы залаты ключ ад вялікага воднага шляху з варагаў у грэкі, багаты, густа заселены раней Кіеў быў цяпер невялікім мястэчкам без усякай гандлёвай вагі. Італьянскі манах Плана-Карпіні, каторы, праязджаючы па Паўднёва-Ўсходнім краі, бачыў у гэты час, паміж іншым, і Кіеў, налічыў у ім не больш як 200 хат. У 1300 годзе Кіеў перастаў быць і рэлігійна-царкоўным цэнтрам, бо мітрапаліт «усяе Русі» Максім, шукаючы смачнейшага кавалку хлеба, з Кіева пераехаў на паўночны ўсход, дзе пачаў будавацца маскоўскі цэнтр[2]. Туды ж, на паўночны ўсход, выйшлі і мацнейныя князі і насельнікі Кіеўскай воласці, шукаючы больш бяспечнага для сваёй працы месца. Разумеецца, што з жменькаю людзей князь не мог тут трымацца як самаўладчы, незалежны ўласнік і павінен быў прызнаць дзяржаўную вярхоўную ўладу магутнага суседа, вялікага князя літоўска-рускага, які меў абараняць поўдзень ад татар.

Не задавальняючыся паўднёвымі рускімі воласцямі, Альгерд прагнуўся зацвердзіць свой уплыў на паўночныя воласці

[1] Адразу пасля Гедыміна вялікім князем быў Яўнут (Іван). У 1345 годзе яго пазбавілі пасаду Альгерд і Кейстут. Спачатку Яўнут уцёк у Маскву, потым вярнуўся і быў князем у Заслаўі.

[2] Маскоўскі князь Іван Данілавіч Каліта (унук Аляксандра Неўскага) атрымаў ад хана ярлык на вялікае княжэнне ў 1327 годзе.

з такімі багатымі гарадамі, як Ноўгарад і Пскоў. Тут ён быў наступнікам палітыкі Полаччыны, каторая ў папярэдні перыяд гісторыі Беларусі таксама змагалася за ўладу над гэтымі гарадамі і воласцямі. Апроч таго, Літоўска-Беларускае гаспадарства зварачала ўвагу і на ўсход. Яно прагнулася схіліць у свой бок, напрыклад, Цверскае княства, падтрымліваючы яго ў барацьбе з Масквою. Але тут, на ўсходзе, рос моцны супернік літоўска-беларускаму гаспадару ў асобе маскоўскага гаспадара, каторы пачаў ужо рабіць тую самую справу збірання Русі, якую рабіла і Літва.

Працуючы над збіраннем Русі, Літва павінна была таксама, як і Масква, бараніць сваё гаспадарства ад татар. Яшчэ амаль за 20 год да вядомай нам Кулікоўскай бітвы ў 1362 годзе Літоўска-Беларускае гаспадарства, злучыўшы ўсе свае сілы, выйшла на спатканне татар на паўднёвую граніцу. Адбылося страшэннае забойства на Падоллі. Нягледзячы на вялікі лік і сваю храбрасць, татары былі разбіты і, пакінуўшы на месцы многа трупаў, здабычы і палонных, уцяклі на паўднёвы ўсход. Пад уплывам страху татары доўга сюды не прыходзілі, і паўднёва-заходнія землі такім спосабам мелі цяпер магчымасць эканамічна і культурна развівацца, забяспечаныя ад паўднёвага ворага.

Такім спосабам, з былых раскіданых заходнеславянскіх[1] зямель у злучанасці з Літвою злажылася гаспадарства. У гэтым гаспадарстве на кожным кроку мы бачым працу беларускага жыхарства. З гандлёвай Полаччыны прыйшоў сюды капітал і пачаў зноў збіраць для эксплуатацыі працу мазольных рук. Вясковая старажытная Літва будуе ў сябе гарады, і яны пачынаюць жыць жыццём старых гарадоў Полаччыны і Кіеўшчыны. Некаторыя з гарадоў акружаюцца мурамі, узмацняюцца замчышчамі. Войскі гаспадарства добра ўзброены і добра ведаюць ваяўнічае штукарства, каторае таксама прыйшло сюды з Полаччыны. Жыхары маюць добрую арганізацыю. Нам, напрыклад, вядома, што яны бароняць свае гарады па чарзе, праз колькі месяцаў кожная група. Яны не толькі служаць у войсках гаспадара, але складаюць іх значную частку. Ім, як найбольш культурнаму элементу, даручаецца каманда над вайсковымі часткамі і абарона ад ворa-

[1] Памылка друку. Трэба чытаць «заходніх зямель усходніх славян».

гаў меж гаспадарства. Яны кіруюць ад імя гаспадара як асобнымі гарадамі, так і цэлымі тэрыторыямі. Ім дапаручаюцца такія справы, дзе асабліва патрэбна адукацыя і спрыт, напрыклад, зносіны Вялікага княства з суседнімі гаспадарствамі. Адным словам, мы бачым, што беларуская частка жыхарства, як найбольш культурны элемент, займае пачэснае месца ў палітычных і грамадзянскіх справах гаспадарства. Ідзе даволі згоднае сужыццё паміж двума народамі. У Літоўска-Беларускім гаспадарстве кіруе гаспадар-літвін, а пануе культура і асвета беларуса. Ёсць нават такая думка, што гаспадары дзяржавы былі не прыроднымі літвінамі, а патомкамі тых князёў Полацкай Русі, каторыя раней, у канцы папярэдняга перыяду, уцякалі ў Лтіву ад бязладдзя, якое настала ў Полаччыне. Не ўваходзячы ў разгляд гэтай думкі, мы ўсё ж такі павінны адзначыць, што самі гаспадары Княства лічылі сябе літвінамі. Гэтае літвінскае самапачуццё не было, аднак жа, шавіністычным. Усе яны ведаюць беларускую мову, некаторыя з іх прымаюць усходнюю хрысціянскую веру[1] і бяруць шлюбы з рускімі князёўнамі. Беларуская мова пануе не толькі ў палацы вялікага князя, але і сярод грамадзянства. Дзяржаўныя пастановы выдаюцца раней у дзвюх мовах, а потым амаль што выключна ў беларускай мове[2]. Гаспадар, лічачы сябе літвінам на нацыі, прызнаваў, што ён, як дзяржавец, ёсць прадстаўнік тэй і другой нацыі. У афіцыйных граматах і ў зносінах з суседнімі народамі ён называе сябе царом літвінаў і русінаў... Іначай і быць не магло, бо дзве трэція часткі яго зямель былі беларускія.

Нягледзячы на тое, што ў літвінаў была вера паганская, а ў беларусаў усходнеславянская[3], абедзве нацыі жылі ў згодзе. У дзяржаве пануе шырокая верацярплівасць, да якой бы веры хто ні належых, ён служыць аднаму богу. Гедымін, адказваючы на адну з прапазіцый рымскага папы, у сваёй грамаце так піша аб гэтым: «Я казаў, што дазволю хрысціянам

---

[1] З сыноў Гедыміна праваслаўе прынялі Яўнут (Іван), Альгерд (Аляксей), Нарымунт (Глеб), Карыят (Мікалай), Любарт (Дзмітрый). Хрысціянкамі сталі ўсе дочкі, аддадзеныя за польскіх і рускіх князёў. Паганцамі засталіся толькі Манвід і Кейстут.

[2] Акты Вялікага княства пісаліся на дзвюх мовах: старабеларускай і лацінскай (пасланні каралям, імператарам і г. д.).

[3] Памылка друку. Трэба чытаць «усходнехрысціянская».

маліцца па звычаі іх веры, русінам — па іх звычаі, палякам — па іх. А мы, літвіны, будзем маліцца па нашым звычаі, бо ўсе мы паважаем аднаго бога». Трэба ўсё ж такі адзначыць, што літвіны пачалі браць у беларусаў іх культуру, мову і нават веру. Так, напрыклад, вядома, што ў канцы XIV стагоддзя больш як 50 літвінскіх мясцовых князёў трымаліся ўсходнехрысціянскай веры, бо яна мела ў сабе больш культурных элементаў, як паганская вера; аб гэтым жа сведчыць і полскі вядомы гісторык Ярашэвіч, каторы гаворыць, што калі б так справы йшлі праз некаторы час, то літвіны прынялі б беларускую мову, звычаі, заканадаўства і праваслаўную веру, нават іх народнасць змянілася б на беларускую.

Такая еднасць і згода паміж літоўскім і беларускім элементамі залежала ад таго, што Літоўска-Беларускае гаспадарства было збудавана больш шляхам згоды, чымся шляхам уціску і вайны. Полацкае гаспадарства ў канцы свайго існавання не магло даць сваім падданым грамадзянскага спакою. Мы ведаем, што ў грамадзянстве йшла класавая барацьба паміж лепшымі і подлымі людзьмі, паміж капіталам і працавітаю беднатою. Апроч таго, не было забяспечання ад хатняй калатні паміж асобнымі валасцямі і гарадамі гаспадарства. Усё гэтае прыводзіла да таго, што не існавала ў Полаччыне ніякіх перашкод да новага канцэнтрацыйнага руху, каторы ішоў з боку Літвы і яе гаспадарства. Асобныя воласці і гарады самахоць прызнавалі новую ўладу і глядзелі на яе, як на пажаданую ўладу. Як на выключэнне можна паказаць толькі на Смаленск з яго тэрыторыяй, каторы быў прылучаны да Літоўска-Беларускага гаспадарства ваяўніцкім шляхам. Але і тут не было дружнага адпору. Яшчэ раней у Смаленску была грамадзянская партыя, каторая спачувала і цягнула да Літвы. Прадстаўнікі гэтай партыі адчынілі гарадскую браму літоўска-рускаму войску, і яно амаль што без перашкод увайшло і заняло Смаленск[1].

Наогул можна сказаць, што насельнікі былой Полацкай дзяржавы без пратэсту прынялі ўладу новага гаспадара, каторы прыносіў з сабою абарону ад моцных суседзяў і даваў спакой і адпачынак ад міжусобнай хатняй барацьбы.

Нам вядома, што ў гісторыі полацкага перыяду Беларусі вялікую вагу ў дзяржаўным і грамадзянскім жыцці краю мела

---

[1] У 1404 годзе.

веча. Яно было тым цэнтрам, дзе групаваліся эканамічныя і палітычныя інтарэсы воласці і гораду. Новая дзяржаўная ўлада, якая арганізавалася ў Полацкай Русі, не парушыла гэтай старажытнай, агульнарускай ідэі народапраўства. Наадварот, збіральнікі заходняй часткі рускага племя, літоўскія вялікія князі, асобнымі граматамі забяспечвалі правы заканадаўчага веча. У аснове ўсіх грамат літоўска-беларускіх гаспадароў, якія даваліся асобным горадам і валасцём, мы заўсёды можам знайсці такія цікавыя словы: «Гаспадар старыны не нарушае і навіны не ўводзе». Кожная валасць былой Полаччыны, уваходзячы ў склад новага гаспадарства, не адходзіла ад сваіх старых традыцый і зберагала свой твар. Ніякай ломкі хатніх звычаях яна не перажывала.

Не тое мы бачым на ўсходзе, дзе навакола Масквы таксама пачалося збіранне і канцэнтрацыя ўсходняй, Маскоўскай Русі. Масква, збіраючы Русь, паступова і няўхільна касуе на сваіх абшарах старарускую ідэю народапраўства. Тут увесь час будзе расці моцнае самаўладства маскоўскіх гаспадароў, каторае потым дасць цвёрды грунт для безупыннай сваволі, напрыклад, Івана IV Грознага. Усякая асобная валасць, змушаная ўвайсці ў склад Маскоўскага гаспадарства, павінна будзе згубіць свой асабісты твар, свае старажытныя звычаі і традыцыі. Маскоўскае самаўладства сваёй цяжкаю рукою будзе касаваць тэрытарыяльную індывідуальнасць абласцей і будзе будаваць цэнтралістычную дзяржаву з абсалютнаю ўладаю манарха.

Не касуючы правоў веча і старарускай ідэі народапраўства, новая дзяржаўная літоўска-беларуская ўлада будзе прагруцца скасаваць уладу асобных маскоўскіх[1] князёў. Праўда, мясцовыя князі не зганяюцца са сваіх пасадаў, але яны павінны былі прызнаваць як бы васальную залежнасць ад вялікага князя і гаспадара Літвы і Беларусі. Толькі ў тых валасцёх, дзе пасады заставаліся з якіх-небудзь прычын пустымі, гаспадар садзіў, як князёў, намеснікаў, сваіх родзічаў і сваякоў, каторыя таксама рабіліся васаламі вялікага князя[2].

[1] Памылка друку. Замест «маскоўскіх» трэба чытаць «мясцовых».
[2] Сеўшы князямі ў беларускіх гарадах, літоўскія князі будуць бараніць мясцовыя традыцыі і звычаі. Такімі былі, напрыклад, князь мсціслаўскі Лугвен-Сямён і яго нашчадкі, праўнук Гедыміна, сын кіеўскага князя і сам князь Аляксандр (Алелька) Уладзіміравіч, які заснаваў слуцка-капыльскую дынастыю Алелькавічаў.

## АДНОСІНЫ ГАСПАДАРСТВА ДА НЯМЕЦКІХ ОРДЭНАЎ

Важнейшаю з надворных спраў Літоўска-Беларускага гаспадарства ў гэтыя часы было змаганне з нямецкімі ордэнамі. З IX, а асабліва з X стагоддзя пачынаецца вялікі рух германскага племя на ўсход.

Гэты рух найперш прыціснуў заходніх, балтыйскіх славянаў, каторыя раней жылі аж да самага Рэйну. Стагоддзе за стагоддзем ішоў гэты націск немцаў, і славяне адышлі аж за Эльбу (Лабу). На поўначы Заходняй Еўропы, на берагах Балтыйскага мора націск быў мацнейшы. Немцы ўсе свае сілы скіравалі ў гэтым кірунку. Усё гэта зразумела само сабой, калі мы будзем мець на ўвазе значэнне і ў тыя і ў нашыя часы марскога берага. Над Балтыйскім морам немцы асабліва напіралі на насельнікаў тубыльцаў і, ідучы берагам на ўсход, спаткаліся, як мы ведаем, з палякамі і літвінамі. Літвіны пачалі бараніцца ад гэтага ўціску і, каб абарона была мацнейшай, пачалі арганізоўвацца. Так збудавалася дзяржава. Новай дзяржаве прыйшлося стрымліваць нямецкі націск. Пачалася цяжкая барацьба, каторая цягнулася праз стагоддзі. Ужо Міндоўгу трэба было бараніцца; ён бараніўся як мог — дзе мечам, дзе хітрасцю. Тое самае рабіў і Гедымін. Часта, не маючы магчымасці ўзяць верх над немцамі сілаю мяча, ён звяртаўся і да другіх спосабаў. Так, напрыклад, адзін раз ён прасіў у рымскага папы заступніцтва ад мечаносцаў. Папа, скарыстаўшы гэтае здарэнне, прапанаваў Гедыміну прыняць вадохрышча па заходнім абрадзе. Гедымін з пробы Міндоўга ўжо даведаўся, што каталіцтва не можа абараніць Літву і Беларусь ад крыжацкага ўціску. Наадварот, літоўская ўлада за ранейшы час магла пераканацца, што каталіцтва якраз было тэю сцежкаю, каторую ішлі палітычныя жаданні немцаў. Гедымін рэзка адхіліў прапазіцыю папы. Як кажа паданне, ён адказаў пасланцам папы так: «Калі я меў намеры калі-небудзь хрысціцца, то няхай мяне сам чорт хрысціць. Пэўна, я казаў, як і напісана ў грамаце, што буду паважаць папу, як бацьку, але я гэта казаў дзеля таго, што папа старэйшы ад мяне. Усіх старых я паважаю, як бацькоў, таварышоў люблю, як братоў, а малодшых ад мяне люблю, як сыноў. На самай справе я гаварыў, што дазволю хрысціянам маліцца па звычаі іх веры, русінам — па іх звычаі, паляком —

па іх. Самі ж мы будзем маліцца богу па нашым звычаі, бо ўсе мы вызнаем аднаго бога». Барацьба з крыжакамі пры Гедыміне йшла з пераменным шчасцем. Некалькі раз літвінам удавалася браць над імі верх, але, наогул кажучы, Літва і Беларусь былі слабейшыя. Крыжакі мелі ўжо агнястрэльную зброю, якой яшчэ не ведалі ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве. У барацьбе з крыжакамі загіб і сам Гедымін. Пад 1347 годам у адным з рускіх летапісаў гаворыцца, што Гедымін загінуў пры абароне адной літоўскай крэпасці, паранены крыжацкаю куляю.

У часы Альгерда і Кейтуса амаль што не ўвесь цяжар барацьбы з крыжакамі ляжаў на Кейстуце, каторы быў кіраўніком заходняй палавіны гаспадарства. Барацьба йшла без перарыву. Немцы замест вялікіх паходаў робяць паходы дробныя, але затое частыя. Такія паходы яны завуць рэйзамі[1]. Кожны дзень, кожную гадзіну павінны літвіны чакаць неспадзяванага ворага. Якія-небудзь 100 ці 200 крыжакоў, а часам і менш, добра ўзброеныя, на добрых конях урываюцца раптам у сумежныя з ордэнскімі літоўскія землі, паляць гарады і вёскі, хаты і гумны, б'юць жыхароў альбо бяруць у палон. Разам з людзьмі гоняць яны ў свае межы быдла і цягнуць маёмасць. Часта за адзін год было некалькі такіх рэйзаў. За 30 год княжання Альгерда згодна з нямецкімі летапісамі лічыцца каля сотні такіх паходаў з боку немцаў і трыццаці з боку Літоўска-Беларускага гаспадарства. (...)

Каб спыніць ворага і не даць яму магчымасці ўвайсці на сваю тэрыторыю, і немцы, і Літва на межах муруюць моцныя замкі і руйнуюць пабудаваныя замкі адны другіх. Наймацнейшым з літоўскіх замкаў таго часу быў замак ў Коўне[2]. (...)

Не заўсёды... добра і паспешна йшла барацьба. Калі распачыналіся хатнія спрэчкі, Літоўска-Беларускае гаспадарства не толькі не рабіла наступаў на крыжакоў, але само замешвала іх у свае дамовыя справы. Так рабілі, напрыклад, Кейстут і Ягайла, каторыя звярталіся да крыжакоў, шукаючы іх дапамогі ў барацьбе за велікакняскі пасад. Крыжакі ахвотна адклікаліся на гэтыя прызывы і ўмешваліся ў жыццё Літвы, добра замумеючы, што гэтым яны аслабляюць моц шкадлівага

---

[1] Ад нямецкага die Reise — паездка, падарожжа, вылазка.

[2] Цяпер Каўнас.

для іх суседняга гаспадарства. Але спрэчкі праходзілі, Літва і Беларусь зноў браліся за зброю, каб змагацца са сваім упартым ворагам.

Змаганне з немцамі было, паміж іншым, аднэй з прычын дынастычнага злучэння Літоўска-Беларускага гаспадарства з Каралеўствам Польскім у 1386 годзе. І трэба згадзіцца, што гэтае злучэнне было надта шкадлівым для нямецкіх ордэнаў. У 1410 годзе літоўска-беларускі гаспадар Вітаўт разам з польскім каралём Ягайлам даў немцам рашучую бітву пад Танэнбергам і Грунвальдам у Прусіі. Ордэнскае войска складалася з 80 тысяч, войскі саюзнікаў — з 150 тысяч. Лічэбная перавага... была на старане Літоўска-Беларускага войска[1]. Затое крыжацкае войска было лепш узброена і арганізавана; яно мела нават артылерыю, якой не было ў літоўцаў, беларусаў і палякаў[2]. (...) Апроч Вітаўта, Ягайлы і магістра Тэўтонскага ордэну, тут быў добра вядомы чэшскі рыцар Жыжка, будучы нацыянальны чэшскі правадыр і дзеяч часу гусіцкіх войнаў. Бітва пачалася раніцою 15 ліпеня. Літоўска-беларускія войскі былі пастаўлены на правым фланзе. Доўга біліся, і ніяк не мог выявіцца рэзультат бою. Толькі пад вечар дзякуючы націску беларускіх смаленскіх палкоў[3] немцы пачалі бегчы і масамі кідаць поле бою. Страты з нямецкага боку былі не малыя: рыцараў было забіта каля 30 тысяч, са зброяю ў руках загінуў і сам магістр ордэну. Само сабою разумеецца, што радасць ад перамогі была вялікая. З гэтай бітвы пачынаецца відны пералом у бесперарыўным змаганні Літоўска-Беларускага гаспадарства з нямецкімі ордэнамі. Сілы немцаў пачынаюць усё слабець. У 1466 годзе нават канчаецца зусім незалежнае існаванне Тэўтонскага ордэну, каторы пачаў раскідацца. Вялікі магістр ордэну, пабачыўшы, што няма магчымасці далей існаваць, павінен быў прызнаць сябе васалам польскага караля і літоўска-беларускага гаспадара Казіміра IV.

---

[1] Розныя гісторыкі называюць розныя лічбы.

[2] Тут аўтар недакладны. Артылерыя была. Вітаўт, калі браў Смаленск, прывёз туды гарматы.

[3] Іншы раз можна сустрэць ледзь не сцверджанне, што смаленцы прыйшлі на Грунвальдскае поле добраахвотна. Гэта не так. Паколькі Смаленская зямля была пад рукою Вітаўта, смаленскія баяры-шляхта мусілі прыйсці пад Грунвальд.

## ВУНІЯ ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАГА ГАСПАДАРСТВА З ПОЛЬШЧАЙ 1386 г.

Па смерці Альгерда ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве пачынаецца бязладдзе. У свае часы Альгерд быў жанаты два разы: першы раз з Марыяй Віцебскай, другі раз — з Ульянай Цверскай. Ад тэй і другой жонкі засталіся сыны. Паміж дзвюма галінамі Альгердавага роду яшчэ пры жыцці Альгерда йшло суперніцтва.Пасад вялікага князя Літвы і Беларусі заняў Ягайла, старэйшы з сыноў Альгерда ад другой яго жонкі Ульяны Цверскай. Тым, што Ягайла, не будучы самым старэйшым, заняў пасад гаспадара, былі незадаволены яго старэйшыя браты, сыны першай жонкі Альгерда — Марыі Віцебскай[1]. Яны, не хочучы паддацца Ягайле, звярнуліся па дапамогу да Масквы, дзе ў гэты час быў вялікім князем вядомы нам Дзмітрый Данскі.

Што датычыць да Кейстута, малодшага Альгердавага брата, то ён, з аднаго боку, шануючы ідэю еднасці гаспадарства, і, з другога боку, лічачы патрэбным падтрымліваць ідэю законнасці волі памёршага вялікага князя Альгерда, каторы назначыў сваім настаўнікам Ягайлу, не выходзіў з паслушэнства свайму пляменніку, каторага прызнаў фармальна вялікім князем. Каб падтрымаць яго парушаны аўтарытэт і даць другім князём прыклад паслушэнства вялікаму князю, ён нават паложаны час ездзіў у Вільню[2] да Ягайлы на пасяджэнне велікакняскай рады[3], як і раней ездзіў у раду да свайго старэйшага брата Альгерда.

Аднак жа гэтыя добрыя адносіны паміж Ягайлам і Кейстутам хутка перарваліся з віны Ягайлы. Ягайла вельмі баяўся аўтарытэту і папулярнасці свайго дзядзькі і, скарыстаўшы дробнае здарэнне[4], пачаў з ім барацьбу. Два разы звяртаўся да крыжакоў Ягайла, каб з іх дапамогаю перамагчы

---

[1] Апазіцыю Ягайлу ўзначаліў Андрэй Альгердавіч Полацкі (пра яго чатайце: «Крыніца», 1988, № 10).

[2] Кейстут жыў у другой сталіцы — Троках.

[3] Пра велікакняскую раду (яна называлася яшчэ паны рада) чытайце ў наступным нумары.

[4] Ягайла аддаў сваю сястру за свайго слугу Вайдылу і паставіў яго кашталянтам (камендантам замка) у Лідзе, што выклікала незадавальненне ў Кейстута.

Кейстута і зрабіць яго бяспечным для сябе. Узяўся за зброю і Кейстут. Нягледзячы на дапамогу крыжакоў, Ягайла быў разбіты[1]. Каб забяспечыць сябе ад суперніцтва Кейстута, ён пайшоў на вераломную хітрасць. Адзін раз ён запрасіў Кейстута з сынам яго Вітаўтам у свой абоз[2] быццам для таго, каб абгаварыць з ім умовы для паляпшэння далейшых адносін. Кейстут з сынам не зразумелі сапраўднай падкладкі гэтага запрашэння і паехалі. Як толькі яны з'явіліся на месца спаткання, без войска і без зброі, неспадзявана іх схапілі, закавалі ў моцныя ланцугі, патаемна завезлі ў Крэва (Ашмянскі павет на Віленшчыне) і там пасадзілі ў замчышчы ў турму. Сюды Ягайла падаслаў людзей[3], каторыя задушылі вельмі папулярнага старога Кейстута, а верную жонку яго Біруту ўтапілі ў замкавым рове. Вітаўту неяк пашанцавала ўцячы з турмы. Паданне кажа, што ён уцёк з палону, апрануўшыся ў жаноцкую вопратку, которую даставіла яму яго жонка Ганна[4].

Такім спосабам, мы бачым, што Ягайла меў многа ворагаў сярод сваіх родных і стрыечных братоў. Апроч таго, імя яго было вельмі непапулярна ў шырокіх масах. Зразумела, што яму неадкладна трэба было шукаць апоры для сваёй улады дзесь за межамі Літоўска-Беларускага гаспадарства.

У гэты самы час... у суседняй Польшчы ў 1382 годзе памёр... кароль Людовік, каторы адначасна быў і венгерскім каралём. Мужчын каралеўскага роду не засталося, спадчыну прынялі яго жонка Кацярына і дзве дачкі — Марыля і Ядвіга. Фамілія караля хацела пасадзіць на пасад старэйшую дачку Марылю, каторая ў гэты час была ўжо жонкаю Зыгмунта[5], маркграфа брандэнбургскага. Людовік яшчэ пры жыцці пажаніў іх і па згодзе з польскімі магнатамі аставіў у спадчыну Зыгмунту польскі каралеўскі пасад. Звязак польскага пасаду з моцным Брандэнбургам ужо даўно не падабаўся польскаму вышэйшаму панству, бо дзякуючы гэтаму звязку

---

[1] У 1381 годзе.

[2] Абоз — вайсковы лагер.

[3] Братоў Жыбяндзяеў — прафесійных катаў, забойцаў.

[4] Княгіня Ганна прыйшла да Вітаўта са служанкаю. У вопратцы служанкі Вітаўт разам з Ганнаю выйшаў з замка.

[5] Зыгмунт — гэта польскае напісанне імя Сігізмунд.

кароль мог аперціся ў асобных выпадках на Брандэнбург і трымаць сябе даволі незалежна ад паноў, каторыя хацелі ўзяць яго ў свае рукі. Зразумела, што і цяпер паны не згаджаліся абраць на пасад Зыгмунта, які быў небяспечны для іх з гэтага боку. Дзеля ўсяго гэтага ўжо два гады цягнулася бескаралеўе, каторае ўносіла бязладдзе ў жыццё Польскага гаспадарства. Трэба было выйсці з такога палажэння. І вось у 1484 годзе паміж фаміліяй памёршага караля і польскімі панамі была зроблена згода. Маці-каралева пасля доўгіх перагавораў згадзілася аддаць на польскі пасад малодшую дачку Ядвігу, 13 год. Было зразумела, што Ядвіга не магла сама кіраваць гаспадарствам, тым больш, што Польшчы, як і Літве, цяжка прыходзілася ад крыжакоў. Трэба было знайсці такога чалавека для Ядвігі, каторы быў бы не столькі прыемны для яе, колькі карысным для Польшчы. Ягайла, літоўска-беларускі гаспадар, якраз надаваўся для гэтай мэты: перш ад усяго Літве пагражаў эканамічна і палітычна той самы вораг, што і Польшчы, апроч таго, хатнія спрэчкі ў Літве за ўладу рабілі Ягайлу больш згаворлівым з польскімі панамі[1]. Апроч гэтых думак эканамічнага і надворнапалітычнага кірунку, польскія паны трымаліся і сваіх класавых інтарэсаў. Яны былі перакананы у тым, што Ягайла ў падзяку ім за сваё абранне пашырыць правы і прывілеі. Духавенства таксама спадзявалася, што шлюб Ядвігі з Ягайлам пашырыць і рэлігійна-палітычны ўплыў на Літву і павялічыць іх даходы новаю дзесяцінаю, якую яны атрымаюць з хрышчонай Літвы. І тыя і другія не абмыліліся.

Ягайла ў 1385 годзе атрымаў з Польшчы прапазіцыю наконт шлюбу з Ядвігаю і злучэння з Польшчаю. З якою ахвотаю ён адгукнуўся на гэтую прапазіцыю, відаць з тых абавязках, якія налажыў ён на сябе і сваё гаспадарства. На нарадзе польскіх паслоў у Крэве ён абавязаўся прыняць каталіцкую

---

[1] Не выключана, што на гэты шлюб Ягайлу падбівала і яго маці Ульяна Цверская. Успомнім, што Цвер была праціўніцай Масквы, што Іван Каліта атрымаў ярлык на вялікае княжэнне пасля таго, як падавіў антытатарскае паўстанне ў Цверы. Успомнім, што ў 1380 г. Ягайла вёў сваё войска на дапамогу хану Мамаю, але спыніўся за адзін дзённы пераход ад Кулікова поля. Многія лічаць, што ён пабаяўся дапамагчы Мамаю толькі таму, што на Куліковым полі былі яго браты — Андрэй Полацкі і Дзмітрый Альгердавіч.

веру з сваімі братамі сваякамі, народам літоўскім, знатным і простым, даваць грошы свайго гаспадарства на патрэбы Польшчы, дапамагчы Польшчы атрымаць паўднёвыя адабраныя тэрыторыі, заплаціць адступнага 200. 000 флёрынаў былому жаніху Ядвігі прынцу Вільгельму Аўстрыйскаму і на вечны час прылучыць Літоўска-Беларускае гаспадарства да Кароны Польскай. Польшча за ўсё гэта абяцала Літве і Беларусі дапамогу ў барацьбе з крыжакамі.

На з'ездзе ў Ваўкавыску ў 1386 годзе былі ўхвалены такія ўмовы злучэння Польшчы з Літоўска-Беларускім гаспадарствам: кароль і вялікі князь у злучаных дзяржаваў адзін; спачатку гэтая асоба ёсць Ягайла, потым — просты патомак яго і Ядвігі; надворныя зносіны ў справах, датычных абедзвюх дзяржаў, а таксама і абарона тэрыторыі робяцца супольна. Хатняе кіраванне ў кожным гаспадарстве асобнае: і ў Літоўска-Беларускай дзяржаве і ў Польшчы — асобныя войскі, асобны скарб і асобныя ўлады. Апроч таго, як ужо было сказана вышэй, Ягайла меў абавязак прыняць каталіцтва і шырыць яго паміж літвінаў. Беларускаму насяленню была астаўлена свабода належаць да ўсходнехрысціянскай веры.

Так адбылася першая вунія Літоўска-Беларускай дзяржавы з Польшчай. Гэтая вунія залежала не толькі ад надворных прычын, але і ад прычын хатніх. Злучэннем з Польшчай Літоўска-беларускі ўрад жадаў не толькі здабыць дапамогу ў барацьбе з суседзямі, але і ўзмацніць палажэнне велікакняскай улады ў маладым гаспадарстве.

Вунія 1386 году разглядалася да нашага часу толькі як вунія дынастычна-персанальная. Лічылася, што два гаспадарствы злучыліся адно з другім толькі праз асобу агульнага для абедзвюх дзяржаў манарха і яго наступнікаў-патомкаў; лічылася, што вунія не мяняла юрыдычнага грунту другіх бакоў дзяржаўнага і грамадзянскага жыцця. Такі погляд нельга прызнаць правільным. Трэба адзначыць, што юрыдычна, паводле тэксту дагавору, вунія 1386 году была больш, чым дынастычна-персанальнаю. Яна была як бы інкарпарацыяй Літоўска-Беларускай дзяржавы ў Каралеўства Польскае. Юрыдычна літоўска-беларускія землі на вечныя часы прылучаліся да Кароны Польскай. Паводле тэксту дагавору, з 1386 году як бы зусім прыпынялася незалежнае існаванне Вялікага княства, і яно рабілася разам з Польшчаю адным палітычным, дзяржаўным арганізмам. Недарма пасля вуніі ўсе лі-

тоўска-беларускія князі павінны былі прыняць прысягу на вернасць Кароне Польскай, і літоўска-беларускія баяры-каталікі атрымалі такія самыя правы, якія былі ў польскіх паноў.

Так стаяла справа з юрыдычнага боку. Але фактычна далёка не заўсёды бывае тое, што пішацца ў юрыдычных актах. Так было і тут. Вунія была зроблена больш на паперы, чым у жыцці. Праўда, ужо адчыняецца шлях для палітычнага і рэлігійнага каталіцкага ўплыву, але фундаментальнай змены жыцця ўраз не будзе. Літва і Беларусь доўга яшчэ, аж да самай другой паловы XVI стагоддзя, будуць жыць сваім асабістым жыццём, баронячыся ад пачаўшагася ўплыву. Кірунак жыцця пасля вуніі 1386 году застаецца той самы, які быў і да гэтага году. Перыяд Літоўска-Беларускай дзяржавы ў гісторыі Беларусі не перарываецца.

Калі мы паглядзім на далейшае дзяржаўна-палітычнае жыццё Літвы і Беларусі, то пабачым, што самастойнасць Літоўска-Беларускага гаспадарства пасля 1386 году фактычна не была згублена. Па прыклад далёка ісці не трэба, даволі пазнаёміцца па якім-колечы падручніку з кіраваннем Вітаўта, каторы быў асобным вялікім князем Літвы і Беларусі (1392—1430 гг.), нягледзячы на ўмовы вуніі. Кіраваў ён зусім незалежна ад Ягайлы, караля польскага. І толькі інтрыгі з боку Польшчы не далі яму магчымасці каранавацца ці зрабіцца літоўска-беларускім каралём. Нямецкі імператар паслаў карону Вітаўту, але гэтая карона да яго не дайшла. Летапіс так апісвае гэтую падзею: «І ляхове, ня жычыўшы кароны Літве, карону ад іх (паслоў імператора) тую адабраўшы і рассекшы яе на полы, прыложылі ко коруне біскупа кракаўскага, каторая і цяпер пры замку ў касцёле св. Станіслава ёсць».

І ў далейшыя часы мы бачым, што Літва і Беларусь маюць часта сваіх асобных вялікіх князёў, што ідзе супроць вуніі 1386 году. Ніжэй паданая сінхроністычная табліца дасць патрэбныя для нас прыклады.

Як можна пабачыць з гэтай табліцы, толькі паступова і з цягам часу Літоўска-Беларускае Вялікае княства губіць сваіх асобных гаспадароў. Гэта паказвае, што вунія 1386 года толькі адчыніла шырэй дарогу для польскага палітычнага, культурнага і сацыяльнага ўплыву. Потым трэба адзначыць, што тыя асобы, каторыя былі літоўска-беларускімі гаспадарамі і разам з тым польскімі каралямі ў першыя часы пасля

| Літва і Беларусь | Польшча |
|---|---|
| Вітаўт 1392—1430 | Ягайла — Уладзіслаў II 1386—1434 |
| Свідрыгайла[1] 1430—1432 | |
| Жыгімонт Кейстутавіч[2] 1432—1440 | Уладзіслаў III 1434—1444 |
| Казімір I 1440—1492 да 1447 асобны ад Польшчы літ.-бел. гаспадар | Казімір IV 1447—1492 |
| Аляксандр 1492—1506 да 1501 асобны ад Польшчы гаспадар | Ян Альбрэхт 1492—1501 Аляксандр 1501—1506 |
| Жыгімонт II Стары 1506—1548 | Зыгмунт I Стары 1506—1548 |
| Жыгімонт III Аўгуст 1548—1572 | Зыгмунт II Аўгуст 1548—1572 |

ўтварэння вуніі, лічылі сябе больш літоўска-беларускімі гаспадарамі, чым польскімі каралямі. Інтарэсы і жыццё Літвы і Беларусі іх больш цікавілі, чым справы і жыццё Польшчы. Гэты факт робіцца тым больш зразумелым, калі прыняць пад увагу палажэнне караля ў Польшчы, дзе паны і ўзмацняючаяся шляхта ўжо пачалі забіраць і потым забралі караля ў свае рукі. Літоўска-беларускі настрой польскіх каралёў у першыя часы пасля вуніі можна бачыць, напрыклад, у такім юрыдычным дакуменце, як Земскія прывілеі Казіміра I (у Польшчы — Казіміра IV), аб каторых будзе слова далей. Толькі пад канец перыяду, калі пад польскім уплывам і ўплывам другіх прычын умовы жыцця змяніліся, агульныя дзяржаўцы Літвы, Беларусі і Польшчы пачалі ставіць інтарэсы Польшчы вышэй інтарэсаў Літвы і Беларусі, а сябе лічыць больш каралямі польскімі, чым гаспадарамі літоўска-беларускімі. Такім гаспадаром быў, напрыклад, Жыгімонт III (у Польшчы Зыгмунт II) Аўгуст, апошні прадстаўнік вымираўшага Ягайлавага дому.

[1] Свідрыгайла (Баляслаў) — брат Ягайлы.

[2] У. Ігнатоўскі піша «Зыгмунт», але на Беларусі імя Сігізмунд вымаўлялі і пісалі Жыгімонт. Гэтае напісанне прынята ўсімі сучаснымі беларускімі гісторыкамі.

Што жыццё Літоўска-Беларускага гаспадарства пасля 1386 году ў асновах сваіх не перамянілася, відаць яшчэ з таго, што акты вуніі паміж дзяржавамі ўсё пішуцца і пішуцца ў далейшыя гады. Навошта гэта было б рабіць, калі б усё было зроблена раней. Паўтарэнне актаў голасна гаворыць аб тым, што яны не маюць моцы ў жыцці. Калі б акт 1386 году быў рэальным, моцным, то само сабою зразумела, што не прыйшлося б пытанне аб вуніі падымаць на далейшых з'ездах больш чым дзесяць раз. З гістарычных дакументаў мы ведаем, што гэтае пытанне падымалася зноў і зноў у наступныя гады: 1401, 1413, 1447, 1451, 1453, 1501, 1503, 1564, 1566 і 1567. Як мы бачым з гэтага пералічэння гадоў, пытанне аб вуніі асабліва падкрэсліваецца і вымагаецца жыццём у 60-ыя гады XVI стагоддзя. Паспелі якіясь прычыны, каторыя патрабавалі поўнай, рэальнай вуніі. Галоўнейшай з гэтых прычын быў той польскі сацыяльны і палітычны ўплыў, якому былі адчынены дзверы на Літву і Беларусь актам 1386 году. Апроч таго, на вунію з Польшчай гоніць Літву і Беларусь яшчэ адна важная прычына, гэта — імперыялістычны націск з усходу, з боку Маскоўскага гаспадарства. Гэты націск робіцца асабліва моцным якраз у 60-ыя гады XVI стагоддзя, калі ў Маскве развіваецца тэрор апрычніны. Ратуючыся ад тэрору Івана IV Грознага, літоўска-беларускае панства[1] ўрэшце падпісала апошні раз вунію з Польшчай. Гэтая вунія скончыла незалежнае самабытнае існаванне Літоўска-Беларускага гаспадарства, каторае ўвайшло ў склад Рэчы Паспалітай.

## АДНОСІНЫ ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ ДА ГАСПАДАРСТВА МАСКОЎСКАГА

Літоўска-Беларуская дзяржава з самага пачатку свайго існавання ўзяла на сябе заданне сабраць у адзін палітычны арганізм заходнюю частку рускіх славян. У XIII і ў першай палавіне XIV стагоддзя яна была ў гэтых адносінах адзінаю і не мела ў справе збірання суперніка. Горад за горадам, тэрыторыя за тэрыторыяй уваходзілі ў склад заходнерускага гаспадарства. З другой палавіны XIV стагоддзя ў дзяржавы-збіральніцы з'явіўся супернік. Гэта было Маскоўскае гаспа-

---

[1] Слова «панства» мела два значэнні: 1) паны, сукупнасць паноў; 2) дзяржава.

дарства, каторае пачало хутка расці і рабіць збіранне ўсходняй часткі рускіх славян. І тая, і другая дзяржавы, групуючы вакол сябе гарады і пашыраючы свае тэрыторыі, урэшце спаткаліся межамі ў канцы XIV стагоддзя. З гэтага часу і пачнецца суперніцтва паміж зацікаўленымі ў тэрыторыях збірацелямі, Літвой і Беларуссю, з аднаго боку, і Масквою — з другога боку.

Пачалося змаганне паміж дзяржавамі за ўплыў на невялікае тады Цверскае княства, якое мела літоўскую і маскоўскую партыі. Войскі Альгерда, гаспадара літоўска-беларускага, два разы біліся з войскамі вядомага нам з рускай гісторыі маскоўскага вялікага князя Дзмітрыя Данскога. У першы раз Літва з Беларуссю згуртавалі вялікую сілу і ўзяў верх Альгерд. У другі раз Масква справілася сабраць большае войска і ўзяла верх над Літвою. Літва і Беларусь, занятыя якраз у гэты час змаганнем з нямецкімі ордэнамі, прыпынілі пакуль што свой наступны рух на ўсход. Пасля перагавораў зроблена была згода паміж супернікамі. У адзнаку для замацавання згоды Альгерд аддаў сваю дачку замуж за трыечнагга брата Дзмітрыя, Уладзіміра Андрэевіча.

Прайшло крыху часу, і згода ў часы Вітаўта зноў прыпынілася. Завязалася барацьба з Масквою з-за Ноўгараду і Смаленску. На гэты раз Літве папсавалі ўсю справу татары. Яны ўзялі верх над Літвою і Беларуссю на берагах ракі Ворсклы[1], не далі Вітаўту магчымасці пашырыць межы свайго гаспадарства далёка на ўсход. Усё ж такі Ноўгарад і Смаленск павінны былі прызнаць сваю залежнасць ад Вітаўта.

У 1936 годзе Вітаўт і Васіль Маскоўскі, з'ехаўшыся на ўзаемную нараду ў Смаленску, устанавілі граніцы Літоўска-Беларускага і Маскоўскага гаспадарстваў па сумежнай рэчцы Угры. Для ўзмацнення згоды дачка Вітаўта Настасія[2] была выдадзена замуж за Васіля І. У гэты час Літоўска-Беларуская дзяржава ўключае ў свой склад вялікі абшар заходнерускіх зямель. Палажыўшы ўсходнюю мяжу гэтае дзяржавы на карту, напрыклад, быўшай Расійскай імперыі... мы бачым, што ў склад падуладных Вітаўту зямель увахо-

[1] У 1399 годзе.

[2] Тут недакладнасць. Жонкай Васіля Дзмітрыевіча, маці Васіля ІІ Цёмнага, бабкай Івана ІІІ была Соф'я Вітаўтаўна.

дзяць такія губерніі: Віленская, Горадзенская, Ковенская, Сувальская, Падольская, Валынская, Менская, Магілёўская, Віцебская, Смаленская, Кіеўская, Чарнігаўская, Кацярынаслаўская, Херсонская, Арлоўская, часткаю Калужская і Тульская, Літоўска-Беларуская дзяржава пашыралася далёка на ўсход, яе мяжа даходзіла аж да сучаснага нам Мажайску, за 107 вёрст ад Масквы.

Масква гэтага часу не мае яшчэ сілы. Вырасшы з невялічкага ўдзельнага княства, яна крок за крокам выбіваецца на першае месца сярод асобных удзельных княстваў. Хоць татары разбіты на Куліковым полі (1380)[1], але яшчэ іх улада цяжкім каменем ляжыць на маладым маскоўскім самаўладстве. Толькі пачынаючы з палавіны XV стагоддзя ўмовы жыцця Масквы як гаспадарства хіляцца ў лепшы бок. Ідзе хуткае разлажэнне татарскага ханства. Замест аднае Залатой Арды мы бачым некалькі ордаў, каторыя змагаюцца паміж сабою і ўзаемна аслабляюць адна другую. 1480 год прыносіць Маскоўскаму гаспадарству вызваленне ад татарскай няволі. Усе дробныя ўдзельныя княствы ўжо страцілі сваю незалежнасць і ўвайшлі ў склад Маскоўскага гаспадарства. Вырасшы з невялічкага ўдзелу-вотчыны, Маскоўская дзяржава гэтую ідэю і арганізацыю вотчыны зберагае і ў далейшы час. Маскоўскі дзяржавец кіруе ў сваёй вялікай дзяржаве так, як некалі яго продкі кіравалі ў сваім удзелевотчыне. Ён нават лічыць, што ўсе землі рускіх славян ёсць яго вотчына. «Вся Русская земля Божиею волею из старины наша вотчина». Маскоўскі князь ужо забыўся, што «из старины» яго вотчынаю быў невялічкі маскоўскі ўдзел. І, пэўна, справа тут не ў старасвеччыне, а ў моцы. Маскоўскі гаспадар мае цяпер вялікую моц, ён лічыць сябе прадстаўнікам і ўласнікам усяе Русі. Стары тытул вялікага князя маскоўскага ўжо не здавольвае, і ён прымае тытул вялікага князя, гаспадара маскоўскага і «всея Руси». З новаю сілаю падымаецца суперніцтва паміж заходнім літоўска-беларускім і ўсходнім маскоўскім гаспадарамі «Русі». Змаганне за «вотчыну» цягнецца блізка 150 гадоў. Бацькаўшчына наша руйнуецца, палі зарастаюць лесам, прасякаюць крывёю дзеля імперыялістычных мэт Маскоўскага гаспадарства.

---

[1] З дапамогаю Андрэя Альгердавіча Полацкага і Дзмітрыя Альгердавіча.

У 1492 годзе, калі літоўска-беларускім гаспадаром быў абраны Аляксандр Ягайлавіч[1], Іван III Маскоўскі, карыстаючыся з разладу паміж Літвою і Польшчай, пачаў вайну за сваю беларускую «вотчыну», якой ніколі не бачыў ні ён, ні яго бацькі. На дапамогу сабе ён паклікаў татарскага крымскага хана Менглі-Гірэя, для каторага Беларусь хоць і не была вотчынаю, але была месцам добрай спажывы. Пачаўся пагром нашае бацькаўшчыны. Асабліва быў зруйнован Рагачоў: каштоўнасці паграбавалі, горад спалілі, жыхароў пацягнулі ў няволю ў Маскву і ў Крым. Літоўска-Беларускае гаспадарства павінны было прасіць згоды. Згоду зрабілі, аддаўшы Івану III Мсціслаў. З граматы відна, што абодва гаспадары абяцаюцца дапамагаць і шанаваць адзін другога. Аляксандр Літоўска-Беларускі ў сваёй грамаце піша: «А хто мне вораг, то і яму (маскоўскаму гаспадару) вораг. А хто будзе яму друг, то і мне друг, хто будзе яму вораг, то і мне вораг». Каб згоду, утвораную з Маскоўскім гаспадарствам, зрабіць пэўную і моцную, Аляксандр заслаў сваіх сватоў да Іванавай дачкі Алены, з каторай потым і ажаніўся. Але і гэтая шлюбная сувязь не зрабіла згоды моцнаю.

Праходзіць нейкі час, і ў адной з сваіх грамат Аляксандр не назваў Івана III гаспадаром усяе Русі. Тады, абураны парушэннем сваіх імперыялістычных правоў, маскоўскі самаўладца Іван III прыслаў Аляксандру «складную грамату», абвяшчаючы яму вайну. І прыпыненая вайна пачалася ў 1500 годзе з новай сілаю. Каманду над літоўска-беларускім войскам меў князь Канстанцін Астрожскі. У чэрвені адбылася страшэнная бойка каля гораду Дарагабужу. Маскоўскім войскам тады камандаваў добры знаўца вайсковай справы Даніла Холмскі. Каля 8 тысяч народу палажылі свае галовы ў гэтай бойцы. Літоўска-беларускія войскі былі разбіты, кінуліся наўцёкі, а ваявода князь Астрожскі папаў у маскоўскі палон.

Яшчэ на працягу трох доўгіх гадоў маскоўскія войскі руйнуюць беларускую тэрыторыю... У 1503 годзе замірэнне

---

[1] Аляксандр быў сынам Казіміра Ягайлавіча. Акадэмік У. Ігнатоўскі называе нашчадкаў Ягайлы Ягайлавічамі. Але гэткая традыцыя прытятая ў Польшчы. У літоўскай і беларускай гісторыі была дынастыя Гедымінавічаў.

ўрэшце было падпісана. Масква атрымала Гомель і некалькі мест у Рагачоўскім павеце. У час гэтага замірэння... памерлі цесць і зяць.

Пасля іх смерці гаспадаравалі на Літве і Беларусі брат Аляксандр Жыгімонт II (Стары), а ў Маскве — Васіль III, сын Івана III. Яны зноў пачалі барацьбу, скарыстаўшы дробнае здарэнне. У 1508 годзе перабег з Літвы ў Маскву варожа настроены да Жыгімонта князь Глінскі[1]. Літоўска-беларускі гаспадар увесь час быў незадаволены тым, што Масква прыняла ўцекача. Глінскі з свайго боку падбіваў маскоўскага гаспадара на вайну з Літвою. Зноў маскоўскія войскі ўварваліся на Беларусь. Жыгімонт, даведаўшыся аб гэтым, сабраў вялікае моцнае войска і выйшаў ім на спатканне. Перамогу атрымаў Жыгімонт і пачаў гнаць непрыяцеля на ўсход. Васіль III, бачачы, што ён прайграў справу, павінен быў прасіць згоды. Абедзве стараны падпісалі «вечны мір». Маскоўскі гаспадар павінен быў прыпыніць свой наступ на захад і вызваліць з палону князя Астрожскага і другіх ваеннапалоннікаў.

«Вечнасць утворанай згоды цягнулася вельмі нядоўга, усяго толькі пяць гадоў. У 1513 годзе зноў разгарэўся пажар імперыялістычнай вайны. Маскоўская армія ўвайшла на тэрыторыю Беларусі. Адбываюцца адна за другою вялікія бойкі пад Смаленскам і Воршаю. Пад Воршаю ўжо вядомы нам гетман Астрожскі атрымаў над маскоўскім войскам дзве перамогі, нягледзячы на тое, што яго армія была меншай ад маскоўскай у два разы. Ад Воршы ён гнаў маскоўскае войска аж да Дарагабужу. Трыццаць тысяч трупаў беларусаў, літвінаў і маскоўцаў заслалі ўсё гэтую дарогу. Змаганне безупынна ідзе і далей. Перамога перакідваецца то на тую, то на другую старану, пакуль яна зусім не перайдзе на старану Масквы. Такія гарады, як Полацк, Мсціслаў, Магілёў, Ворша, Рагачоў, Гомель, Віцебск, Смаленск і інш., руйнуюцца па некалькі раз. Мы ўжо і я не лічым, які страшэнны лік вёсак, невялічкіх мястэчак быў зруйнаваны за часы гэтага змагання. Усё тое, што зрабіла многавяковая праца народных нізоў, гібне ў часы імперыялістычнага змагання. Зямля зарастае частым лесам. Людзі бадзяюцца па лясах, хаваючыся там

---

[1] Пра Міхайлу Глінскага чытайце: «Крыніца», 1988, № 6. Яго пляменніца — Алёна Васільеўна — была маці Івана Грознага.

ад забойства і рабавання. Прыпыняецца народная творчасць. Насельнікі краю, бачачы, што барацьбе няма канца-краю, кідаюць сваю родную зямлю і бягуць на Украіну. А барацьба ўсё ідзе. Войны аднаўляюцца ў 1516, 1518, 1519, 1534 і 1536 гадах. І тая і другая частка, змучаныя змаганнем, робяць зноў згоду, каторая цягнецца толькі 25 гадоў. Пры Іване IV Грозным у 1561 годзе зноў пачынаецца так званая Лівонская вайна[1], каторая таксама адбывалася на тэрыторыі Беларусі.

Дорага каштавала беларускаму працоўнаму народу імперыялістычная думка маскоўскіх гаспадароў, што Беларусь ёсць іх «вотчына».

## КУЛЬТУРНАЯ ПРАЦА

Нягледзячы на тое, што край з году ў год руйнаваўся, што нішчылася матэрыяльная і інтэлектуальная культура, усё ж такі ў гэты час мы бачым развітак, і дужа шырокі, беларускай культуры. Ваяўніцкі гвалт і ўціск не можа прыпыніць моцнага культурнага руху. Культура перыяду Літоўска-Беларускай дзяржавы носіць выразна беларускі кірунак і робіцца ў беларускай мове. Наша мова ў гэты час ёсць не толькі мова ўраду, але і мова вышэйшых і ніжэйшых станаў грамадзянства. Хоць шлях ля польскай культуры і мовы шырока адчынен вуніяю 1386 года, тым не менш польскі ўплыў не можа пакуль што змагацца з самабытнаю ўзросшаю беларускаю культураю. Архівы захоўваюць да нашага часу вялікую моц памятак культуры гэтага перыяду.

З гэтых памятак асабліва цікавы для нас юрыдычныя дакументы, каторыя сведчаць аб высокай культуры беларускіх кіруючых станаў. Тут мы назавём некаторыя з такіх дакументаў.

Пры Казіміры І Ягайлавічы ў 1447 годзе была выдадзена грамата, вядомая пад назваю «Земскія прывілеі Казіміра». Гэты акт датычыць жыцця ўсіх зямель гаспадарства, ён напамінае нам па сваім змесце ангельскі акт XIII стагоддзя,

---

[1] Лівонская вайна пачалася ў 1558 г. У 1561 г. царскія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Беларусі.

вялікую карту[1] вольнасцяў. Тут забяспечваюцца правы як асобы, так і маёмасці князёў, баяр, служылай шляхты і нават мяшчан. На падставе прывілей ніхто з іх не можа быць пакараны... па тайным ці яўным даносе або па падазрэнні; раней справу павінен разглядзець суд. Кожны нясе адказнасць толькі за сваю віну; жонка, напрыклад, не караецца за праступства свайго чалавека, бацька — за праступства сына і г. д. Кожны мае права вольнага выйсця за граніцу гаспадарства. Для служылай шляхты былі забяспечаны правы ўладання і распараджэння іх вотчыннымі маёнткамі. Сяляне, судзячы па прывілею, ужо не ёсць вольны стан дзяржавы, як гэта было раней; правы над імі пана пашыраны. У звязку з гэтым яны вызваляюцца ад непасрэдных фінансава-матэрыяльных дзяржаўных абавязкаў, апроч рамонту дарог і мастоў; паміж імі і дзяржавай становіцца пан, якога толькі і ведае дзяржава як юрыдычную асобу. Абавязкі наложаны і на гаспадара дзяржавы; вялікі князь, напрыклад, не мае права памяшаць меж Літоўска-Беларускага гаспадарства. Наадварот, ён павінен усімі сіламі прагнуцца пашырыць межы яго (гл. артыкул 14). Апроч таго, цікавы яшчэ 15-ы артыкул прывілеяў. На грунце гэтага артыкулу забараняецца людзям чужых народнасцяў займаць урадавыя пасады ў гаспадарстве і купляць зямлю. «У тых землях нашых таго Вялікага Княства зямель, гарадоў, мест, а з каторых кольвек урадоў і дзедзіцтва, удзяржання або дастойнасцей не маетсі жаднаму даваці чужаземцу, але толькі тубыльцам тых зямель маем даваці мы і патомкі нашы». Гэтыя пункты, наложаныя на вялікага князя, маюць на ўвазе той факт, што гаспадар літоўска-беларускі ёсць разам з тым і кароль польскі. Яны аберагаюць Літву і Беларусь ад палітычных і эканамічных жаданняў Польшчы. Прывілеі, выдадзеныя Казімірам I, ляглі як грунт канстытуцыі[2] гаспадарства. Вялікі князь Аляксандр, наступнік Казіміра, у 1492 годзе ўпісаў абавязкі, наложаныя на гаспадара, у сваю канстытуцыйную карту. Далейшыя гаспадары гэтыя абавязкі свае пацвярджалі. Прымаючы пад увагу ўвесь змест вышэйпаданага акту, мы павінны адзначыць, што характар улады гаспадара

[1] Карта — хартыя.
[1] Асноўнага закона.

літоўска-беларускага не падобен на характар улады дзяржаўца Маскоўскага гаспадарства, дзе ў гэты час вырастала і ўзмацнялася тое самаўладства, якое не прымала на сябе аніякіх юрыдычных абавязкаў і не лічылася з правамі станаў гаспадарства.

Праз 11 гадоў (1468 г.) Казімір Ягайлавіч выдае другі дзяржаўны акт, таксама на беларускай мове, вядомы пад назваю Статута або Судзебніку. Гэты Статут мае практычную мэту — даць дзяржаўным суддзям як бы падручнік для судатварэння. Да гэтага часу Беларусь не мела аднаго агульнага кодэксу і гэта шкодзіла справе суду ў гаспадарстве. Суд па асобных абласцях тварыўся на аснове вуснага звычаёвага права, каторае складалася з мясцовых звычаяў, прыгавораў больш папулярных, вядомых суддзяў, і далёка не заўсёды гэтыя матэрыялы былі запісаны. Адсюль вынікалі як непаразуменні, так і надужыцці ў судовых справах. Парадзіўшыся на сейме ў Вільні з панамі і князямі, Казімір выдаў вышэйпаказаны кодэкс для ўсяго гаспадарства. Поўным, зусім дагаджаючым усяму складу жыцця, гэты кодэкс прызнаць немагчыма. Ён амаль што выключна сабраў у свой змест нормы крымінальнага права, у якіх адчувалася найвастрэйшая патрэба. Найбольш апрацаваны артыкул аб забойстве і зладзействах. Хоць і мала, але ўсё ж такі ёсць у Статуце Казіміра артыкулы, датычныя і... грамадзянскага права. Так, напрыклад, тут закрануты пытанні аб судох копных[1], мяжовых спрэчках паміж суседзямі, аб утрыманні ў добрым стане шляхоў, мастоў, аб абароне лесу і г. д. Цікава адзначыць, што ўжо ў той далёкі ад нас час літоўска-беларускі ўрад зразумеў усю карысць з'ездаў судных, на якіх магчыма выявіць паўней заблытаныя і непаразуменныя судовыя справы. Судзебнік Казіміра ўспамінае аб з'ездных судох[2]. Трэба таксама адзначыць, што кодэкс 1468 году і ў тэрміналогіі і ў змесце многіх артыкулаў вельмі падобны да старарускага зборніка «Рускай Праўды». Гэтыя старарускія традыцыі ў зборніку літоўска-беларускім зберагліся нават

[1] Копны суд — суд сельскай і гарадской грамады. Разглядаў справы простых людзей.

[2] З'езды судныя, або з'ездныя суды, у XVI ст. набудуць статус пастаяннага вышэйшага судовага Трыбунала Літоўскага.

больш, чым у зборніках Маскоўскай дзяржавы. Першы пасля «Рускай Праўды» зборнік у Маскве з'явіўся ў часы Івана III, калі з ростам гаспадарства, зложанага з размаітых зямель, вырасла патрэба і ў аднолькавых законах. Іван III дапаручыў працу над кодэксам дзяку Гусеву. Калі кадыфікацыя была зроблена, Іван з баярскаю Думаю разгледзелі працу і зацвердзілі яе ў 1497 годзе. Гэта нам дакладна даводзіць, што першы зборнік у Літоўска-Беларускім гаспадарстве выйшаў раней за зборнік у Маскоўскім гаспадарстве на 29 гадоў. Маскоўскае заканадаўства гэтага часу падлягло ўплыву мангольскіх звычаяў, што значна зацямняе старарускую традыцыю старажытнай «Рускай Праўды». Што датычыць поўнасці зборнікаў, то і зборнік маскоўскі таксама немагчыма прызнаць дакладным і поўным. У яго змест уваходзяць амаль што выключна формы судатворства і артыкулы аб судовых пошлінах.

Праз другую палавіну XV стагоддзя і першую чвэрць XVI стагоддзя Статут Казіміра перарабляецца, дапаўняецца новымі граматамі і пастановамі, пакуль не вырастае ў вялікі, поўны кодэкс законаў Літоўска-Беларускай дзяржавы. Як такі, ён вядомы пад назваю «Статут Вялікага княства Літоўскага». Першы раз ён быў выдадзены ў 1529 годзе ў часы кіравання Жыгімонта II Казіміравіча Старога. Тут беларускае права, як крымінальнае, так і грамадзянскае, знайшло сваё поўнае выражэнне. Ёсць тры рэдакцыі... Статуту. Першая... выдана ў 1529 годзе. Дзве другія выданы ў 1566 і 1588 гадах[1]. Закрапіўшы ў сваім змесце старажытныя рускія асновы права, Статуты аднак жа не маглі не адзначыць і новых форм жыцця, бо і формы чалавечага жыцця... маюць сваю эвалюцыю. Першы Статут, як ранейшы, дае нам права ў найменш закранутым эвалюцыяй выглядзе. Што датычыць другога і трэцяга Статуту, то перамены жыцця і польскі ўплыў[2] ужо налажылі на іх змест сваю пячатку. Зберагаючы ў сваім змесце старыя формы крымінальнага і грамадзян-

[1] Статут 1568 г. з каментарыямі перавыдадзены ў 1989 годзе (выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя»).

[2] Маецца на ўвазе польскі ўплыў на жыццё ў Вялікім княстве. Сам жа Статут быў узяты як узор для кадыфікацыі польскага права. Ім карысталіся ў судах на Украіне, у Літве і Эстоніі, асобныя яго артыкулы перайшлі рускае Саборнае ўлажэнне 1649 г.

скага права, яны адзначаюць ужо новыя формы права; адзначаюць ужо новы сацыяльны лад польскага перыяду беларускай гісторыі[1], увесь прасякнуты панскімі, шляхецкімі поглядамі і тэндэнцыямі.

Нягледзячы на тое, што трэцяя рэдакцыя Статуту была выдана пасля Люблінскай вуніі, калі Літва і Беларусь страцілі сваю палітычную і культурную незалежнасць[2], Літоўскі Статут[3] ва ўсіх трох рэдакцыях надрукаваны на беларускай мове, каторая ў той час была не «мужыцкай» мовай нашага часу, а мовай культурнай і дзяржаўнай. Што гэта так, можна бачыць з ніжэйпаданага выпісу з Статуту: «Писарь земский маеть по руску, литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым езыком и словы». Калі вышэйпаданы артыкул аб мове парушаўся, то беларуская шляхта пратэставала. Так было ў 1576 годзе, калі кароль Стафан Баторы выклікаў да сябе браслаўскую шляхту позваю, напісанаю па-польску.

Аб высокасці культуры Літоўска-Беларускай дзяржавы сведчыць вялікі развітак беларускага друку[4]. Мы ведаем, што калі Заходняя Еўропа пражыла малакультурныя часы сярэдніх вякоў і пачала сваю новую гістарычную працу, то першай справай абуджанае культуры было адкрыццё друку, а друк адкрыў для культуры шлях у шырокія колы грамадзянства. У 1455 годзе Ян Гутэнберг у Нюрнберзе надрукаваў Біблію.

---

[1] Перыяд Рэчы Паспалітай.

[2] Да гэтага пытання мы яшчэ вернемся.

[3] Усё-такі правільна яго трэба называць Статутам Вялікага княства Літоўскага.

[4] У гэтым абзацы трэба ўдакладніць сякія-такія факты. Першаю кнігаю, надрукаванаю кірылічным шрыфтам, была не «Каляровая трыёдзь», а «Актохі» і «Часаслоў». І выдадзена яна не ў 1483-ім, а к 1491 г. «Трыедзень посная» і «Трыедзень каляровая» убачылі свет у 1493 г. Друкарня, у якой друкавалі гэтыя кнігі, адчынена ў 1490 г. Назваць беларускаю яе нельга, бо ўладальнікам быў немец Швайпольт Фіёль. Апроч таго, мова кніг не старабеларуская. Першая беларуская кніга выдадзена Ф. Скарынам у Празе (1517). Першая руская кніга — «Апостал» — надрукавана І. Фёдаравым разам з нашым земляком П. Мсціслаўцам у 1564 г. Адсюль вынікае, што руская кніга з'явілася не на 90, а на 47 гадоў пазней за беларускую. «Апостал» выдадзены І. Федаравым у 1574 г., лічыцца першаю ўкраінскаю кнігаю.

Толькі праз 28 гадоў з'явілася ў Кракаве (1483 г.) першая друкаваная беларуская кніга «Цветная Триодо», а праз 8 гадоў (1492 г.) таксама ў Кракаве з'явілася яшчэ другая кніга «Октоих». Друкаваная беларуская Біблія з'явілася ў 1517 годзе. Раней за яе выйшлі з друку толькі гутэнбергаўская Біблія (1455 г.) і чэшская Біблія (1488 г.). Што датычыць да Масквы, то там першая друкаваная славянская кніга «Апостал» з'явілася толькі ў 1573 годзе, на 90 гадоў пазней ад першай друкаванай беларускай кнігі. Вельмі рана з'яўляюцца і беларускія друкарні. У Кракаве беларуская друкарня пачала друкаваць у 1483 годзе, польская — на 22 гады пазней, у 1505 годзе; у Вільні беларуская друкарня існуе з 1525 года, а польская — з 1576 году, на 51 год пазней. У Маскве друкарня пачала працаваць з 1563 году, на 80 гадоў пазней за беларускую друкарню. Да ўсіх гэтых лічбаў нам не трэба нічога дадаваць, бо яны гавораць самі за сябе.

Беларуская друкарская справа звязана з імем першага беларускага друкара Францыска-Юрыя[1] Скарыны. Ён быў родам, як сам казаў, з слаўнага горада Полацка, з багатай гандлярскай фаміліі. У 1506 годзе ён скончыў Кракаўскі універсітэт на філасофскім факультэце. Не задаволіўшыся гэтай адукацыяй, Скарына паехаў у Заходнюю Еўропу, дзе таксама скончыў адзін з універсітэтаў, але ўжо на медыцынскім факультэце, атрымаўшы ступень доктара[2]. На нейкі час ён затрымаўся ў Празе і тут пачаў сваю працу па перакладзе на беларускую мову і выданні кніг. Каля 1525 года доктар Скарына перабраўся ў Вільню, дзе займаўся тэю самаю працаю. Скарына ўжо ў той час зразумеў, што лацінская мова, а таксама царкоўнаславянская мова не могуць задаволіць шырокіх колаў грамадзянства. Адчувалася ўжо патрэба ў кнігах, якія былі б напісаны ў простай, штодзённай размоўнай мове. Вось Скарына і прыняўся за пераклад кніг Святога Пісання і кніг набажэнства на сучасную яму беларускую мову, каб гэтыя кнігі былі даступны не толькі вучо-

---

[1] Як давялі сучасныя гісторыкі, другое імя Скарыны (Юрый, або Георгій, што адно і тое ж) — вынік непісьменнага прачытання аднаго лацінскага тэксту, у якім згадваецца Скарына.

[2] Скарына атрымаў ступень доктара ў Падуі (Італія), наколькі вядома, ён быў першым доктарам навук сярод усходніх славян.

ным, але і простым людзям. Свае выданні ён ахвяраваў «людзям простым, паспалітым». (...) Апроч каштоўнасці працы Скарыны з боку культурнага, трэба адзначыць каштоўнасць гэтай працы і з боку хараства. Усе кнігі выданы вельмі прыгожа. Шрыфт яго выданняў не падобен на другія шрыфты яго часу. Ясна, што шрыфт быў зроблены па малюнку самога Скарыны, які даглядаў не толькі за тым, каб літара была лёгкая, але і за тым, каб яна задавольвала чытача і з боку хараства. Вялікія літары ў кнігах Скарыны ўсе прыгожыя, усе штучна ўбраны. Тут ёсць і галінкі, і лісці, і кветкі, і звяры. Есць тут і герб роду друкара: сонца і паўмесяц, злучаныя разам. На Бібліі намаляваны і партрэт Скарыны. Друкар сядзіць за сталом і піша: з левага боку ад яго згруджаны фаліянты і кнігі; над галавою намаляваны гербы тых мецэнатаў, якія рабілі матэрыяльную і маральную дапамогу яго працы; з правага боку на зямлі стаіць плецены кошык, падобны да якога можна і цяпер спаткаць у вёсцы на Беларусі.

Пісьменства ў беларускай мове асабліва пашырылася з палавіны XV стагоддзя. Праўда, дзе-нідзе ўжо пачалі вучыцца лацінскай і польскай мовам, але ў масе вышэйшыя і сярэднія станы гаспадарства — паны, шляхта і мяшчане — пішуць, чытаюць і гавораць амаль што выключна толькі на беларускай мове. У грамадзянства існуе вялікае запатрабаванне на беларускую кнігу. Каб задаволіць гэтую кніжную патрэбу, існуе шмат друкарань. Друкарні раскідаліся па ўсёй Беларусі, па вялікіх і малых гарадах. Мы можам назваць друкарні ў такіх гарадах, як Вільня, Полацк, Менск, Магілёў, Нясвіж, Любча, Заслаўе, Слуцак, Пінск, Заблудава, Супрасль, Еўе і г. д. Кніжная праца йдзе жвавым крокам.

У пачатку XVI стагоддзя на Захадзе вынік рэфармацыйны рух. Хутка ён перакінуўся на Беларусь. На Беларусі пачалі пашырацца лютаранства, кальвінізм, антытрапітарства, арыянства, сацыянства і другія рэлігійныя рэфармацкія напрамкі. Рух рэфармацыі абудзіў і тут, як і на Захадзе, культурна-нацыянальныя пытанні. Яны падняліся як у нас, так і ў Польшчы. У Польшчы з'явіўся гурток так званых рэфармістаў, якія, паміж іншым, паднялі пытанне аб нацыянальнай царкве з набажэнствам у польскай мове. З такіх рэфармістаў мы павінны назваць, напрыклад, Маджаеўскага і Асалінскага. У Беларусі ідэі рэфармізму праводзілі ў жыццё Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Цяпінскі ператлумачыў на беларускую

мову Евангелле. У прадмове да свайго Евангелля ён бядуе аб тым, што некаторыя з беларусаў «у польскія школы, або ў іншыя сябе і дзеці свае без встыду заправуюць». Трэба ўсё ж такі адзначыць, што і ў Польшчы, і ў Беларусі рэфармацыя не зрабілася нацыянальнай справай, як, напрыклад, у немцаў, швейцараў і другіх народаў. У нас не было беларускіх Лютэраў і Кальвінаў. Не спусцілася рэфармацыя ў Беларусі ў народныя нізы і не дала, як у Нямеччыне, абаронцы мужычых правоў Тамаша Мюнцэра. Рэфармацыя стала як бы рэлігійнай фрондай. Знатныя фаміліі прымалі лютаранства і кальвінізм як нешта новае, цікавае. Такія, напрыклад, беларускія арыстакратычныя фаміліі, як Радзівілы, Зяновічы, Валовічы, Кішкі, Глябовічы, Слушкі і др., хутка сталі кальвіністамі. За імі цягнулася шляхта і мяшчане. Але ўсё гэта не было грунтоўнай, важнай справай, каторая захоплівае інтарэсы працоўных мас і параджае там сацыяльны пратэст. Як толькі настала потым рэакцыя і пачаўся моцны польска-каталіцкі ўплыў, усе гэтыя пратэстанты — кальвіністы і г. д.— зрабіліся пакорнымі сынамі каталіцкай царквы і падданымі шляхецка-польскай улады.

## ПАЛІТЫЧНЫ ЎКЛАД ГАСПАДАРСТВА І ЦАРКВА

У той час, як у Маскоўскім гаспадарстве развівалася незнаёмае дагэтуль у рускіх тэрыторыях самаўладства, Літоўска-Беларускае гаспадарства развівала далей палітычную традыцыю Полацкай Русі, на аснове якой улада князя была абмежавана вечам. Гаспадар Літвы і Беларусі фактычна быў абмежаваны, з аднаго боку, панамі, з другога боку, у адносінах да асобных тэрыторый,— мясцовымі прывілеямі. Вялікі князь, літоўска-беларускі гаспадар, абіраецца шляхецкім станам Літвы і Беларусі. Нягледзячы на вуніі, Польшча не мае ўплыву на гэтыя выбары. Так былі абраны вялікія князі Вітаўт, Свідрыгайла: пасля забойства Жыгімонта Кейстутавіча, пастаўленага Польшчаю, быў абраны Казімір, потым Аляксандр, Жыгімонт I і Жыгімонт II Аўгуст[1]. Найгалоўнейшым абавязкам літоўска-беларускага гаспадара была

[1] Жыгімонта I і Жыгімонта II трэба — як вялікіх князёў — называюць Жыгімонтам II і Жыгімонтам III, бо да іх вялікім князем быў Жыгімонт Кейстутавіч.

абарона цэласці тэрыторыі гаспадарства. Ён стаіць на чале збройных сіл краю, ад яго імя выдаюцца заканадаўчыя акты і ўтвараецца суд. Ён вядзе дыпламатычныя зносіны з суседзямі, абвяшчае вайну і згоду; ён назначае на ўрады, раздае і кіруе дзяржаўнымі маёнткамі. Гарады знаходзяцца пад яго асабістай апекаю і па яго прывілею атрымліваюць магдэбургскае права.

Пры гаспадары знаходзіцца гаспадарская рада паноў. Рада вядзе свой пачатак з старажытных часоў. Раней сябры гаспадарскай рады назначаліся гаспадаром па яго ўласным выбары. З цягам часу звычай устанавіў склад рады. У пачатку XVI стагоддзя рада складаецца з каталіцкіх біскупаў[1]; вышэйшых цэнтральныхураднікаў, ваявод і стараст. Раней у склад рады ўводзіліся выключна каталікі, але ў пачатку XVI стагоддзя мы сярод паноў рады знаходзім ужо і праваслаўных[2]. Пастунова значэнне і моц рады выраслі, і яна замест дарадчай установы пры вялікім князі зрабілася дзяржаўнаю ўстановаю, якая ўжо юрыдычна абмяжоўвала ўладу гаспадара. На аснове прывілеяў, выдадзеных гаспадарамі ў 1492 і 1506 гадах, рада мае такія правы. Дыпламатычныя зносіны вядуцца гаспадаром толькі пасля абгавору ў радзе. Без рады гаспадар не мае права выдаваць законы і пастановы агульнага характару; не мае права раздаваць і аднімаць урады, расходаваць самастойна дзяржаўныя даходы і г. д. Хутка са складу рады выдзелілася невялікая частка самых заможных і радавітых паноў, якая зрабілася заўжды прысутнаю пры гаспадары ўстановаю, у той час, як уся рада збіралася толькі некалькі разоў у год і разбірала толькі выдатнейшыя справы.

Ужо з самага пачатку XV стагоддзя (1401 г.) побач з радаю з'яўляецца другая ўстанова — Вальны Сойм. Ён збіраецца толькі ў важнейшых выпадках, як, напрыклад, выбары гаспадара і абгаворванне вуніі з Польшчаю. У пачатку сойм складаецца з усіх паноў (у тым ліку і паноў рады) і шляхціцаў пагалоўна. Труднасць сабраць такі сойм прывяла да патрэбы зрабіць яго прадстаўнічаю ўстановаю. Ужо ў 1512 годзе быў выдадзены гаспадарскі загад, каб перад Вальным

[1] Біскуп быў адзін — віленскі.

[2] Як падлічыў А. Грыцкевіч, праваслаўныя складалі 40 працэнтаў членаў Рады, іншы раз і больш.

Соймам збіраліся павятовыя соймы з усіх паноў і шляхціцаў павету. На гэтых соймах абіраюцца два прадстаўнікі ад кожнага павету. Апроч выбраных ад павета маглі з'явіцца на сойм з пастаноўчым голасам больш вядомыя паны і шляхціцы павету па асабістым запрашэнням вялікага князя. Склад Вальнага Сойму канчаткова вызначыўся толькі ў пачатку другой палавіны XVI стагоддзя. Ён складаецца з гаспадарскай рады, якую па польскім звычаі называюць Сенатам, і з павятовых паслоў (дэпутатаў), якія складаюць Пасольскую Ізбу. Пашыраецца і кампетэнцыя Сойму, які бярэ сабе правы Гаспадарскай Рады. Гэты факт сведчыць аб тым, што вырастае значэнне і моц сярэдняга і дробнага землеўласніцтва; якое пачынае ўжо змагацца за ўладу з вялікімі землеўласнікамі, магнатамі-панамі.

Што да цэнтральнай адміністрацыі, то на чале яе стаялі тры ўраднікі, якія паступова выдзеліліся з ураднікаў палацу. Першым з іх ёсць канцлер, які трымае дзяржаўную пячатку і загадвае цэнтральнай дзяржаўнай канцылярыяй. За ім ідзе гетман, які камандуе ў часе вайны арміяй, калі на чале яе не стаіць сам гаспадар. Загадчык дзяржаўнага скарбу насіў назву падскарбія земскага. Гэтыя тры вышэйшыя ўраднікі падлягалі беспасрэдна самаму вялікаму князю. Апроч іх пры асобе гаспадара знаходзіўся рад прыдворных ураднікаў. У ранейшыя часы яны неслі рэальныя абавязкі і іх было мала. З цягам часу лік іх значна павялічыўся і рэальнасць іх абавязкаў адпала. Гэта былі проста пачэсныя ўрады. Да прыдворных урадаў належалі — маршалак дворны, чашнік, крайчы, стольнік, канюшы, мечнік і г. д.

Гаспадарства дзялілася на ваяводствы — Віленскае, Трокскае, Кіеўскае, Полацкае, Віцебскае і Смаленскае, старостs — Жмудскае і Валынскае. На чале ваяводства і староства стаялі ваяводы і старосты. Ваяводствы і староствы дзяліліся на паветы, на чале якіх стаялі дзяржаўцы.

Праваслаўе перайшло ў Літоўска-Беларускую дзяржаву з Полацкай Русі. Іерархічна яно было звязана з кіеўскім мітрапалітам. У XIV стагоддзі кіеўскі мітрапаліт пераехаў на жыццё ў Маскву і зрабіўся такім спосабам маскоўскім мітрапалітам. Але яму на падставе традыцыі падлягала і праваслаўная царква Літоўска-Беларускай дзяржавы. Зразумела, што з гэтым не магла згадзіцца палітычная ўлада гаспадарства. Самастойнае палітычнае гаспадарства патра-

бавала самастойнасці і ў царкоўных адносінах. У пачатку XV стагоддзя па прапанове Вітаўта збіраецца сабор епіскапаў і выбіраюць мітрапалітам Грыгора Цамблака. Масква вельмі была абурана гэтым фактам і пастаралася зрабіць уплыў на царградскага патрыярха, каб ён адмовіўся зацвердзіць Грыгора. Але Грыгор застаўся мітрапалітам і потым мы спаткаем яго на Канстанцкім саборы як прадстаўніка праваслаўнай літоўска-беларускай царквы. З гэтага часу мы бачым, што іерархічная сувязь Літоўска-Беларускай мітраполіі з Маскоўскай мітраполіяй то парываецца, то зноў аднаўляецца, залежна ад таго, удаецца ці не ўдаецца гаспадару Літвы і Беларусі мець свайго мітрапаліта. Так цягнулася да 1589 году, калі маскоўскаму гаспадарству ўдалося пабіць суперніка ўстанаўленнем патрыярхату ў Маскве, чым юрыдычна зноў праваслаўная царква Літвы і Беларусі была пастаўлена ў іерархічнае падданства Маскве. Як процівага гэтаму ў 1956 годзе ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве вынікла і аформілася царкоўная вунія з панствам.

Каталіцтва з'явілася ў гаспадарстве з часоў фармальнага аб'яднання з Польшчаю ў 1386 годзе. Раней яно з'явілася ў Літве, потым перайшло і на Беларусь. Іерархічна яно залежала ад папы і кіравалася віленскім біскупам. На Беларусі значных поспехаў яно доўга не мела. Каталіцтва адразу, па дагаворы з Ягайлам, заняло прывілейнае палажэнне. Тым не менш дзякуючы таму, што праваслаўных у гаспадарстве было больш, чым католікоў, гаспадары павінны былі падтрымліваць і праваслаўе. Праваслаўная царква мела свае права, хоць і меншае ад каталіцкага. Наогул палітыка была даволі верацярплівая.

## ТРЭЦІ ПЕРЫЯД ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ (XVI—XVIII стст.)

### ЛЮБЛІНСКАЯ ВУНІЯ 1569 ГОДУ

Нягледзячы на вунію 1386 году, Літва і Беларусь не зліліся з Польшчай за час прошлага перыяду. Абедзве дзяржавы захоўвалі сваю палітычную і культурную асобнасць. Недарма вуніі і пасля 1386 года некалькі раз аднаўляюцца юрыдычна. Гэты факт юрыдычных паўтарэнняў сведчыць аб тым, што кожны з юрыдычных актаў не меў жыццёвай... моцы. Але, з другога боку, гэты факт сведчыць і аб тым, што былі нейкія

ўмовы ў жыцці абедзвюх дзяржаў, што прымушалі зноў аднаўляць юрыдычныя вуніі. За час супольнага жыцця ў Літве і Беларусі стварыліся такія дзяржаўныя, сацыяльныя і культурныя з'явы, якія збліжалі гаспадарства з Польшчай. Гэтыя з'явы залежалі і як ад паступовага руху ў жыцці самога гаспадарства, так і ад польскага ўплыву.

Асабліва важнымі для ўтварэння вуніі былі сацыяльныя прычыны. Справа ў тым, што ў Рэчы Паспалітай[1] шляхта ў гэты час ужо адабрала ад магнатоў іх пераважнае, дамінуючае палажэнне ў дзяржаве. Уся ўлада там была ўжо ў руках шляхты. Што датычна да Беларусі і Літвы, то тут магнаты яшчэ не згубілі свайго старшынства і адціскалі шляхту на другі план. Зразумела, што гэта парушала інтарэсы і пажаданні беларускай шляхты. Яна жадала знаходзіцца ў тым самым палажэнні, у якім знаходзілася шляхта Польшчы. Сярод літоўска-беларускіх колаў вынікла зусім правільная думка, што атрымаць верх над сваімі магнатамі яны здужаюць куды лягчэй, калі іх гаспадарства ўтворыць рэальную вунію з Польшчаю. Пры дапамозе вуніі беларуская шляхта думала зраўняцца ў правох і прывілеях з польскай шляхтай. Што справа абстаяла так, сведчаць факты. Вядома, напрыклад, што яшчэ ў 1562 годзе беларуская шляхта, сабраўшыся пад Віцебскам, утварыла так званую канфедэрацыю, якая паставіла сабе за мэту, каб дабівацца ўсімі сіламі вуніі з Польшчай.

Да вуніі вялі і чыста знадворныя абставіны, якія зложыліся ў абодвух гаспадарствах.

Мы ведаем, што пачынаючы з канца XIV стагоддзя на Літву і Беларусь ідзе націск з усходу, з боку Маскоўскага гаспадарства. Гэты націск пустошыць і руйнуе асабліва беларускія землі. У другой палавіне XVI стагоддзя (1558—1582 гг.) з перарывамі і пераменным шчасцем цягнулася... Лівонская вайна, пачатая Іванам Грозным. Лівонія, разбітая маскоўскімі войскамі, аддалася пад абарону Літвы; Іван напусціў свае войскі на Літоўска-Беларускае гаспадарства. Маскоўская армія больш як у 250 тысяч у 1563 годзе аблажыла і ўзяла горад Полацк. Шмат народу загінула, шмат фур-

---

[1] У Кароне Польскай. Аўтар следам за некаторымі старымі рускімі і польскімі гісторыкамі часта атаясамлівае назвы Польшча і Рэч Паспалітая.

манак з золатам, серабром і дарагімі рэчамі пацягнулася ў Маскву. Шукаючы паратунку ад маскоўскага націску, Літва і Беларусь прымушаны былі думаць аб апоры ў Польшчы.

Польскім каралём і літоўска-беларускім гаспадаром быў у гэты трывожны час Жыгімонт III (Зыгмунт II) Аўгуст. Ён быў ужо зусім не маладым і не мог спадзявацца на патомства. Канчалася такім спосабам старая лінія Ягелонаў[1], каторая была сувяззю паміж гаспадарствамі. Польскія палітыкі таго часу баяліся, што пасля смерці апошняга караля з роду Ягайлавага Літва і Беларусь, баронячы сваю незалежнасць, могуць абраць свайго асобнага гаспадара. Трэба было зрабіць больш адпаведную часу сувязь паміж гаспадарствамі яшчэ да смерці караля, не адкладваючы справы. Жыгімонт таксама згадзіўся з апошнім. Пачаліся перагаворы.

Магнаты Літоўска-Беларускага гаспадарства і кіруючыя колы Польшчы мелі не аднолькавыя думкі аб злучэнні.

Магнаты Літвы і Беларусі лічылі карысным зрабіць такую вунію, якая б не касавала незалежнасць і самабытнасць іх гаспадарства. Паводле іх плану, кожная з дзяржаў павінна была захаваць свой сойм. Некаторыя з літоўска-беларускіх прадстаўнікоў магнатаў хоць і згаджаліся на агульны для абедзвюх дзяржаў сойм, хацелі, каб ён збіраўся чаргова: адзін раз — на тэрыторыі Літвы і Беларусі, другі раз — на тэрыторыі Польшчы. Кароль і гаспадар злучанай дзяржавы павінен абірацца і абвяшчацца тэй і другою дзяржавамі асобна. Пасады ў кожнай дзяржаве займаюцца толькі «тубыльцамі», г. зн. ураджэнцамі яе.

Прадстаўнікі Польшчы не згаджаліся з такою пастаноўкаю пытання аб вуніі. Яны стаялі за першынство Польшчы і за скасаванне незалежнасці Літвы і Беларусі. На іх погляд, сойм у абедзвюх дзяржавах павінен быць адзін і збірацца павінен ён выключна на тэрыторыі Польшчы. Палякі маюць права займаць пасады як у Польшчы, так і ў прылучанай да Польшчы дзяржаве.

Перагаворы зацягваліся. І тая і другая старана апіраліся на падставы, якія, на іх погляд, былі правільныя. Літоўска-беларускія магнаты і частка багацейшага шляхецтва ў сваіх прапазіцыях грунтаваліся на тых прывілеях, што выда-

[1] Дынастыя Ягайлавічаў (Ягелонаў) была ў Польшчы, на Беларусі і Літве — дынастыя Гедымінавічаў.

валіся для літоўска-беларускіх зямель гаспадарамі ранейшага часу, каторыя не згубілі яшчэ сувязі з Літвой і Беларуссю і адчувалі сябе больш гаспадарамі Літвы і Беларусі, чым каралямі Польшчы. Гэта былі прывілеі Казіміра, Жыгімонта II, Аляксандра, сутнасць якіх была ў захаванні правоў Літоўска-Беларускага гаспадарства. Палякі грунтаваліся на граматах і прывілеях апошніх Ягелонаў (Жыгімонта Аўгуста) і на некаторых пунктах ранейшых вуній. Яны рабілі выняткі ў сваю карысць для паніжэння і скасавання правоў Літвы і Беларусі. Пры гэтым яны хваліліся, што ў Польшчы былі каралі ў той час, як у Літве і Беларусі былі толькі вялікія князі, якія па тытуле былі ніжэйшымі ад каралёў. Кожная старана цвёрда стаяла на сваім грунце, і перагаворы не прыводзілі да згоды. Ужо й тады некаторыя з вяльмож заўважылі, што беларуска-літоўскае магнацтва і палякі ніколі дабром не згодзяцца, што згадзіць усіх немагчыма. Зразумела, што тыя, і другія чакалі, як павернецца жыццё. Ці дасць яно вырашэнне пастаўленаму пытанню.

Для канчатковага выяўлення пытання аб вуніі быў назначаны агульны з'езд у Любліне на 23 снежня 1568 года. Літоўска-беларускія паслы, у ліку якіх шмат было магнатаў, адчуваючы, што абставіны жыцця рыхтуюцца не на іх карысць, збіраліся памалу і як бы нехаця. Больш-менш значная колькасць іх сабралася толькі к 10 студзеня 1569 года. Абедзве стараны стаялі кожны на сваім і не хацелі паступіцца сваімі прапазіцыямі. Літоўска-беларускія магнаты, бачачы, што ніяк не дайсці да ладу, пачалі адзін за другім раз'язджацца. Тады палякі, апіраючыся на тым, што паўднёва-рускія землі — Палессе, Валынь і Падолія — у старадаўнія часы былі далучаны да Літоўска-Беларускага гаспадарства продкамі Ягелонаў, а таксама на тое, што... шляхта гэтых зямель выразна цягнула да Польшчы, прасілі апошняга Ягелона падараваць гэтыя землі Польскай Кароне. Жыгімонт так і зрабіў. Даведаўшыся аб гэткай крыўдзе, магнацкая частка паслоў Літвы і Беларусі зноў з'явілася ў Люблін. Яна энергічна пратэставала проці таго, што было зроблена, кажучы, што гаспадар не мае права прылучыць да польскай тэрыторыі землі, якія ад веку ўваходзілі ў склад Літвы і Беларусі. Палякі не адступіліся ад зробленай імі крыўды. Яны бачылі, што Літва і Беларусь знаходзяцца ў такіх цяжкіх умовах, што ў іх няма магчымасці ружжом бараніць свае правы, што

Літва і Беларусь прымушаны будуць згадзіцца і на такую вунію. Справа ў тым, што Літоўска-Беларускаму гаспадарству на ўсходзе пагражала Масква, на поўдні пагражалі татары і туркі. Зразумела, і Польшча стала б ворагам, калі б з ёю не было зроблена вуніі. Апроч таго, Польшча бачыла, што беларускія і літоўскія паслы раскалоліся на магнацкую і шляхецкую групы, з якіх апошняя стаяла за ўтварэнне вуніі з Польшчаю.

Калі беларускія паслы-магнаты пераканаліся, што іх справа прайграна, яны пайшлі на згоду. Дыярыуш Люблінскага сойму апісвае, што паслы-магнаты Хадкевіч, Радзівіл[1] і др. малілі палякаў і свайго апошняга гаспадара з роду Ягайлавага, каб яны не рабілі крыўды іх гаспадарству, не паніжалі яго і не адрэзвалі ад яго векавечных зямель. Яны з плачам кінуліся на калені перад Жыгімонтам, просячы яго не губіць гаспадарства і не аддаваць яго ў «ляскую няволю». Але кароль і палякі не выказалі спагады. Іх імперыялістычныя апетыты не маглі не скарыстаць таго цяжкага палажэння, у якім знаходзілася Літоўска-Беларускае гаспадарства. Жыгімонт загадаў літоўска-беларускім дэпутатам без лішніх размоў і прамоў прыняць вунію і прысягнуць Польшчы. Гэтая прысяга на вунію і адбылася 1 ліпеня 1569 году.

Па Люблінскай вуніі Літва і Беларусь злучаюцца з Польшчай у адно цэлае, у адзін дзяржаўны арганізм. Новая непадзельная дзяржава называецца Рэч Паспалітая, іначай кажучы — Рэспубліка. Два злучаныя гаспадарствы маюць аднаго гаспадара, які носіць тытул «кароль польскі і вялікі князь літоўскі і рускі»[2]. Кароль займае пасад не па спадчыне, а па абранні. Абіраюць гаспадара народы абедзвюх дзяржаў разам, для якой мэты збіраецца сойм у Варшаве. Каранацыя гаспадара адбываеццца ў Кракаве. Літва і Беларусь не маюць права абраць для сябе асобнага вялікага князя. Сойм у тым і ў другім гаспадарстве адзін: ён складаецца з дэпутатаў, абраных на мясцовых павятовых сойміках. Калі ў

[1] Радзівілаў было два: Мікалай Чорны і Мікалай Рыжы.

[2] Тытул быў даўжэйшы — у залежнасці ад таго, якія землі належалі Вялікаму княству і Кароне, але пасля слова «рускі» заўсёды стаяла «жамойцкі». Жамойць, хоць там і жылі продкі сучасных літоўцаў, мела свой герб — не з выяваю ўзброенага конніка, а мядзведзя.

Літоўска-Беларускім гаспадарстве[1] ёсць якія-колечы пастановы, нязгодныя з умовамі вуніі, то яны касуюцца. Грашовыя знакі ў абедзвюх дзяржавах агульныя. Паміж Польшчай, з аднаго боку, і Літвой і Беларуссю — з другога боку, мяжы няма. Тавары перавозяцца з аднэй стараны ў другую вольна, без усякіх гандлёвых мыт і налогаў. Падданыя абодвух гаспадарстваў маюць права купляць і ўладаць нерухомай маёмасцю і ў той і ў другой старане. Валынь, Падолія і Падляшша былі аддзелены ад Літвы і Беларусі і прылучаны да Польшчы, як землі Кароны. Нягледзячы на вунію, кожная з дзяржаў усё ж такі захоўвала свае асобныя войскі, законы і некаторыя з важнейшых дзяржаўных пасад. Трэба таксама адзначыць, што грошы і ў Кароне і ў Вялікім княстве былі асобныя ў XVI і нават у першай палавіне XVII стагоддзя[2].

Вунія 1569 году шырока адчыніла браму для польскага ўплыву. Праўда, гэты ўплыў існаваў і раней, але не мог быць моцным. Цяпер для гэтага ўплыву не было ніякіх перашкод. Польшча скарыстала польскі настрой беларускай шляхты і цяжкае палажэнне Вялікага княства, скасавала яго самабытны палітычны твар і прагнулася скасаваць твар культурны і нацыянальны. Гэта было грунтоўным недахватам вуніі, які налажыў сваю пячатку на далейшае сумеснае існаванне Кароны і Княства. Вунія была эгаістычнай з боку Польшчы. З далейшай гісторыі мы ведаем, што пры націску Масквы і татар Княства нават не атрымала ад Польшчы тэй дапамогі, якую Польшча абяцалася даць. Беларусь, апроч таго, увайшла ў дзяржаўны арганізм такога гаспадарства, якое ўжо пачало хварэць і палітычна і сацыяльна. Разумеецца, гэтая хвароба перадалася і Беларусі. З культурнага боку Беларусь таксама прайграла, бо польскі культурны ўплыў адарваў ад народу вышэйшыя станы, якія, апалячыўшыся, сталі чужымі для свайго народу як культурная сіла.

---

[1] У другой палавіне XVI ст. назва Літва замацавалася за землямі ад Вільні да Пінска і Берасця, ад Беластока да Барысава і Бабруйска; землі полацкія, віцебскія, мсціслаўскія і магілёўскія мелі назву Русь, Белая Русь. Такое разуменне Літвы і Беларусі захавалася да сярэдзіны XIX ст. Мову нашых продкаў у XVII—XVIII стст. часта (асабліва ў Маскве) называлі літоўскаю.

[2] Захаваўшы асобнае войска, заканадаўства, урад на чале з канцлерам вялікім літоўскім, грошы Вялікае Княства збірала і свае асобныя соймы, мела межы і мытні, свой герб.

## БЕРАСЦЕЙСКАЯ ЦАРКОЎНАЯ ВУНІЯ 1569 ГОДУ

Дзяржаўная Люблінская вунія забяспечвала для Польшчы палітыка-сацыяльны і часткаю культурны ўплыў на Беларусь. Але быў яшчэ адзін факт у жыцці злучаных дзяржаў, які ставіў перашкоды для скасавання асобнага твару Вялікага княства: у Польшчы панавала заходняе хрысціянства, каталіцтва, на Беларусі — усходняе, праваслаўная вера. Гэты факт, апроч таго, збліжаў Беларусь з праваслаўнай Масквой і ставіў яе ў іерархічную залежнасць ад маскоўскага патрыярха, з чым Польшча не магла згадзіцца. Разумеецца: што за вуніяй дзяржаўнай павінна было падняцца пытанне і аб царкоўнай вуніі. Гэтае пытанне, можа, паднялося б раней 1596 году, каб не было прычыны, якая адлажыла яго амаль што не на 30 год. Такой прычынай быў рэфармацыйны рух, падняты ў Польшчы і пагражаўшы як каталіцкай, так і праваслаўнай веры. Былі такія часы, калі можна было думаць, што рэфармацыя, пашырыўшыся ў абедзвюх дзяржавах, скасуе рэлігійную супярэчнасць паміж імі.

Рэфармацыйны рух прыйшоў у Літоўска-Беларускую і Польскую дзяржавы зараз жа пасля пачатку яго ў Нямеччыне, у першай чвэрці XVI стагоддзя. З'явіўся ён у палацы караля і вялікага князя Жыгімонта Старога. Тут яго стаў пашыраць духоўнік жонкі караля, Боны, Францішак Ліпмані. З палацу караля і вялікага князя рэфармацыя выйшла на вуліцы і стала пашырацца сярод шляхецкіх і мяшчанскіх колаў. Жыгімонт Стары і Жыгімонт Аўгуст не рабілі ніякіх перашкод для рэфармацыйнага руху. Шмат духоўных асоб кідалі свой сан і станавіліся на чале новага вучэння. Сярод вышэйшых станаў больш пашыраўся кальвінізм, а лютаранства захапляла мяшчанскі клас. У палавіне XVI стагоддзя рэфармацыя мела такі ўплыў, што сучаснікі, гаворачы аб шляхце, лічылі яе цалкам пратэстанцкай. І тут была нейкая праўда. Вядома, напрыклад, што ў Наваградскім ваяводстве з 600 фамілій праваслаўнае шляхты асталося ў старой веры ўсяго толькі шаснаццаць. Беларусь стала месцам развіцця рэфармацыйнай навукі і асветы. У Нясвіжы працавала добра арганізаваная друкарня Мікалая Радзівіла Чорнага, вялікага маршалка Літоўска-Беларускага гаспадарства[1]. Тут жа збі-

[1] Тут у 1562 г. Сымон Будны выдаў «Катэхізіс» на беларускай мове.

раліся выдатнейшыя прапаведнікі і вучыцелі кальвінізму. Прыняў кальвінскую веру і сам Радзівіл, за ім пацягнуліся і акалічная, залежная ад яго высокай пасады і вялікай маемасці шляхта. У Польшчу, Літву і Беларусь уцякалі людзі вольнага настрою рэлігійнай мыслі, якіх гналі з другіх краёў. У 1555 годзе з Італіі ўцёк у Кракаў Лелій Соцын, які не прызнаваў тройчасці бога. Яго рэлігійныя погляды, вядомыя пад назваю сацыянства, антытрынітарства і унітарызму, з Кракава хутка сталі пераходзіць і на Беларусь. У 1554 годзе павінен быў пакінуць сваю бацькаўшчыну, Маскву, Феадосій Касы са сваімі аднадумцамі. Ён, як і Соцын, але зусім незалежна ад яго, таксама вучыў аб адзіным богу. У пачатку ён працуе ў Віцебшчыне, потым пераязджае ў Вільню. Усе сучаснікі гавораць, што гэта быў чалавек вялікай энергіі і розуму і быў надта добрым прапагандыстам сваёй рэлігійнай навукі. Заслаўе Менскага павету і Любча Наваградскага павету ў сваіх друкарнях працавалі над выданнем кніжак антытрынітарскага, унітарскага кірунку.

Рэфармацыйны рух у Польшчы, Літве і Беларусі не меў пад сабою моцнага грунту. Ён меў у сабе такія недахваты, якія рабілі яму вялікую шкоду. Перш за ўсё ён не даваў адзінай рэлігійнай тэорыі: ён распадаўся на мноства розных, не падобных адна на другую сект. Такіх сект можна было налічыць больш за 70. І кожная з гэтых сект лічыла праўдзівай толькі адну сябе і змагалася з іншымі сектамі. А гэта было якраз у той час, калі заняпаўшае раней каталіцтва зноў паднялося на ногі і арганізавала свае сілы на Трыдэнцкім саборы і калі яно аб'ядналася і высунула такіх энергічных і практычных працаўнікоў на карысць папства і царквы, як езуіты.

Апроч таго, рэфармацыйны рух як у Польшчы, так і на Беларусі не быў рухам шырокім і глыбокім. Ён не спусціўся ў працоўныя народныя нізы, не абурыў іх розуму і пачуцця, не падняў так востра і рашуча палітычных і сацыяльных пытанняў. Ён лёгка закрануў розум, і толькі розум шляхецкага і верхнемяшчанскага стану. Рабочыя нізы гораду асталіся збоку і не ўвайшлі ў рух. Мужык таго часу таксама не цікавіў не толькі пратэстантаў-паноў, але нават і тых рэфармацыйных дзеячаў, якія тут працавалі. Ён таксама астаўся збоку. Беларусь і Польшча не атрымалі свайго Тамаша Мюнцера, які ў Нямеччыне зрабіў рэфармацыю пралетарска-мужыцкай справай, паставіўшы яе на сацыяльны грунт.

Усе гэтыя недахваты загубілі ў нас такі цікавы паступовы рух, як рэфармацыя, і адчынілі дарогу для працы езуітаў і для клерыкальнага настрою грамадзянства ў Польшчы.

Мы не будзем тут сачыць за гісторыяй ордэну езуітаў і рабіць характарыстыкі яго арганізацыі. Усё гэта добра вядома з агульнай гісторыі Заходняй Еўропы. Мы толькі звернем увагу на тое, што езуіцкі ордэн як арганізацыя ёсць тыповая партыя нашага часу. Яна мела сваю праграму-максімум (божую славу на зямлі), сваю праграму-мінімум (пашырэнне каталіцтва і разам з ім улады папы), мела практычную, а не ідэалістычную мараль і этыку, якая дазваляла, нават прадпісвала, напрыклад, забойства, калі гэта вымагаецца мэтамі арганізацыі: мэта апраўдвае сродкі. Да гэтага трэба дадаць чыста вайсковую дысцыпліну і добра пастаўленую канспірацыю. Усе гэтыя фактары рабілі ордэн моцнаю сілаю, якая, дзе б яна не з'явілася, пачынала рашуча і энергічна сваю працу, што насіла не толькі рэлігійны, але і палітычна-грамадзянскі характар. Так было на Беларусі і ў Польшчы.

З Заходняй Еўропы езуітаў выклікаў віленскі каталіцкі біскуп Валер'ян Пратасевіч для барацьбы з рэфармацыйным рухам. Езуітаў не трэба было доўга запрашаць да працы. У 1569 годзе, якраз у час Люблінскай вуніі, невялічкі гурток езуітаў у пяць чалавек ужо пачаў сваю працу ў Вільні. Гурток быў добра падабраны. Усё гэта былі людзі разумныя, вучоныя, добрыя прамоўцы, энергічныя і стройна арганізаваныя. Раней за ўсё трэба было ім захапіць у свае рукі палітыку. Для гэтай мэты яны ўвайшлі ў палацы заможнага панства як духоўнікі, як дарадчыкі, як дамовыя настаўнікі. Узяўшы ў рукі сумленне магнатаў і робячы ўплыў на іх розум, яны атрымалі магчымасць мець уплыў і на палітыку. Апроч таго, узяўшы ў рукі магнатаў і панства, езуіты атрымалі магчымасць здабыць і матэрыяльную, эканамічную забяспеку на сваю ўладу. Забяспечыўшы свой палітычны ўплыў і эканамічнае палажэнне, ордэн прыняўся за народныя масы. Сярод народнай масы найлепшы матэрыял для ўплыву складае моладзь. З яе павінны былі пачаць сваю працу і езуіты. Хутка ў Вільні езуіты заснавалі школу, так званы калегіум. Закранутае рухам грамадзянства спачатку не пускала сваіх дзяцей у каталіцкі калегіум, але езуіты не спынялі працу, хоць ва ўсёй школе ў іх было толькі 15 вучняў. Адукацыйная справа, добра наладжаная, здольныя настаўнікі, добрыя адносіны

да вучняў — усё гэта гаварыла само за сябе. Да гэтага трэба дадаць, што школа езуітаў была бясплатнай. Слава школы пачала расці, пачаў расці і лік вучняў. Цяпер езуіты смела маглі адчыняць свае школы і ў другіх мясцох. Праз нейкі час мы бачым езуіцкія калегіумы ў такіх гарадох, як Полацак, Смаленск, Нясвіж, Віцебск, Менск, Орша, Магілёў і г. д. Школа зрабіла сваю справу добра. Дзеці шчырых працаўнікоў рэфармацыі і праваслаўя сталі шчырымі каталікамі. Прыкладаў ёсць шмат. Чатыры сыны Мікалая Радзівіла Чорнага пад уплывам езуіцкай адукацыі прынялі каталіцтва. Адзін з іх прыняў нават сан і зрабіўся пасля смерці Валяр'яна Пратасевіча віленскім біскупам. (...)

Робячы ўплыў на моладзь, езуіты не забыліся і пра шырокія масы грамадзянства. Там яны працавалі праз школу, тут — праз царкву. Ужо ў 1572 годзе езуіты атрымалі для свайго набажэнства касцёл св. Яна ў Вільні. Шмат грошай затрацілі яны, каб гэты касцёл рабіў ураженне на масы. Быў пастаўлены выдатны арган, заведзена выдатная музыка і спевы. Народ вялікаю грамадою паваліў да новага касцёлу і даў слухачоў для езуіцкіх казанняў. Хутка езуіцкімі касцёламі і кляштарамі пакрылася не толькі Польшча, але й Беларусь. Абноўленае і ўзмоцненае езуітамі каталіцтва пачало выціскаць лютаранства, кальвінізм, унітарства і іншыя секты. Вышэйшыя станы беларускага грамадзянства, зацягнутыя раней у рэфармацыйны рух, цяпер пераходзілі ў каталіцтва. У пачатку XVII стагоддзя пратэстанцтва і кальвінізм асталіся сярод мяшчан, але і тут былі частыя адходы ад каталіцтва. Вядома, што, напрыклад, у Вільні праз 5 гадоў пасля прыезду езуітаў павярнуліся ў каталіцтва каля 6 тысяч жыхароў гораду.

Такім чынам каталіцтва заняло месца рэфармацыі сярод беларускіх магнатаў, шляхты і большай часткі мяшчан. Стаўшы каталікамі, яны рабіліся палякамі, бо згінула тая важная для таго часу розніца, якая была паміж імі і польскай шляхтай і магнацтвам. Для іх ужо непатрэбна была рэлігійная вунія, бо яны палітычна, сацыяльна і рэлігійна былі ўжо адным народам з палякамі.

Але апроч магнатаў і шляхты жыў яшчэ на Беларусі і просты народ, які у час рэфармацыі астаўся не крануты яе ўплывам. Ён механічна трымаўся паваслаўнай веры. Падысці да яго проста было трудна, бо ён, як народ цёмны, не

цікавіўся запутанымі дагматычнымі тэорыямі і трымаўся свае веры толькі затым, што яна прыйшла да яго розуму і пачуцця па традыцыі, ад яго дзядоў і бацькоў. Трэба было падысці да яго абходным шляхам. Як такі шлях езуіты і прапанавалі царкоўную вунію, якая прывяла б селяніна да каталіцтва паступова, не парушаючы яго традыцый.

Думка аб вуніі не была новаю і не была выдумана езуітамі. Яна існавала ўжо даўно сярод людзей, зацікаўленых у ўзмацненні царквы пры дапамозе яе аб'яднання. Была і спроба рэалізацыі вуніі ў 1439 годзе ў Фларэнцыі. Людзі рэлігійнага настрою таксама былі незадаволены, бачачы раздзел хрысціянскай царквы. Яны спадзяваліся, што вунія скасуе раздзел і парушыць збудаваную вякамі загародку паміж цэрквамі. На Беларусі думка аб вуніі вынікала ў людзей, якія думалі аб спыненні рэлігійных спрэчак і аб утварэнні беларускай нацыянальнай, дзяржаўнай царквы[1]. Для іх справа вуніі была справаю як рэлігійнаю, так і палітычнаю. На вунію яны глядзелі як на нешта пэўнае, трывалае, а не як на мост для пераходу з аднэй веры ў другую. Вядома, напрыклад, што такі шчыры праваслаўны і такі шчыры беларускі патрыёт, як князь Канстанцін Астрожскі, адзін час падтрымліваў ідэю вуніі, лічачы, што яна ўтворыць беларускую дзяржаўную рэлігію. Ён стаў проці вуніі толькі тады, калі пабачыў, што вунія прапануецца зусім для другой мэты, што яна ўтварае мост для пераходу з праваслаўя ў каталіцтва.

З езуітаў, якія шмат працавалі над ідэяй вуніі, мы павінны адзначыць добра вядомага ў свой час каталіцкага тэолага і прамоўцу, рэктара Віленскай езуіцкай школы, якая з 1579 году атрымала правы і назову акадэміі[2], Пятра Скаргу. Ён напісаў твор, каторы мае такі загаловак: «Аб еднасці Царквы Божай і аб грэчаскім ад гэтай еднасці адступленні». У гэтым

---

[1] Думка аб царкоўнай уніі вынікла сярод праваслаўнага клеру і як рэакцыя на пратэстантызм, і як рэакцыя на ўстанаўленне ў Маскве патрыярхату (1589). Улічваючы тое, што канстанцінопальскі патрыярх стаў фактычна заложнікам у туркаў, беларускі і украінскі праваслаўны епіскапат трапіў пад юрыдыкцыю маскоўскага патрыярха, што выклікала незадавальненне часткі архірэяў.

[2] Гэта была першая вышэйшая школа ва Усходняй Еўропе. У 1617 г. кальвініст князь Радзівіл адчыніў у Слуцку першую на ўсходнеславянскіх землях гімназію.

сваім творы ён апісвае недахваты ў царкоўным праваслаўным жыцці Беларусі таго часу. Праваслаўныя свяшчэннікі маюць жонку і сям'ю. Дзякуючы гэтаму яны павінны думаць і клапаціцца больш аб сваіх уласных справах, чым аб справах божай царквы. Яны заграглі ў зямных жыццёвых інтарэсах, агрубелі і зрабіліся як «хлопы». Набажэнства ў праваслаўнай царкве адпраўляецца ў мове славянскай, дзеля чаго свяшчэннікі не ведаюць грэцкай і лацінскай моў. Нязнанне гэтых моў прыводзіць да таго, што яны не могуць падысці да навукі, бо навука выкладаецца толькі ў гэтых мовах. У жыццё праваслаўнай царквы на Беларусі ўмешваюцца асобы свецкія, якія не павінны мець ніякай датычнасці да царкоўных спраў. Нават епіскапы, і тыя папалі ў рукі свецкіх асоб. Каб знічтожыць усе гэтыя недахваты, трэба зблізіць праваслаўную царкву з каталіцкай, зрабіўшы паміж імі вунію. Пры гэтым праваслаўная царква можа аставіць (...) усходні абрад: яна павінна толькі прызнаць галавою ўсёй хрысціянскай царквы Хрыстовага намесніка на зямлі — рымскага папу — і прыняць дагматычную навуку каталіцкай царквы.

Мы не будзем разбірацца ў багаслоўскіх поглядах Скаргі, тым больш, што ўсе гэтыя тонкія тэалагічныя разважанні былі толькі мнагаслоўнымі размовамі, над каторымі і за каторымі крылася палітычная мэта. Мы прыпынімся толькі над некаторымі фактамі жыцця праваслаўнай царквы на Беларусі, каторыя закрануты ў творы Пятра Скаргі.

Справа ў тым, што праваслаўная царква на Беларусі знаходзілася ў тыя часы ў вельмі цяжкім становішчы. Сучаснае жыццё нанесла ёй тры ўдары. Адзін удар па царкве зрабіла рэфармацыя, другі ўдар — каталіцтва і трэці ўдар — палітыка-сацыяльны польскі ўплыў. Перш за ўсё рэфармацыя адцягнула ад царквы на сваю работу лепшыя сілы (...); тое самае зрабіла каталіцтва, якое выйшла на барацьбу з рэфармацыяй. Ударыла па праваслаўнай царкве і Люблінская вунія. Яна прынесла на Беларусь польскі дзяржаўны і сацыяльна-культурны ўплыў; праваслаўная царква была пастаўлена ў паніжанае палажэнне, бо дзяржаўнаю вераю польскага гаспадарства было каталіцтва. У той час, напрыклад, як каталіцкія біскупы мелі свае крэслы ў сенаце, праваслаўныя біскупы іх не мелі. (...)

Старажытнае права патранату (заступніцтва) свецкіх асоб і ўстаноў над царквою ў гэты момант было таксама

шкадлівым для праваслаўнай царквы. Калі раней літоўска-беларускі вялікі князь, магнат, шляхціц ці гарадская грамада лічыліся патронамі, апякунамі, заступнікамі царквы, то гэта давала царкве пэўную абарону і эканамічную моц, бо гэтыя патроны былі праваслаўныя. Яны, як верныя сыны царквы, клапаціліся аб тым, каб цэрквы мелі добрых сяшчэннікаў, былі забяспечаны правамі, будынкамі, землямі, грашыма і г. д. Але гэта мела і адваротны бок: патрон меў права ўмяшацца ў хатняе жыццё царквы. Гэта было шкодна, калі патрон з праваслаўнага рабіўся пратэстантам ці каталіком. З цягам часу такія здарэнні рабіліся ўсё часцей і часцей. (...) Разумеецца, такі патрон-іншаверац ужо не мог мець пашаны да праваслаўнай царкоўнай установы, а яшчэ часцей рабіў ён толькі шкоду. На чале праваслаўных епархій, манастыроў і цэркваў такі патрон ставіў асоб, карысных і прыемных яму людзей, якія бачылі ў сваіх пасадах не духоўны абавязак, а «духоўны хлеб». Бывалі і такія здарэнні, што патроны давалі манаскую пасаду асобе жанатай і свецкай. Гэтая асоба лічылася «нарэчаным» епіскапам ці ігуменам і кіравала паствою праз так званага вікарыя-манаха, астаючыся ў мірскім стане. Пэўна, што патрабаваць ад такіх асоб духоўнай асветы і набожнага жыцця не было магчыма. Усе памяткі таго часу сведчаць аб недастойным і непадобным жыцці духавенства вышэйшага і ніжэйшага, чорнага і белага[1]. Адзін... твор так малюе гэты недахват царкоўнага жыцця таго часу: «Аще ли кто вопрошает их (духоўных асоб) о книгах, то отвещают глаголююще: убози есьмы, не имамы чим книг стяжати. Ходят же не яко убози, но ризы носящие светлы и блещащеся, расширающе вокрылья, шеи же яко у тельцов, на заколение упитанных; ученик много, паче же поваров множество, а другая же стыд и глаголати».

Калі паднялося пытанне аб вуніі, то такое палажэнне праваслаўнай царквы давала як бы грунт для вуніі. Вунія абяцала даць вышэйшаму духавенству сенатарскія крэслы, апроч таго, яна вымагала скасавання кантролю свецкіх устаноў і асоб над царквою. Тым і другім вунія маніла да сябе прадстаўнікоў вышэйшага духавенства. У 1591 годзе

---

[1] Чорнае духавенства ў праваслаўнай царкве — гэта архірэі (епіскапы і вышэй), якія абіраюцца або прызначаюцца, як правіла, з манахаў; белае духавенства — гэта жанатыя святары.

некаторыя з праваслаўных епіскапаў падалі каралю Жыгімонту[1] заяву такога зместу: «Мы, ніжэйпадпісаныя епіскапы, хочам прызнаваць нашым главою і пастырам намесніка св. Пятра, найсвяцейшага папу рымскага, ад каго мы чакаем павелічэння божай славы ў яго святой царкве. Але, жадаючы быць у паслушэнстве ў найсвяцейшага айца — папы, мы хочам, каб нам былі астаўлены ўсе цырымоніі, набажэнствы і абрады, якія трымае здаўна наша святая ўсходняя царква, і каб яго каралеўская міласць забяспечыў за намі сваімі граматамі вольнасці і зацвердзіў тыя артыкулы, якія намі будуць пададзены. А мы абавязуемся быць пад уладаю і благаславенствам айца-папы. Гэты ліст з уласнаручным нашым подпісам і прылажэннем пячатак далі мы старшаму нашаму брату, айцу Кірылу Цярлецкаму, Экзарху і епіскапу Луцкаму і Астрожскаму». Заява была падпісана Кірылай, еп. Луцкім, Лявонціем Пінскім, Гедэонам Львоўскім, Дыянісіем, епіскапам Холмскім і Уладзімірскім епіскапам Іпатам Пацеем. Кіеўскі мітрапаліт Міхаіл Рагоза таксама згаджаўся на вунію, але ўхіліўся ад подпісу заявы. Святыя айцы падавалі заяву каралю ў сваіх уласных інтарэсах і ў палітычных інтарэсах каралеўства. Абедзве стараны разумелі добра ўзаемныя інтарэсы і падтрымлівалі адна другую.

Трэба было правесці гэтую справу праз Рым. Улетку 1595 году К. Цярлецкі и І. Пацей, падпісаўшы разам з другімі епіскапамі акт аб вуніі, паехалі з гэтым актам... да Рыму. Рымскі папа Клімент VIII з радасцю прыняў пасланцоў і даў сваё благаславенства і згоду. На славу падзеі быў выбіты медаль... Жыгімонт III з свайго боку выдаў дэкрэт аб злучэнні цэркваў. Даведаўшыся, што шмат праваслаўных надта абураны справай, зробленай без агульнай згоды Цярлецкім і Пацеем, кароль узяў пад сваю абарону як іх, так і іншых епіскапаў, якія падпісалі акт вуніі. Не хапала толькі саборнага зацверджання. Спагадчыкі вуніі думалі абысціся і без сабору, але праціўнікі вуніі дамагаліся, каб быў скліканы сабор.

Сабор быў скліканы ў Бярэсці ў кастрычніку 1596 года. На сабор з'явіліся прадстаўнікі двух усходніх патрыярхаў,

---

[1] Жыгімонту Вазу. Як кароль ён быў Зыгмунтам III, як вялікі князь — Жыгімонтам IV.

Царградскага і Александрыйскага. Як і трэба было спадзявацца, адразу вынік разлад паміж двума кіраўнікамі. Фактычна адбыліся два саборы. Адзін сабор складалі абаронцы вуніі пад старшынствам львоўскага лацінскага арцыбіскупа Суліkoўскага. Другі сабор складалі праваслаўныя, не згодныя з вуніяй, пад старшынствам львоўскага ўсходняга епіскапа Гедэона Балабана з прысутнасцю прадстаўнікоў ад усходніх патрыярхаў. Вуніяцкі сабор зрабіў пасяджэнне ў берасцейскай саборнай царкве, а праваслаўны — у прыватным будынку, бо Пацей, епіскап Уладзімірскі, да епархіі якога належала Бярэсце, аддаў прыказ зачыніць для праціўнікаў вуніі ўсе цэрквы ў горадзе. Прадстаўнікі събораў некалькі раз заклікалі на сваё пасяджэнне сваіх супернікаў, але нічога з гэтага не выйшла. Кожны з събораў вёў справу асобна і застаўся пры сваёй уласнай думцы аб вуніі. Вуніяты абвясцілі анафему і пазбавілі сану епіскапаў, што не згаджаліся на вунію, а праваслаўныя зрабілі тое самае ў адносінах да сваіх супернікаў. Нягледзячы на такі канец сабору, польскі ўрад і рымскі папа пачалі афіцыйна лічыць вунію адбытым фактам. На праваслаўную веру ўрад глядзеў, як на секту, «схізму». У праваслаўных пачалі адбіраць цэрквы і манастыры, забралі Сафійскую саборную царкву ў Кіеве.

Праваслаўныя ўтрымалі за сабою Кіева-Пячэрскі манастыр і мітрапаліцкую кафедру ў Кіеве. У далейшыя часы з ліку кіеўскіх мітрапалітаў сваёю чыннасцю праславіўся энергічны і з вялікай эрудыцыяй чалавек, Пятро Магіла. Яшчэ ў бытнасць сваю архімандрытам Кіеўскай лаўры ён заснаваў пры ёй... духоўную школу, якую потым перарабіў у вышэйшую школу — акадэмію. Сюды ён выпісаў з усходу вядомых прафесараў і збіраў вакол акадэміі і ў акадэміі моладзь, якая шукала асветы. Школа была цэнтрам асветы як для заходніх рускіх зямель, так і для Масквы[1].

[1] Выпускніком гэтае акадэміі быў іераманах Сімяон Полацкі, выдатны паэт і мысліцель, які кіраваў выхаваннем Пятра 1 і быў адным з заснавальнікаў Славяна-лацінскай акадэміі ў Маскве — першае вышэйшае навучальнае ўстановы ў Расіі. У «Журнале Московской Патриархии» можна прачытаць, што сучасная Руская праваслаўная царква не лічыць погляды выкладчыкаў акадэміі — выхадцаў з Беларусі і Украіны — «истинно православными», бо, маўляў, украінска-беларускае праваслаўе падпала пад лацінскі ўплыў. Нагадаю, што погляды Сімяона былі абвешчаны ерэтычнымі.

Акт Берасцейскай вуніі мае не так царкоўнае, як нацыянальна-палітычнае значэнне. Гэтая вунія ёсць просты працяг вуніі Люблінскай. Справа была не толькі ў тым, што праваслаўны кідаў сваю веру і рабіўся вуніятам ці каталіком, але і ў тым, што ён прымаў палітычны, культурны і нават сацыяльны ўплыў Польшчы. Пасля Берасцейскага сабору з'явіліся на Беларусі дзве веры: адна каталіцка-вуніяцкая вера, другая — праваслаўная, схізматычная, каторую ўрад усімі сіламі стараўся знішчыць. Што датычыць вуніятаў, то і іх палажэнне не доўга было прывілейным. Сама па сабе вунія не была патрэбна ні езуітам, ні Польшчы. Утварэнне вуніі мела на мэце злучэнне вер. Калі з цягам часу выявілася, што вунія як мост, не пераводзіць пад польска-каталіцкі ўплыў шырокія масы так хутка, як спадзяваліся,— яе перасталі лічыць патрэбнаю[1].

Нарэшце вунія прынесла на Беларусь не згоду, а разлад і выклікала рэлігійную барацьбу. Яна, як і Люблінская вунія, была накіравана на тое, каб скасаваць незалежнасць Літоўска-Беларускага гаспадарства. Зразумела, што на гэтай глебе ў далейшыя часы пачалася барацьба, якая прыносіла вялікую шкоду, як Літве і Беларусі, так і Рэчы Паспалітай[2]. Творчыя сілы замест таго, каб будаваць жыццё, траціліся на непатрэбную грамадзянству рэлігійную барацьбу.

Як і раней, у наступным параграфе У. Ігнатоўскі, часта атаясамлівае назвы Рэч Паспалітая і Польшча. Гэта тлумачыцца тым, што ён не пазбавіўся ад уплыву старой рускай

[1] У. Ігнатоўскі ў гэтым абзацы не змог пазбавіцца ўплыву старой рускай гістарыяграфіі. Сказаўшы, што грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква не пераводзіць працоўныя масы пад польска-каталіцкі уплыў, ён сам пярэчыць сабе. Грэка-каталікі прызналі ўладу папы, некаторыя догматы, абрады і каноны заходняй царквы, але захавалі — у адрозненне ад рымскіх каталікоў і праваслаўных — нацыянальны твар рэлігіі. Божая Служба, якая мала чым адрознівалася ад праваслаўнай, ішла ў жывой мове народа, а не ў лаціне ці стараславяншчыне. Вось чаму просты народ беларускі не паддаўся асіміляцыі. Уніяцтва стала рэлігіяй народных нізоў. Яно, піша польскі аўтар Ян Ярцо, было пагарджаным як з боку рымска-каталіцкай, да якой належалі паны, гэтак і з боку праваслаўнае царквы, да якой належалі мяшчане.

[2] Тут У. Ігнатоўскі зноў атаясамлівае Польшчу з Рэччу Паспалітай.

і польскай навукі. Польскія гісторыкі, каб абгрунтаваць права польскай буржуазіі памешчыкаў на землі ад Балтыйскага да Чорнага мора, аб'яўлялі польскімі былыя землі Вялікага княства Літоўскага, якое і сапраўды ў пэўныя перыяды прасціралася ад Балтыкі да Понту. Рускія гісторыкі таксама сцвярджалі, што землі Украіны, Беларусі і Літвы былі пад абсалютным польскім кантролем, каб давесці, што царызм быў вызваліцелем гэтых народаў. На самай справе абсалютнага польскага кантролю не было: як мы ведаем з параграфа «Люблінская вунія 1569 году», Вялікае княства Літоўскае мела свой герб, свой урад, свае фінансы, войска, межы, мытні, законы, суды. Кароль Рэчы Паспалітай (ён жа кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі і інш.) мог быць абраны ў Вальным Сойме толькі аднагалосна — як пасламі і сенатарамі ад Польшчы, гэтак і ад Вялікага княства. З гэтага мы робім выснову, што Рэч Паспалітая была не унітарнаю, а федэратыўнаю дзяржаваю.

## ПАЛІТЫКА-САЦЫЯЛЬНЫ ЛАД РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Вуніі 1569 і 1596 гадоў былі актамі, якія ўключылі Беларусь у склад Польскай дзяржавы. Літоўска-Беларускае гаспадарства перастала жыць сваім асобным ад Польшчы жыццём; адчынілася вольная дарога да заходняга, польскага ўплыву. Гэты ўплыў мог безабаронна пашырацца на Літве і Беларусі. Дзякуючы гэтаму нам трэба пазнаёміцца з тым, што было ў гэтыя гады ў Польшчы, якая пасылала да нас свой уплыў; якім палітыка-сацыяльным зместам было запоўнена жыццё. Польскі змест жыцця будзе ўваходзіць у змест жыцця Беларусі, якая з часу вуніі зрабілася толькі часткаю Рэчы Паспалітай.

Пазнаёмімся раней з палітычным ладам Рэчы Паспалітай.

Заканадаўчую ўладу ў гаспадарстве меў двухпалатны Вальны Сойм, які складаўся з сената (рады) і з дэпутацкай (пасольскай) ізбы (палаты дэпутатаў). Сенат-рада быў вышэйшай палатаю сойма. Сюды ўваходзілі знатнейшыя элементы польскага[1] шляхецтва, асобы з вышэйшымі пасадамі як цэнтральнымі, так і правінцыйнымі. Лік сенатараў

---

[1] І літоўска-беларускага.

даходзіў да 150 персон. Гэты лік мог павышацца і паніжацца. Лік памяншаўся з памяншэннем тэрыторыі дзяржавы і павялічваўся з яе пашырэннем. Клерыкальны кірунак улады адчуваўся адразу: першае месца ў сенаце займае гнезненскі арцыбіскуп, прымас каталіцкай царквы ў Рэчы Паспалітай. З ім сядзяць па парадку і па чыну звычайныя біскупы, і толькі ўжо за імі ідуць свецкія ўраднікі — кашталяны, ваяводы і г. д. Старэйшыя сенатары мелі свае месцы ў крэслах, а малодшыя — на лавах. У ранейшыя часы сенат быў проста прыватнаю радаю пры каралі[1] і толькі потым, з пашырэннем правоў шляхецтва, ён зрабіўся дзяржаўнаю ўстановаю і ўвайшоў у склад сойма, як яго вышэйшая палата. Як перажытак мінулага астаўся звычай і ў далейшыя часы, каб сойм з сената абіраў 28 чалавек у каралеўскую раду на 2 гады. Сенатары-дарадчыкі караля дзяліліся на 4 групы, па 7 сенатараў у кожнай. Асобная група сядзела ў каралеўскай радзе шэсць месяцаў.

Ніжэйшаю палатаю сойма была пасольская ізба. Сюды ўваходзілі дэпутаты — паслы ад шляхты асобных паветаў гаспадарства; уваходзілі таксама ў невялікім ліку паслы ад мяшчанства выдатнейшых гарадоў. Пасольская ізба з цягам часу робіцца галоўнаю часткаю сойма, адсоўваючы назад вышэйшую палату — сенат. Паслы ў ізбу абіраліся шляхтаю на павятовых сойміках, якія склікаліся за шэсць тыдняў да Вальнага Сойма. (...) Пасля таго як адбываўся Вальны Сойм... паслы склікалі па паветах так званыя рэляцыйныя соймікі, на каторых яны апавядалі ўсю чыннасць сесіі, Вальнага Сойма і давалі справаздачу аб сваёй дзейнасці перад сваімі абірацелямі. Лік дэпутатаў пасольскай ізбы залежаў ад тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У XVI і XVII стагоддзях ён даходзіў да 200 асоб. Прадстаўніцтва ад мяшчанства гарадоў у пазнейшыя часы мы ўжо не бачым.

Вольны Сойм склікаецца каралём праз кожныя 2 гады. Два разы яго пасяджэнне адбываецца ў Польшчы, у Варшаве, і адзін раз — у Літве і Беларусі, у Горадні. Звычайна сойм склікаецца ўвосень «пасля дня св. Мартына», калі ўжо скончаны пільнейшыя вяскова-гаспадарчыя работы. Гэта залежала ад таго, што сябры сойма былі землеўлас-

[1] У Вялікім княстве Літоўскім была велікакняская рада (паны рада).

нікамі. Працяг звычайнага сойма быў у шэсць тыдняў. Пачынаецца сойм, як і падабае ў клерыкальным гаспадарстве, урачыстым набажэнствам, пасля якога ідзе абіранне маршалка, старшыні сойма. Калі сойм адбываецца ў Польшчы, старшынёю яго абіраецца паляк, калі у Беларусі — беларус[1]. Абраны старшыня абвяшчае пачатак працы сойма. Найперш ад усяго, як і заўсёды, ідзе праверка правільнасці мандатаў паслоў, пасля чаго сенат з ізбою робяць злучаныя пасяджэнні, на якіх урад дае адповедзь за сваю былую выканаўчую працу і ўносіць прапазіцыі наконт далейшага. Выслухаўшы гэта, абедзве палаты сойма разыходзяцца і працуюць кожная асобна. За тыдзень да канца сойма зноў пачынаюцца сумесныя пасяджэнні ізбы і сената. Яны знаёмяць адзін другога з сваімі пастановамі. Пастановы сходныя і зацверджаныя каралём атрымліваюць моц законаў. З гісторыі... мы бачым, што сойм, звычайна, цікавіцца толькі тымі пытаннямі, каторыя беспасрэдна ці пасрэдна датычаць шляхецтва, з прадстаўнікоў якога выключна складаецца сойм. Пытанні агульнадзяржаўныя мала цікавяць, а то і зусім не цікавяць паслоў і сенатараў. Тут кароль польскі[2] і яго ўрад[3] могуць працаваць бескантрольна. Усе справы як і ў сойміках, так і ў Вальным Сойме павінны былі выяўляцца як пастановы аднагалосна. Трэба зазначыць, што ў старажытныя часы гэтая аднагалоснасць часта дасягалася даволі лёгка. Але з працягам часу прынцып аднагалоснасці ўсё больш і больш перашкаджаў справядлівай і нармальнай працы[4] сойма. Даволі было аднаму паслу не згадзіцца з пастановай большасці і паставіць сваё «veto», «не дазваляю», як гэтая пастанова прыпынялася. Лепшыя людзі Польшчы яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя спрабавалі змагацца з гэтым шкадлівым для гаспадарства прынцыпам, але не здолелі дабіцца сваёй мэты. Шляхта бачыла ў скасаванні аднагалоснасці і вольнага «veto» скасаванне свайго права. Ужо ў 1652 годзе шляхціц Сіцінскі першы раз сарваў працу сойма сваім «veto». Сойм павінен быў раз'ехацца, не

[1] Або літовец.
[2] І вялікі князь літоўскі.
[3] Урадаў было два: каронны (польскі) і Вялікага княства.
[4] Гэты прынцып, чыста польскі, на жаль, стаў прынцыпам федэратыўнай дзяржавы.

зрабіўшы нічога. Такія бясплодныя соймы ў далейшыя часы здараліся ўсё часцей і часцей. Па падліку Кастамарава, з пяцідзесяці апошніх соймаў Рэчы Паспалітай без усялякіх перашкод адбылося толькі 7 соймаў. Зрыванне сойму зрабілася крыніцаю даходу для асобных шляхціцаў і рабіла немагчымым дзяржаўны парадак. Недарма аб Рэчы Паспалітай таго часу зламылася пагаворка, што «Polsk a nierządem stoi».

На чале выканаўчай улады стаіць кароль, з канца XVI стагоддзя — выбраны. Ні кароль пры сваім жыцці, ні сойм пры жыцці караля не можа намеціць яму наступніка. Гэтым забяспечваецца поўная свабода шляхты пры абранні караля. Сістэматычна, пасля смерці кожнага караля, пачыналася выбарнае бязладдзе, якое цягнулася ад некалькіх месяцаў да некалькі гадоў. На часы бескаралеўя існавала асобная пасада інтэррэкса, якую звычайна займаў прымас — арцыбіскуп Гнезненскі. Абірае караля так званы элекцыйны, выбарчы, сойм... абранне караля таксама павінна адбыцца аднагалосна. Правы польскага караля[1] нязначныя, яны больш падобныя на абавязкі, чым на правы. Кароль мае права склікаць Вальны Сойм і назначаць тэрмін для яго пасяджэння. Ад імя караля творыцца ў гаспадарстве суд[2]. Кароль назначае на вышэйшыя ўрадавыя пасады; але пасады даюцца пажыццёва, і адабраць іх кароль можа з вялікаю цяжкасцю і то толькі за якія-колечы палітычныя праступствы. Кароль стаіць на чале шляхецкага апалчэння, што фактычна перайшло потым да кароннага гетмана[3]. Кароль вядзе зносіны з чужаземнымі дзяржавамі, пасылае і прымае паслоў. У сваёй чужаземнай палітыцы ён адказвае перад Вальным Соймам. Кожнаму каралю перад яго абраннем шляхта ставіла ўмовы, якія ён прымаў і падпісваў. Калі кароль парушаў якія-колечы з гэтых умоў, шляхта мела законнае права адмовіць яму ў паслушэнстве і парушыць дадзеную яму прысягу на вернасць. Усё жыццё караля было пад кантролем. Нават такія прыватныя факты, як жаніцьба, развод, замежныя паездкі і г. д., былі падлеглы кантролю

[1] Караля Рэчы Паспалітай.
[2] У Вялікім княстве — на аснове сваіх законаў.
[3] Каронны гетман быў у Польшчы. У Вялікім княстве — гетман літоўскі.

сойма. Польскі кароль[1], седзячы на троне і носячы карону, быў хутчэй дажывотным прэзідэнтам, чым каралём.

Прыняўшы пад увагу ўсё вышэйсказанае, мы бачым, што Польшча[2], нягледзячы на існаванне каралеўскай улады, была хутчэй рэспублікай, чым манархіяй-каралеўствам. Так глядзела на строй Польшчы[3] і дзяржаўнае права, якое дало ёй назву «Рэч Паспалітая», што ў тлумачэнні і значыць «рэспубліка»[4]. Далей мы бачым, што ўся ўлада ў гэтай рэспубліцы належала да Вальнага Сойма і да павятовых соймікаў, якія складаліся выключна з панства і шляхецтва. Ніжэйшыя станы гаспадарства ніякіх палітычных правоў не мелі і былі безгалоснаю, бяспраўнаю масаю. Дзякуючы гэтаму Польская рэспубліка была панскай, шляхецкай рэспублікай без усякіх адзнак дэмакратызму.

Вышэйшым станам у гэтай рэспубліцы... была шляхта. Лік шляхты ў Польшчы[5] быў вялікі. Багацейшыя паны, князі і магнаты таксама ўваходзілі ў склад шляхецкага класа і не мелі ніякай юрыдычнай перавагі над звычайнымі шляхціцамі. Яны і шляхта лічаць сябе братамі. Большасць шляхціцаў былі землеўласнікамі, але звязак з зямлёй не быў абавязковым для польскага[6] шляхціца; шмат было і такіх, каторыя ўжо не мелі зямлі. Яны прыстрайваліся на службу ў палацах... магнатаў, складаючы іх світу. (...) Клас шляхты з вялікаю стараннасцю захаваў чыстасць белай косці і благароднай крыві. Калі вынікала пытанне аб нерадавітасці якога-колечы шляхціца, то ён павінен быў абяліць сябе шасцю сведкамі; двума — па бацьку, двума па яго матцы і двума па сваёй матцы. Гэты спосаб абялення[7] к пачатку XVI стагоддзя ўжо знікае: шляхецкія фаміліі ўжо абмежавалі сябе

---

[1] Кароль Рэчы Паспалітай.

[2] Рэч Паспалітая.

[3] Рэчы Паспалітай.

[4] Слова «рэспубліка» азначае «рэч агульная». Рэч Паспалітая называлася Рэччу Паспалітай абодвух народаў, што можна вытлумачыць і як «рэспубліка абодвух народаў», і як «рэч агульная абодвух народаў», г. зн. Польшчы (з Украінай) і Вялікага княства (Беларусі і Літвы).

[5] У Вялікім княстве таксама.

[6] Для беларускага і літоўскага таксама.

[7] Гэта быў чыста польскі спосаб.

і зацвердзілі сваю шляхецкую вартасць. Высокімі мурамі адгарадзіўся гэты клас ад іншых класаў і зрабіўся кастаю. Шляхецтва атрымліваецца толькі ад бацькоў. Праўда, можна атрымаць шляхецтва праз пасынаўленне, але толькі тады, калі на гэтае пасынаўленне згаджаецца ўвесь род і сойм. Шляхецкую вартасць можа дараваць і кароль. Дараванне шляхецтва каралём таксама носіць кіраўнік пасынаўлення. Кароль пасыноўленай асобе дае і герб. Дараванне шляхецтва каралём з палавіны XVII стагоддзя ўжо не сустракаецца: шляхта забяспечыла сябе і з гэтага боку. Згубіць шляхецтва можна на суду і за непрыстойныя для шляхціца паступкі. Такімі паступкамі лічыліся, напрыклад заняцце гандлем і прыняцце ў род простага чалавека.

Атрымліваць свае правы шляхта пачала яшчэ з канца XIV стагоддзя. З развітку шляхецкіх прывілеяў мы бачым, што для атрымання іх шляхта карыстала з двух фактаў жыцця Польшчы: з свайго права абіраць караля і зацвярджаць падаткі. Абіраючы караля і зацвярджаючы ў сойме падаткі, шляхта ніколі не забывала сваіх класавых інтарэсаў. Правы яе былі вялікія.

Шляхта найперш усяго — кіруючы стан гаспадарства. Шляхціцы і толькі шляхціцы даюць паслоў на сойм і на соймікі. Шляхта абірае караля пагалоўна; кожны шляхціц можа спадзявацца быць абраным за караля. Вышэйшыя ўрадавыя пасады займаюць толькі шляхціцы. Таксама стаяла справа і з духоўнымі пасадамі: пасаду прэлата, напрыклад, мог заняць толькі шляхціц.

Рымскі папа асобнаю булаю забяспечыў за шляхтаю гэтае права. Толькі шляхціц мае і грамадзянскае права: свабоду сходаў, свабоду слова, незачэпнасць асобы, памяшкання і маёмасці. Толькі шляхціц можа мець земскі маёнтак з прыпісанымі да яго сялянамі. Што датычыць мяшчан, то яны могуць уладаць зямлёю толькі ў межах гарадоў. Усе землі шляхты свабодныя ад дзяржаўных падаткаў і павіннасцяў. Наогул усе фінансавыя абавязкі шляхты ў адносінах да гаспадарства былі толькі добраахвотныя і залежалі ад згоды самой шляхты. (...) Праўда, на шляхце даволі доўга ляжаў абавязак «паспалітага рушэння, пагалоўнай службы ў апалчэнні, але і гэтыя апалчэнні ззываліся зусім нячаста. Апроч таго, гэты абавязак даваў шляхце права быць аружным станам і даваў магчымасць збірацца з руж-

жом у руках не толькі на абарону дзяржавы, але і на абарону сваіх... правоў, калі на іх насядаў кароль.

Былі ў шляхты і ўсялякія дробныя вольнасці. Шляхціц быў зусім свабодны ад прымежных мытных пошлін. Толькі шляхта мела права курыць спірт і адчыняць шынкі, мець млыны, кузні і г. д. Адным словам, шляхецкаму стану жылося ў Польшчы[1] вельмі добра. Затое надта нядобра жылося селяніну.

У XIV і XV стагоддзях палажэнне хлопаў у Польшчы было яшчэ больш-менш выносным. Часам пападаліся каралі дэмакратычнага кірунку (напрыклад, кароль хлопаў Казімір Вялікі), якія разумелі ўсю важнасць добрабыту хлопаў для гаспадарства. Але з цягам часу шляхта стала ўсемагутным класам, з якім кароль не адважваўся змагацца. Апроч таго, выніклі і некаторыя эканамічныя прычыны, што пагоршылі мужычую справу.

У канцы XV стагоддзя выявілася непрыгоднасць для абароны гаспадарства паспалітага шляхецкага рушэння. Каралі часта павінны былі карыстацца нанятымі войскамі, якія складаліся з шляхціцаў і няшляхціцаў, палякаў і непалякаў. Ваяўніцкай чыннасць шляхецкага рыцара паменшылася, і ён атрымаў магчымасць сесці на зямлю і заняцца... гаспадаркай[2]. Каля гэтага ж часу былі прылучаны да Польшчы і землі пры ўтоку Віслы. Цяпер стала магчымым вывозіць за мяжу вясковагаспадарчыя прадукты, што давала немалы даход. Разумеецца, шляхта з гэтага часу вельмі зацікавілася ўладаннем зямлёю. Але адна зямля сама па сабе... не дае ні хлеба, ні добрых даходаў, і ёсць мёртвы капітал. Шляхціц таго далёкага часу ведаў гэтую праўду так жа грунтоўна, як і землеўласнік нашага часу. Ведаў ён таксама, што працаваць над зямлёю вельмі цяжка і непрыемна і што куды прыемней, калі земляробам будзе мужык, а даглядчыкам над яго працаю і апекуном будзе ён, шляхціц. Мужыкі ў ранейшыя часы былі вольнымі і мелі права безбароннага пераходу з месца на месца. Ад пана, шляхціца... мужык мог выйсці са сваёю рухомаю маёмасцю ці на воль-

---

[1] У Рэчы Паспалітай, г. зн. у Польшчы (з Украінай) і Вялікім княстве.

[2] У Вялікім княстве ў той час шляхта не мела такіх правоў.

ную нікім не занятую зямлю, ці на зямлю якога-колечы другога пана, які яшчэ не падняў сваіх запатрабаванняў на мужычую працу так высока. Пэўна, што першым і неадложным заданнем шляхецкай класавай палітыкі зрабілася — зусім прывязаць... хлопа да зямлі, каб ён не мог ад яе адарвацца і перабрацца ў другія месцы. Дабіцца гэтага задання было лёгка, бо заканадаўчым органам гаспадарства быў сойм, які складаўся з прадстаўнікоў шляхты...

У пачатку... пераходы мужыкоў з месца на месца толькі абмяжоўваюцца, а потым і зусім забараняюцца. Тады хлопы, бачачы, што другога выхаду няма, пачынаюць... уцякаць з панскай зямлі. Сойм з свайго боку пачынае развіваць заканадаўства ў гэтым кірунку і змагаецца з уцёкамі мужыкоў. За уцёкі назначаюцца штрафы, пабоі і зварот мужыкоў на старое месца. Гэтыя штрафы і другія кары ўсё растуць і растуць, бо мужыкі ўсё ўцякаюць і ўцякаюць. Возьмем для прыкладу рост штрафаў: у канцы XVI стагоддзя мужык плаціў штрафу 10 грыўняў, а ў 30-ыя гады XVII стагоддзя ўжо 500 грыўняў...

Потым сойм пастараўся адабраць у хлопа магчымасць змагацца з шляхціцам у судзе. Было ўхвалена, што мужык мае права выступаць у судзе як жалобнік толькі тады, калі будзе ў судзе прысутным яго пан. Разумеецца, што ў цяжбе проці свайго пана мужык ніколі не мог стаць у судзе, бо пану не было ніякага сэнсу быць прысутным у судзе. Праз нейкі час сойм ухваліў пастанову аб тым, што мужыку зусім забараняецца скардзіцца ў суд на шляхціца. (...)

Адабраўшы соймавымі законнымі пастановамі ў мужыка ўсякую магчымасць абараняцца, шляхта пачала безупынную эксплуатацыю папаўшага ў яе рукі сялянства. Мужык зрабіўся для яе рабочаю жывёлаю, якая павінна працаваць і якую можна і трэба стрыгчы.

Найперш усяго ён плаціць вялікі чынш за тую зямлю, каторую пан пазволіў яму ўзяць для яго ўласнай дробнай гаспадаркі. Мужык, апроч таго, павінен працаваць дарма на панскай зямлі... адбываць паншчыну, якая пачынаецца з некалькіх дзён у тыдзень. Потым яна ўсё расце і расце. Мужыку ўсё менш і менш застаецца часу для сваёй гаспадаркі. Некаторыя паны пакідалі мужыку для яго ўласнай працы толькі святы. Разам з чыншам і паншчынаю мужык павінен быў спаўняць розныя натуральныя павіннасці: ён дастаўляў

у панскі двор усялякія прадукты, патрэбныя пану і яго дворным, напрыклад хлеб, масла, грыбы, ягады, лыка і г. д.; ён нясе са сваёю ўбогаю канягаю фурманскую павіннасць; ён правіць дарогі, грэблі і масты; ён саджае дрэвы па грунтавых дарогах і па дарогах да маёнткаў. Усіх павіннасцяў мужыка таго часу і не пералічыць. А тут яшчэ з году ў год пачынае расці мужыцкае малазямелле. У некаторых мужыкоў ужо зусім няма зямлі нават агародняй. Палажэнне такіх (як іх тады звалі) халупнікаў зусім дрэннае[1]...

Палажэнне мяшчан было лепшае, чым сялянства. З XIV стагоддзя мяшчане лічыліся пад асабістай абаронай караля і вядомага нам магдэбургскага права. Гэтая абарона давала гарадам нейкую незалежнасць ад шляхецкага класа і пачаткі для развіцця гарадскога жыцця. Па гарадох пачалася нават дамовая барацьба паміж сацыяльнымі групамі мясцовага грамадзянства. Побач са старымі органамі гарадскога самакіравання, напрыклад мясцовай радай, вынікаюць новыя органы, як, напрыклад, камісіі 20-цёх, 30-цёх і г. д. Гэтыя новыя органы выніклі на грунце барацьбы прадстаўнікоў вялікага капіталу, з аднаго боку, і прадстаўнікоў дробнага капіталу і працы — з другога боку. Нізы месца, часта незадаволеныя самаўладным кіраваннем мясцовай рады і бурмістра, патрабуюць прызнання кантролю з свайго боку. Буйная буржуазія, патрыцыят месца, баючыся апазіцыі, павінны йсці на згоду з «пасольствам», з звычайным дробным людам. Вось, урэшце, і ўтвараюцца гэтыя як бы кантрольныя камісіі, палавіна якіх складаецца з патрыцыяў, багатых купцоў, цэхавых майстроў і палавіна з «пасольства»...

Але з цягам часу гэтая дэмакратызацыя... павінна была прыпыніцца, бо ўсё жыццё навокал гарадоў ішло ў бок арыстакратызацыі. Шляхта, якая рабілася ўсемагутнаю ў цэлым гаспадарстве, не магла пакінуць без свайго ўплыву мясцовае жыццё. Ужо з палавіны XV стагоддзя пачынае яна касаваць незалежнасць і самакіраванне гарадоў[2]. Пачынаюць зні-

[1] На жаль, У. Ігнатоўскі тут не паказвае спецыфіку і становішча беларускіх і літоўскіх сялян. Нягледзячы на тое, што іх стан і павіннасці нагадваюць стан і павіннасці польскіх сялян, адрозненні ўсё-такі былі.

[2] У Вялікім княстве ў той час адбываецца супрацьлеглы працэс.

каць з складу соймаў паслы ад гарадоў, мяшчане, якія маглі б бараніць інтарэсы тых гарадскіх груп, якія паслалі іх у сойм... Кароль, які лічыўся абаронцам мяшчан, пападае ў рукі шляхты і робіцца абаронцаю не мяшчанскіх, а шляхецкіх інтарэсаў.

Найперш усяго шляхта, меўшая ў гарадах зямлю, дабівалася права так званай юрыдыкі. Сутнасць гэтай юрыдыкі была ў тым, што на зямлю шляхціца ў горадзе не пашыралася ўлада мясцовага самакіравання. Шляхціц на сваёй зямлі ў месце мог рабіць што ён захацеў. Разумеецца, гэты факт рабіў дэзарганізацыю палітычна-грамадзянскага жыцця места. Апроч таго, права юрыдыкі мела і эканамічныя паследкі. Шляхціц, меўшы юрыдыку, быў вольны ад усякіх мясцовых падаткаў... якое б ён прадпрыемства не заводзіў на сваёй зямлі. А гэта чыніла страту як рамеснікам горада, так і гарадскому скарбу.

Потым шляхціцы пачалі ўмешвацца ў мясцовыя справы, карыстаючы з таго, што яны былі землеўласнікамі ў месце. Апроч таго, у жыццё гораду ўмешваліся органы дзяржаўнай улады, напрыклад павятовыя старасты, якія лічылі горад толькі аднэю з частак іх павету. Соймы, з свайго боку, ухвалялі такія пастановы, якія нішчылі горад, руйнуючы яго палітычныя правы і эканамічныя інтарэсы. Купцом, напрыклад, было забаронена беспасрэдна мець зносіны з замежнымі старанамі. Часта шляхта дабівалася таксіроўкі тавараў, каб гандляры не маглі ставіць на тавары вольныя цэны. З тавараў не таксаваўся толькі хлеб дзеля таго, што гэта быў тавар, які дастаўляла на рынак шляхта. Каб шляхціц не змяшаўся з мешчанінам, яму забаронена было гандляваць. З другога боку, гандляром было забаронена купляць нерухомую маёмасць за сценамі места, каб яны не зрабіліся землеўласнікамі. Такім спосабам паміж гэтымі двума класамі ўтваралася прорва.

Такі быў палітыка-сацыяльны стан Рэчы Паспалітай Польскай у тыя часы, калі яна ўзяла Беларусь пад свой уплыў. Само сабой разумеецца, што Беларусь павінна была прымаць гэты ўклад жыцця Польшчы, бо яна інкарпаравалася ў дзяржаўны арганізм Рэчы Паспалітай[1].

[1] Інкарпараванаю ў склад Польшчы была Украіна. Літва і Беларусь заставаліся аўтаномным Вялікім княствам Літоўскім.

## СТАН БЕЛАРУСІ ПАСЛЯ ВУНІІ З ПОЛЬШЧАЙ

У 1569 годзе ў Любліне адбылася вунія паміж Польшчаю і Літоўска-Беларускім гаспадарствам. Гэта не была сувязь роўнага з роўным. Польшча скарыстала цяжкае палажэнне Беларусі і Літвы і налажыла сваю руку на тэрыторыі, каторыя дагэтуль былі ад яе незалежны. Ужо сама назва новага, створанага вуніяй гаспадарства Польская Рэч Паспалітая[1] — сведчыць аб гэтым. Палітычная незалежнасць Літвы і Беларусі на аснове Люблінскага акту была знішчана. Ад Вялікага Літоўска-Беларускага княства былі адабраны і сілком прылучаны да Кароны (як называлі Польшчу) такія каштоўныя землі, як Падолія, Валынь, Кіеўшчына і Падляшша. (...)

Тым не менш незалежнасць Літоўска-Беларускага гаспадарства фактычна яшчэ доўга існуе, што выяўляецца нават і ў юрыдычных актах. Перад намі Статут Вялікага княства Літоўскага, выданы ўжо пасля Люблінскай вуніі ў 1588 годзе. Калі мы чытаем I, IV і V артыкулы трэцяга падзелу, то бачым, што 1) гаспадар Літвы і Беларусі павінен аберагаць цэласць тэрыторыі гаспадарства і вярнуць у склад яе тое, што было ўзята другімі гаспадарствамі, і 2) што землі ў Вялікім княстве ён мае раздаваць толькі «родзічам» гаспадарства, яго тубыльцам. Палякі ў Статуце разглядаюцца як «замежнікі» і іх права землеўладання ў Беларусі абмежавана. Урады ў гаспадарстве таксама раздаюцца толькі «родзічам», тубыльцам. Наогул Статут прыстасаваны да патрэб Літоўска-Беларускага гаспадарства як самастойнай дзяржавы. Самастойнасць Літвы і Беларусі асабліва выяўлялася ў часы бескаралеўя. Вельмі часта ў гэтыя часы Беларусь вядзе нават зносіны з чужаземнымі гаспадарствамі.

Магнаты Літоўска-Беларускага гаспадарства не здаволены Люблінскай вуніяй. Яны лічаць, што вунія нанесла гаспадарству крыўду. Цікава ў гэтым сэнсе адзначыць адзін твор, вельмі пашыраны на Беларусі і вядомы пад назваю «Прамова Івана Мялешкі, кашталяна смаленскага, на Варшаўскім Сойме ў прысутнасці караля Жыгімонта III ў 1589 годзе». Судзячы па зместу гэтага твору ... мы павінны прызнаць, што гэта ёсць хутчэй палітычны памфлет, палітычная і бытавая

[1] Мы ведаем, што дзяржава называлася Рэч Паспалітая абодвух народаў.

сатыра, чым соймавая прамова. Аўтар пратэстуе супраць польскага ўціску — як культурнага, так і палітычнага. Ён раўнуе старажытныя часы з сучаснымі яму, старых людзей са сваімі сучаснікамі і кажа, што раней было лепш. Раней гаспадары Літвы і Беларусі клапаціліся аб сваёй зямельцы, збіралі тэрыторыю і каштоўнасці, сваю бацькаўшчыну мілавалі; іх памяць салодкая. Апошняга літоўска-беларускага гаспадара Жыгімонта II Аўгуста[1], каторы аддаў у няволю гаспадарства, аўтар не можа лічыць нават за чалавека. (...)

Як відаць... з «прамовы» Мялешкі, беларускія магнаты доўга не маглі згадзіцца са згубаю поўнай незалежнасці і пратэставалі, як маглі, проці «той несправядлівасці і крыўды», каторая была зроблена Люблінскай вуніяй. Можна думаць, што змест твора Мялешкі і яго апазіцыйны настрой быў блізкі да настрою даволі шырокіх колаў магнацтва канца XVI і пачатку XVII стагоддзя.

Разам з абмежаваннем палітычнай незалежнасці Люблінская вунія прыскорыла на Беларусі развіццё шляхецкіх прывілеяў у адносінах не толькі да караля, але і да сялянства[2]. Хутчэй стаў расці панскі сацыяльны ўціск над мужыком. (...) На Беларусь прыйшла рэспубліка паноў, якіх нішто не магло ўстрымаць. Уся ўлада была ў іх руках. Яны мелі ў сваіх руках сойм, соймікі, цэнтральную і мясцовую адміністрацыю і ўзброеную сілу. Іх «злота вольнасць» была цяжкай няволей для паваротнага простага народу, які павінен быў карміць гэты кіруючы клас... Поўная залежнасць ад пана, бязвыхадная беднасць і нужда прыгняталі яго і рабілі яго ворагам таго сацыяльнага ўкладу, у якім ён знаходзіўся. Да гэтага трэба дадаць, што апроч пана мужык павінен быў на кожным кроку лічыцца і задавальняць загады панскай адміністрацыі, якая складалася з дробнай шляхты і нават простых людзей... Гэтыя, як іх называў мужык, падпанкі былі не менш шкадлівымі для мужыка, чым пан. (...)

Залежнасць мужыка ад пана выяўлялася не толькі ў тым, што ён быў моцна прыкуты да панскай зямлі. Пан, апроч таго,

---

[1] Як вялікі князь, ён быў Жыгімонтам III.

[2] У заходняй і цэнтральнай частках Беларусі запрыгоненне сялян адбылося да Люблінскай уніі — гэтак званая валочная памера, праведзеная паводле Уставы на валокі 1557 г.

захапіў у свае рукі і суд над сваімі падданымі. Стварылася гэта не адразу. Раней асобнымі соймавымі пастановамі ставіліся ўсякія перашкоды да таго, каб мужык мог стаць у судзе, як роўны з усімі грамадзянін гаспадарства. Панам даваліся правы судзіць мужыкоў па асабістых справах, фамільных і эканамічна-грамадзянскіх. Але ўжо ў 1573 годзе быў выданы закон, які даваў пану права судзіць і накладаць кару на сваіх падданых ва ўсіх здарэннях водлуг свайго ўласнага погляду. Гэты няясна выражаны закон разглядаўся панамі так, што ён даваў ім права накладаць на мужыкоў вышэйшыя кары, у тым ліку і кару смерці[1].

Адным словам, тая сацыяльная крыўда, якая ў гэты час была ў шляхецкай Польшчы, стала панаваць і ў Беларусі. Мужык не мог знайсці ніякай абароны ад пана. Змагацца з панам актыўна ён таксама яшчэ не мог. І ён стаў шукаць спосабаў пасіўнага пратэсту. Адным з такіх спосабаў было ўцяканне са сваёй бацькаўшчыны да казакоў на Украіну.

Пасля рэлігійнай вуніі 1596 году каталіцтва на Беларусі было абвешчана дзяржаўнай верай, як у Польшчы. Каталіцтва давала права для заняцця вышэйшых урадавых пасад у Літве і Беларусі. Рэфармацыйны рух сярод паноў знік. Яго змяніла каталіцтва, якое было для беларускай шляхты тым шляхам, каторы праводзіў да вышэйшых пасад і да злучэння з польскаю шляхтаю. Калі адбылася царкоўная вунія, то ўсім стала ясна, што яна мела не рэлігійны, а палітычны кірунак, што яна таксама была шляхам не толькі для пашырэння каталіцтва, але і польскага ўплыву. Рэлігійнае пытанне злілося з пытаннем палітычным і нацыянальным, каталіцтва — з польскасцю. І да нашага часу астаўся гэты шкадлівы перажытак, калі цяпер мы часта можам бачыць, як змешваюцца два разуменні: паляк і каталік, рускі і праваслаўны. Ужо і ў тыя часы некаторыя з разумнейшых людзей разумелі ўсю несправядлівасць такога злучэння пытанняў рэлігійна-царкоўных з пытаннямі палітыка-нацыянальнымі. Такім быў, напрыклад, ксёндз Калінка, пісьменнік таго часу. У прадмове да напісанага ім жыцця св. Езафата ён піша: «І да цяперашніх часоў сярод каталіцкага духавенства рэдка спаткаеш чалавека, што

[1] Статут 1588 г. прадугледжваў адказнасць шляхціца за забойства селяніна.

шанаваў бы абрад і нацыянальнасць таго народу, сярод катарага ён працуе. Ім здаецца, што трэба зрабіць чалавека італьянцам або французам (а ў нас палякам), гэта найлепшы спосаб вярнуць яго. Гэта фальшывы погляд. Усе народы створаны богам, мілы богу, ды ўсё яны, не трацячы свайго нацыянальнага пачуцця, могуць прылучыцца да ўсясветнай царквы. Хто аб гэтым забывае, той сабе і справе веры шкодзіць, бо сее паміж усходнімі народамі думку, быццам каталіцтва — гэта толькі спосаб да дэнацыяналізацыі іх».

На Беларусі пачынаецца гвалтоўнае пашырэнне вуніяцтва і каталіцтва. На гэтым вырастае шмат і злачынства. Валынскі чашнік, пасол сойму Лаўрык Дравінскі так апісвае ў сваёй прамове на сойме (1620 г.) рэлігійныя справы Рэчы Паспалітай: «...Якое йдзе пашырэнне божай славы пры дапамозе новавыдуманай вуніі? Ужо ў вялікіх гарадох цэрквы запячатаны, царкоўныя маёнткі раскрадзены, у кляштарах замест манахаў запіраюць быдла. Пяройдзем у Княства Літоўскае: там у прымежных з Маскоўскім гаспадарствам гарадох робіцца тое самае. У Магілёве і Воршы цэрквы запячатаны, свяшчэннікі разагнаны; у Пінску зроблена тое самае: кляштар Ляшчынскі перароблены ў карчму». Далей прамоўца кажа, што людзі ўсходняга абраду не маюць магчымасці жыць у гарадох, купцы не маюць права гандляваць, рамеснікі не маюць права запісвацца ў цэхі і г. д.

Як мы бачым... рэлігійная барацьба была толькі выразам эканамічнай барацьбы. Праваслаўных гандляроў, рамеснікаў і г. д. білі па кішэні. Зразумела, што такія факты выклікалі абурэнне і легальны пратэст сярод тых сацыяльных груповак, якія маглі гэта рабіць ці на пасяджэннях сойму, ці другім спосабам, напрыклад у брацтвах, аб якіх мы будзем гаварыць далей. Сойму прыходзілася тады рабіць уступкі.

Так, напрыклад, пры каранацыі караля Уладзіслава IV (1632 г.) сойм павінен быў выдаць так званыя артыкулы для замірэння народу, на аснове якіх прызнавалася легальнаю праваслаўная вера і праваслаўная іерархія. Але гэтае легальнае палажэнне іншаверцаў, дысідэнтаў, як іх тады называлі, не было пэўным. Чым далей, тым усё больш і больш губіцца палітычны розум сойму. Усё часцей і часцей выдаюцца пастановы супраць дэсідэнтаў, карысныя каталікам-шляхціцам, гандлярам і рамеснікам, але шкадлівыя для гаспадарства.

У 1732 годзе была выдана, напрыклад, такая пастанова:

«У людзей іншых вызнанняў (дэсідэнтаў) адбіраецца права быць абранымі ў паслы на соймы, трыбуналы і ва ўсякія асобныя камісіі, што ўтвараюцца для якіх-колечы спраў. Правы іх раўнуюцца з правамі гэбрэяў. Сойм 1766 году ўхваліў пастанову караць смерцю тых, каторыя пяройдуць з каталіцтваў у другую веру. У 1766 годзе сойм ухваліў, як закон, такую прапазіцыю кракаўскага біскупа Солтыка: абвяшчаецца ворагам гаспадарства кожны, хто асмеліцца сказаць на сойме прамову на карысць інаверцаў».

Гонячыся за тымі эканамічнымі, сацыяльнымі і палітычнымі карысцямі, якія ім сулілі каталіцтва і разам з ім польскасць, і не хочучы мець тых збыткаванняў, якія былі звязаны з праваслаўем і беларускасцю, шляхта літоўска-беларуская пачынае паступова пераходзіць у польска-каталіцкі лагер... Шляхта выходзіць са складу беларускай народнасці, якая губіць разам з ёю і культурных сваіх прадстаўнікоў, бо культура ў тыя часы была даступна толькі вышэйшым станам. У складзе беларускае нацыі і на баку праваслаўнай веры застаюцца тыя слаі, якім каталіцтва і польскасць не прыносяць ніякіх эканамічна-палітычных выгад — гэта працоўныя масы народу, найчасцей сялянства[1].

Разам з палітычным і рэлігійным уплывам польскасці, а таксама і асобна ад яго, ішоў уплыў і культурна-нацыянальны. Беларуская шляхта, атрымаўшы палітычныя правы і веру

[1] У гэтым абзацы У. Ігнатоўскі атаясамлівае нацыянальнае і рэлігійнае. Праваслаўе не ёсць адзнака беларускасці. І ў той час не было. Пратэстант Васіль Цяпінскі і каталік Леў Сапега былі не меншымі патрыётамі, чым праваслаўны Афанасій Філіповіч. Па-другое, шляхта пераходзіла ў каталіцтва не толькі дзеля эканамічных і палітычных выгад. Люблінская і Берасцейская уніі сталі магчымымі пасля таго, як Іван Грозны ўварваўся ў Вялікае княства, пасля таго як у Маскве быў устаноўлены патрыярхат, які хацеў падначаліць сабе праваслаўных Беларусі і Украіны. Уздым прапольскіх настрояў у наступным стагоддзі адбываецца ў 1654—1667 гг.— калі рускае войска зноў уварвалася на тэрыторыю Беларусі і Літвы. Па-трэцяе, У. Ігнатоўскі зусім ігнаруе той факт, што амаль 75 працэнтаў беларускага насельніцтва былі грэка-каталікамі (уніятамі), што праваслаўных было каля 7 працэнтаў. У тым, што беларуская мова не прапала, трэба думаць, ёсць немалая заслуга уніяцкай царквы, якая, захаваўшы амаль цалкам усходнюю абраднасць, не перайшла на польскую ці лацінскую мовы.

Польшчы, пачала пераймаць польскі лад жыцця. Польскія звычаі і мова сталі яе ідэалам. Езуіты дзеля рэлігійных мэт закладалі польскія школы і друкавалі кнігі на польскай мове. Пашыралася польская адукацыя і польская кніга. Разумеецца, гэтая польская «паліроўка» пашыралася толькі сярод тых грамадскіх станаў, якія даставалі шляхецкія вольнасці, якія вучыліся ў школах і чыталі кнігі... Усё менш і менш аставалася беларускіх паноў, якія хавалі беларускія звычаі, культуру й мову. (...) Але доўга яшчэ ўрадаваю, дзяржаўнаю моваю на Літве і Беларусі была беларуская мова. Урэшце было скасавана і гэта. Сойм у 1967 годзе выдаў такую пастанову: «Pisac powinien nie po rusku, a po polsku pisac»[1]. З гэтага часу ўсе законы і ўрадавыя пастановы робяцца папольску. Беларуская культура, звычаі і мова засталіся толькі ў тых, каму было не да «бляску», не да «паліроўкі»,— людзі вясковага мужычага стану і гарадскія працоўныя нізы. Само сабой зразумела, што ў гэтых сацыяльных групах, паднявольных палітычна і эканамічна, не было магчымасці развінуць і пашырыць беларускую культуру. У курных хатах вёскі, у глыбокіх сутарэннях гарадоў захавалася гэтая культура і мова і стала класаваю культураю і моваю працоўных слаёў грамадзянства. Адсюль і бярэ свой пачатак таксама такая назова, як «мужыцкая, хлопская мова».

Такім спосабам, Польшча з сацыяльнага боку прынесла нам уплыў панскі, з рэлігійнага боку — каталіцкі. Культурны і рэлігійны ўплыў пайшоў толькі на вышэйшыя грамадзянскія класы. Ніжэйшы клас атрымаў ад Польшчы прыгон і няволю, астаўшыся пры сваёй беларускай мове і нацыянальнасці. Забіты і загнаны, пастаўлены ў стан «быдла», ён забыў нават, якую мову і якую нацыянальнасць ён захаваў. У яго цёмным розуме ўсё пераблыталася і злілося. Пан, каталік і паляк — з аднаго боку; мужык і «тутэйшы» — з другога боку, сталі для яго розуму сінонімам. І да нашага часу астаўся гэты гістарычны перажытак, калі наш селянін лічыць, што пан, каталік і паляк — гэта ёсць словы, якія называюць адну і тую катэгорыю.

Трэба зазначыць, што асобныя групы на Беларусі на пра-

---

[1] Гэтая пастанова — прамы вынік царскага паходу на Беларусь і Літву ў 1654—1667 гг.

цягу данага перыяду не паддаваліся польскаму культурна-нацыянальнаму, рэлігійнаму і сацыяльнаму ўплыву. Завязалася нацыянальна-культурная і нацыянальна-сацыяльная барацьба. У барацьбе гэтай прынялі ўдзел царкоўныя брацтвы і казацтва. Брацтвы ўзялі на сябе заданне быць павадырамі ў барацьбе нацыянальна-культурнай, а казацтва павяло з вялікаю энергіяю нацыянальна-сацыяльную барацьбу. I тая і другая барацьба аслабляла гаспадарства Рэчы Паспалітай і вяла яго да гібелі.

## БРАЦТВЫ НА БЕЛАРУСІ

Брацтвы ў сваім далёкім мінулым даходзяць аж да паганскіх часоў, яны маюць свой корань у старажытных звычаях, якія калісь існавалі ў быце рускіх славян. Яшчэ ў часы... паганства ў нашых прародзічаў быў звычай святкаваць свае святы грамадою. На святах спяваліся спевы-малітвы, спевы-падзякі, вадзіліся карагоды, рабіліся ігрышчы. Гэтыя ігрышчы збіралі да сябе жыхароў не толькі аднэй сялібы. Часта, як кажа і летапісец, ігрышчы былі «межю селы». (...)

Калі прыйшло ў Полацкую Русь у свой час хрысціянства, то яно не руйнавала паганства, а проста спаткалася з ім, як з фактам, і пачало паціху зжывацца і зліваца з'ім. З новаю вераю да нашага народа прыйшлі новыя, нязнаныя дагэтуль, багі: Хрыстос, Улас, Ян, Міколка і г. д. Хутка гэтыя багі пачалі зліваца са старымі, добра вядомымі палачаніну багамі. Тое самае рабілася і са святамі. Святы ўшанавання старых паганскіх багоў пачалі зліваца з новымі хрысціянскімі святамі. Свята нараджэння Хрыста злілося з святам сонца — каляды, свята Яна — з святам сонца — купалы, свята Іллі — з святам бога маланкі і грому Перуна і г. д. (...) І раней, святы павінны былі арганізавацца асобнымі таварыствамі. Гэтыя гурткі-таварыствы пачалі гуртавацца вакол парафіяльнай царквы і палажылі пачатак брацтвам. Брацтвы пачалі клапаціцца аб тым, каб у выдатнейшыя царкоўныя святы з большаю пыхай адбывалася набажэнства і каб усе сябры брацтва ў гэтыя дні былі на свяце. Рабіўся агульны сход усіх братчыкаў, пасля сходу варылася братчына, г. зн. мёд, якім і частаваліся як братчыкі, так і зазваныя на свята госці. (...) Па гарадох у брацтвы часам злучаліся цэхавыя, прафесійныя арганізацыі, якія мелі не толькі рэлігійна-царкоўныя мэты, але і мэты сваёй прафесіі. У Вільні, напрыклад, з вельмі ста-

ражытных часоў было кушнерскае брацтва, звязанае з цэхам, які вырабляў і гандляваў футрамі (скурамі). (...)

Магдэбургскае права беларускіх гарадоў давала шырокія магчымасці для арганізацыі цэхавых брацтваў.

Такія арганізацыі былі і ў Заходняй Еўропе. Усім нам вядомае масонства выйшла з такога прафесійна-царкоўнага таварыства. (...)

З канца XVI стагоддзя і асабліва ў XVII стагоддзі брацтвы пачынаюць пашыраць сваю працу, беручы на сябе культурна-асветныя і нацыянальныя заданні. Пашырэнне брацтваў пачалося ўжо з часоў рэфармацыйнага руху на Беларусі. Ім прыйшлося дзеля абароны праваслаўнай веры звярнуць вялікую ўвагу на развіццё навукі, якая б давала грунт для барацьбы з рэфармацыйнымі тэорыямі[1]. За рэфармацыяй прыйшло на Беларусь узмацаванае, адроджанае каталіцтва з езуітамі на чале. Разам з каталіцтвам прыйшоў і нацыянальны польскі ўплыў. Былі ўтвораны дзве вуніі (1569 і 1596 гг.), якія накладвалі руку на незалежнасць Беларусі. Перад магнацтвам, незадаволеным злучэннем, і брацтвамі сталі ўрэшце нацыянальна-культурныя і палітычныя заданні. Трэба было абараняць Беларусь як самастойную адзінку з сваім асобным нацыянальна-культурным тварам[2].

Найраней пачынае шырокую працу Львоўскае брацтва. За ім выступае на шлях шырокай грамадзянскай працы Віленскае брацтва. У XVII стагоддзі вядомыя брацтвы ў Магілёве, Воршы, Амсціславе, Слуцку, Менску, Полацку, Віцбеску, Шклове, Крычаве і г. д. Найбольш брацтвы працуюць па гарадох, дзе сканцэнтравалася культура і капітал. (...)

Сябрам брацтва, апроч сяброў цэхаў, мог быць усякі дарослы грамадзянін. У склад брацтваў, апроч мяшчан, уваходзілі такім спосабам людзі і другіх станаў. Па вёсках сюды ўваходзіла сялянства. Вельмі часта ў складзе і нават на чале брацтваў стаялі прадстаўнікі літоўска-беларускай магнатэ-

---

[1] Рэфармацыя была адной з прычын Берасцейскай уніі. Дзве артадаксальныя царквы (праваслаўная і рымска-каталіцкая) злучылі свае намаганні ў барацьбе з пратэстанствам. Здаецца, гэтая думка акадэміка В. Ластоўскага вельмі слушная. Акадэмік У. Ігнатоўскі блізкі да такое высновы.

[2] Далейшы прыклад з Львоўскім брацтвам паказвае, што брацтвы баранілі найперш праваслаўе.

рыі, якая была ў палітычна-рэлігійнай апазіцыі да шляхты польскай і карыстала брацтвы для сваіх незалежніцкіх мэт. (...) Заможнейшыя братчыкі былі апекунамі і рукаводнікамі ніжэйшых элементаў брацтва, якія ад іх залежалі. Маючы на сваім чале апазіцыйную магнатэрыю, брацтвы маглі праз яе рабіць уплыў на сойм, маглі карыстаць з тых правоў, якія давала дзяржава шляхціцам. Шляхціц ці магнат-братчык у Вальным Сойме і на сойміках быў абаронцаю палітычных, нацыянальна-культурных інтарэсаў братчыкаў, мяшчан і сялян...

З усіх бакоў, як з боку саміх праваслаўных, так і з боку пратэстантаў, мы маем звесткі аб адсутнасці адукацыі і нават бязграматнасці духавенства. Васіль Цяпінскі, вядомы нам перакладчык Евангелля на беларускую мову, гаворыць, што праваслаўныя свяшчэннікі не атрымліваюць аніякай адукацыі і нават не разумеюць славянскай мовы... Брацтвам прыйшлося найперш ад усяго звярнуць сваю ўвагу на гэты недахват жыцця. Трэба было даць асвету цёмным пастырам чалавечых душ, каб праз іх трымаць у сваіх руках масы. Для гэтай мэты трэба было ўтвараць школы і друкаваць кнігі. Брацтвы і асобныя братчыкі заснавалі на Беларусі шмат школ і друкарань, якія працавалі ў процівагу каталіцка-польскім школам і друкарням езуітаў[1]. Асабліва многа зрабіў у гэтым кірунку князь Канстанцін Астрожскі[2]. (...) Асобныя братчыкі і цэлыя брацтвы, беручы прыклад з Астрожскага, таксама не шкадавалі коштаў на пашырэнне асветы і адчынялі школы.

Вышэй гаварылася, што даўней на Беларусі быў пашыраны звычай так званага патранату заможных асоб і ўстаноў над цэрквамі і манастырамі. Часта патранат быў у руках такіх асоб і ўстаноў, якія карысталіся з гэтага патранату для сваіх уласных... мэт. Разумеецца, такі патранат царква лічыла шкадлівым для сваіх інтарэсаў. Вось брацтвы і пачалі

---

[1] У. Ігнатоўскі не згадвае чамусьці пра уніяцкія суполкі, пра ордэн св. Васіля (базыльянаў), якія таксама друкавалі кнігі не па-польску. Адной з прычын заняпаду праваслаўных школ было тое, што ў іх незразумелая простаму народу стараславянская мова. Вядома таксама, што праваслаўнае духавенства адмовілася друкаваць кнігі на жывой мове народа, хоць яму прапаноўваў зрабіць гэта беларускі магнат Рыгор Хадкевіч.

[2] Ён даў прытулак Івану Фёдараву, які мусіў уцякаць з Масквы.

клапаціцца аб тым, каб патранат узяць у свае рукі, бо, маючы патранат над цэрквамі, манастырамі, брацтвы маглі рабіць вялікі ўплыў на жыццё царквы, а праз яе на шырокія колы грамадзянства. (...) Вядома, напрыклад, што адзін толькі князь Астрожскі быў патронам больш як 600 цэркваў. Патронамі былі і іншыя братчыкі-магнаты з літоўска-беларускай палітычнай апазіцыі... Калі царква ці манастыр не маглі атрымаць такога заможнага і багатага братчыка, як Астрожскі, то апеку над ёю бралі другія парафіяне, якія для гэтай мэты складалі брацтва і ўваходзілі ў сувязь з іншымі брацтвамі. Лік брацтваў усё павялічваўся, шмат людзей з мяшчанскага і нават сялянскага станаў было ўцягнута ў гэтую барацьбу і створаную жыццём арганізацыю. Паміж асобнымі брацтвамі йшлі жывыя зносіны, багацейшыя арганізацыі рабілі матэрыяльную дапамогу бяднейшым. Каб мець большую моц, брацтвы прагнуліся атрымаць ад патрыярхаў так званую стаўрапігіяльнасць. Сутнасць стаўрапігіяльнасці была ў тым, што ўстановы, якія мелі яе, былі непадлеглымі ў адносінах да ўлады епіскапаў. Гэтая непадлегласць давала права вольнай крытыкі епіскапаў, а ў некаторых выпадках — нават права ўмешвацца ў чыннасць епіскапаў. Выдатнейшыя брацтвы, як, напрыклад Львоўскае і Віленскае, стаўрапігію атрымалі.

У XVII стагоддзі чыннасць брацтваў дайшла да вышэйшай ступені свайго развіцця. Гэта былі моцныя і вельмі багатыя арганізацыі. (...) Лік брацтваў з году ў год павялічваўся, і яны пакрылі тэрыторыю Беларусі даволі густою сеткаю. Пытанні, што ставіліся на агульных сходах брацтваў, датычылі не толькі... унутранага жыцця арганізацыі. Часта тут ставіліся і разглядаліся пытанні, што мелі агульнадзяржаўны і агульнаграмадзянскі характар. Грунтоўнейшым і часцейшым з гэтых пытанняў было пытанне аб абароне праваслаўнай веры і беларускай нацыянальнай культуры, як веры і культуры тых сацыяльных груп, якія былі большасцю ў складзе брацтваў. На пастаноўку і абарону гэтага пытання брацтвы выдзялялі з сябе энергічнейшых, разумнейшых і вучонейшых людзей. Яны часта станавіліся на чале работы ў брацтвах і працавалі словам, пяром і друкарскім станком. (...)

Але барацьба была няроўная. З захаду йшоў не толькі культурны, але і палітыка-сацыяльны ўплыў. У польскі бок пачынае цягнуць... магнацкі клас беларускага грамадзянства.

манячыся «вольнымі хрысціянскімі правамі Каруны Польскай», якія даюць ім эканамічную карысць. Палітыка-культурная апазіцыя беларуска-літоўскага магнацтва знікае, бо яна непрактычная для магнатаў. На кожным кроку мы спаткаемся з такімі здарэннямі, што сыны і ўнукі вядомых магнатаў-братчыкаў ужо пераходзяць у той палітыка-культурны лагер, з якім змагаліся ў ранейшыя часы іх бацькі і дзяды (Астрожскія, Хадкевічы і інш.). (...) Магнацка-шляхецкая беларуская інтэлігенцыя кідае культуру працоўных мас народу, да якога яны належалі, і паварочвае ў польскі бок[1]. На варце беларускай культуры асталіся «худыя і нячлаўныя» класы грамадзянства, якія разам з тым узялі на сябе і сацыяльную апазіцыю.

## КАЗАЦТВА НА БЕЛАРУСІ

Брацтвы рабілі на Беларусі нацыянальна-культурную, а часткаю і палітычную работу. На чале гэтай работы стаяла свядомая, інтэлігентная частка грамадзянства. Непісьменныя масы ўцягваліся ў брацкую арганізацыю як пасіўны матэрыял. Яны жылі сваім цяжкім працоўным жыццём. Развіццё шляхецкіх вольнасцей лажылася на рабочыя масы ў форме сацыяльнага ўціску й прыгону. Апроч таго, працоўныя масы, асабліва сялянства, разам з сацыяльна-эканамічным уціскам перажывалі ўціск рэлігійны і нацыянальны. Апалячаны і акаталічаны магнат-шляхціц быў для працоўнай мужычай масы вяльможным панам і пражорлівым прыгоншчыкам. У яго руках было жыццё працоўнай масы, якая была залежнаю ад яго з усіх бакоў.

Не маючы сілы змагацца з панам, мужык уцякаў ад яго туды, дзе аблогам ляжалі вольныя землі, куды панская дзяржава яшчэ не працягнула сваіх рук — на поўдзень у шырокія дняпроўскія стэпы. (...) Казацтва, якое зложылася на паўднёвай Украіне[2] Рэчы Паспалітай, атрымала назву ўкраінскага.

Казацтва не ёсць з'явішча, выключна датычнае жыцця

---

[1] Заняпад праваслаўных брацтваў — адзін з вынікаў агрэсіі праваслаўнага цара Аляксея Міхайлавіча ў 1654—1667 гг. Насельніцтва Беларусі скарацілася ўдвая, гарады сталі пустыя.

[2] Слова «ўкраіна» азначала тады «ўскраіна».

Рэчы Паспалітай. (...) Апроч вышэйназванага казацтва ўкраінскага мы на полуднёвым усходзе ведаем яшчэ казацтва прыволжскае і прыдонскае, якое адначасна злажылася на паўднёвай акраіне Маскоўскага гаспадарства. (...) Калі казак прыволжскі і донскі абураўся проціў свайго гаспадарства з прычын палітыка-сацыяльных, то казак украінскі, забраўшы ў свой склад беглых мужыкоў і з Беларусі, абураўся з прычын не толькі палітыка-сацыяльных, але і з прычын рэлігійных і нацыянальных[1]. Яма паміж казаком і гаспадарствам была куды глыбей, чым яма паміж гаспадарствам і ўсходнім казаком. Вось чаму казацкі пратэст на захадзе быў такі моцны, безупынны і крывавы. Казакі не былі зусім аднароднаю масаю. Яны... дзяліліся на дзве групы. Частка іх складалася з людзей (часта нават беглых шляхціцаў і мяшчан), якія на поўдні занялі добрыя землі, пабудаваліся і выдзелілі з сябе казацкую старшыну, якая звычайна пападала ў польскія рэестры[2]. (...) Казацкая маса складалася з беднаты, якая найчасцей не мела ні кала, ні двара. Яны жылі з палявання, рыбалоўства, паходаў — адным словам, казакавалі. Часам абсаджваліся на зямлю і займаліся земляробствам і разводзілі быдла. Але іх дробная гаспадарка сталаю не была як за адсутнасцю інвентару, так і затым, што акраіна гаспадарства не была забяспечана ад паўднёвага ворага—татарына і турка. Вельмі і часта... урад дапаручаў казакам абарону граніц.

Казацкія паўстанні проці сацыяльна-эканамічнага, нацыянальнага і рэлігійнага ўціску ў Польскай дзяржаве пачаліся яшчэ з канца XVI стагоддзя. Лепшыя польскія каралі разумелі, якую небяспеку нясуць гаспадарству гэтыя казацкія паўстанні. Апроч таго, у іх магла вынікаць і думка аб тым,

---

[1] Тут трэба помніць, што ад 1569 г. Украіна — па волі тамтэйшай шляхты — стала складоваю часткай Кароны Польскай. Гэтым і тлумачыцца вастрыня канфліктаў паміж украінцамі і палякамі. У Вялікім княстве, якое адстаяла сваю аўтаномію, землеўладальнікамі і ўраднікамі была пераважна «свая» шляхта, што змякчала канфлікты. Змякчала канфлікты і тое, што значная частка беларускіх сялян да таго часу стала грэка-каталікамі (уніятамі). Далей мы ўбачым, што Хмяльніцкі пасылаў свае атрады на Беларусь. Гэта быў свайго роду «экспарт рэвалюцыі». Разварушыць народ удалося толькі на поўдні і ўсходзе — там, дзе больш было праваслаўных.

[2] Той, хто трапіў у рэестр, карыстаўся правамі шляхціца.

каб з дапамогаю казацтва ўзмацніць свае правы ў адносінах да шляхты, якая абмяжоўвала ўладу караля. Так адносіўся да казакоў Уладзіслаў IV (1632—1648). (...)
Ёсць паданне, што аднага разу казакі прыслалі да Уладзіслава паслоў, каб паскардзіцца на тыя крыўды, якія над імі ўчыняюцца. Кароль, выслухаўшы казацкіх паслоў і не маючы рады абараніць іх парушаныя інтарэсы, быццам сказаў ім: «Вы маеце шаблі, самі абараняйце свае правы». Разумеецца, казакі ведалі гэта і без караля, але словы караля толькі падкрэслілі для іх немагчымасць згоднага сужыцця Польшчы з вольным казацтвам. Цікаўна яшчэ звярнуць увагу на адно здарэнне. Заходняе казацтва, беручыся за шаблю, казала, што яно хоча ратаваць сябе і караля з панскай «ляскай няволі». Такія самыя думкі былі і ва ўсходняга... казацтва. Вядома, што такія прадстаўнікі ўсходняга казацтва, як Разін і Пугачоў, лічылі сябе ворагамі не цара, а баяр і дваран, ад улады каторых яны хацелі вызваліць сябе і цара. (...)

Казацкія паўстанні на Украіне пачаліся яшчэ з канца XVI стагоддзя. На чале казакоў стаялі атаманы — Касінскі, Лабада і Налівайка. (...) Казакі абралі сабе атамана гетмана Пётру Сагайдачнага, які стаў дзяржаўцам усёй Украіны. Усё гэта... не спадабалася палякам, і пры першым здарэнні яны зноў пачалі рабаціць казакоў. Казакі на гэта зноў адказалі паўстаннямі ў пачатку XVII стагоддзя. На чале казакоў стаялі атаманы — Тарас, Паўлюк і Астраніца. Многа гадоў Польшча і Украіна паліліся агнём і заліваліся крывёю. Урэшце, перамаглі палякі. (...) Атрымаўшы верх, польскі ўрад стаў рабіць на Украіне свае парадкі. Казакоў пакінулі толькі 6 тысяч, запісаўшы іх у так званыя рэестры, адабралі ад іх самакіраванне, начальнікамі над імі паставілі польскіх паноў. Рэшту казакоў зрабілі зноў мужыкамі. Усё гэтае адбылося ў 1638 годзе.

Толькі 10 гадоў казакі трывалі гэтую няволю. У 1648 годзе яны зноў падняліся, як адзін чалавек, пад кіраўніцтвам вядомага атамана Багдана Хмяльніцкага. Пад яго сцягам сабраліся як рэестраўцы, так і казакі, папаўшыя ў няволю. Збіраліся наўкола яго і мужыкі, уцёкшыя ад прыгону з усёй Украіны і Беларусі. З вялікаю збройнаю сілаю йшоў Хмяльніцкі на помсту ў Польшчу... Насустрач яму былі высланы польскія войскі, каторыя ён разбіў — першы раз пры Жоўтых Водах, другі раз пад Корсунем. Пад Корсунем казакі ўзялі ў палон

польскіх гетманаў Каліноўскага і Патоцкага. Гэтыя перамогі Хмяльніцкага адгукнуліся на Беларусі мужыцкім паўстаннем: пад кіраўніцтвам рэестраўцаў мужыкі пачалі паліць панскія двары, біць паноў і зневажаць ксяндзоў. Каб перамагчы Хмяльніцкага, у Польшчы было склікана паспалітае рушэнне. Сабралася 50 тысяч шляхты, за імі йшло каля двухсот тысяч слуг з лёгкім ружжом і цягнуліся панскія вазы і карэты. Рушэнне дайшло да Пілавіц і адсюль уцякло нават не біўшыся з казакамі. (...) Дайшло да таго, што Польшча павінна была прасіць згоды. Згода была зроблена на такіх умовах: 40 тысяч казакоў павінна трымаць Польшча сваім коштам; на Украіну не могуць быць уведзены польскія войскі; праваслаўная вера мае правы пяршынства; і «візівіты» не могуць жыць і адчыняць свае ўстановы на тэрыторыі Украіны; урадавыя пасады аддаюцца выключна толькі праваслаўным; кіеўскі праваслаўны мітрапаліт атрымлівае ў польскай вышэйшай палаце (сенаце) месца, як і каталіцкія біскупы, і г. д.

Такая згода не задаволіла ні польскі ўрад, ні масы казакоў і мужыкоў. Польскі імперыялізм не мог супакоіцца, згубіўшы паўднёвыя тэрыторыі... Мужыкі зноў абурыліся, бо ў Польшчы сіла прыгону не была зменшана. Апроч таго, сярод казакоў з'яўлялася новая дробная шляхта, якая пачала накладаць руку на тых казакоў, якія масаю не ўвайшлі ў склад новай украінскай шляхты. Хмяльніцкі таксама бачыў, што яго палажэнне не моцнае як з боку Польшчы, так і з боку казацкага.

Хутка зноў пачынаецца змаганне Хмяльніцкага з палякамі. Яно цягнецца 4 гады і канчаецца тым, што Хмяльніцкі, шукаючы ратунку ад Польшчы і баючыся абаперціся рашуча на паўстаўшыя нізы, паддаецца пад апеку Маскоўскага гаспадара Аляксея Міхайлавіча (1654 г.). Польшча, такім спосабам, сваёй палітыкаю адкінула ад сябе такую багатую тэрыторыю, як Украіна.

Казацкія паўстанні на Украіне маюць адносіны не толькі да гісторыі Украіны, Польшчы і Масквы, але і да гісторыі Беларусі, бо ў складзе ўкраінскага радавога... казацтва[1] быў значны працэнт казакоў, каторых выгадавала беларуская вёска і выгнала з роднай хаты няволя на Беларусі. Трэба адзначыць, што паўстанні на Беларусі не мелі той моцы, як

[1] Не толькі радавога.

на Украіне, бо на Беларусі шмат было шляхецка-польскага элементу: тут увесь час было згуртавана шмат польскага войска[1] на выпадак вайны з Масквою, для падгатоўкі паўстання тут не было шырокага паўднёвага стэпу, дзе казак меў ваяўніцкую практыку, змагаючыся з татарынам, і дзе ён мог, хаваючыся ад панскага ўраду, згуртавацца ў моцную збройную сілу.

Усё ж такі казацка-мужыцкія паўстанні на Беларусі былі. Яны ўцягвалі ў рух забітае прыгнечанае сялянства і нізы гарадскога насялення. Лясы і балоты давалі магчымасць паўстанцам гуртавацца і выносіць змаганне з рэгулярнаю польскаю арміяю[2].

Першае казацкае паўстанне на Беларусі звязана з паўстаннем Хмяльніцкага. Весткі аб разгроме шляхецкага войска пры Жоўтых Водах і Корсуні дайшлі да цёмных вясковых куткоў Беларусі. Усе, хто не мог зносіць сацыяльна-рэлігійнага і нацыянальнага ўціску, пачалі гуртавацца. На чале першых паўстанцкіх груп стаў Антон Нябаба. Да яго ў хуткім часе пачалі падыходзіць другія паўстанцкія групы. (...) Згуртавалася ўзброеная сіла каля 30 тысяч чалавек. Усё Папрыпяцце запалілася вялікім полымем паўстання. Беларускае сялянства падтрымлівала казакоў харчамі і грамадамі прылучалася да паўстанцаў. Спачувала руху і мяшчанства, якое вельмі часта станавілася на чале яго, маючы на мэце скінуць з сябе ярмо панскага феадалізму. Такія гарады, як Старадуб, Гомель, Лоеў, Брагін і Пінск, адчынілі казацкаму войску свае брамы. Асабліва многа крыві пралілося ў Пінску, дзе паўстанцы выразалі ўсіх шляхціцаў, палякаў, не шкадуючы нават старых, малых і жанок. Вялікія спусташэнні і забойствы былі зроблены паўстанцамі пад Магілёвам, Мсціслаўлем і па другіх гарадох, што прылучыліся да паўстання.

Чуткі аб паўстанні казакоў і мужыкоў разышліся па ўсёй Беларусі і Польшчы. Ніжэйшыя станы, якія спадзяваліся дабіцца лепшай долі, спачувалі ім. Шляхта глядзела на паўстанне са страхам і абурэннем. Як толькі ў Польшчы даве-

---

[1] Гэта не так. Напагатове стаяла літоўска-беларускае войска. Палякі былі заняты на Украіне. Прычыны аслаблення канфлікту гл. зноску 2 на с. 346.

[2] Шляхтаю літоўска-беларускаю найпер.

даліся аб казацкім і мужыцкім руху на Беларусі, то ўрад сабраў армію і дапаручыў змаганне з паўстанцамі літоўска-беларускаму гетману Янушу Радзівілу[1]... На тэрыторыю паўстання былі прысланы вялікія ўзброеныя сілы. Да іх далучаліся атрады мясцовай шляхты. Пайшла барацьба, каторая была вельмі крывавую. Абодва лагеры біліся да апошняга, ведаючы, што літасці ні з таго, ні з другога боку не будзе. (...) Наймацней трымаліся казакі ў Пінску. Сюды былі зграмаджаны ўрадавыя войскі; горад быў абложаны... так, што нельга было ні з яго выйсці, ні ў яго ўвайсці. Доўга трымаліся паўстанцы, ведаючы, што літасці над імі не будзе. Урэшце, Пінск быў такі ўзяты прыступам, зруйнаваны і заліты крывёю абаронцаў. Казацкае паўстанне і ў іншых частках Беларусі было задушана, але не надоўга. Праз некалькі месяцаў дайшлі да беларускага мужыка чуткі аб тым, што Хмяльніцкі разбіў польскае шляхецкае войска пад Пілавіцамі. Зноў заварушыўся працоўны люд. (...) Паўстанне пашыралася не толькі па вёсках. Мяшчане, бачачы, што шляхта стаіць ім папярок дарогі, таксама прынялі ўдзел у паўстанні. Паўсталі такія гарады: Слуцак, Быхаў, Чарнобыль, Магілёў, Рэчыца, Мазыр, Бабруйск і інш. Януш Радзівіл, сабраўшы войска, пачаў барацьбу з казацтвам і паўстаўшымі мужыкамі і мяшчанамі. Лічбовая перавага была за паўстанцамі, затое ў іх не было добрай арганізацыі. (...) Хоць і з вялікаю патугаю, але Радзівіл справіўся з паўстаннем. У яго рукі папалі ўсе гарады. Найбольш бараніліся Рэчыца і Мазыр. На чале паўстанцаў Мазыра стаяў казацкі палкоўнік Міхайленка. Некаторыя гарады хоць і здаліся палякам[2], але праз нейкі час зноў падымаліся на барацьбу. Так, напрыклад, падняўся Бабруйск. Мяшчане Бабруйску, бачачы, што для іх няма ўжо ратунку, парашылі здацца на міласць палякаў. Тады правадыры паўстання, на чале якіх стаяў Паддубіч, ведаючы, якія мукі іх чакаюць, заперліся ў сваіх хатах, падпалілі іх і згарэлі там разам з сем'ямі і супрацоўнікамі па паўстанні.

Доўга не мог гетман Радзівіл спыніць паўстанне. Сярод

[1] Тут зноў недакладнасць. Польскі ўрад не меў улады ў Вялікім княстве. Армію накіраваў урад Вялікага княства і камандаваў ёю, як бачым, не гетман каронны (польскі), а гетман літоўскі.

[2] Літоўска-беларускаму шляхецкаму войску.

топкіх балот і густых непраходных лясоў Беларусі доўга існавалі вялікія групы паўстаўшых мяшчан, мужыкоў і казакоў. Іх падтрымлівалі тыя мужыкі, якія не выходзілі з вёсак і не гублялі сваёй легальнасці; прысылаў ім дапамогу з суседняй Украіны й Хмяльніцкі. Часта гэтыя групы даходзілі да некалькіх тысяч людзей. Седзячы ў балотах, казакі арганізавалі напады на рэгулярнае польскае войска і рабілі вялікія забойствы па маёнтках ваколічнай шляхты. Але йшоў час, лік казакоў змяншаўся, панская сіла павялічылася, і рух казацкі на Беларусі спыніўся. (...)

К пачатку XVIII стагоддзя Беларусь ужо не пратэстуе[1]. Вышэйшыя станы зрабіліся палякамі, ніжэйшыя станы, застаўшыся беларусамі, жывучы ў здзеку і ў паднявольнай працы, ведалі толькі адно, што яны тутэйшыя хлопы, што «хлопскую» маюць яны мову і нацыю, што жывуць яны гаротным, цяжкім жыццём.

## АГУЛЬНЫ ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД

Люблінская вунія 1569 году, як мы ведаем, далучыла Беларусь і Літву ў склад Рэчы Паспалітай Польскай. Літоўска-Беларускае гаспадарства павінна было перастаць існаваць незалежна. З гэтага часу Беларусь жыве адным жыццём з Польшчай[2].

Праз тры гады пасля Люблінскай вуніі памёр апошні кароль з дому Ягайлава, Жыгімонт Аўгуст[3]. Гэта быў разам з тым і апошні наследны кароль. З 1572 года пачынаецца эпоха выбраных соймам каралёў. Каралеўская ўлада часта перары-

---

[1] У час вайны 1654—1667 гг. некаторыя беларускія ўсходнія гарады, як піша гісторык М. Доўнар-Запольскі, віталі праваслаўнага цара. Але яны хацелі разам з рэлігійнай свабодай захаваць тыя свабоды, якія давала ім магдэбургскае права. Пабачыўшы, што цар пазбаўляе іх гэтых свабод, гарады выступілі супраць праваслаўнага войска. Не дачакалася палёгкі і сялянства. Вайна гэтая, нагадаю, выклікала прапольскія настроі ў шляхты і масавы пераход яе ў рымска-каталіцкую веру. Абсалютная большасць сялян стала грэка-каталікамі (уніятамі).

[2] Нагадваю, што аб'яднаная, федэратыўная дзяржава называлася «Рэч Паспалітая абодвух народаў», што Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае мела свой сойм, урад, свае войска, свае межы.

[3] Як вялікі князь, Жыгімонт Аўгуст быў апошнім Гедымінавічам.

ваецца бескаралеўямі, якія цягнуцца ад смерці караля да абрання яго наступніка. Бескаралеўі цягнуцца часам цэлыя гады і наносяць вялікую шкоду гаспадарству, аслабляючы цэнтральную дзяржаўную ўладу.

На першы пачатак бескаралеўе цягнулася больш году. Запоўнена яно палітычным бязладдзем і анархіяй. Шляхта разбілася на некалькі партый, змагаючыся адна з другою наўкола пытання аб каралі. Кожная з партый дамагалася здабыць каралеўскую карону свайму кандыдату. Найбольш вядомымі і папулярнымі з кандыдатаў былі: Фёдар, царэвіч Маскоўкі, сын Івана IV Грознага; Эрнест, прынц Аўстрыйскі, і Генрых Анжуйскі, прынц Французскі. Партыя Фёдара складалася з літвінаў і беларусаў, на чале яе стаяў менскі кашталян Глебавіч. Перагаворы з Грозным наконт Фёдара не далі нічога. Палякі патрабавалі, каб Фёдар зрабіўся каталіком і каб да Рэчы Паспалітай былі далучаны Смаленск і Полацк[1].

Грозны смяяўся з гэтага, гаворачы, што Фёдар «не красная девица», што пасагу яму не належыць, лепш няхай палякі дадуць яму Кіеў. Проці гэтай кандыдатуры былі ўцекачы з Масквы — Курбскі, Цяцерын, Сарыгозін і інш. Яны добра ведалі слабавольны характар царэвіча Фёдара, поўную адсутнасць у яго не толькі палітычнага, але й наогул звычайнага розуму, што гэта, па словах Грознага, «не цар, а панамар». Яны разумелі, што дзякуючы ўсяму гэтаму каралём Польшчы будзе не Фёдар, а яго бацька Іван Грозны, ад тэрору якога яны і ўцяклі з Масквы. Не дагаварылася панства і з Эрнестам Аўстрыйскім, які выяўляў рашучы характар. Пасля доўгіх размоў і перагавораў быў абраны за караля Рэчы Паспалітай Генрых Французскі[2]. Пракараляваў ён вельмі нядоўга (1573—1574 гг.). Прыехаўшы ў Варшаву і пабачыўшы, што караляваць у Рэчы Паспалітай не так лёгка, як, напрыклад, у Францыі, Генрых праз 6 месяцаў неспадзявана для палякаў... уцёк з Польшчы на сваю бацькаўшчыну... Там ён хутка заняў каралеўскі пасад пасля смерці свайго старшага брата Карла IX.

Зноў пачалося бескаралеўе, якое пагражала зацягнуцца

---

[1] Гэтыя гарады былі заваяваныя Іванам Грозным на пачатку Лівонскай вайны.

[2] У літаратуры яго называюць Генрыхам Валуа.

на доўгі час. Толькі ў 1576 годзе каралём Польшчы[1] быў абраны сяміградскі ваявода Стафан Баторы (1576—1586 гг.)[2]. Гэта быў разумны і выдатны палітычны дзеяч і вельмі здольны ваяка. З вялікаю карысцю для Рэчы Паспалітай ваяваў ён з Масквою (працяг Лівонскай вайны)... (...) Найраней войскі былі пакіраваны на Полацк, які ў папярэднія часы адышоў да Маскоўскага гаспадарства. Войскі аблажылі Полацак. Весці аблогу было вельмі цяжка: горад меў моцныя муры і замчышчы, апроч таго, была вельмі мокрая восень, што перашкаджала акопным работам і падвозу харчоў для арміі. Аблога зацягнулася. (...) Нягледзячы на храбрую абарону... урэшце, удалося дабіцца сваёй мэты, і Полацак быў узяты. Баторы, паважаючы храбрасць абароны, абяцаў тым, хто мае намер вярнуцца ў Маскоўшчыну, даць вольны выезд, а тым, хто захоча застацца,— даць права вольнага жыцця ў Полацку[3]. Калі маскоўскія войскі безаружныя выходзілі з гораду, сам кароль даглядаў за тым, каб яго абяцанне не было парушана...

Пасля выйсця маскоўскіх войск пачаўся грабеж гораду. (...) У час грабяжу загінула ад пажару і каштоўная полацкая кнігарня. Срод рукапісаў кнігарні загінулі такія цікавыя рукапісы, як, напрыклад пераклад св. Пісання, напісаны рукою славянскіх апосталаў Кірылы і Мяфодзія і летапіс Крывіцка-Полацкай зямлі[4]. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што раней, калі Полацак... перайшоў у рукі Івана Грознага, шмат чаго было вывезена ў Маскву. Усё гэта, зразумела, наносіла вялікую шкоду Беларускай зямлі.

---

[1] І вялікім князем літоўскім.

[2] Сяміграддзе (Трансільванія) цяпер у складзе Румыніі, Стафан (Іштван) Баторы, або Сцяпан Батура, як яго называюць у помніках беларускай пісьменнасці, па жаночай лініі паходзіў з роду Гедымінавічаў. Стаўшы каралём і вялікім князем, ён размаўляў толькі па-лацінску або па-венгерску.

[3] Справа ў тым, што ў 1563 г. Іван Грозны раздаў сваім ваяводам і дваранам або знішчыў амаль усіх жыхароў Полацка і яго ваколіц.

[4] Летапіс быў вывезены ў Маскву. У XVIII ст. яго бачыў рускі гісторык Тацішчаў. Есць звесткі, што Кацярына II загадала знішчыць гэты летапіс, бо ён не адпавядаў афіцыйнай вялікадзяржаўнай рускай тэорыі, паводле якое беларусы толькі й марылі аб тым, каб быць пад рукою праваслаўнага цара.

Праз нейкі час войскі Стафана Баторыя ўзялі другарадныя крэпасці Сокал і Сугну, якія былі пабудаваны Іванам Грозным, а таксама і гарады Веліж, Усвят і Вялікія Лукі. У 1582 годзе Баторы пачаў аблог... Пскова, якога ён не здолеў ужо ўзяць. Абедзве дзяржавы пасля некалькіх гадоў змагання былі вельмі аслаблены вайною, і распачаліся... перагаворы аб згодзе. Згода, урэшце, была падпісана... у 1582 годзе. Маскоўскае гаспадарства павінна было прызнаць перамогу Рэчы Паспалітай і аддало ёй усю Лівонію і гарады Полацак і Веліж.

Што датычыць да Беларусі, то для яе гэтая вайна карыснай не магла быць, бо руйнаваўся яе набытак, што добра відаць з разгрому Полацка. Яшчэ відней гэтае стане, калі мы дабавім, што, згодна весткам сучаснікаў, увесь край, больш чым на 50 вёрст вакол Полацка, зрабіўся за часы Лівонскай вайны лясною пушчаю. Зніклі вёскі, зніклі нівы, знік і чалавек, працаваўшы тут у ранейшыя часы. (...)

Па смерці Стэфана Баторыя зноў пачалося бескаралеўе, якое цягнулася каля году. На пасад Рэчы Паспалітай магнатамі і шляхтай быў абраны Жыгімонт III Аўгуст (1587—1632 гг.) са шведскай каралеўскай фаміліі Ваза[1]. Гэта быў выхаванец і прыхільнік езуітаў, вельмі добры каталік і надта няздольны кароль. Ён даваў кірунак сваёй чыннасці не паводлуг палітычных, дзяржаўных мэт, а паводле свайго рэлігійнага настрою. Гісторыя адчыніла яму вялікія магчымасці для ўплыву на жыццё Маскоўскага гаспадарства, але дзякуючы сваёй някемнасці палітычнай ён гэтых магчымасцей не скарыстаў як трэба. Масква якраз перажывала смутныя часы, вялікую сацыяльную і палітычную разруху. На маскоўскі пасад быў абраны сын Жыгімонта Уладзіслаў. У разумейшых палітыкаў Рэчы Паспалітай, напрыклад, у вядомага гетмана[2] Жалкеўскага вынік цікавы план утварэння славянскага гаспадарства, у склад якога ўвайшла б і Масква і на чале якога б стала Польшча. Жыгімонт папсаваў увесь імперыялістычны план свайго гетмана сваёй упартай каталіцкай палітыкай. Ён больш цікавіўся пашырэннем каталіцтва, чым пашырэннем тэрыторыі гаспадарства.

---

[1] Маці Жыгімонта Вазы — Кацярына — была дачкою Жыгімонта Старога.

[2] Гетмана кароннага (польскага).

У часы гэтага караля зноў на тэрыторыі Беларусі йшла крывавая вайна. З восені 1609 году да восені 1611 году йшла аблога Смаленску, і Жыгімонт з вялікім войскам стаяў пад горадам, пакуль урэшце не ўзяў яго. Само сабой разумеецца, што гэтая армія кармілася тым, што можна было ўзяць з Беларусі. Потым на працягу 7 гадоў праз Беларусь бесперарыўна праходзілі войскі, якія йшлі ў Маскву і вярталіся адтуль у Польшчу. Усе гэтыя войскі таксама карміліся з Беларусі. Шмат народу было сарвана з тэрыторыі Беларусі як у рэгулярную армію, так і ў прыпадковыя вайсковыя групы. (...)

Толькі ў 1618 годзе ў невялічкай вёсцы Дзяўліне (каля Масквы і Тройца-Сергіевай лаўры) адбылося часовае замірэнне паміж Масквою і Рэччу Паспалітай.

Але барацьба не скончылася. Справа ў тым, што Уладзіслаў, абраны раней на маскоўскі пасад, не хацеў адрачыся ад сваіх правоў на маскоўскае гаспадарства. З гэтым не мог згадзіцца рускі цар Міхаіл Раманаў, абраны на маскоўскі пасад у 1613 годзе. Калі каралём Польшчы[1] зрабіўся... Уладзіслаў (...1632—1648 гг.), змаганне пайшло зноў і зноў, гэтае змаганне адбывалася на тэрыторыі Беларусі.

Моцнае маскоўскае войска лікам у 32 тысячы людзей пачало руйнаваць Беларусь і аблажыла Смаленск. На дапамогу Смаленску ... прыйшоў Уладзіслаў з арміяй, каторы і прымусіў масквічоў здацца. Вайна цягнулася далей, але ўжо без усякай карысці для Уладзіслава. Пасля двух гадоў вайны (1632—1634 гг.) пачаліся перагаворы аб згодзе. Паслы Масквы і Рэчы Паспалітай... падпісалі «вечную згоду». Смаленск і іншыя гарады, згубленыя Масквою за часы смуты, засталіся зацверджанымі за Рэчаю Паспалітаю. Уладзіслаў з свайго боку адмовіўся ад правоў на маскоўскі пасад. (...)

У палове XVII стагоддзя скончыўся казацкі рух на Украіне. Ён скончыўся тым, што Украіна... паддалася пад «цара ўсходяга праваслаўнага». Дзеля гэтага ў часы кіравання польскага караля[1] Яна Казіміра (1648—1668 гг.) і маскоўскага гаспадара Аляксея Міхайлавіча (1645—1676 гг.) зноў пачаліся войны паміж Масквою і Рэччу Паспалітай, а руйнава-

[1] І вялікім князем літоўскім.

[2] І вялікага князя літоўскага.

лася паводлуг звычаю зноў Беларусь. Руйнаванне Беларусі йшло 13 гадоў, з 1654 да 1667 году[1].

У Беларусь увайшло маскоўскае войска амаль што не ў 200 тысяч людзей. Яно разбілася на чатыры часткі. Першая армія, на чале якой стаяў сам цар, пайшла на Смаленск і аблажыла горад. Другая армія праз усю цяперашнюю Віцебшчыну пайшла на Полацак, трэцяя — на Магілёў, чацвертая — на поўдзень ад Магілёва. Застагнала, задымілася ад надужыццяў і пажараў Беларусь, пакрылася крывёю чалавечаю. Уся праца спынілася; што было здабыта цяжкай працаю — руйнавалася. Найраней здаўся Смаленск, ваявода якога Піліп Абуховіч падкуплены маскоўскім золатам. Цяпер былі насцеж адчынены маскоўскаму войску вароты на ўсю Беларусь, і яно пайшло ўперад... Прайшло некалькі месяцаў, і ў руках маскоўскага гаспадара апынуліся гарады Магілёў, Віцебск, Менск, Горадня, Коўна, Вільня, Трокі. (...) Усяго было ўзята Аляксеем Міхайлавічам больш чым 200 гарадоў, мястэчак і замкаў. Пасля таго, як былі здабыты абедзве сталіцы былога Літоўска-Беларускага гаспадарства, Вільня і Трокі, маскоўскі гаспадар пачаў тытулаваць сябе «ўсяе Вялікія, Малыя і Белыя Русі самадзержцам».

У гэты самы час на Рэч Паспалітую з поўначы напалі шведы, а з поўдня — украінскія казакі. (...) Выратавалася гаспадарства толькі дзякуючы таму, што пачалася барацьба паміж шведамі і маскоўскім царом, які зрабіў замірэнне з палякамі[2] і пачаў вайну са шведамі, а Рэч Паспалітая ў гэты час крыху паднялася на ногі, і справы яе пайшлі лепш. Калі зноў, пасля замірэння, Масква пачала вайну з Рэччу Паспалітай, то ўжо яна не мела вялікай для сябе карысці. (...) Урэшце змучаныя гаспадарствы павінны былі ў 1667 годзе зрабіць у Андрусаве (недалёка ад Смаленска) замірэнне на 13 з палавінаю гадоў.

Умовы замірэння былі такія. Маскоўскі гаспадар адмовіўся ад Літвы і Беларусі, здабытых яго войскамі, але затры-

---

[1] У час гэтай вайны Вялікае княства страціла кожнага другога жыхара. Менавіта ў выніку гэтае вайны ўзмацніліся польскія і каталіцкія ўплывы на Беларусі, а старабеларуская мова перастала быць дзяржаўнаю ў Вялікім княстве Літоўскім.

[2] І Вялікім княствам Літоўскім.

маў за сабою Смаленск з акалічнымі землямі... Да Масквы яшчэ адышла Леваберагавая Украіна і на правым беразе Дняпра — Кіеў. Кіеў быў адступлен Маскве на два гады, але застаўся за ёю назаўсёды. Адзін з артыкулаў замірэння даваў маскоўскаму гаспадару права заступніцтва за праваслаўных жыхароў Польшчы.

У часы кіравання... Міхала Вішнявецкага (1669—1673 гг.) і Яна Сабескага (1674—1696 гг.) барацьбы паміж Рэччу Паспалітай і Масквою не было. Рэчы Паспалітай прыйшлося змагацца з туркамі. Каб атрымаць дапамогу Масквы ў гэтым змаганні, Ян Сабескі ў 1686 годзе згадзіўся падпісаць «вечную згоду» з Масквою на ўмовах Андрусаўскага замірэння. Маскоўскі ўрад ужо адкрыта абвясціў сябе патронам праваслаўных у Рэчы Паспалітай. У грамаце згоды абгаворана недатычнасць праваслаўных епархій і пасвячэнне епіскапаў кіеўскім мітрапалітам, які залежаў ад Масквы. Гэтыя артыкулы давалі маскоўскаму ўраду права ўмешвацца ў хатнія справы Рэчы Паспалітай.

У часы кіравання караля Аўгуста II (1697—1733 гг.)[1], сучасніка Пятра Вялікага, на абшарах Беларусі, Украіны і Вялікарусі адбывалася добра вядомая ўсім Паўночная вайна. І тут паплацілася Беларусь за чужыя інтарэсы. Петр, каб лепш падрыхтавацца да вайны ў сваіх межах, паслаў свае войскі на Беларусь, каб яны тут затрымлівалі шведаў. З 1701 году аж да 1709 году Карл «увяз в Польше» і на Беларусі. Зноў руйнаваліся гарады і вёскі; зноў Беларусь была тэрыторыяй вайны[2]. Расія карыстае са слабасці Рэчы Паспалітай і ўмешваецца на грунце папярэдніх трактатаў у хатняе жыццё аслабелага суседа. Вядома, што па затрабаванні Пятра Аўгуст II у 1720 годзе выдаў грамату, якая забяспечвала правы праваслаўнай беларускай епархіі.

Па смерці Аўгуста II рускія войскі прыходзілі на Беларусь і Польшчу, каб пасадзіць на каралеўскі пасад яго сына Аўгуста III (1733—1764 гг.). Гаспадарства ў часы яго кіравання перажывае хатнюю анархію, будуючы сабе труну. Кароль, не

---

[1] Аўгуст II Дужы быў курфюстам саксонскім. У гісторыю ён і яго сын, Аўгуст III, увайшлі як Сасы.

[2] Рускія войскі спрычыліся да разбурэння Сафійскага сабора ў Полацку, які належаў уніятам. Святыня, страціўшы першапачатковы выгляд, была пазней адбудавана.

маючы моцы спыніць бязладдзе, жыве ў сваёй бацькаўшчыне, у Саксоніі, толькі часам наязджаючы ў Варшаву. Рэлігійны ўціск праваслаўных і пратэстантаў прымусіў іх шукаць абароны свайго права за межамі Рэчы Паспалітай. Беларускі праваслаўны архіепіскап Георгій Каніскі, ездзіўшы ў Расію на каранацыю Кацярыны II, звярнуўся да яе з просьбаю аб абароне праваслаўнага насялення ў Рэчы Паспалітай. Тое самае рабілі прадстаўнікі польскіх пратэстантаў у... нямецкіх дзяржавах—Аўстрыі і Прусіі. Паступова падгатаўляўся той грунт, апіраючыся на каторы адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай у часы апошняга яе караля Станіслава Панятоўскага, які караляваў пад імем Аўгуста IV (1764—1795 гг.)[1].

## КАНЕЦ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Каля паловы XVIII стагоддзя Рэч Паспалітая перажывала стан поўнага развалу. Уся палітычная ўлада ў дзяржаве была ў руках шляхты, каторая карыстала з свае палітыка-сацыяльнай «залатой» вольнасці толькі ў сваіх класавых інтарэсах. Другія станы гаспадарства і нават кароль не мелі ніякіх правоў. (...) Дайшло да таго, што шляхта мела права складаць у гаспадарстве ваенныя саюзы для абароны сваіх класавых інтарэсаў і правоў (так званыя канферэрацыі) і законна падымаць бунт проціў караля (рокаш), калі ён парушаў шляхецкія правы. Кароль не заставаўся ў даўгу ў шляхты. Каб бараніць сябе ... кароль павінен быў шукаць апоры пры чужаземных дварох, і чужаземныя дзяржавы атрымалі поўную магчымасць умешвацца ў хатнія справы Рэчы Паспалітай.

Шляхта з свайго боку папала ў рукі багацейшых сваіх прадстаўнікоў, якія і зрабіліся сапраўднымі гаспадарамі ў дзяржаве. Соймы ў апошнія часы не маглі зусім працаваць дзякуючы прынцыпу аднагалоснасці. Даволі было падкупіць ці ўгаварыць якога-колечы пасла сойма, каб ён не згаджаўся з пастановаю сойму, і ён мог яе сарваць сваім... «не пазволяем» (liberum veto). Пры такіх умовах можна было прыпыніць кожную рэформу, вельмі карысную для гаспадарства,

---

[1] Станіслаў Панятоўскі пачынаў кар'еру як пасол Рэчы Паспалітай у Расіі. Там ён стаў каханкам вялікай княгіні Кацярыны Аляксееўны, будучай царыцы Кацярыны II.

якая чамусь не спадабалася якому-колечы крыкліваму шляхціцу-паслу.

У грамадзянскім жыцці Польшчы[1] таксама панавала поўнае бязладдзе. Магнаты вялі сапраўдныя войны паміж сабою і крыўдзілі як драбнейшую шляхту, так і другія станы грамадзянства. Шляхта наогул здзеквалася і крыўдзіла мяшчан і мужыкоў. Каталікі рабілі ўціск над некаталікамі, так званымі дысідэнтамі. Дысідэнты ў адказ на ўціск, не маючы абароны ад дзяржавы, павінны былі складаць канфедэрацыі і звяртацца да чужаземнай улады. Суседнія дзяржавы, разумеецца, карысталіся з такога палажэння Рэчы Паспалітай.

У 1767 годзе дысідэнты... дзеля абароны сваіх парушаных каталіцкаю шляхтаю правоў утварылі саюз з цэнтрам у Слуцку, так званую Слуцкую канфедэрацыю. Гэтую канфедэрацыю падтрымлівалі дзяржаўныя прадстаўнікі Расіі, Прусіі і Аўстрыі[2]. Калі сойм адмовіўся ўхваліць пастановы, якіх дамагаліся чужаземныя паслы канфедэрацыя, то ў Варшаву былі ўведзены рускія войскі, заарыштаваны правадыры крайне каталіцкай партыі сойму, і сойм павінен быў здацца. У 1768 годзе сойм ухваліў пастанову[3], што ўсе дысідэнты ў Польшчы[4] не павінны прыгнятацца за іх рэлігійныя перакананні і маюць тое самае права, што й каталікі. Расійскаму ўраду было дадзена права аберагаць правы дысідэнтаў і сачыць за недатычнасцю асноўных законаў Рэчы Паспалітай. Такім спосабам Расія атрымала як бы пратэктарат над Польшчаю.

У адказ на гэта ўтварылася супраціўная канфедэрацыя ў г. Бары[5], каторая паставіла сабе за мэту абарону паменшаных, з яе погляду, правоў каталіцтва і незалежнасці сойму. (...) Барскія канфедэраты, змагаючыся з праваслаўным насельніцтвам, якое было ў большасці мужыцкім, выклікалі даволі шырокія паўстанні так званых гайдамакаў (мужыкоў,

---

[1] Рэчы Паспалітай.

[2] Пры ўтварэнні Слуцкай канфедэрацыі даходзіла да таго, што адзін шляхціц падпісваўся і за сябе, і за суседзяў. Яе ініцыятарам можна назваць расійскага пасла. Справа ў тым, што Расія і Прусія дамовіліся аб супольных дзеяннях супраць Рэчы Паспалітай у 1764 г. У 1768-ым настаў час дзейнічаць.

[3] Палажэнні пастановы, распаўсюджваліся толькі на шляхту.

[4] У Рэчы Паспалітай.

[5] Горад у Заходняй Украіне.

што казакавалі ў Правабярэжнай Украіне). Да гайдамакаў далучылася і дробная праваслаўная шляхта. На чале паўстання стаў запарожац МаксімЖалазняк. Найкрававейшым эпізодам паўстання была вядомая Уманская разня.

Калі разгарэлася паўстанне і прыняло выразны сацыяльны кірунак, то паміж рускім урадам, які з'явіўся наводзіць парадкі, і Барскай канфедэрацыяй адразу адбылася згода. Абедзве стараны прыняліся за паўстанцаў. Пачалася расправа. Рускі праваслаўны ўрад абманам злавіў праваслаўнага Жалазняка і выслаў яго ў Сібір, пакараўшы раней «кнутом». Паўстанцаў і іх прыхільнікаў... вешалі, катавалі. Вельмі пашыранай карай было адсекванне рук і ног. Вялікі лік бязногіх і бязрукіх жабракоў на Беларусі доўга сведчыў аб гайдамацкім паўстанні. А палажэнне ў Польшчы[1] не папраўлілася, бо, расправіўшыся з паўстанцамі, Расія рукамі Суворава прыкончыла і з канфедэратамі.

Пасля гэтага Прусія, Аўстрыя і Расія паставілі пытанне аб змяншэнні Польшчы[2], якая не можа сама справіцца са сваімі землямі. Згода паміж суседзямі хутка адбылася. Прусія ўзяла сабе Памеранію і кавалак Вялікай Польшчы — тыя землі, якія былі паміж Прусіяй і Брандэнбургам, Аўстрыя прылучыла да сябе Галіцыю. Расія атрымала ваяводствы Магілёўскае, Мсціслаўскае і частку Полацкага. (...) Так адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай у 1773 годзе.

Падзеі 1773 году[3] прабудзілі рэфарматарскі рух сярод разумнейшых слаёў шляхты Рэчы Паспалітай. У сваіх думках яны трымаліся ідэй французскай асветнай філасофіі і літаратуры. Вялікая французская рэвалюцыя... падняла іх палітычны настрой і задумала рэформу Польшчы[4]. Скарыстаўшы рэфарматарскі настрой большасці паслоў сойму, рэфармацыйная партыя, на чале якой стаяў граф Патоцкі, правяла праз сойм новыя... законы, вядомыя пад назвай канстытуцыі 3 мая 1791 году. (...)

Па новай канстытуцыі прапанаваўся такі строй Рэчы Паспалітай. Заканадаўчая ўлада належыць да двухпалатнага па-

---

[1] У Рэчы Паспалітай.

[2] Рэчы Паспалітай.

[3] Памылка друку. Першы падзел Рэчы Паспалітай адбыўся ў 1772 г.

[4] Рэчы Паспалітай.

стаяннага сойму, які абіраецца на два гады. Выканаўчую ўладу мае кароль, не выбраны, як гэта было раней, а наследны. Пастановы ў абедзвюх палатах ухваляюцца не аднагалосна, а большасцю галасоў, дзякуючы чаму касуецца стары звычай liberum veto. Міністры нясуць адказнасць перад соймам. Касавалася права шляхты на ўтварэнне вольных канфедэрацый. Шляхта, як і раней, лічылася пануючым станам у дзяржаве. Мяшчане дасталі права пасылаць сваіх паслоў у сойм. Апроч таго, яны атрымалі права купляць зямлю па-за межамі гарадоў і праз землеўласніцтва збліжацца сацыяльна і палітычна з шляхтаю. Буржуазія, такім спосабам, дастала нейкае права, якое адпавядала запытанням таго часу. Але палажэнне сялян зусім не змянілася. Прыгон астаўся, як і раней, ва ўсёй моцы. Толькі і новага было, што пану давалася магчымасць вызваляць мужыка ад прыгону і паляпшаць яго жыццё, калі на тое была яго добрая воля і панская ласка. Абвешчана была свабода веры, аднак жа за каталіцтвам пакідалася палажэнне пануючай у гаспадарстве веры. Канстытуцыя, апроч таго, абвясціла поўнае зліццё Польшчы і Літоўска-Беларускага гаспадарства ў адзіны і непадзельны арганізм.

Як мы бачым, новая... канстытуцыя ўтварылася пад уплывам Вялікай французскай рэвалюцыі. Праўда, яна вельмі далёка адыходзіла ад буржуазных яе запатрабаванняў у бок старога феадалізму. Але і такая канстытуцыя была не па густу звычайнай шляхецкай масе. Скора шляхта для абароны сваіх парушаных... вольнасцей злажыла Таргавіцкую канфедэрацыю... Яны, згаварыўшыся яшчэ раней з рускім урадам, звярнуліся да царыцы Кацярыны з заяваю, што яна, паводле пастановы сойму 1768 году, павінна абараняць стары строй Рэчы Паспалітай. Разумеецца, рускія войскі не прымусілі сябе доўга чакаць. Яны падтрымалі канфедэратаў і занялі Варшаву. Прускі кароль з свайго боку... заняў сваімі войскамі заходнія правінцыі Польшчы. Зноў вынікла пытанне аб кампенсацыі дзяржаў, якія патурбаваліся і зрабілі парадак у Рэчы Паспалітай. На гэты раз Расія й Прусія запатрабавалі ў сойме, скліканым у Горадні, згоды на аддачу ім за фатыгу зямель. Пасля бескарысных спрэчак з прадстаўнікамі «дапамогшых» дзяржаў, паслы сойма, бачачы, што няма рады абараніць тэрыторыі ад захвату, замоўклі зусім. У такім нямым пасяджэнні сойм прасядзеў да глыбокай ночы. Гэтае маўчан-

не было растлумачана як згода і адбыўся другі раздзел зямель Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй і Расіяй. Прусія забрала Данцыг і Вялікую Польшчу, а Расія — Валынь, Падолію і Менскую акругу. Астатнія землі Рэчы Паспалітай былі абвешчаны фармальна пад пратэктарам Расіі. Варшава была занята рускімі войскамі.

Патрыёты, нягледзячы на ўсе беды, якія абрушыліся на Рэч Паспалітую, нягледзячы на здраду з боку рэакцыйнай шляхты, не пакідалі сваіх планаў аб тым, каб выратаваць сваю айчыну. Не маючы магчымасці працаваць адкрыта, яны павінны былі ўтварыць тайную арганізацыю і цэнтр яе перанесці ў замежныя землі. Мэтаю арганізацыі была барацьба за непадзельную і незалежную Рэч Паспалітую з канстытуцыяю 1791 года. Гэтыя арганізацыі былі і ў Польшчы, Літве, Беларусі. Яны працавалі сярод шляхты і мяшчан. Да сялянскіх слаёў іх праца амаль што зусім не даходзіла.

Паўстанне пачалося адразу пасля другога раздзелу. У 1794 годзе паўстаннем былі ахоплены такія гарады, як Кракаў, Варшава, Вільня і Гародня. У Варшаве пасля таго, як яна была захоплена паўстанцамі, злажыўся Часовы Урад, каторы абвясціў вайну Расіі і Прусіі. Дыктатарамі і галоўным начальнікам над усімі збройнымі сіламі быў абраны Тадэуш Касцюшка, вядомы яшчэ раней як абаронца канстытуцыі 1791 году ад Таргавіцкай канфедэрацыі. Сын дробнага шляхціца на Беларусі, ён вучыўся раней у Бярэсці, потым у вайсковай школе Чартарыйскага[1] ў Варшаве, адкуль, як здольны вучань, пасылаўся на скарбовы кошт у Францыю. Тут ён захапіўся рэвалюцыйным рухам і пасля нядоўгага жыцця ў Польшчы паехаў у Амерыку, дзе абараняў незалежнасць Злучаных Штатаў ад Англіі. Там ён выдзеліўся сваімі здольнасцямі і храбрасцю і вярнуўся дадому як рэфарміст і змаганнік за новую Польшчу[2].

У пачатку паўстанне мела поспех. Была захоплена Варшава, і рускія войскі прымушаны былі пакінуць горад з вялікімі стратамі. Тое самае адбылося ў Вільні і ў другіх гарадах.

---

[1] Князь Адам Юры Чартарыйскі будзе потым сенатарам і міністрам замежных спраў Расіі.

[2] Пра Касцюшку і падзелы Рэчы Паспалітай чытайце: Я. А. Юхо. За вольнасць нашу і вашу. Мн., «Навука і тэхніка», 1989.

Касцюшку ўдалося разбіць некалькі раз асобныя рускія групы. Паўстанцаў падтрымлівалі ўпачатку сяляне, каторым Касцюшка асобнаю адозваю абацяў волю.

Цікава зазначыць, што адразу выявіліся нейкія нязгоды паміж асобнымі правадырамі паўстання. З Вільні Касцюшка атрымаў вестку, што Найвышэйшая Літоўска-Беларуская Рада, на чале якой стаяў Ясінскі[1], галоўны начальнік над літоўска-беларускімі збройнымі сіламі, «прысвоіла сабе самазванна ўладу і ўводзіла дух нязгоды, што разрывае вунію двух братніх народаў». Касцюшка павінен быў напісаць ліст Ясінскаму, у якім вінаваціў яго ў сепаратызме. Скора паўстанцы пачалі адчуваць патрэбу ў сродках. Тыя ахвяры, якія раней паступалі ў вялікім ліку, скараціліся. Перамяніўся настрой сялянства ў адносінах да паўстання, бо хутка стала ясна, што абяцанкі Касцюшкі так і астаюцца абяцанкамі, што шляхта і не думае аб вызваленні сялян. Сялянства як у Польшчы, так і на Беларусі не падтрымлівае ўжо паўстанцаў.

Пры такіх абставінах не трудна было справіцца з паўстанцамі.

Першы ўвайшоў з войскамі на землі Польшчы прускі кароль з заходняга боку.Праз нейкі час проціў войск Польшчы выправіла свае сілы Аўстрыя, заняўшы паўднёвыя землі. Кацярына II, урачыста вызначыўшы, што Рэч Паспалітая зробіцца «гибельным горном, угрожающим спокойствию и безопасности соседей», пакіравала свае войскі з усходу пад кіраўніцтвам... Суворава. Доля Рэчы Паспалітай вырашалася ў бойцы паміж рускімі і польскімі войскамі пад Мацяёвіцамі, недалёка каля Варшавы. Польскія войскі былі разбіты, Касцюшка быў паранены і ўзяты ў палон[2]. Пасля крывавага штурму была забрана ваколіца Варшавы Прага (1794 г.). Варшава павінна была здацца. У горад былі ўведзены апроч рускіх аўстрыйскія і прускія войскі. Па ўсім краі паўстанцкія групы былі знічтожаны. Апошні кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст IV (Станіслаў Панятоўскі) павінен быў адрачыся ад па-

---

[1] Якуб Ясінскі быў радыкальным дзеячам і патрыётам Вялікага княства Літоўскага.

[2] Т. Касцюшку змяніў наш зямляк Тамаш Ваўжэцкі. Пазней цар Павел I выпусціць Касцюшку з вязніцы.

саду і пераехаў на жыццё спачатку ў Горадню, а потым у Пецярбург, дзе й памёр праз некалькі гадоў. Паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй адбыўся апошні, трэці падзел Рэчы Паспалітай у 1795 годзе. Расія з гэтага падзелу атрымала заходнюю частку Беларусі і ўсходнюю частку Літвы, што злажыла губерні Віленскую, Горадзенскую і Ковенскую. Апроч таго, да Расіі была прылучана і Украіна да Заходняга Буга. Аўстрыя і Прусія прылучылі да сваіх зямель рэшткі польскіх зямель.

Рэч Паспалітая як дзяржава перастала існаваць, а Беларусь увайшла ў склад царска-дваранскай Расійскай імперыі. Пачаўся новы перыяд беларускай гісторыі.



# КАРОТКІЯ ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

Анучын Дзмітрый Мікалаевіч (1843—1923), рускі вучоны, адзін з заснавальнікаў антрапалагічнай навукі ў Расіі. Аўтар класічных прац па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі і археалогіі.

Вячорка Валянцін Рыгоравіч (н. 1961), беларускі філолаг. Працуе выкладчыкам у Мінскім дзяржаўным педінстытуце імя А. М. Горкага.

Грыцкевіч Анатоль Пятровіч (н. 1929), беларускі савецкі гісторык, доктар гістарычных навук, аўтар шматлікіх прац па гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. Працуе загадчыкам кафедры гісторыі СССР, БССР і замежных краін у Мінскім інстытуце культуры.

Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч (1881—1931), беларускі гісторык і грамадскі дзеяч, акадэмік. З 1926 г. старшыня Інбелкульта, у 1929—1931 гг. прэзідэнт АН БССР. Аўтар шэрагу навуковых прац па гісторыі Беларусі.

Ільінскі Рыгор Андрэевіч (1876—1937), украінскі філолаг-славіст. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў у Харкаўскім універсітэце, быў прафесарам Нежынскага, Тартускага, Саратаўскага і Маскоўскага універсітэтаў. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі славянскай пісьменнасці, параўнальнай граматыцы славянскіх моў і інш.

Карскі Яўхім Фёдаравіч (1860—1931), акадэмік, філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі. Аўтар першай навуковай «Этнаграфічнай карты беларускага племені», фундаментальнай трохтомнай працы «Беларусы», шматлікіх даследванняў па філалогіі, фалькларыстыцы, этнаграфіі Беларусі.

Кашкурэвіч Хведар Арленавіч (н. 1963), беларускі савецкі мастак. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Член маладзёжнай секцыі Саюза мастакоў БССР.

Крапівін Пятро Федаравіч (? — 1967), беларускі мовазнаўца, кандыдат філалагічных навук. Працаваў на філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя А. Горкага.

Ламанскі Уладзімір Іванавіч (1833—1914), акадэмік, рускі

гісторык-славіст, адзін са стваральнікаў школы панславізму. Аўтар каля двухсот кніжак, артыкулаў, публікацый па гісторыі, этнаграфіі, палеаграфіі і філалогіі славян.

Мірановіч Антон Васільевіч (н. 1959), беларускі гісторык. Працуе ў Інстытуце гісторыі філіі Варшаўскага універсітэта ў г. Беластоку (Польшча). Даследуе эпоху феадалізму.

Патэбня Аляксандр Апанасавіч (1835—1891), украінскі і рускі філолаг-славіст, знаўца славянскай дыялекталогіі і параўнальна-гістарычнай граматыкі. Распрацоўваў праблемы ўзаемаадносін мовы і мыслення, мовы і нацыі, паходжання мовы.

Рогалеў Александр Фёдаравіч (н. 1956), беларускі філолаг-тапаніміст, кандыдат філалагічных навук, правадзейны член геаграфічнага таварыства СССР. Працуе у Гомельскім дзяржаўным універсітэце.

Сагановіч Генадзь Мікалаевіч (н. 1961), беларускі археолаг, кандыдат гістарычных навук. Працуе ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Даследуе эпоху феадалізму.

Санько Сяргей Іванавіч (н. 1962), беларускі філосаф. Скончыў фізічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працягвае навучанне ў аспірантуры пры Інстытуце філасофіі і права АН БССР.

Тарасаў Канстанцін Іванавіч (н. 1940), беларускі пісьменнік, член Саюза пісьменнікаў БССР. Аўтар папулярных кніг на гістарычныя тэмы, а таксама публікацый даследчыцкага характару.

Тацішчаў Васіль Мікітавіч (1686—1750), рускі дваранскі гісторык і дзяржаўны дзеяч. Аўтар шматтомнай працы «Гісторыя Расійская», іншых твораў па гісторыі, геаграфіі і эканоміцы Расіі, складальнік першага Рускага Энцыклапедычнага Слоўніка.

Улашчык Мікалай Мікалаевіч (1906—1986), беларускі савецкі гісторык і археограф, доктар гістарычных навук. У 1930 г. быў сасланы. З 1950 г. жыў у Маскве і працаваў у Інстытуце гісторыі АН СССР. Падрыхтаваў і выдаў беларуска-літоўскія летапісы. Аўтар грунтоўных даследаванняў па гісторыі і археаграфіі феадальнай Беларусі.

Юхо Язэп Аляксандравіч (н. 1921), беларускі савецкі прававед, доктар юрыдычных навук. Даследчык гісторыі дзяржаўнага права сярэдневяковай Беларусі, аўтар манаграфіі і публікацый па гэтай тэме. Працуе ў БДУ імя У. І. Леніна.

Янчук Мікалай Андрэевіч (1859—1921) беларускі, украінскі і рускі вучоны-славіст, арганізатар навукі. Аўтар вядомых даследаванняў па антрапалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыцы і літаратуразнаўству ўсходніх славян.



## ЗМЕСТ

Навукова-папулярнае выданне

**ИМЯ ТВОЕ БЕЛАЯ РУСЬ**

Составитель Геннадий Николаевич Саганович

Минск, издательство «Полымя»

*На белорусском языке*

Рэдактар Л. В. Пятровіч
Мастацкі рэдактар І. А. Дзямкоўскі
Тэхнічны рэдактар Т. А. Тарасенка
Карэктар Т. С. Бялінская

IB № 946

Здадзена ў набор 22.10.90. Падп. да друку 25.09.91. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера афсетная № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 12,90. Ум. фарб.-адб. 13,32. Ул.-выд. арк. 17,25. Тыраж 9000 экз. Выд. № 7616. Зак. 709
Цана 3 р. 60 к.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь
220600, Мінск, пр. Машэрава, 11

Набор і фотаформы выкананы на Мінскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцягу паліграфкамбінаце МВПА ім. Я. Коласа. 220005, г. Мінск, Чырвоная, 23. Надрукавана на Мінскай фабрыцы каляровага друку. 220115, Мінск, Каржанеўская, 20.